УДК 888.8-88
ББК 88 (8Беи) 8
А 88

*Шчыра дзякую Аляксандру Іванавічу Ткачову*
*за падтрымку ў ажыццяўленні выдання.*

Змешчаныя ў зборніку аповесці — вынік творчых пошукаў аўтара на працягу прамінулага пяцігоддзя. Не прэтэндуючы на валоданне ісцінай у апошняй інстанцыі, пісьменнік падае і аналізуе падзеі сучаснага жыцця так, як яны яму бачацца ў звязку з яго асабістым жыццёвым досведам, уласнымі маральнымі прыярытэтамі. Выданне прывабіць чытача нязмушанасцю аповеду, дакладнасцю характараў і выразнасцю дэталяў, дасканаласцю мовы.

ISBN 999-99-0000-9 

## I

## СЯЎБА

Як сведчаць шматлікія хронікі ды расповеды этнографаў, з усяго календара веснавых працаў продкі паазерскіх дварчанаўцаў найбольш шанавалі пару сяўбы лёну. Шанавалі ж не так, мабыць, з любові да гэтай шчодра апяянай паэтамі ды не меней шчодра палітай людскім потам, працаёмкай культуры, як хутчэй з-за масавасці самой дзеі, у якой кожны з жыхароў паселішча, незалежна ад узросту і росту, стану здароўя ці сямейнага становішча, мог пры жаданні ўзяць удзел. Хто ў свірне за вартаўніка пры мяхах з пераveеным, даведзеным да належных

кандыцый насеннем. Хто ў полі з сявенькай на поясе або на шыі ці — у бліжэйшым ужо да сённяшняга дня часе — пры сеялцы. А хто і так сабе, збоку прыпёку — падгледачом пры плоце ці пры ўзмежку пасля таго, як палеткі былі засеяныя і сейбіты пачыналі дзеля задобрання нябёсаў ды прынаджання багацейшага ўраджаю качацца, паводле пракаветнай паганскай завядзёнкі, да знямогі голымі па зямлі.

Прызабытую цягам прамінулага стагоддзя традыцыю качацца без споднягa пры засеяных лёнам дзялянках узнавіў у прыгарадных Дварчанах год трыццаць таму, на самым пачатку гарбачоўскай перабудовы, адзін малады, ды ранні, авантурны старшыня мясцовага калгаса па прозвішчы Падзява. Час быў няпэўны, баль правіла ўсюды самадзейнасць, дык і прыйшло на хвалі вольніцы маладзёну ў голаў гэткае дзівакаватае-нечуванае. Прыйшло быццам бы спрасонку з бадуна, як сам ён пасля, сталым ужо чалавекам, навучаны жыццёвым досведам уласнае душы нарасхрыст перад староннімі не расчыняць, прызнаваўся, а вось жа неўзабаве ў сувязі з прыняццем адмысловай дзяржаўнай праграмы вяртання да каранёў ды ў плыні своеасаблівасці разумення тае праграмы мясцовым насельніцтвам і аказалася як нельга больш дарэчы.

Так тады старая завядзёнка з лёгкае старшынёвае рукі да радасці жыхароў паселішча пакрысе-памалу ў Дварчанах і адрадзілася. І не дзіва, што да радасці, бо якая-ніякая, а і забава была для людзей, і нагода для дасціпнікаў паперастарэквацца ды пажартаваць, складаючы з увагі на памеры дэталяў прычыннага месца мужыкоўкачальнікаў, кажучы сучаснаю мовай, шорт-ліст

пераможцаў у адвечным негалосным спаборніцтве вяскоўцаў на лепшага гаспадара.

Пік жа льнянога буму, як усім вядома, прыпаў у Дварчанах на час утварэння тут спецыялізаванай гаспадаркі — акцыянернага таварыства па вырошчванні даўгунца і арганізацыі пры ёй доследнай станцыі па вывядзенні новых яго гатункаў. Адбою не было ў дварчанаўцаў тады ад замоваў на прадукцыю. Тыдня не мінала без таго, каб хто-небудзь з высокага начальства або навукоўцаў са сталічнага інстытута лёну не ашчаслівіў іх сваім прыездам, а на тэлебачанні або ў газеце не з'явіўся чарговы сюжэт пра вытворчыя дасягненні тутэйшых ільнаводаў. Віравала, бруілася ў Дварчанах жыццё, як бруіцца-віруе ў сагане даведзенае да кіпення варыва.

Ды вось ужо каторы год запар дварчанаўцы лёну не сеялі. Бо хоць, канечне, і выгодная гэтая расліна з гледзішча прыбытку, але занадта ж ужо шмат вымагае яна ад селяніна высілкаў. Улетку, як здарыцца па зацяжных дажджах урод на пусзелле, полівам да самых нырак дастане. Папсуецца неспадзявана напрыканцы лета ўборачная тэхніка — ручным ірваннем дазвання людзям жылы парве. Затым церабленне яшчэ, потым сланне трасты, сушка, зноў жа — перабіранне-сартаванне той трасты ўзімку. Ды і са збытам гатовай прадукцыі не так усё проста, як здаецца: на заводзе адно і глядзяць жулікаватыя прыёмшчыкі, каб падмануць здатчыка, запісаць трасту ніжэйшым, чым ён ёсць насамрэч, нумарам. Ніжэйшы нумар — ніжэйшы, вядома, і заробак людзям, а каму ж хочацца аддаваць сваё крэўнае?

Дык і зрабілі дварчанаўцы тое, што іншыя зрабілі ў Паазерскім краі даўно: перасталі лён

сеяць. Балазе, і чуйныя да павеваў часу вярхі дарэчы, хоць, канечне, і наўрад ці наўмысна, парупіліся, спусцілі новую праграму — датычна аховы асноваў маралі, адпаведна якой паўстала пытанне замены лёну на палетках чымсьці іншым, менш з пункту гледжання ўздзеяння спаконвечных народных традыцый яго пасеву на згаданую мараль правакацыйным. Той жа бульбаю, напрыклад, або капустай. Скончылася ж тым, што буйнейшая ў Паазер'і гаспадарка пачала паціху занепадаць: пасяўныя плошчы лёну шмакроць скарацілі, доследную станцыю зачынілі, кадры з яе паперaводзілі на іншыя працы. А разам, як гэта звычайна пры такіх пераменах бывае, пачаў занепадаць і сам значна прырослы апошнім часам за кошт лецішчаў ды навабудаў аграгарадка пасёлак. Сяк-так працягваў, праўда, яшчэ функцыянаваць у Дварчанах ільнозавод, але і яму ўжо ліпець, відаць было па ўсім, заставалася нядоўга.

Вось тады і пачалі дварчанаўцы сеяць па палях і гародах замест даўгунца як мага больш гуркоў. І нездарма: горад побач, у горадзе — не маленькі вінзавод, дык увосень на кірмашы, як на добрае, той гурок за мілую душу непераборлівы, не спешчаны заморскімі далікатэсамі спажывец з рукамі ў гандляра дзеля закусі адарве. Знайшліся, праўда, напачатку гарачыя галовы, што перспектываю вырошчвання і раслін-эндэмікаў куды цяплейшых шыротаў — вінаграду ці нават кавуноў і дыняў — пераняліся. Далей размоваў, аднак, справа з бахчавымі і вінаградам не пасунулася. Ідэя ж з гуркамі ад самага пачатку ўсім прыйшлася даспадобы. Адно што ўлюбёнай, асвечанай стагоддзямі забавы з качаннем мужыкоў без парт-

коў па глебе, на жаль, не абяцала. Ды ўсё і тут неяк няўзнак, бы між іншым, вырашылася.

Прадавачка прадуктовай крамы Надзя Гарагляд, дачка перасяленцаў-гароднінаводаў з-пад Чарнобыля, узгадала чутае ад бабулі, як на яе малой радзіме калісьці, у прадаўнія яшчэ часы, мужчыны-палешукі пры пасадцы гуркоў здымалі штаны і бегалі з аголенымі пахвінамі і азадкамі наўкола лехаў, намякаючы матухне прыродзе памерамі чэлесаў, які жадалі б мець з тых лехаў укос. Для дварчанаўскіх падгледачоў, асабліва жанчын-падглядачак, змаркочаных перспектываю да скону застацца без звыклай, гарантаванай шматвяковаю завядзёнкай порцыі адрэналіну ад качання сейбітаў лёну па зямлі ў чым маці нарадзіла, такая паляшуцкая дзея падалася выдатным шанцам вярнуць жыццё ў звыклую каляіну. Што качацца, што бегаць, што пры лёне, што пры гурках — розніца невялікая, то што там занадта ёю пераймацца? Дык і парупіліся дварчанаўкі хуценька, як толькі маглі, выдаць чужую традыцыю за сваю ды хутчэй увесці показку пра яе ў вушы даверлівых, падпсаваных танным крамным пітвом, але зусім не сапсаваных збыткоўнымі ведамі пра норавы і звычаі розных плямёнаў айчыны тутэйшых мужыкоў.

Што праўда, мужчыны-сейбіты сумнеўным начыннем на зазубе жаночае хітрадумнасці спакусіліся даволі ахвотна. І вось ужо з раніцы ў дзень пасадкі гуркоў дзеўкі і маладзейшыя жанчыны, што складалі зазвычай хрыбет падглядацкае грамады, занялі лепшыя пазіцыі пры платах і ўзмежках, пазначыўшы іх загадзя, яшчэ звечара, хто кідкаю стужкай, хто свежазламанаю галінкай бэзу або язміну, хто каменьчыкам

ці нават цаглінаю. У барацьбе за зручнейшае месца не абышлося, вядома, без дробных непаразуменняў-звадаў. Але, на шчасце, — без крыві і асаблівага гвалту. Паагрызаліся жанкі, патузаліся, палаяліся адна на адну ў па-суседску незласлівым, паблажліва-занурыстым закалоце ды і суцішыліся ў прадчуванні доўгачаканага спектакля.

Сяўба мінулася даволі хутка. А на думку некаторых падглядачак, — і аж занадта ўжо, як для такой уражлівай, не штодзённай дзеі, хутка. Ці то месцы для падсочвання-падгляду ім дасталіся кепскаватыя, невыгодныя, ці то жамяра ўвагу ад камлання голых мужчынаў пры пасевах недарэчы адцягвала, але гледзінамі многія з жанчын засталіся незадаволеныя.

Напачатку незадаволенасць падглядачак выклікаў чалавек сярэдняга росту ў шырокім, як у манаха, хітоне, з маскаю на твары, з высокім, кшталту куклукскланаўскага, капшуком на галаве. Такое ці не наўмысна дэманстратыўнае нежаданне мужчыны зліцца дазвання з грамадою ў Дварчанах, гэтым спрадвечным логаве непрабівальна-непарушнага калектывізму, было ўспрынята не іначай як адшчапенцтва, абраза талакі. Не дадавала прыязнасці да незнаёмца і ягоная манера скокаў: усё неяк бязладненька, з напалову адпітаю бутэлькай напою ў руцэ, з блюзнерскімі выбрыкамі, з камлём крывой алешыны між ног. Незадаволенасць дасягнула піку і пачала перарастаць у абурэнне, калі чалавек дастаў з кішэні хітона жменю нейкага насення і, бегаючы вакол лехаў, пачаў рассейваць яго паверх ужо пасеянага гурэчнага.

Усё, аднак, змянілася напрыканцы дзеі, калі мужчына, пераняўшыся, мусіць, флюідамі ўсеагульнага асуджэння, скінуў з сябе ўсё, апроч маскі, і прадэманстраваў прысутным прыхаванае дагэтуль складкамі хітона ўнушальнае сваё, настрыненае, як лёса вуды падчас клёву, дзетароднае начынне. Было яно, тое начынне, сапраўды, такое ўнушальнае, так ваяўніча напятае, што міжволі прыцягвала да сябе ўвагу, а паставы астатніх мужыкоў на яго фоне ў вачах дварчанаўскіх кабет-падглядачак неяк уваднучас страцілі цікавасць, здрабнелі, змізарнелі, адсунуліся на другі план.

Не паспелі, аднак, жанчыны надзівіцца на цуд прыроды пад хітонам шальмаватага дзядзькі-штукара, не паспелі як след навохкацца, як беганіна і скончылася.

Але разгарачаныя прагаю новых цікавостак падглядачкі разыходзіцца па хатах не спяшаліся. Узбуджана гамонячы ды колькі часу ўсё яшчэ знаходзячыся пад уражаннем ад убачанага, яны і не заўважылі, як дагаварыліся да таго, што, маўляў, нядблага было б застацца пры лехах надалей, прадоўжыць забаву. А вось як тое зрабіць? Прасіць мужыкоў пачаць усё нанова — неяк няёмка, пурытанскае вясковае выхаванне не дазваляе. Хіба што самім распрануцца і рынуцца гойсаць па тых утрамбаваных мужчынскімі торсамі разорах?

Выйсце падказала ўсё тая ж прадавачка Надзя. Заўзятая прыхільніца ідэі жаночага раўнапраўя, трыццаціпяцігадовая маладзіца-развядзёнка так спрытна звязала клопат жанчын з найноўшымі павевамі сусветнага феміністкага руху, што ні ў адной з іх і сумневу ні каліва ўрэшце

ў глуздах не засталося: раўнапраўе дык раўнапраўе! трэба самім распранацца! Што, падбухтораныя Надзінымі ж маляўнічымі расповедамі пра адмысловыя акцыі розных феміністкіх суполак сучаснасці, жанчыны неўзабаве і зрабілі. Паскідалі з целаў апратку ды і, апантаныя намерам тае ж хвіліны зрынуць з парадку дня абрыдлы гегеманісцкі мужчынскі лозунг «Курыца не птушка, баба не чалавек», кінуліся на злом галавы ў вір незнаёмых дагэтуль адчуванняў. Некалькі старэйшых кабецін спрабавалі, праўда, супраць такога павароту падзей — што, маўляў, за звычка, адкуль, мы такой не ведаем — пратэставаць, але іх тут жа, да радасці маладзейшых, уваднача́с і асадзілі.

Пра тое, якім будзе працяг авантуры, ніводная з наваспечаных Надзіных паслядоўніц, канечне ж, не здагадвалася. Як не здагадваліся і мужыкі, што, пасцягваўшы за гадзіну перад тым з плячэй скарэлыя кашулі і саколкі, заспявалі песню пра Ульяніцу, якая сеяла лянок, і дружнаю грамадою рынуліся па лазнях змываць з целаў заільснелы ад цікаўных жаночых паглядаў бруд. Папесціліся колькі часу на палк*а*х, пахвасталі ад душы адзін аднаго бярозавымі венікамі, пачаставаліся пад анекдоты ды хіханькі-хаханькі півам, а затым, прынаджаныя галёканнем жанчын у гародах, вярнуліся да палеткаў ды і, уражаныя нязвыклым відовішчам, пазастывалі з разяўленымі ртамі спарудамі пры платах.

А што гісторыя будзе мець і яшчэ больш грунтоўны працяг, стала зразумела толькі ўранні.

## МУЖЧЫНА Ў РАЗОРЫ

Распластаную сярод лехаў нерухомую мужчынскую постаць з маскаю на твары і страхавітым чорным капшуком на галаве ўбачыла ўранні Юня Гук, мясцовая швачка-пенсіянерка па мянушцы Зяметра. Пайшла з ручнікам, якім дагэтуль выцірала пры пліце рукі, у гародчык паглядзець, ці не вытыркнуліся ўжо на сугрэве з-пад зямлі шчаблы пасаджанай некалькі дзён таму цыбулі, і акурат натыкнулася на чалавека ў масцы.

Мужчына ляжаў у разоры дагары з задзёртым на падбароддзе хітонам і цнатліва прыкрываў скалянелаю даланёй левай рукі зарослую жмутамі сіваватага валасіння грудзіну. У паўсагнутай правай руцэ яго зелянеўся гарляк недапітай бутэлькі, пры канцы ляхі, побач з камлём крывое алешыны, ляжалі ў абраселай з ночы траве зялёныя, як адмыслова пад колер бутэлькі ды травы, нагавіцы. Па выяве ніжняе, дарэшты аголенае часткі цела мужчыны, асабліва ж чэлеса, які надоечы, падчас скокаў, нарабіў гэтулькі ажыятажу сярод жанчын ды і цяпер, у стане абыякавае заспакоенасці, вунь яшчэ як здольны быў уразіць, Юня (яна таксама ў ролі падглядачкі сціпленька, ненавязліва адзначылася) без цяжкасці ўзгадала ўчарашняга скандалёзнага сейбіта-незнаёмца.

Яна асцярожна наблізілася да чалавека, пасунула ўбок маску.

З твару ніводнага з дварчанаўскіх мужчын незнаёмец ёй, аднак, не нагадаў. Ды не дзіва: падбароддзе, сківіцы, шчокі небаракі гэтак густа зараслі шчаціннем, лоб гэтак шчыльна абляпілі пасмы шорсткага, добра кранутага сівізною валос-

ся, што, напэўна, каб нават быў то хтосьці з тутэйшых мужыкоў, пазнаць яго было б няпроста.

Бедная Юня так перапалохалася, што на некалькі хвілін замёрла на месцы ў немым здранцвенні. І толькі калі паляцеў з локця долу, быццам сігналячы, што час ужо кабеціне, напэўна, і хоць збольшага апрытомнець, ручнік, сяк-так вярнулася да памяці. Кінула ручнік няўважліва на ўзмежак, хістаючыся, як п'яная, убакі ад узруху, пабегла да суседкі Мірусі Казакевіч — сказаць пра страхавітую знаходку ў гародзе ды папрасіць, каб тая патэлефанавала ў міліцыю. У Мірусі, якая да нядаўняга часу рабіла паштаркай пасялковага аддзялення сувязі, а зараз, як і Юня, вось ужо другі год была на пенсіі, у адзінай на гэтым канцы вуліцы меўся хатні тэлефон. Карыстацца ж уласным мабільным, падораным сынам і нявесткаю нядаўна к дню народзінаў, удава Юня Гук, жанчына не такая ўжо і цёмная, але і не надта каб прасунутая, яшчэ як след не налаўчылася.

Дзверы адчыніў Юні Мірусін унук Вадзька, дваццацігадовы студэнт, хлопец атлетычнага целаскладу з заўжды чамусьці незадаволенай, як быццам ён толькі што ўчаставаўся нечым надзвычай кіслым, мінаю. У Мірусі абвастрыўся даўні артроз, каторы тыдзень балелі ногі, і яе нявестка Ліда, Вадзькава маці, выправіла яго на выходныя ў Дварчаны завезці бабулі сёе-тое з лекаў ды памагчы па гаспадарцы. А разам і паспрабаваць як-небудзь угаварыць старую ўрэшце на пераезд у горад — не цяпер, дык увосень, як будуць прыбраныя гароды. Размова пра пераезд вялася між сваякамі ўжо не першы год, але

дагэтуль з-за Мірусінае ўпартае, зацятае незгаворлівасці так размоваю і заставалася.

Ранні прыход Юні фізіі хлопца кісласці, надзіва, не дадаў. Але не таму, што, можа, стаўся яму даспадобы, а адзіна таму, што для кісласці папросту ўжо не засталося на той і без таго кіслай, знябожанай бабінай упірыстасцю ды натомленай штоночным гойсаннем па сеціве фізіі месца.

Вадзька сатупіў у глыб сяней, тыцнуў абыякава пальцам у бок кухні, дзе зазвычай спала ўвесну ды ўлетку на тапчане, ратуючыся ў цішыні закуцця ад унукавай музыкі ды бясконцых ягоных спартыўных практыкаванняў, усіх ягоных смешных падцягванняў-адцісканняў, гаспадыня хаты, знік з вачэй.

Міруся яшчэ не падымалася, але ўжо і не спала, размінала аб валік канапы крываватыя свае, спярэшчаныя разбухлымі сінімі атожылкамі венаў ногі. Да расповеду Юні пра мужчыну ў гародзе і яе прапановы патэлефанаваць у міліцыю паставілася з іранічна-паблажлівым здзіўленнем звыклага да гэткіх неспадзевак чалавека.

— Ай, п'яны, напэўна, — сказала, павольна падымаючы па чарзе ўгору ды падцягваючы бліжэй да падбароддзя то адно, то другое калена. — Прачухаецца і пойдзе, адкуль прыйшоў. Неаднойчы такое было, ці мала іх тут цягаецца... сама ведаеш... А міліцыю выклікаць — сабе болей клопату. Ну, прыедуць, ну, паглядзяць — і што з таго?

— А што, як нежывы ён? — не пагадзілася Юня. — Як забілі, можа, чалавека? Што тады? Ляжыць пластом у гародзе, не зварухнецца... Голы дазвання... Паглядзець, можа, з люстэркам, ці дыхае, га? Дай люстэрка.

— Ну дык паглядзім. На вось, ідзі, а я апрануся тым часам. — Міруся намацала на падваконніку люстэрка, падала суседцы. — Але ж глядзі — староннім да часу ні гу-гу. Панясуць плётку па хатах — непрыемнасцяў не абярэшся.

Чужык плётак Міруся Казакевіч, жанчына строгая і нават часам суворая, не любіла. Хоць сама, дарма што з маладых гадоў мела рэпутацыю святой (у пасёлку за вочы так усе яе і звалі — Святая), пры нагодзе займалася імі даволі ахвотна.

Ужо каторы раз прыкладалі па чарзе Юня з Мірусяй люстэрка да вуснаў незнаёмца, а ўсё марна. Прыхопленая плямамі ад пальцаў люстраная гладзь маўчала, і сілы той, падобна, не было на свеце, якая б прымусіла яе абазвацца, падаць сігнал, што чалавек дыхае. І чым далей яна і чым больш зацята маўчала, тым трывожней рабілася ў жанчын на душы. Ужо падхапілася Міруся, каб бегчы дахаты тэлефанаваць у міліцыю, як раптам Юня, паўзіраўшыся чарговы раз у зарослы шчэццю твар мужчыны, запыніла яе.

— Пачакай, ці не... дык ці не Сашка гэта? Далібог жа, ён, паглядзі...

— Які Сашка?

— Талалай, які яшчэ... Бацька Танін, Юрыкаў стрыечны брат. Памятаеш? Угледзься як след у твар. Во шнар ад пражкі на лбе. Той самы, мабыць, якім Юрык яго калісь памеціў, рэменем квэцнуўшы... Ну, глянь жа добра, глянь...

— І праўда, быццам ён, Сашка, — перасцярожліва адхінаючы падабраным на ўзмежку Юніным ручніком валоссе з ілба мужчыны, ахнула Міруся. — І што цяпер рабіць?

Колькі хвілін жанчыны маўчалі, пакуль нарэшце Міруся зноў не падала голас:

— Юрыку трэба сказаць. Хай ён і вырашыць, што ды як. Усё ж мужык. Ды і радня яны як-ніяк з Сашкам, то няхай і паруліцца дзеля сваяка... Каму яшчэ, як не яму, займацца... Не нам жа, дзвюм старым кулёмам...

— Юрыку дык Юрыку, — пагадзілася Юня і падцяла незадаволена вусны. Пастаянныя Мірусіны напаміны пра ўзрост, ды яшчэ вось гэтак, у звязку з імем Юрыка, ды яшчэ гэтак шматзначна, з гэткім смакам агучаныя, яна даўно ўжо ўспрымала не іначай як жаданне яе, Юню, лішні раз укалоць. Хацела асадзіць вераломную суседку вострым слоўкам у адказ, але змаўчала, толькі падумала: «Дзвюм як дзвюм, а табе — дакладна. Коле, а ў самой вунь шчэць старэчая на падбароддзі, не раўнуючы бы ў якога-небудзь мужыка, прарастае».

— Што, даскакаліся сейбіткі? — данёсся з-за плота голас другой Юнінай суседкі, Гані Шыпік.

Людзі прышлыя і, мяркуючы па ўсім, гэтак жа цікаўныя, як і гаманкія, Ганя і яе муж Васіль ва ўчарашніх забавах сейбітаў пры лехах удзелу не бралі, больш за тое — ставіліся да іх непрыязна. — Відаць жа, добра прыхапіла дзецюка, калі падняцца нават не здолее... Вось вашы дурныя сярэднявечныя скокі! Знайшлі занятак! Быццам рабіць больш людзям няма чаго, як па гародах голымі лётаць...

— Выпіў, мабыць, лішняе, вось і рынуўся, — падымаючы над галавою бутэльку ды становячыся перад Сашкавым целам так, каб менш бачна было яго Гані з-за плота, сказала Міруся і пахілілася долу.

Ганя пайшла. Юня патапталася колькі часу ў нерашучасці між лехаў, таксама пайшла. У хату па накрыўку, каб прыкрыць цела: ці мала хто яшчэ, апроч Шыпікаў, узб'ецца няўрокам на яго вачмі ды і панясе навіну па наваколлі.

Пайшла і Міруся — сказаць пра здарэнне Юрыку. Ішла ўпотай праз гароды да ягонае хаты і ўсё намагалася выпхнуць з галавы дурное. Яно ж, дурное, так і круцілася ў глуздах, так і праціняла іх да апошняе звіліны. Не пра Сашкаву смерць, не. А пра тое, як надзіва мала трэба, каб даць памяці нагоду вылузнуцца з крохкай, бы шкарлупіна яйка з-пад маладой, неакрэплай курыцы, абалонкі шараговасці, ды пра тое, якая, мабыць, шчаслівая была пры Сашку з гэткім ягоным багатым мужчынскім начыннем нябожчыца Галя, Юніна стрыечная сястра.

*Да доследнай станцыі заставалася рукою падаць, як з боку Дварчанаў пачуўся гук матацыкла. Такі прарэзлівы, пранізліва-вуркатлівы быў ён, той нечаканы гук, што ажно вушы Мірусі, калі параўняўся матацыкліст з ёю, а яна прыпынілася, каб паглядзець, хто ж гэтак спрытна матацыклам стырнуе, на хвіліну заклала. І так вокамгненна, так порстка зухаваты кіроўца яе абмінуў, ухутаўшы ад галавы да пят густым, шчыльным клубам пылу, што не толькі пазнаць вар'яватага рызыканта яна не здолела, але і збочыць на старым сваім ровары з дарогі ледзь-ледзь паспела. Пасунулася з роварам убок, а ён ужо і — лаві ветру ў полі — знік у рэдкалессі скупа асветленага перадвечаровымі прамянямі прыдарожнага гайка.*

*І раптам, хоць і не так далёка паспеў яшчэ матыцыкліст ад'ехацца, каб зусім яго не чуць, гук*

*сціх. Не пакрысе сціх, як сціхае, аддаляючыся, любая тэхніка, а ўвадначас, як глухне-замаўкае яна, натыкнуўшыся на нейкую неспадзеўную, нечаканую перашкоду. То і не дзіва, што першаю думкаю Мірусінай было, ці не разбіўся шаленец на аточанай бярэзнікам, месцамі такой вузкай, што дваім не размінуцца, сцяжыне? Ці не ўрэзаўся дурань з разгону ў камель дрэва ды ці не развітваецца, калі ўжо — цьфу-цьфу! — не развітаўся, з белым светам?*

*Развярнулася Міруся з роварам ды і хуценька паруліла да гайка.*

*Матацыкл стаяў прыслонены да бярэзіны наўзбоч лесніčоўкі, у якой звычайна падчас паліва ці слання лёну на бліжэйшых гонях жанчыны падсілкоўваліся або перачэквалі дождж. Хоць быў ён надта ж запылены, аб тым, што належыць Сашку Талалаю, Міруся здагадалася адразу — па лапіку неакуратна, абы-як прышытай жоўтай аббіўкі на заднім сядзенні. З месяц таму, падчас афармлення ў аддзеле кадраў раённага вузла сувязі дакументаў на паштарскую працу, яна ўпрасіла Сашку падвезці яе да горада і тады ўпершыню яго, гэты лапік, пабачыла. Яшчэ смехам прапанавала хлопцу, памятаецца, здзерці яго ды папрасіць Юня прышыць іншы, больш з выгляду прыстойны, але ён не згадзіўся.*

*Крыху воддаль ад матацыкла, утыкнуўшыся рогам стырна ў густую купку ядлоўцу, паблісквае рамаю ровар. Як і матацыкл, яго Міруся пазнала без цяжкасці, бо сама не адну, напэўна, сотню вёрстаў на ім скалясіла. Да нядаўняга часу яшчэ калясіла, да таго дня, як бацькі купілі ёй новы, а той, са зношаным ланцугом, што і сотні метраў ужо не меў клёку праехаць, каб*

*не шмаргануць па лытцы ды не зваліцца, аддалі цётцы Ірыне для дачкі яе Галі. Дзеўка толькі-толькі пачала рабіць пасля тэхнікума на доследнай станцыі, заробку яшчэ не бачыла, дык і прыдаўся ёй акурат да часу і няновы, не надта спраўны. Што, папраўдзе, Мірусіна самалюбства крыху і цешыла: якая-ніякая, а кампенсацыя за ўласную трохгадовае даўніны няўдачу. Паступалі разам з Галяю ў тэхнікум, а паступіла толькі Галя, хоць і скончыла школу з горшымі за Мірусю адзнакамі — ці лёгка такое перажыць?*

*Сашкі, аднак, па-ранейшаму не было бачна, і яна, падумаўшы, што, мабыць, ён адлучыўся па патрэбе ў глыб гайка і што дарэмна яна гэтак з-за яго хвалявалася, пайшла, супакоеная, прэч.*

*І толькі зноў падумала, ці не варта, можа, усё-такі азвацца, бо ці мала што, як тут пачула ад леснічоўкі смех. Але не мужчынскі, як можна было б чакаць з увагі на абставіны, а жаночы. Не сказаць каб гучны, крыху як быццам знарок суцішаны, але ж не роспачлівы, не адчайны, які бывае, калі штосьці жанчыне пагражае, — наадварот, падалося Мірусі, шчаслівы і крыху нават самазадаволены. Акурат гэткі во дурны, што яе саму неаднойчы апаноўваў, калі раптам даганяў дзе-небудзь сярод поля падчас штодзённага аб'езду палеткаў малады старшыня калгаса Янак Падзява і ці то ўсур'ёз, ці то жартам прапаноўваў кідаць ровар ды перасядаць да яго ў машыну. А яна глядзела спадылба на ягоны шырока раскрыты, стыканы шыхтам няроўных, бы нядбайна зладжаны плот, рот і, засаромленая дзёрзкаю прапановай, весела ў адказ смяялася.*

*Смех палунаў па-над вяршлінамі бярозаў ды і раптам, як перад гэтым гул матацыкла, рэзка*

*сціх. Толькі, у адрозненне ад матацыкла, быццам не самахоць сціх, а нейкая сіла нябачная скруціла яго, здушыла, кінула ў нерат маўчання. Ды — ненадоўга. Патаіўшыся ў схроне нематы і дабраўшы, мабыць, моцы, зноў узвіўся ён угору, аддаўся гарэзлівым рэхам-стогнам пад-над шатамі дрэваў. І доўга-доўга, пакуль вярталася Міруся з роварам да сцежкі ды пакуль не рвануўся яму здалёку насустрач гук іншы — Янакавага аўто, аддаваўся ў вушах. Дзякуючы якому яна ў той дзень свайго жанатага ўхажора Янака Падзяву, хоць і знарок дзеля выпадковага спаткання з ім і выправілася на ровары на прагулянку, так і не пабачыла.*

Юрык Падгайскі быў на нагах, як заўсёды, варажыў, руплівец, штосьці ў абсталяванай пад цяслярню бакоўцы. Гэтым разам, аднак, не з ачоскамі варажыў і не з кастрыцаю ды нарыхтоўкамі пакулля для вяровак, як звычайна, а з дошкамі. На падлозе бакоўкі высіліся сям-там купкі свежага пілавіння і стружак, у памяшканні пахла дрэвам і шкіпінарам. Гаспадар кінуў на дол рашпіль, якім толькі што абладоўваў круглы, бы века ці дно дзяжы, дубовы камель, павёў Мірусю ў залу. Падсунуў госці пад ногі зэдаль, пахінуў на ложку да сцяны не новую, але даволі чыстую, як для мужыка-адзінотніка, прасціну, сеў насупраць наведніцы.

Размова доўжылася з чвэрць гадзіны. Юрык слухаў суседку ўважліва, не перабіваў. Бачна было, што навіна пра з'яўленне ў Дварчанах Сашкі Талалая сталася для яго неспадзеўнаю і, мяркуючы па запаласці голасу, нічога добрага, прынамсі самому Юрыку, не абяцала.

Схіліўшыся над рабрынаю ложка, Юрык знерухомеў у цяжкім, як пахмелле пасля добрай

гулянкі, одуме. Фрагменты даўніх падзей пранесліся маланкаю ў ягонай галаве, вярэдзячы глузды вусцішам магчымых наступстваў, паплылі прад вачыма.

Трэба было яму тады гэтак узлавацца, выпусціць з рота наўздагон Сашку тыя пагрозлівыя, злыя словы аб забойстве... Ды яшчэ, апроч таго, і квэцнуць нахабнага варажыну пражкаю рэменя па лбе. І цяпер во — маеш клопат, і не абы-які... праз гэтулькі год... Пагражаў забіць — значыць і выканаў пагрозу, папомсціўся. Так будуць людзі думаць пра аднойчы ўжо вырачанага з-за таго ж Сашкі на пакаранне, а як жа...

— Дык што будзем рабіць, Юрык? — Міруся паднялася з месца, пагойдваючыся целам у такт крокам нягнуткіх, як сціснутых жалезным абручам ног, прайшлася ў хваляванні сюды-туды па пакоі. — Надумаўся ты што-небудзь?

— Тут надумаешся, як жа, — падымаючыся следам за наведніцай, адказаў ён і пасунуўся ў калідор апранацца. Усцягнуў праз галаў на плечы швэдар, счакаў, пакуль Міруся адыдзецца ад хаты, пашыбаваў на двор. Аднак не да Юнінага падворка пайшоў, як Міруся чакала, а наўскос паўз сажалку — да хаты бязногай Танечкі. Што, зрэшты, не надта Мірусю і здзівіла. Пра дзіўнае сяброўства Юрыка і дзяўчыны-калекі ў Дварчанах ведалі ўсе.

## ЮНЯ

Бацькі свайго, патомнага бортніка Тодара Казыры, Юня не памятала. Не магла памятаць, бо той загінуў, ледзь дзяўчынцы споўнілася паўгода. Загінуў недарэчна — недарэчней, каб і хацеў,

не прыдумаеш. Палез з падхватнікам і мокрым венікам на старую яблыню абсаджваць залётны пчаліны рой ды і гахнуў з драбінаў вобзем галавой з амаль што трохметровай вышыні. Ударыўся цемем аб голае карэнне старадрэвіны і сканаў увадначас на месцы падзення. Раскрыў рот, быццам хочучы штосьці сказаць, вырачыў вочы, зайшоўся дзікім хрыпам ды і аддаў Богу душу.

Дык і сталася так, што адзінае, чым паспеў бацька адзначыцца ў жыцці дачкі-немаўляці, — гэта яе імя, дадзенае з увагі на месяц нараджэння — чэрвень, які ў Дварчанах, як і амаль усюды ў Паазер'і, называюць на чужынскі, адно што з уласцівай тубыльцам эканомнасцю маўлення, капыл: *юнь*. З'явілася б дзіця на свет крыху пазней, у ліпені-*юлі*, — і назвалі б, напэўна, дзяўчынку Юляй. А можа, і не: Тодар Казыра, нягледзячы на рэпутацыю калектывіста, дзядоўскіх-прадзедаўскіх аднаасобніцкіх звычак дарэшты не цураўся.

І яшчэ адным міжволі прычыніўся нябога Тодар да даччынага лёсу — мянушкаю. Так чакаў дбайны бортнік спадчынніка мужчынскага полу, так быў упэўнены, што менавіта хлопца жонка народзіць, што і імя загадзя парупіўся яму прыдумаць — Змітрок. І так пасля не хацелася Тодару даваць веры, што не жаданы хлопец з'явіўся на свет, а дзеўка, так, відаць, глыбока засела ў ягонай галаве мара пра нашчадка хлопчыка, што не ўтрымаўся ды і гукнуў з роспачы ў неба, няўклюдна перайначыўшы мужчынскае імя на жаночае: «Змі... Змя... Зяметра». Так з тае хвіліны і прыклеілася мянушка да дзіцяці.

А вось першага свайго каханка, Юрыка Падгайскага, Юня, у адрозненне ад бацькі, і ведала,

лічы, ад нараджэння, і бачыла ледзь не штодня. Бо і гадаваліся ў суседстве, і танчыць, як падраслі, у льнозаводаўскім клубе ўпобачкі даводзілася, і ў горад, балазе зусім недалёка да яго, на святыфеерверкі ці проста падзівіцца на тамтэйшыя цікавосткі неаднойчы ў вольную ад вучобы ды хатніх абавязкаў хвіліну разам выпраўляліся.

Нягледзячы на малаваты рост, Юрык быў чалавек гаспадарлівы, вёрткі, дапалы. З усяго ўмеў выцягнуць выгоду, дарма што быў з бязбацькавічаў, з так званых крапіўнікаў. У дзяцінстве нямала нагараваўся пры бесталковай матцы-выпівосе, парабкуючы ўлетку за капейкі, а то часам і за талерку стравы па гаспадарках заможных дварчанаўцаў. А то — як падрос ды ледзь збольшага ўзмужнеў — і за капейчыну ў дадатак да сардэчнай прыхільнасці якой-небудзь знябожанай нястачаю ўвагі п'яніцы мужа маладзіцы-працадаўцы. Так што к часу перабудовы і грошы якія-ніякія хлопец меў у кішэні, і досведам у амурных справах якім-ніякім валодаў.

Не паспела збольшага ўсталявацца на паазерскіх абшарах пасляперабудовачнае жыццё, як увішны Юрык, які адвеку і голкі ці шаршаткі ў руках не трымаў, тут жа выявіўся з талентам краўца і арганізаваў першае ў акрузе паўсаматужнае прыватнае прадпрыемства — арцель па пашыву льнянога адзення. Скупіў па наваколлі старыя, але досыць яшчэ спраўныя «Зінгеры», набыў дзеля понту пару новых машынак «Джукі» і апошняга выпуску аверлокаў, сабраў па вёсках дзяўчат, пасяліў іх у спехам пераабсталяваным пад інтэрнат прысценку колішняй калгаснай малачарні і распачаў справу. Крамныя рэчы не кожнаму з дварчанаўцаў былі ў той бед-

наваты час па кішэні, дык чаму б і не пачаць вырабляць хадавы тавар саматугам, у той жа арцелі? Танней нашмат, а якасць за крамнае, як толкам, з розумам рэч зрабіць ды належным чынам аздобіць, ані не горшая — і людзям выгода, і Юрыку не абы-які прыбытак.

Дзеўкі ішлі ў швачкі ахвотна, бо гарбець у полі пры льне ці глытаць пыл на льнозаводзе або круціць каровам хвасты на ферме не жадалі, а тут праца хоць і даволі нудотная, цягамотлівая, ды ўсё ж адносна чыстая, няпыльная. Ды і заробак хоць і не такі ўжо вялікі, але ўсё ж большы, як у тым спехам перайменаваным з нядаўняга калгаса акцыянерным таварыстве. Так што на пачатку арцельнае справы сярод ахвотных да яе прычыніцца маладзіц і дзяўчат нават утварылася немалая канкурэнцыя. І зухаватаму Юрыку выбраць дзяўчыну, што для працы, што для ўцехі, дзякаваць Богу, было з каго.

Так і Юня, дачка нябожчыка Тодара Казыры, трапіла пасля кароткіх гледзінаў, што Юрык праводзіў звычайна бліжэй да прыцемку самнасам з черговаю прэтэндэнткай на званне швачкі ў вузкай, абкладзенай уздоўж сценаў пукамі лёну ды тым жа лёнам дарэшты прапахлай бакоўцы пры цэху, у гаманлівую арцельную грамаду. Матка, праўда, ад такога кроку Юню адгаворвала, раіла не спяшацца, як след падумаць. Але што тыя адгаворы-парады, калі ўжо дзяўчыне дваццаць пяты год пайшоў і трэба было неяк жыць, а са спарахнелымі бацькавымі спадкамі — борцямі — мітрэнгі аказалася куды болей, чым з іх наедку. Пчолы, якія калісь, пры Тодары, з гектара лёну ў добры год збіралі да пуда мёду, цяпер, калі яго пачалі сеяць у Двар-

чанах кот наплакаў, ледзь-ледзь наносілі за лета ў вуллі сабе дзеля зімовага пракорму. А то, здаралася, і наогул не давалі рады нанесці, і тады і цукрам яшчэ даводзілася джглівых небаракаў падкормліваць. Дык пра тое, каб хоць пару кіло мёду вымеркаваць для продажу і хоць што, хоць якую капейчыну на тым продажы зарабіць, і марыць не даводзілася.

Палюбоўнік з Юрыка быў, папраўдзе, так сабе: мабыць, давалася маладзёну ў знакі хранічная стома ад залішняе ўвагі падначаленых кабет і дзевак. Але да гэткае высновы Юня датумкала пазней. Тады ж, аслепленая першым каханнем і ўсведамленнем переваргі над равесніцамі-канкурэнткамі, нічога навокал не заўважала і аддавалася няведамаму дагэтуль пачуццю з усім пылам, як прынята пісаць у раманах, шчаслівай абранніцы хай і не надта каб самавітага, але ўсё ж зайздроснага, як па гэткім няпростым часе, жаніха.

Папрацаваўшы ў арцелі паўгода, Юня вырашыла, што далей гэтак — усё ўпотай, цішком, у вечным страху, каб не вылезла вонкі грахоўнае, — працягвацца не можа. Сказала пра тое Юрыку. Ён жа, замест таго, каб прапанаваць падпсутай дзеўцы пабрацца шлюбам, пачаў штосьці круціць духамі ды падшукваць для яе іншага мужчыну. Якраз вярнулася ў родныя мясціны сям'я рэпрэсаванага саветамі пасля вайны аднаасобніка Сыктуся Гука, і Юрыкаў пагляд спыніўся на ягоным унуку Міколку.

Маладзейшы за Юню на два гады Міколка вялікай ахвоты пабрацца з ёю, аднак, таксама, як і сам Юрык, не выказаў. І толькі пасля таго, як Юрык паабяцаў уладкаваць яго на ўежнае мес-

ца забеспячэнца пры арцелі, перастаў муляцца, згадзіўся. Так Юня няўзнак і, лічы, насуперак уласнай волі стала Гучыхай. А праз восем месяцаў і нарадзіла хлопчыка, Валіка. Сумневам наконт таго, хто бацька дзіцяці, дзяліцца з мужам не стала, бо і сама таго дакладна не ведала. Ды і асаблівае патрэбы ў веданні, на шчасце, не было. Міколка ад самага пачатку прыняў немаўля як крэўнае і апекаваўся ім напачатку, да таго, як усё больш пачала апаноўваць яго згубная прыхільнасць да спіртнога, так, як нават не кожная і жанчына будзе апекавацца.

Тут неспадзеўнае здарылася. Стрыечная Юніна сястра Галя, ціхмяная, нешматслоўная дзяўчына, якая толькі што скончыла сельскагаспадарчае вучылішча і рабіла лабаранткай на доследнай станцыі пры льнозаводзе, таксама зацяжарыла. Ад каго — нікому, нават самым блізкім, нават самай лепшай сяброўцы Юні, не прызналася, ды надта на гэты конт яе, з увагі на абставіны, роспытамі і не церабілі. Абставіны ж былі зусім дрэнь: у цёткі Ірыны, маткі дзяўчыны, якраз на тую пару выявілі рак страўніка. Жанчына вачавідзь таяла, і жыць ёй заставалася, бачна было па ўсім, зусім нядоўга. Аднаго разу, калі цяжарная Галя спяшалася пасля наведання паліклінікі дадому, да хворай маці, дарогу ёй нечакана перагарадзіў у прысадах раз'ятраны бык. Жывёліна вырвалася з загону і ўжо колькі часу гойсала па наваколлі, наводзячы жах на выпадковых стрэчных. Галі бык, праўда, не крануў, толькі злосліва пакасавурыўся ў яе бок, пабіў капытамі зямлю, паматляў рогамі і пабег далей. Але ён знячэўку так напалохаў цяжарную дзяўчыну, што яна доўга потым не магла дайсці

да памяці, нават мову часова з перажытага пярэпалаху страціла. А неўзабаве, ледзь паспеўшы пахаваць матку, нарадзіла.

Дзяўчынка, якую назвалі Таняй, з'явілася на свет за два месяцы да тэрміну, з дыягназам «дзіцячы цэрэбральны паляруш», і гэта ў сукупнасці са стратаю маці, якая сканала за тыдзень да нараджэння ўнучкі, ды жахлівай гісторыяй з быком неяк уваднначас дзявоцкую Г*а*ліну памылку ва ўспрыняцці дабраслівых дварчанаўцаў згладзіла, зрабіла не так грахоўнай. Таямніцу нараджэння дачкі Галя раскрыла Юні толькі праз дваццаць год, за тры дні да ўласнае смерці, пацвердзіўшы тое, пра што Юня і сама дзякуючы намёкам суседкі Мірусі здагадвалася: бацька дзіцяці — стрыечны Юрыкаў брат, сын бацькавай сястры Яніны Сашка Талалай.

Юня ж тым часам паціху прывыкала да ролі жонкі. Узгадаваны ў суворым сібірскім клімаце Міколка Гук быў чалавек неблагі і нябрыдкі з твару, адно што цела меў, як для мужыка, не тое што непрывабнае — вельмі ж падобнае да жаночага. Ад шыі да пояса каб дзе валасіна, грудзі поўныя, як налітыя малаком цыцкі парадзіхі; цяглiцы, наадварот, усохлыя, слабыя, быццам сатканыя з танюткіх нітачак. А галоўнае — быў Міколка надта ж ужо, як для мужчыны, уніклівы датычна гаспадарскіх дробязяў. Юня ідзе ў хлеў даць парасятам — і ён следам за ёю сунецца. Юня ля печы сняданак ладзіць — і ён тут жа, побач, ні на крок не адыходзіць. У кожны саган, у кожную патэльню зазірне, кожны жончын рух, кожны крок пракаментуе, пракантралюе. Колькі чаго ў страву пакласці, чым пракінуць булён ці шчаўе, колькі чаго купіць у краме — да ўсяго яму справа, усё яму абыходзіць.

Як шыт яго шые даваць парады ды соваць нос туды, куды не просяць, аб'яўляцца там, дзе не чакаюць і чакаць не жадаюць.

І так дастаў Міколка ўрэшце Юню дробязнай сваёй, рыхтык бабскаю апекай, што не вытрымала аднойчы, абурылася. Ды лепш бы, напэўна, не абуралася. Бо як што ў ягоных мазгах неўзабаве па тым яе зласлівым абурэнні перавярнулася, і пачаў Міколка выпіваць. І не проста выпіваць, а заліваць за каўнер часам так, што дарогу ад арцелі да хаты каторага разу ледзьве асільваў. А ўжо пра тое, каб даць рады маладую жонку падчас запояў належным чынам улагодзіць, і казаць не выпадае.

Юня, вядома, засумавала. І тут, быццам адчуўшы тугу маладзіцы па моцным надзейным плячы, зноў паманууўся падсунуцца да яе са сваімі заляцанкамі Юрык. Прыток у арцель новых дзевак спыніўся, і ён, перабраўшы, відаць, на зуб усіх, каго мог, пачаў нанова чапляцца да былых каханак. Але справа далей намеру не пайшла: знябожаная няўклюднымі любошчамі мужа Юня, хоць усё яшчэ Юрыка і любіла, абарвала імпэт вераломнага каханка рашуча, і таму нічога не засталося, як пашукаць адхлання ў іншым месцы. Што неўзабаве ён і зрабіў, пазнаёміўшыся з паспартысткаю з раённага аддзела міліцыі.

Тым часам у арцелі разгарэўся скандал вакол Юрыкавага круцельства з падаткамі. Сашка Талалай, якому даўно карцела і самому заняцца хоць якім, хоць самым дробязным бізнесам, падсядзеў сваяка, даў супраць яго сведчанні. Юрык такога здрадніцтва, канечне ж, не стрываў, паміж мужчынамі адбылася бойка. Раскрывавіўшы брату пражкаю рэменя твар, Юрык

прылюдна, у прысутнасці некалькіх сведкаў паабяцаў крыўдзіцеля забіць, за што ў дадатак да двух прадугледжаных законам гадоў вольнага пасялення атрымаў яшчэ адзін.

Пасля арышту Юрыка стырнаванне арцеллю перайшло да Сашкі. Новы гаспадар, аднак, вялікага імпэту да працы не выяўляў, больш засяроджваўся на гулях. А аднойчы, прыхапіўшы з арцельскае к*а*сы ўсю наяўнасць ды месячны заробак швачак, краўца, забеспячэнца і прыбіральшчыцы, знік у невядомым накірунку. Падчас масавых выездаў дварчанаўцаў на гандаль у Польшчу яго быццам бы бачылі аднаго разу з партыяй прасаў і сантэхнікі на мытні, але ці праўда то была, ці памылка, так і засталося невядомым. Бо дахаты Сашка не вярнуўся. І не вярнуўся, і ніякага знаку пра сябе за ўсе наступныя гады ні бацькам, ні Галі не падаў. Раз-пораз даходзілі ў Дварчаны чуткі, што ён асталяваўся ў Піцеры, дзе быццам бы завербаваўся наймітам на нейкую дурную чужынскую вайну, што на той вайне яго ці то скалечылі, ці то наогул забілі, ці то сам ён там кагосьці з таварышаў па службе падчас п’янае разборкі забіў, але ўсё гэта былі звесткі ненадзейныя, і на іх папросту ўжо з часам не зважалі. Што да арцелі, дык кіраваць ёю пасля такіх нядобрых падзей ахвотных не знайшлося, і неўзабаве яе зачынілі.

Юні зноў давялося шукаць працу. У гэтую хвіліну і заўважыў яе яшчэ адзін дабрадзей — кірпаты Сцяпан Муха, бухгалтар торфазавода, пляменнік аднаго раённага начальніка. Пераняўшыся чужою бядой, Сцяпан прапанаваў жанчыне паўстаўкі дыспетчаркі ў заводскім аддзеле транспарту. Яна згадзілася.

Фарсун бухгалтар, стары кавалер, любіў хадзіць па хаце амаль што ў чым маці нарадзіла, і ягоную паўголую паставу суседзі не аднойчы бачылі праз вакно ў кампаніі Юні, калі яна заходзіла да яго дзеля прымеркі (пасля закрыцця арцелі яна, апроч таго, што рабіла дыспетчаркай на заводзе і час ад часу выходзіла з іншымі жанчынамі полоць лён ці парадкаваць трасту, працягвала шыць прыватным чынам) чарговай абновы. Так што вельмі хутка паслаўка наконт Юнінага нібыта новага грэхападзення абляцела Дварчаны. Упэўненая ва ўласнай невінаватасці Юня на закіды староннiх людзей аб распусце надта не зважала, і так яно неяк само па сабе ўсё тое брыдкае людское пляткарства няўзнак і змізарнела, забылася. Усімі, апроч, бадай, суседкі Мірусі. Што яна, зласлівіца, час ад часу, у хвіліны нязгоды ненавязліва, ледзь заўважным рухам вуснаў або ўсмешкаю ці з'едлівым словам Юні, замест таго, каб на сябе паглядзець, і дэманстравала.

## II

## КЛОПАТЫ

Сонца даволі высока паднялося па-над дварчанаўскімі гонямі, а Юрыка ўсё не было відаць. Юня з Мірусяю не адзін ужо пацер за супакой Сашкавай душы паспелі прамовіць пры запаленай свечцы, не адною квартаю настоенага на маладой мяце напою асвяжыцца пасля ўтомнае, звыродліва-жудаснае ночы валаводжання з целам нябожчыка, а яго ўсё як не было, дык і не было.

— Можа, недачуў, на колькі прызначалі? — выказала сумнеў Юня. — А можа, крэсла-каталку Танечцы рамантуе. Без крэсла ж дзеўка — як без рук. Трэба было нам узбіцца паначы на тую патарчаку, вывернуць кола... Колькі там, здаецца, таго Сашкі, а вось жа, глядзі ты, ледзьве рады ўтраіх далі да могілак давезці. Казала ж дурню: прывяжы добра цела да крэсла вяроўчынай, каб не гайдалася, дык не... Як усё адно паленаваўся ці пашкадаваў вяроўкі. І цяпер во клопат. Ну, але ж, дасць Бог, наладзіць як-небудзь дзяўчыне крэселка. Дык што, можа, схадзіць па яго?

— І схадзі сабе, — хітра ўсміхнуўшыся ды апускаючы вочы долу, падтакнула Міруся.

Юня пайшла. Але толькі паспела выйсці на двор ды на колькі крокаў аддаліцца ад хаты, як з боку прысадаў данесліся гукі матора.

Навюткае міліцэйскае аўто прытармазіла перад хатаю, калыхнулася сюды-туды на выбоіне, зухавата торкнулася перадам у клумбу з ружаватымі, нясмелымі выросткамі півоняў пад акном.

— Не чапалі, бабулі, цела? — сказаў нервова, крочачы следам за жанчынамі да гародчыка, прыезджы, высокі круглатвары міліцыянт з мабільнікам на поясе. — Нельга мерцвякоў чапаць. Тут, ведаеце, кожная дробязь для дазнаўцаў важная. А то перакуляць-перасунуць цікаўныя нябожчыка, а ты потым думай, што яно ды як, ды шукай вінаватых.

Міліцыянт рашуча пасунуў убок лазіну, што перагароджвала ўваход у гародчык. Наблізіўся да лехаў, дастаў з кішэні пачак цыгарэт, пахапліва, быццам заняты нейкім староннім клопатам, запаліў.

— Ну, і дзе ж ён, ваш труп? — спытаў, нецярпліва азіраючыся наўкола.

— Які труп? — азвалася Юня. — Ніякага трупа тут не было. Ляжаў учора чалавек, ды, мабыць, ачуняў і пайшоў сабе...

— Пайшоў? Куды пайшоў?

— А Бог жа ведае, — дружна, як не ў адзін голас, адказалі жанчыны.

Пагляд мужчыны паблукаў па лехах, спыніўся на разоры, акурат на тым месцы, дзе ўчора ляжаў Сашка, а цяпер адно кусцілася, пахіліўшыся порсткімі сцяблінамі долу, жылістая купка пырніку.

— Кажаце — не было трупа? Не было? То навошта ж тады тэлефанавалі, калі не было?

Жанчыны пацiснулі плячыма, раскрылі рты, каб выказаць здзіўленне пытаннем, але тут жа, збітыя з панталыку наступнаю рэплікай міліцыянта, хуценька іх і пазакрывалі.

— Фальшывы выклік? Ого! А ці ведаеце, чым такое пахне? Мала, што маладзёнаў ловім з рознымі лжывымі паведамленнямі, дык і вы, цёткі, туды ж! А закон пра наўмысныя, ды яшчэ ананімныя, выклікі ведаеце? Не? А вось як улепім вам штраф, тады будзеце ведаць... Тады паскачаце!

Юня паспрабавала ўставіць слова, але Міруся тут жа скубнула яе за падол: маўляў, маўчы.

Міліцыянт палапатаў яшчэ колькі часу, спраўдзіўшы прозвішча і імя гаспадыні гародчыка і яе суседкі ды добра настрашыўшы абедзвюх пакараннем за падман, вярнуўся на панадворак.

— Шчасце ваша, што замежная дэлегацыя ў раёне, дык парадак трэба запяспечваць... А то б яшчэ паразмаўляў з вамі, — сказаў ужо з машыны і паехаў прэч.

Юня з Мірусяй пагаманілі, хто б гэта мог яго выклікаць, прыйшоўшы да высновы, што, няйначай, Ганя Шыпіха, бо каму тут болей, апроч яе, магло яно ўсё ажно гэтак, ажно да выкліку міліцыі, ды яшчэ амаль праз суткі пасля здарэння, абыходзіць, пайшлі зноў у хату — працягваць хаўтуры.

— Хаця б яна ўжо падалей пабылі ў раёне, гэныя іншаземцы, — сказала Юня, здымаючы са страваў ускінуты перад выхадам з хаты да міліцыянта абрус. — Ці хай бы і наогул не ад'язджалі...

— І хай бы, — падтакнула Міруся і, асушыўшы залпам ці то сваю, ці то Юніну недапітую кварту, не сцярпела, выгукнула: — Але ж турбуешся штосьці, сяброўка... З-за чаго ўжо гэтак?

Хацела яшчэ дадаць, ці не з-за Юрыка, маўляў, але не паспела, бо і Юрыкавы крокі ўжо пачуліся з сянец.

Праз хвіліну Юрык, сапраўды, далучыўся да жанчын. Толькі паспеў раскрыць рот, каб распавесці начным хаўрусніцам, як рамантаваў да раніцы папсаванае ўначы Таніна інваліднае крэсла, як тут жа, збіты з панталыку маркотнымі тварамі суразмоўніц ды іхнім блытаным, бы сляды лісіцы на лясной сцяжыне, расповедам пра размову з круглатварым міліцыянтам, і сціх.

Ледзь паспелі Юня з Мірусяй збольшага распавесці Юрыку пра нечаканы прыезд міліцыянта, як азваўся тэлефон. Тэлефанавала Марынка, Юніна нявестка. У Юні на перадплеччы апошнім часам пачала штосьці імкліва расці ледзь заўважная дагэтуль папілома, дык маладзіца надта ж турбавалася з-за гэтага, раіла як хутчэй яе пазбавіцца.

— Мама, ну што трымаць трасцу, чакаць благога? Гэта ж пяць хвілін усяе аперацыі, толькі назва адна, што аперацыя. Нават класціся на той стол не трэба, у сідзячым становішчы доктар зробіць. І плюснуць вокам не паспееце, як зрэжа... І зусім не балюча будзе. Доктар знаёмы ёсць, патэлефанаваць толькі яму. Але паспяшацца трэба, бо мне ад'язджаць у Руан на канферэнцыю па льне ўжо зусім неўзабаве. Дык і пачытаць сёе-тое трэба, і на прэзенты што-небудзь набыць, ручнік які хаця б або пояс... Ды і з вопраткі таксама дзеля абновы што-кольвечы — як-ніяк Францыя, краіна моды, не паедзеш жа абы-як. З ільнянога што-небудзь, можа, варта было б прыкупіць... Сукенку якую або кофту. Як вы думаеце?

— Ільняное камечыцца, — каратка, абы хутчэй адчапіцца, сказала Юня і зноў заціхла, занятая думкамі пра сваё. — І колецца да таго ж ільняное, як кепска выраблена, бывае.

Марынка зноў вярнулася да тэмы пра аперацыю, заходзілася словамі, уздыхала, нервавалася. Юня, як заўсёды, маўчала і слухала. Марынкі яна не тое што не любіла — не вельмі ёй давярала. Можа, таму, што з няпростых дзеўка была, можа, з іншай якой прычыны, але вось як не прасякнулася Юня даверам да яе ад першага дня, так і па сёння яго не займела. Таму і сустракацца з нявесткаю вялікай ахвоты ніколі не мела.

Што Юні тыя сустрэчы-спатканкі? Толькі клопату ды мітрэнгі ад іх. Тое ім, маладым, не так, гэта не гэтак, таго не хачу, гэнага не жадаю. Вунь днямі яешню к прыезду дарагіх гасцей зладзіла, дык і ў той бок глядзець, што сынок, што нявестка, не сталі. Яшчэ і пакпілі з гаспа-

дыні. «Што гэты вы, — кажуць, — мама, за какорыну[1] нам такую, што за лап*у*н такі спяклі, не ўкусіць жа яго?» Дай ты рады — не ўкусіць... Дагадзіла... А старалася ж: чатыры буйнейшыя яйкі з-пад лепшай курыцы ўбіла, прыправамі страву прыгожанька аздобіла... І словам жа якім, гаўнюкі, абнайменілі прыгатаванае: какорына! Гэта ўжо Валікава, канечне, работа, бо Мандрыкі наўрад калі сапраўдную какорыну і ў вочы бачылі. Хаця хто ведае, дзе яны там гадаваліся ды чым харчаваліся, пакуль гэтак высока не ўзляцелі. Іншы ўдае з сябе няведама што, а як глянеш, дык і нічога там зайздроснага — мужык мужыком.

— Дык што, мама, прыязджаць за вамі? Як скажаце?

— А, глядзіце самі, — пераходзячы думкамі да перарванай размовы з Юрыкам, адмахнулася няўважліва Юня. — Як хочаце, так і рабіце. Мне цяпер задужа клопатаў. Во гуркі пасеялі, дык трэба пільнаваць... Ці мала што... Птушка якая няўрокам узляціць на лехі, авечка або каза скапыціць узыходы — і гамон ураджаю. І тады што рабіць узімку? Палец смактаць?

## МАРЫНКА

Калі да каго на свеце і былі зоркі заўжды прыязныя, калі і свяцілі каму шчодра, напоўніцу, а не праз пень-калоду, дык гэта Марынцы Гук, у дзявоцтве — М*а*ндрык. Ад нараджэння дзяўчынцы шанцавала, ад маленства не ведала

---

[1] ***Від праснака.***

яна, што такое нястача бацькоўскае любові-ўвагі. І не дзіва: з’явіцца на свет у такой сям’і, як сям’я Марынчыных бацькоў, дырэктара і галоўнага інжынера самага вялікага ў Паазер’і льнозавода, для дзіцяці ўжо гарантыя калі не поўнага шчасця, дык подступаў да яго надзейных, — несумненна. Толькі скарыстайся шанцам, не спудлуй у патрэбную хвіліну.

Марынка не спудлавала. Скончыўшы школу, паступіла з лёгкай рукі бацькавага знаёмца, аматара дыхтоўных ільняных вырабаў і творчасці даўнейшых спевакоў Юневіча і Шуманскага, а галоўнае — загадчыка сектара навукі ўніверсітэта, вучыцца на асабліва ж моднага на той час менеджара. На бюджэтную форму навучання конкурс быў ва ўстанове велізарны, ці не пад дзесяць чалавек на месца, але ж і загадчык сектара — дзядзька не маленькі, пасобіў дачцэ сябрука найлепшым чынам. Увайшоў падчас тэставання пад выглядам быццам бы нейкай тэрміновай справы да старшыні камісіі ў аўдыторыю, дзе яно праходзіла, ды і падсунуў дзяўчыне непрыкметна пад далонь цыдулу з правільнымі адказамі. Маральныя выдаткі гэткага добразычлівства нябедны Раман Міледзевіч Мандрык, бацька Марынкі, аплаціў знаёмцу шчодра, аж нават з каптуром, і паплылі для дзяўчыны гады шчаслівага, поўнага прыгодаў студэнцкага жыцця.

Вучоба давалася Марынцы даволі лёгка, іспыты падчас сесій яна здавала без асаблівых высілкаў. Аднак жа і без лыжкі дзёгацю, на жаль, не абышлося: штосьці ад самага пачатку не заладзілася ў Марынкі з фізкультурай. Здаецца, і прадмет не такі ўжо цяжкі, а вось жа... Тры семестры прамучылася дзяўчына, адольваючы

прадугледжаныя ўніверсітэцкаю праграмай ды ўскладненыя прынцыповасцю старога выкладчыка спартыўныя нарматывы. І невядома, колькі б яшчэ мучылася, калі б выкладчык раптоўна, уваднaчас не памёр і ягонае месца не заняў трыццацігадовы маладзён, схільны да індывідуальных формаў заняткаў са студэнтамі, большасць з якіх складалі на курсе, як і паўсюль у навучальных установах, дзяўчаты, кандыдат у майстры спорту міжнароднага класа па бегу. Ён і дапамог Марынцы, у якой к таму часу акурат пачыналася дэпрэсія на глебе непрыемнасцяў са здачаю нарматываў, не толькі паверыць ва ўласныя сілы, але і здаць неўзабаве ўсе «хвасты»-запазычанасці так паспяхова, што аднакурснікі толькі ахнулі.

Злыя языкі тут жа прыпісалі Марынчыны поспехі юрлівасці выкладчыка і нават парупіліся ўвесці звесткі пра іх ў вушы ягонай жонцы. Хто ведае, чым бы справа скончылася, калі б у сям'і самога майстра спорту не надарыўся скандал. Вярнуўшыся аднаго разу апоўначы дахаты без папярэджання са спаборніцтваў, ён заспеў жонку за келіхам віна ў кампаніі старшыні прафкама мясцовай аўтабазы, і плёткі пра ягоныя шуры-муры з Марынкай міжволі адышлі на другі план.

На перадапошнім годзе вучобы Марынка закахалася.

Чарнаскуры студэнт-медык Угвоке з Нігера быў не тое каб надта ўжо сімпатычны, хутчэй абаяльны. Выбар жа Марынкі, якую ў знешнасці чалавека ці манеры апранацца або трымацца на людзях адмалку вабіла экзотыка, у значнай ступені вызначыла і меркаванае месца жы-

харства без дзвюх хвілін доктара па сканчэнні ўніверсітэта. Адзін са шматлікіх дзядзькоў Угвоке рабіў афіцыянтам у рэстаране ці то ў піцэрыі дзесьці на поўдні Італіі і абяцаў пляменніку калі не адразу з працаўладкаваннем у далёкім замежжы, дык з жытлом — без ніякага якога. Штосьці, аднак, з тымі апенінскімі абяцанкамі-цацанкамі не заладзілася. Атрымаўшы дыплом, Угвоке мусіў вяртацца на радзіму, у свой Нігер, куды і Марынка, гнаная ўжо, папраўдзе, больш цікаўнасцю, чым пачуццём, якое к таму часу пачало мізарнець, неўзабаве падчас летніх канікулаў выправілася следам за ім.

Сказаць, што лад жыцця вялізнага сямейства Угвоке збянтэжыў яе, — нічога не сказаць. «Уяўляеш, халупка з нейкіх жардзінак туліцца пасярод пяскоў, а ежа такая спецыфічная, што за тыдзень толькі аднойчы, мабыць, ад іхняй тамтэйшай салёнай бульбы ды маісу і схадзіла па вялікай у прыбіральню», — жалілася дзяўчына па вяртанні дахаты адной з сяброўак і скрушліва ўздыхала.

Уздыхалі і старэйшыя Мандрыкі. Толькі, у адрозненне ад дачкі, не са скрухаю ў голасе і выразам жалобы на тварах, а з палёгкай. Яны ад самага пачатку былі катэгарычна супраць шлюбу Марынкі з Угвоке і цяпер, калі вось так само сабою ўсё тое жаніхоўства паціху разбурылася, гатовыя былі літаральна насіць яе на руках. А каб падтрымаць адзінае дзіця ў хвіліну першага ў жыцці любоўнага расчаравання, спачатку купілі ёй для прагулянак па возеры прыгожы водны ровар з сядзеннем на дзве асобы (хацелі купіць катамаран, але Марынка з увагі на надта ж сціплую плошчу мясцовага вадаёма адмовілася),

а затым і яшчэ больш расшчодрыліся, выправілі дзяўчыну аж на месяц у нятанны марскі круіз.

Па атрыманні дыплома ўражаная падчас мінулагодняга круізу замежнымі цікавосткамі Марынка торкнулася ўладкоўвацца на працу ў аддзел менеджменту сумеснай тутэйша-замежнай фірмы па продажы вырабаў з лёну пад прэтэнцыёзным назовам «Класіка індустрыі моды». Але там яе, як высветлілася, не чакалі. На просьбу дзяўчыны падаць запыт ва ўніверсітэт дзеля залічэння яе ў штат фірмы начальнік аддзела адказаў, што ён, на жаль, не Пан Бог і нават не Рымскі папа, уладаю распараджацца ўсім на свеце не надзелены, і пацікнуў пры гэтым плячыма так строга, што Марынцы нічога не засталося, як прасіць бацьку зноў звярнуцца да знаёмца. Пратэкцыі апошняга, аднак, гэтым разам аказалася недастаткова. І Раман Міледзевіч, павагаўшыся колькі часу, патэлефанаваў наўпрост свайму колішняму вылучэнцу-прэтэжу, а цяпер генеральнаму дырэктару аб'яднання «Льновалакно» Івану Кірылавічу Падзяве.

І зноў усё ўладкавалася найлепшым чынам. Ці то дзядзька-кадравік уваднача зрабіўся папам, ці то іншае штосьці прычынілася да справы, але зноў, на гэты раз з лёгкае рукі гендырэктара аб'яднання «Льновалакно» Падзявы, усё атрымалася як след. І гэта ўжо быў крок не толькі ў накірунку прафесійнай кар'еры дзяўчыны, але і шчасця асабістага. Бо там, у фірме па продажы льняных гарнітураў, сукенак, бялізны ды настольнікаў, Марынка Мандрык спаткала новае каханне — кіроўцу Валіка Гука.

Сябраваць з кіроўцам грузавіка дачцэ гэткага вядомага ў Паазер'і, выбітнага чалавека, як дырэктар ільнозавода Раман Мандрык, было быццам і не да твару. Ды любоў, як і голад, не цётка, ук*а*шацца — газаю не вытруціш. Тым больш, калі дзеўцы ўжо час і пра сям'ю падумаць, а хлопец, як знарок, — маляванка, што з твару, што з паставы, што з абыходжання, не тое, што нейкі там чужынец Угвоке. Спортам займаецца, гарэлкі не п'е, у сумнеўных кампаніях не тусуецца. Адзіная х*і*ба — не надта адукаваны, але ж гэта, вядома, выправіць пры жаданні, ды калі яшчэ і пры грашах у кішэні, не так ужо і складана.

Спачатку сустракаліся ўпотай. Найчасцей у выходныя, дзе-небудзь на ўлонні прыроды ці, калі з'язджалі куды па справах Марынчыны бацькі (а з'язджалі яны даволі часта), у яе дома або на лецішчы. Апошняга Валік, праўда, не любіў: кідкая раскоша аточанага японскім садам загараднага катэджа нуварышаў Мандрыкаў яго бянтэжыла. Адмалку звыклага да простага ўбранства вясковае хаты хлопца абвешаныя дарагімі кілімамі ды праэтыкетажаванымі, як у музеі, арыгіналамі майстроў мастацкага кіча сучаснасці апартаменты Рамана Міледзевіча Мандрыка і яго сужэнкі Эльвіры Віктараўны прыгняталі і скоўвалі, вяртаючы шторазу думкамі да несамавітага, зладаванага ў нішчымныя пасляваенныя часы са старых бэлек матчынага жытла.

Ды і ўсё астатняе было ў Мандрыкаў інакшай, як дома: ужо калі смятана да клёцак, дык смятана, наўпрост з малаказавода, з рук ды благаславення самога дырэктара — лыжка ў такой не

патоне; сурвэткі — бялей снегу, далікатэсаў на стале гэтулькі, што ўваччу стракаціць: еш — не хачу. А вось што найбольш прываблівала Валіка падчас спатканняў на лецішчы, дык гэта іхнія з Марынкаю рамантычныя прагулянкі па возеры на водным раварку. Поруч адно аднаго, пырскі ў твар, сонца аж вочы слепіць — Эдэм дый годзе.

Час, аднак, ішоў, а захадаў паставіць кропку ва ўзаемаадносінах з дзяўчынай прыгажун кіроўца зрабіць усё ніяк не наважваўся. Чуйнай, уніклівай Марынцы ўзрослая на глебе сацыяльна-класавай закамплексаванасці нерашучасць Валіка, канечне, муляла. І яна, каб падштурхнуць каханка да больш пэўных, больш канкрэтных дзеянняў, зрабіла, як кажуць, ход канём: ненавязліва напрасілася ў госці да ягонае маці.

Юня сустрэла сяброўку сына проста, хоць, канечне, і не без хвалявання. Участавала лепшым з таго, што мела, у размове пры стале паводзілася натуральна і сціпла, лішніх пытанняў не задавала. На пытанні госці адказвала коратка, але разам з тым як мага больш змястоўна. У выніку адна адной ці то насамрэч спадабаліся, ці то зрабілі выгляд, што спадабаліся, але гэта было і не так істотна: наяўнасць у абедзвюх жадання спадабацца ўжо прамаўляла сама за сябе.

Адзінае, што чамусьці не глянулася Юні ў будучай нявестцы — гэта яе прозвішча. Якое яна, зрэшты, тут жа, ледзь Марынка з сынам паспелі выйсці з хаты, быццам бы, хоць і неаднойчы яго дагэтуль, канечне ж, чула, і забылася. І як пасля ні спрабавала яго ўзгадаць, моршчачы лоб ва ўдаванай задуменнасці, так нібыта і не дала, хітраванка, рады. «Штосьці быццам як Дунд-

рык», — адказала Мірусі, паабяцаўшы перапытаць пры нагодзе ў сына. Суседка, не чакаючы выніку перапытвання, тут жа распавяла пра чутае другой суседцы, другая — трэцяй, і к вечару показка пра смешнае прозвішча Юнінай нявесткі ваўсю гуляла па языках дварчанаўскіх падглядачак.

## ПАМАЖЫ, ХРЫСТУЛЯ!

Зорка гайдаецца на небе, сплюшчваецца, ляціць зіхоткаю льсністаю вужакай за тын гародчыка. «Авохці, ратуй нас, Хрыстуля!» — войкае Юня і похапліва жагнаецца. Не сказаць каб надта ўжо руплівая спадкаеміца веры бацькі-каталіка і маці-праваслаўнай, яна заўсёды, аднак, жагнаецца ў хвіліны сполаху, звяртаючыся пры гэтым да Бога, хоць таго сама і не ведае, на грэчаскі лад, з уласцівым для грэкаў памяншальным суфіксам у зваротах-імёнах. Хаця грэкаў тых адвеку бачыць не бачыла і нават пра тое, як яны выглядаюць, даведалася толькі зусім нядаўна, натыкнуўшыся ў Мірусі на пакінутую Вадзькам, што вучыцца ў тэхнікуме на сувязіста, таўшчэзную кніжку з выявамі целаў бязрукіх мужыкоў і жанчын на вокладцы. Узялася неяк аднаго разу тую кніжку пагартаць, але тут жа і кінула, гэткімі паскуднымі падаліся Юні ўсе гэныя голыя грэчаскія бязрукія-бязносыя.

І што толькі маладыя ў іх знаходзяць? Яшчэ ж і падобнымі, бач ты, хочуць быць.

Вунь той жа Вадзька, напрыклад... Як прыедзе ўлетку падчас канікулаў або на выходныя з горада да Мірусі, дык не каб у гародзе ці ў хаце

што бабе памагчы — днямі са стадыёна не вылазіць, цела ўсё трэніруе-гартуе. Нутбук свой, ці як там яго, расчыніць, і ўсё, кажа Міруся, разглядае малюнкі. Разглядае ды ўласныя цягліцы на руках мацае, мацае... Дваццаць год хлопцу, а ён замест таго, каб да маладзіцы якой пахінуцца, собскае цела ды собскімі рукамі, бы той заклапочаны прышчыкамі падлетак лоб, лашчыць. Ці дзіва, што з твару нават учарнеў: праўдзівы грэк з кніжных маляванак, адно што не бязрукі.

Неяк сказалі яму з Мірусяю пра тое — засмяяўся толькі. Маўляў, скажаце, бабулі, дзе тыя грэкі, а дзе мы? Перастарэкнуўся яшчэ, шчанюк: маўляў, тэлевізара, няйначай, пра тое, як грэкі мітынгуюць, наглядзеліся? А ў іх жа, у грэкаў тых, пенсія не тое, што ваша, — самая высокая ў Еўропе. На табе — самая высокая! Збрахаў, вядома: ці ж будуць людзі ад дабра дабра шукаць... Прывяпа нейкага ні з таго ні з сяго да размовы прыплёў. Прыплесці прыплёў, а хто такі той Прывяп — толкам, колькі ні прасілі, не сказаў. Адно пацвеліўся: маўляў, дзеці вы ягоныя ўсе, то як не сорамна вам бацькі свайго не ведаць?

Сумуе пры вакне Юня, уздыхае, маркоціцца. Пра ўраджай міжволі задумваецца. Які ён будзе? Кожная раслініна, казаў той, сваёй пары патрабуе. А тут мала таго, што гуркі на кволенькі маладзічок, што ледзь-ледзь у сілу пачаў убірацца, дык яшчэ і ў непрагрэтую як след зямлю пасеялі. То што з таго абы-як, спехам ды яшчэ пад гэткае дурное галёканне пасеянага кірмашовага насёна ўзыдзе? А калі і ўзыдзе, то што вырасце? Хіба што пустацвет — вока кветам пару дзён парадаваць. Даўней, бывала, у гарод не ў пару і не лезлі. Бо што морквіну садз*і*ць,

што той жа гурок ці памідорыну прышчыпваць, што бульбу акучваць — на кожную працу свой тэрмін меўся. І парушаць яго і ў голаў нікому не прыходзіла. Не тое, што цяпер: стук ды грук, абы з рук.

А добра яшчэ, як не падсунецца які д'ябал, не падсее, вораг-пракудлівец, на лехі пустазелля. І так здараецца, нездарма ж і ў Бібліі вунь, у прыпавесці пра пшаніцу і плевелы, якую айцец Тамаш падчас нядаўняе службы ў нядзельным казанні згадваў, пра тое напісана. Падторкнецца сатана-ліхадзяюга, напаскудзіць, і тады што бегай наўкола тых лехаў з голым азадкам ды чэлесам, што не бегай, што трасі цыцкамі над імі, што не трасі — адна трасца. Ніхто і ніхто не паможа, нават Хрыстуля. Яшчэ і Талалайчык тут, пры гурках на дзеравяшцы, у нялюдскім сваім капшуку, ліха на яго... А хто ведае, з якімі грахамі прымчаўся, якога дзе гадства, па свеце гойсаючы, не набраўся ды насёнам таго гадства дварчанаўскіх лехаў ці не не атруціў? Вось праўда, не ведаеш, чым лёс надумаецца абнеспадзеіць...

Падымаецца Юня з месца, крэкча, тэпае ў кухню: час і на зуб сяго-таго пакласці, ад ранку, лічы, за ўсімі гэтымі прамінулымі начнымі ды цяперашнімі дзённымі справамі ў роце зярнятка макавага кабеціна не мела.

Зноў калышацца зорка на небе, мігціць, як агеньчык не ў пару распаленай свечкі, пярэсціць дол млявымі блікамі. Кроіць Юня-Зяметра каляную ўчарашнюю бабку, пхае няўважліва ў рот, жуе рэштаю хісткіх, што даўно просяцца на сметнік, зубоў. Жуе і зноў думае: пра нябожчыка бацьку, што рана гэтак, заўчасна пайшоў з жыцця, пра маці, таксама даўно ўжо

нябожчыцу, пра сына ды пра нявестку, якім і дзіцем бы сябе ды бацькоў ужо час пацешыць, а ўсё ніяк не дадуць рады. Пра небаракаў грэкаў, што нібыта, калі даваць веры Вадзьку, усё маюць, ды ўсё ім, бач ты, мала. Ды ці мала пра што яшчэ думае Юня, а сказаць каму — і пад страхам смерці не скажа.

Два дні мінулі пасля Марынчынай размовы са свекрывёй наконт аперацыі, а адказу ад Юні ўсё не было. Двойчы ўжо прасіла Марынка мужа нагадаць маці пра справу, ды дарэмна: Валік як вады ў рот набраў. Вось і гэтым разам сядзеў за сталом моўчкі, жаваў памалу, як не сваімі зубамі, еўраоптаўскую вяндліну, слухаў няўважліва, напаўвуха жончыны ўшчуванкі.

— Але ж цёмныя, забабонлівыя людзі гэтыя вашы дварчанаўцы, — прапалоскваючы пад кранам новенькую, днямі набытую па акцыі кававарку, падвяла ўрэшце рысу тая. — Ведаеш, што ўрабілі, дзівакі, гуркі сеючы? Вадзька цётчын Мірусін тэлефанаваў, дык распавёў... Параспраналіся, кажа, ды і пачалі голымі лётаць вакол лехаў. Гэта, значыцца, нібыта дзеля таго зрабілі, каб ураджай лепшы прынадзіць. Дрэс-код, аднак, у тваіх землякоў! Якая дзікасць, быццам у глухім лесе ці ў пустэльні якой людзі жывуць! Думаюць, напэўна, калі голымі дупамі пасвецяць на тыя гуркі, дык ужо так увосень іх наядуцца, што пузы ім параспірае.

— А нам што за справа? — неахвотна, млявым голасам адазваўся нарэшце Валік. — Хай сабе робяць, як хочуць. Не забароніш...

— Хай,— пагадзілася Марынка. — Так кажу, да ведама твайго... А пра што яшчэ з табой га-

варыць? З табой гаварыць — бобу жалезнага, няйначай, трэба наесціся. Ні да чаго табе справы няма.

— Дык і дзякавала б Богу, што так. Вунь бацьку майму да ўсяго справа была — і што? Дагадзіў ён матцы? Якраз! З вамі, жанчынамі, гаварыць — не бобам, а чорт ведае чым трэба напхнуцца. Так скажаш — кепска. Іншым бокам павернеш — яшчэ горш. І знайдзі тут сярэдзіну...

— Знойдзеш, як захочаш. Толькі захацець трэба. Мой жа бацька вунь неяк знаходзіць...

— А, канечне — твой! З такім імечкам — канечне.

— Зноў ты тое самае? Знайшоў тэму. Быццам не ведаеш, як усё атрымалася з ягоным імем... Быццам не распавядала табе, што дзеда Мялеціем звалі, а сельсаветаўскія грамацеі ў пасведчанні па-свойму запісалі. Вось і атрымалася — Міледзевіч. І колькі ўжо можна на гэты конт перастарэквацца? То імя па бацьку вам недаспадобы, то прозвішча не ў нос...

— Каму гэта — «вам»?

— А то не ведаеш! Табе і Тодараўне. Мне людзі пераказалі, як шаноўная мая свякрова на Дундрыкаў нас перарабіла. Дундрыкі мы, значыць... А я вось бацькам пра гэткія яе фінты раскажу, тады паглядзім...

— Ладна, прабач...

— Не першы раз прабачаешся. Ну, добра, хай ужо хоць так... А што наконт матчынай аперацыі? Прапанавала ёй памач, дык таксама ні тпру ні но, ні мычыць ні целіцца.

— Яе справа, — даядаючы вяндліну, усё тым жа абыякавым голасам адазваўся Валік. — Не дзіця малое, сталая кабеціна, ведае, што робіць.

— Ага, не дзіця, канечне! А як што благое з той дробязнай болькі ўсчыніцца? Каму даглядаць тады хворую давядзецца? Каму? Нам жа, напэўна, каму яшчэ! На «памажы, Хрыстуля» далёка не заедзеш. Ну, хай будзе так! Не трэба вам — дык і мне навошта, — махнула Марынка рукой ды і падалася апранацца для паходкі ў горад па закупы. Днямі нагледзела ў краме «Класікі індустрыі моды» дыхтоўную льняную туніку з тутэйшымі арнаментамі і, хоць і мела апроч яе па шафах усяго больш як даволі, вырашыла набыць: прыгожа, а галоўнае — будзе чым шыкануць перад замежнікамі ў Руане з айчыннага.

Патрыятычны складнік паводзінаў у сям'і Мандрыкаў заўсёды калі не пераважаў усе астатнія, дык шанаваўся належным чынам. Так шанаваўся, што нават выява лёну на старым гербе Паазер'я для кожнага з іх значыла куды больш, чым штосьці іншае, а імпэт да дэманстравання грамадзянскай пазіцыі вытыркаўся нават там, дзе і зусім быў недарэчы.

Аздобленая понізу прыполу мудрагелістымі карункамі туніка прыйшлася Марынцы акурат, адно што паставу чамусьці рабіла неяк занадта ж круглай. Ды, на шчасце, тут жа, у краме, знайшлося і выйсце. Пераняўшыся роспаччу ў вачах пакупніцы, прадавачка вынесла з бакоўкі зграбную льняную палярынку з арнаментам пад колер тунікі; яна акурат і сталася тою дэталлю строя, што вырашыла праблему, выправіла хібы ансамбля.

Памеркаваўшы, як будуць глядзецца на фоне абновы льняны шыйны жгуцік з каменьчыкамі ды сумачка са шпагату ў руках, Марын-

ка бадзёра прадэфілявала колькі разоў сюды-туды перад люстэркам, пераапранулася, разлічылася за пакупку, выйшла з крамы. Узгадала словы свекрыві пра тое, што льняныя вырабы надта ж камечацца, усміхнулася. Камечацца — такой бяды! Дзеля справы і пастаяць падчас тых жа прэзентацыі або фуршэту можна, не абавязкова сядзець паняю. Людзі і не на гэткія ахвяры ідуць дзеля падтрымання ўласнага іміджу, то што ўжо там гадзіна-другая нейкай дробнай нязручнасці.

Гэтак падумала Марынка і, трымаючы аберуч перад сабою пакунак з тунікай і палярынкай, пайшла да прыпынку. Спяшалася: да ад'езду ў Францыю заставаліся тры дні, а яна ж яшчэ да кніжак па тэме канферэнцыі і не дакранала-ся. Папросяць вядоўцы слова сказаць — і не будзе чаго. Стаяць слупам ды лыпаць вачыма — гэта не для яе, Марынкі.

Не, так папусціцца яна сабе не дазволіць, недаспіць, а без належнага багажу ведаў у замежжа не выправіцца. І ведамі блісне, і, магчыма, нават і воплескі не абы-якія сарве. Напрыклад, тым жа расповедам пра голых дварчанаўскіх мужыкоў ды жанок падчас нядаўняе сяўбы гуркоў: піяр ёсць піяр, што ўжо заціскацца ды сціплічаць, удаваць святасць. Дарэмна яна камар'ё карміла, прыткнуўшыся незаўважна, употай ад староніх вачэй да дрэва падчас іхняе вар'яцкае беганіны пры лехах, ці што? Канечне, гуркі не лён, ды каму прыйдзе ў тым Руане ў галаў гэткія дробязі спраўджваць?

Мабыць, за ўсё сваё некароткае жыццё не спала Юня так моцна, як у ноч напярэдадні апе-

рацыі. Сон змарыў уваднача͏с, ледзь паспела кульнуцца пасля дзённых клопатаў на нерассцелены, цёплы ад нагрэтае звечара грубкі ложак; заснула кабеціна як забітая.

Сніліся ж гэтым разам Юні чамусьці спрэс мужыкі. Спачатку сейбіты ля лехаў з гуркамі. Пасля — маладзёны накшталт грэкаў з Вадзькавай кніжкі: з аголенымі торсамі, без рук, з збольшага прыкрытым анучкаю ці даланёй прычынным месцам. То Міколкава няўклюдная пастава пачынала гайдацца ні таго ні з сяго перад вачмі. То бухгалтар Сцяпан Муха мільгаў раз-пораз у вакне хаты ды і знікаў прывідам у прыцемку надвячорка. Нарэшце і Юрыкаў па-азіяцку шыракаскулы твар вытыркнуўся з-за рога месяца, павабіў наблізіцца ды тут жа, як толькі яна падалася ў ягоны бок, гваздануў рабрынаю далоні па лытцы. Ды так хвацка гвазданўў, што не ўтрымалася, паляцела Юня на скрут галавы з драбінаў і гахнула вобзем пад зларадны смех дзяўчат-арцельшчыц. Так моцна, як калісь бацька галавою аб карэнне, выцялася плячыма аб грудок, што ажно ўсё цела зайшлося болем.

Намацала Юня рукой стрэнчанае месца, шмарганула па ім даланёю раз, другі. Яно ж, замест таго, каб суцішыцца, яшчэ больш рэзкім болем адазвалася. І вось ужо праз хвіліну і штосьці воглае, адчула, палілося па скуры на далонь з набрынялага пухірка.

Падхапілася Юня з ложка, замітусілася спрасоння па хаце. Тыцнула рукою ў больку — ажно сукровіца на перадплеччы, акурат тым месцам, дзе мярзотная папілома. Хіснулася да шафы па якую анучку, каб выцерці рану, ды дарэмна: усяго ў шафе, здаецца, даволі, усяго

паўнютка, а шматка чыстага, хаця б абрэзка якога да раны прыкласці — як на грэх.

Кінулася ў сенцы, схапіла першы, што трапіў на вочы, ручнік, прыціснула шчытней да развярэджанага перадплечча. Узгадала размову з Марынкай наконт аперацыі, панурылася ў одуме: меркавала як-небудзь, можа, адбіцца ад прапановы, ды цяпер, як сама сабе раскрывавіла, расквеліла неўспадзеў рану, ужо наўрад тое атрымаецца. Хоцькі-няхоцькі давядзецца-такі паслухаць нявесткі, зрабіць, як яна кажа.

Уздыхнула Юня, кленчачы, перажагналася на абраз — гэтак, як нябожчыца матка калісь вучыла.

## ЖАРСЦІ-ЖАХІ

Ужо і вечар нахапіўся, і прыцемак праглынуў дарэшты абрысы дрэваў у садзе за вакном бацькоўскага катэджа, а Марынка ўсё сядзела пры кампутары. Не тое каб надта ўжо ўчытвалася ў змест вучоных артыкулаў — не, болей гартала. І чым далей гартала курсорам старонку за старонкай, тым большы ахопліваў яе сумнеў: навошта ёй уся гэтая кніжная прамудрасць, уся гэтая старызна? Усе гэтыя верацёны, прасліцы, калаўроты, станы, траста, кудзеля, пакулле ды кастрыца, ад адных назваў якіх — галава кругам? Уся гэтая тэхналагічная прамудрасць вырошчвання лёну, без якой яна дагэтуль жыла і надалей, мабыць, някепска пражыве і не прападзе? Усе гэтыя гатункі культуры, якіх ажно ці не пад тры дзясяткі — і гэта ж апроч тых, што ў дзяржрэестр не ўключаныя?

А яшчэ ж фазы апрацоўкі валакна, метады падкормкі расліны, мерапрыемствы па зніжэнні сабекошту прадукцыі! Самому Адаму Сміту[2] гэткія вучоныя жарсці-жахі, мабыць, не сніліся...

Дык што засмечваць галаву непатрэбшчынай, ускладняць сабе жыццё? Як не абыходзяць пакупніку, напрыклад, лацінскія назовы відаў лёну, так без розніцы яму, з «Блакіту», «Пралескі», «Згоды» ці якога іншага гатунку пашытая сукенка ці выраблены абрус. Абы было ўсё зроблена густоўна і якасна, з адчуваннем павеваў часу. У кожнага свая місія: адзін вырабляе, другі прадае, трэці купляе. Ідзе гандаль спраўна — і дзякаваць Богу. Дык што там капаць углыб, шукаць яшчэ на сваю галаву нейкага дадатковага клопату? Тым больш — час вунь як хутка ляціць. Ёй, Марынцы, цяпер бы чымнебудзь вартым заняцца, а не дурноццем вось гэтым кніжным галаву тлуміць...

Зачыніла Марынка чытанку, задумалася пра сваё ўпотайнае, жаночае. Засумавала міжволі, замаркоцілася. Пяць год неўзабаве споўніцца, як з Валікам яны пабраліся, а дзяцей усё як няма ў іх, дык і няма. І ці будуць наогул — невядома. Здалі год таму абое сперму на аналіз: застылая нейкая Валікава, кажа доктар, ці атрымаецца з гэткай што путнае — невядома. Хоць у прабірцы дзіця зачынай, бы тыя кіназоркі. Ці з прытулку бяры немаўля і выхоўвай замест роднага. Але ж добра, як пашчасціць, як без кепскае наследнасці трапіцца тое прыёмнае. Дзе гарантыя, што так яно і будзе? Што не прамахнешся ды не ўскладніш сабе жыццё да абрыдласці? Латарэя, і не абы-якая. Вось і клопат.

---

[2] ***Заснавальнік сучаснай эканамічнай тэорыі.***

Бо без дзяцей — што за сям'я? Не сям'я, а адна назва. Ужо і Валік, адчувае яна, дарма што сам жа, калі даваць веры таму ж доктару, і вінаваты ў бяздзетнасці, пачынае ўсё менш яе справамі ды самою ёю цікавіцца, быццам халадзее душой. За сабою перастаў сачыць, тлушчам паціху заплывае. Такі быў зграбны хлопцам, а цяпер і не пазнаць. Сподняе шторазу на нумар большае ад ранейшага даводзіцца купляць, а на рэмені для штаноў, каб на жываце сышоўся, — новыя дзіркі шылам праколваць. Галоўнае ж — з ёю, Марынкай, усё менш і менш абыходлівым робіцца. Вунь двойчы ўжо тым, што не дзеўкаю замуж ішла, папікнуў. Быццам дагэтуль не ведаў, быццам сама напярэдадні вяселля не прызналася... Быццам жартам папікнуў, а ўсё адно непрыемна.

Зусім, зусім не тое цяпер у іх з Валікам, што было напачатку, як толькі пабраліся. Адно і глядзі, каб налева не пачаў лётаць, каб не расцерушыўся шлюб, не распоўзся па швах, як нядбайна выраблены, дарма што з выгляду дыхтоўны, ільняны строй. А то ж не проста шлюб, агульнага майна вунь колькі ўсюды па кутках, і як яго потым, калі што якое, дзяліць? І перад бацькамі няёмка. Гадавалі-песцілі, спадзяваліся на падтрымку ў старасці, а цяпер што? І ў вочы іншым разам няёмка маці і бацьку паглядзець.

## ДАЗНАЎСТВА

Ніколі, бадай, за ўсё сваё некароткае жыццё не адчувала Юня гэткай пашаноты да сваёй персоны, як гэтым разам у лякарні. Мала таго, што ў шыкоўную асобную палату яе паклалі, дык і

абходжваюць, бач, бы тую каралеўну. Нават прыбіральшчыцы, не нашмат за яе маладзейшыя цёткі, іначай як па бацьку не клічуць. З чаго такая ўвага, Юня, вядома ж, здагадваецца: Марынка паспрыяла. Вось што значыць быць пры блаце. Дзіўна, як яна, Марынка, пры гэткай яе хвацкасці ды дапаласці, з такім цельпуком, як Валік, агульную мову знаходзіць.

Ды ўсё адно, хоць і вышэй галавы ўвагі, нядобра Юні ў палаце. Ёй бы ў агульную, да іншых жанок, пагаманіць з кім-небудзь, паперастарэквацца... Тым больш, што аперацыя прайшла ўдала. Вокам, сапраўды, як Марынка дакляравала, не паспела яна міргнуць, як усё і скончылася. І назаўтра, мабыць, ужо і выпішуць з лякарні.

Адно непакоіць Юню — сказанае па тэлефоне Валікам. Быццам зноў прыязджаў учора надвячоркам да яе хаты міліцыянт аглядаць месца здарэння і цяпер вось мае намер з ёю спаткацца. Ручнік, які яна да болькі ўначы прыкладвала, дзеля чагосьці прысабечыў. Дык як ёй з ім сябе паводзіць? Што і як казаць? Хоча спаткацца — значыць, не так там штосьці... Не мела баба клопату...

Доктар уваходзіць у палату, аблятае наўкола ложка, адхінае бінт на Юніным плячы, абдае скуру сцюдзёнасцю пальцаў.

— Ну, вось і ўсё, Юнэля Тодараўна, — кажа і весела ўсміхаецца. — Ноч яшчэ тут перабудзеце, а ўранні перавязку зробім — і дахаты. Не церабіць, не мачыць рану... Наступная перавязка праз дзень. Бінт гарэлкаю добранька змочыце — і скотчам да цела. Ёсць каму памагчы?

— А, ёсць, як жа, — занятая думкаю пра міліцыянта, адказвае Юня і захінае шчытней на грудзях, быццам ратуючыся ад сцюжы, хаця ў

палаце нават і гарачавата, падораны сынам і нявесткаю да дня народзінаў пярэсты, у агромністыя ні то лілеі, ні то лотасы, кітайскі халат.

Ужо з гадзіну, калі не меней, доўжыцца размова Юні з міліцыянтам, а ўсё канца ёй не бачна. Такі нездагадлівы аказаўся чалавек, дарма што пры пагонах. Юня адно яму, ён тут жа перакруціць яе словы і зноў тое самае пытаецца. Пытаецца ды падцірае раз-пораз юшку пад носам, ды трасе ручніком, на якім быццам бы спецыялісты рэшту чагосьці нейкага чалавека ўперамешку з ейнаю, Юні, крывёй вышнарылі. Што за чалавек — не кажа, а толькі намякае, што, маўляў, аднеквацца не варта, бо пра яе, Юні, ролю ва ўсёй гэтай мудрагелістай справе ён ужо дакладна ўсё, да апошняе дэталі, ведае.

— Адкуль чужое валоссе на вашым ручніку? Адкуль? — пытаецца штораз і хітра прымружвае напалову патанулыя ў кусцістым хмызе броваў вочы.

— Адкуль жа мне ведаць — адкуль? — адбіваецца, як можа, Юня, ды ўзгадвае, як Мірусі адхінала ручніком пасы валасоў з Сашкавага лба, ды цярэбіць употай на грудзях, прыціскае шчыльней да цела медалік з выяваю ўкрыжаванага Хрыстулі. — Мабыць, як упаў... тады і...

— Значыць, упаў-такі? — падхоплівае міліцыянт. — Упаў? А казалі — ведаць нічога не ведаеце, бачыць не бачылі.

— Ручнік упаў, вось што. А вы што падумалі? Што п’яны той, пра якога мы вам казалі? Не, ён ляжаў ужо. Ляжма ляжаў, не варушыўся. Ну, мы мокрым ручніком, каб хутчэй ачуняў, і абцерлі яму твар...

— Ручніком, значыць... А-га! Ну, добра... Значыць, ручніком твар абцерлі — так? А адкуль вашая кроў на ручніку? Ці таксама, можа, не ведаеце?

— Як жа не ведаю? Больку калыпнула, выцерла ручніком, вось і засталася кроў.

— Больку! Якую больку? І дзе ж яна, болька?

Здымае Юня жвавенька жакет, сцягвае з плячэй кофту, дэманструе пасак перахопленага скотчам бінта на перадплеччы.

— Во, заўчора зрэзалі.

— Фу, стрыптызу нам тут яшчэ не хапала, — кажа міліцыянт гідліва і адводзіць пагляд убок. — Ладна, хай так...

— Я ж не дзеля стры... стрыптызу, — бянтэжыцца, чырванее Юня. — Я ж дзеля справы толькі распранулася. Толькі, каб...

— Вядома, дзеля справы, — пагаджаецца дазнаўца. — Усё адно... Думаеце, прыемна нам тут на ва... на розныя старэчыя барадаўкі глядзець?

— Якія барадаўкі? — смялее-пярэчыць Юня. — Адвеку ў мяне ніякіх барадавак на целе не было. А вы — бы дактары тыя...

— Якія дактары?

— Тыя, з байкі, што паэт адзін калісьці ў нас у клубе падчас канцэрта чытаў. «Калі б сядзела на гары ды целам гладкая была, прывабная і маладая, дык мацалі б цябе ахвотна дактары...»[3] Вось якія дактары.

— Ого, як на памяць рэжаце! Ну ж!

— Што «ну ж»? — адчуваючы, што ход з байкаю ўдаўся і што акурат час смялей ісці ў наступ, перапытвае Юня.

---

*[3] Байка Э. Валасевіча.*

— Нічога. Чым завучваннем баек займацца, лепш бы за гародам глядзелі. А то панацягваюць вам на лехі немаведама чаго — рады не дасцё, — кажа міліцыянт і, даючы знаць, што размова скончана, пачынае складваць у тэчку спісаныя роўным, як у стараннага школьніка, почыркам паперы.

## III

## ПОСТМАЖОР

Марынка нехаця адарвала голаў ад падушкі, зірнула на гадзіннік: палова сёмай, падымацца быццам бы ранавата. Працоўны дзень у фірме пачынаецца а дзявятай, больш за дзве гадзіны яшчэ ў запасе, можна і папесціцца ў ложку. Тым больш, што і дадому вярнулася ўвечары позна. Ды і дарога, што ў Руан, што з Руана, не сказаць каб так ужо лёгка далася. У самалёце сядзіш сцюцюрыўшыся, бы на дозарках, ды жагнаешся раз-пораз употай, каб людзі не ўбачылі, ад страху. Эканомклас, як жа, крызіс наўкола ў разгары. Ведала б, што ў гэткай лядашчанькай бляшанцы давядзецца ляцець, яшчэ ці рызыкнула б адважыцца на падарожжа. Затым жа яшчэ аўтобусам колькі вёрстаў ад Парыжа да тае французскае льняное сталіцы, да Руана, трэсціся.

Адно добра — сустрэлі гаспадары па-людску. Што-што, а гасціннасць удаваць умеюць, гэтага не адымеш. Рэферэнта-перакладчыка Анастаса, напрыклад, узяць... Такі ўжо ветлівы, абыходлівы аказаўся мужчына. Да гатэля давёз, як прыехала, дапамог аформіцца. Распавёў, як дабрацца да будынка паседжанняў, дзе якія кра-

мы ў горадзе маюцца, паказаў. У загарадны рэстаран назаўтра паехалі павячэраць — кроплі алкаголю ў рот не ўзяў. Півам вусны ледзь-ледзь змачыў дзеля прыліку — і канец п'янцы. Слова лішняга за час вячэры не мовіў, так стрымана, дарма што паходжаннем напалову з людзей паўднёвых — грэкаў-кіпрыётаў, сябе паводзіў, што ажно і няёмка ёй, Марынцы, было па першасці.

Праўда, пасля, як у гатэль праводзіў ды ў нумар да яе — «на хвілінку, зірнуць, як сімпатычная Марын уладкавалася» — разам з ёю падняўся, крыху адпусціўся, спакусіўся-такі прывезеным ёю на прэзенты айчынным, паазерскім — глыкнуў колькі чарчын. Пасмялеў увадначас, строй яе льняны пачаў нахвальваць. Ён нахвальвае, яна — падлівае. Ён выпівае — яна зноў падлівае. Так неўпрыкмет і данахвальваліся-нападліваліся... Не ў сэнсе нейкіх там любошчаў, не, да гэтага не дайшло. Можа, і дайшло б, калі б быў менш п'яны, хто ведае, хто ведае... Прапанавала напрыканцы выклікаць таксоўку — адмовіўся, сказаў, што галава надта баліць, дык, маўляў, пешкі дзеля прагулянкі пойдзе дадому. Ды, мусіць, не даў усё ж рады пайсці, заначаваў у гатэлі, бо назаўтра ўранні пры дзвярах суседняга пакоя акурат нос у нос сутыкнуліся.

Але, што праўда, і пасля таго вечара, што замест хвілінкі неўпрыкмет на некалькі гадзін расцягнуўся, пасля тае нявіннае гасціны яшчэ колькі часу прабавілі яны з Анастасам упобачкі, пад рытмы музыкі ды гартанне альбома працаў нейкага вычварэнца Кадмуса з выявамі галюткіх, у чым маці нарадзіла, мужыкоў. Думала, знарок ёй тую чуллівую музыку ды тых голых мужыкоў Анастас падсоўвае, каб, значыцца, хэнць яе

як мага больш распаліць, аж не — іншае аказалася. Паткнулася неяк у перапынку між паседжаннямі ў прыбіральню, а там ён, Анастас, у калідоры... з Джымі, шатландцам у клятчатым кілце, суседам яе па гатэльным нумары. Тым самым, ля пакоя якога раніцой два дні таму і натыкнулася на Анастаса. Акурат, як тыя мужыкі на малюнках Кадмуса: сядзяць на падваконніку, нагамі боўтаючы, цалуюцца.

Паназірала-пападглядала, агаломшаная, за маладзёнамі, а азвацца, давесці Анастасу, што ўсё ведае пра іхнія з Джымам шашні, ні ў той дзень, ні пасля так і не рызыкнула: чужое ёсць чужое, чорт ведае, што там у іхніх чужынскіх галовах? Дык і палічыла за лепшае змаўчаць: у чужы манастыр са сваім статутам, вядома, не ходзяць. Адно што пра Валіка, пабачаным уражаная, міжволі задумалася: ці мала што? Вось як возьме і ён, пераняўшыся рознымі непатрэбствамі ў сеціве ды тэлевізары ды скарыстаўшыся яе адсутнасцю, да чаго-небудзь кшталту бачанага ёю ў гатэльным калідоры пахінецца...

На шчасце, нядоўга яе такая дурная перасцярога тузала-казытала. Бо акурат жа там, у Руане, азваўся ўпершыню нечаканым прыступам млосці плод дзіцяці з чэрава, і зразумела Марынка, што цяжарная, і ўсё астатняе, апроч радаснай неспадзеўнай навіны, зрабілася ёй неяк увадначас зусім нецікавым.

Канечне, прыкравата думаць пра собскі першапачатковы, да таго, як зразумела яна, што цяжарная, употайны план наконт Анастаса: было, як жа, не без гэтага. Але што не надумаешся, на што не наважышся з роспачы? Роспач жа — не раскоша і не капрыз. А калі гэтак, то і пасыпаць

галаву попелам ці кідацца са староннімі ў шчырасць, распавядаць пра свае прыгоды ў закардонні яна, Марынка Гук, намеру не мае. А калі каму першародная праўда абыходзіць — у сваёй бялізне хай разумнік пакорпаецца, на сябе, на ўласныя паводзіны хай паглядзіць. Патрабаваць святасці ад іншых вельмі проста, уласнае ж дамагчыся — ого, як нялёгка...

Пакратала Марынка жывот, усміхнулася сама сабе: дзякуй Богу! Як так хораша ўсё ў рэшце рэшт уладзілася, то і кваліць сябе з-за чагосьці падчас хай сабе і ўтомнага, але ж ніяк ужо не няўдалага замежнага падарожжа зусім не выпадае. А з улікам таго, колькі ўсяго набыла яна ў Руане, і наогул пераймацца нейкімі праміналымі дробязямі — смешна. Вунь сабе ды Валіку адных джынсаў па два еўра пара шэсць пар прывезла. Натыкнулася аднойчы выпадкова падчас шпацыру па горадзе на дабрачынную краму Чырвонага Крыжа, а там кошты ў ёй — бяры не хачу. І вопраткі накупляла, і прэзентаў розных, і ўсё на выдадзеныя фірмаю дзеля дробных выдаткаў грошы. І ўсё навюткае, як толькі што з фабрычнага канвеера. Калашыны джынсаў дык нават не падрэзаныя аказаліся, такія даўгія, быццам на жырафа пашытыя. Так нагрузілася ў той краме рэчамі, што другую валізу мусіла набыць, а потым з багажнае залы аэрапорта ледзь дала рады давалачы абедзве да таксоўкі, як рук не абарвала. Не з беднасці, вядома ж, не з жабрацтва беспрасветнага так грузілася. Што адмаўляцца ад дабра, калі само ў рукі плыве? Шкада, пазнавата нагледзела краму, можна было б і болей чаго ўхапіць.

Сцішаны плёскат данёсся да Марынчыных вушэй з ваннага пакоя, абдаў здагадкаю: ці не

Валік з начной змены вярнуўся! Пэўна ж, ён, хто яшчэ... Але ж як ціхутка ўвайшоў, дзверы нават не рыпнулі. У ванну, бач, улез, цюхмель, а да яе падысці павітацца нават і не памануўся. А бачыў жа, канечне, што вярнулася, валізы вунь не распакаваныя, паўнюткія прэзентаў, ля самых дзвярэй стаяць, як толькі не спатыкнуўся аб іх.

Яна паднялася з ложка, прыкрыла грудзі ручнікам, пасунулася да ваннага пакоя.

Валік стаяў, раскярэчыўшы ногі, пад душам, падстаўляў вадзе пругкія свае, ледзь кранутыя понізу шыі рэштаю скупога айчыннага загару плечы. Убачыў Марынку праз завесу вады, шырока ўсміхнуўся, павабіў да сябе. Яна няспешна ўлезла ў ванну, абняла мужа ззаду за стан і моцна-моцна, ажно ён ікнуў, прыціснулася сцёгнамі да ягонага разгарачанага вадою, тлуставатага азадка.

— А я думала, і не прызнаеш ужо. У спальню, бач, нават не зазірнуў, усё адно як пагрэбаваў мною, — сказала дакорліва, падстаўляючы галаў пад халаднаваты, пругкі струмень. — Няйначай, знайшоў каго, пакуль мяне не было. Прызнайся, знайшоў? Хто ж яна? Ці, можа, ён?

— Што значыць — ён? — абурыўся ці то зрабіў выгляд, што абурыўся, Валік. — Набралася па замежжах халера ведае чаго... Хм, ён... Кінь дурное, будзіць не хацеў з дарогі. — Падхапіў жонку на рукі, лёгка перажаргнуўшы праз борцік ванны, панёс да ложка.

## БЯЗБАБ'Е

Каторую ноч ледзь не да пеўняў варочаецца на ложку Юрык Падгайскі і ніяк не можа

заснуць. Так развярэдзіў ягоныя знэнджаныя адзінотаю глузды выгляд голых жанчын падчас іхняга нядаўняга вэрхалу пры лехах з гуркамі, што хоць з хаты ляці на злом галавы. І паляцеў бы, мабыць, яшчэ з вечара, наструнены згадкамі аб шальмотным з часоў маладосці, калі б раптам не нахапіўся дождж і не давялося зноў нехаця тачыцца ў хату, у абрыдлае сваё, наскрозь праніцанае тхланню бабыльскае самоты жытло. Такой невыноснай самоты, што часам голас выпадковага чалавека за вакном уяўляецца беднаму Юрыку як не дарункам неба.

Куляецца Юрык з бока на бок, застывае ў задуменні: жыццё, лічы, прайшло, а што займеў? Шэсць дзясяткаў за плячыма, а ўсё — Юрык. Быццам і не сталы чалавек, а нейкі падлетак. І не дзіва, калі ні жывой душы, ні чалавека побач, аднаго і суседства, што мышы ды пацуччо па кутках. Нават прыпамін пра тое, як на пасяленне калісь, падчас арцельства, загрымеў, не так паскудны, як гэтая невыносная, нечалавечая ціша наўкола. Бясхлебіца менш, пэўна, даймала б Юрыка, як даймае бязлюддзе, асабліва ж, што ўжо самога сябе падманваць, крывіць душою, — бязбаб'е. Была б якая кабеціна побач, зусім інача, напэўна, пачуваўся б, зусім іншы меў бы да жыцця імпэт. А так што? Не жылец, а падглядач, не раўнуючы бы паўвека таму, калі, прарабіўшы дзірку ў сцяне лазні, цікавалі з хлопцамі-аднагодкамі за жанчынамі. Быццам у шчэлку жыццё назіраеш, а яно коціцца, коціцца наводдаль і невядома, які заўтра паднясе чарговы кукіш.

Падымаецца Юрык з ложка, запальвае цыгарку, зноў узгадвае колішняе-даўнейшае... Быў, быў час, раскашавала свята і на ягоным пана-

дворку. Ад жанчын у арцелі адбою не было, выбірай — не хачу. А скончылася тым, чаго і ворагу не пажадаеш. Абкруціла ўвадначас прайдзісветка-паспартыстка з горада, паквапілася на майно. А трапіў пад следства, і, замест таго, каб памагчы выкараскацца з бяды, — як-ніяк жа ў міліцыі рабіла — з'ехала, не дачакаўшыся выраку, з іншым немаведама куды.

Паткнуўся па вяртанні з пасялення зноў да Юні — ужо гэтая занаравілася: не, і не прасі. Маўляў, аддаў іншаму, адцураўся, то вось і кусай цяпер локці... Думаў, палагаднее, як Міколкі яе не стала, аж дзе там. Неяк ліст напісаў з роспачы, прасіў не адштурхоўваць, дык нават словам у адказ не абмовілася, зрабіла выгляд, быццам і не атрымлівала нічога. Нагадаў пасля аднаго разу — толькі плячыма паціснула: што за ліст, маўляў, адчапіся, ведаць нічога не ведаю... А не без дай жа прычыны пісаў, не так сабе, а ўсур'ёз. Адмыслова, каб нагоды для плётак людзям не даць, ездзіў у горад марку да канверта прылепліваць ды ў тамтэйшую скрыню тую сваю слязлівую пісаніну апускаць. І ўсё марна. Так і застаўся ні з чым. Добра, Танечка побач, дык хоць словам калі-нікалі ёсць з кім перамовіцца.

Ды яшчэ Валік, мабыць... Што ні дзень, то ўсё болей робіцца дзяцюк падобным да маладога Юрыка, што з твару, што з паставы. То, можа, сын усё-такі ягоны? Можа, схлусіла па злосці заюшлівая Юнэлька, не змогшы абразы ўласнае дзявоцкасці стрываць? Але як дазнаешся, калі і слухаць кабеціна нічога не жадае? Здараецца, што і адпусціцца часам, але ненадоўга. Бялізну возьме перамыць ці пацыраваць што, верне праз дзень і тут жа спахопіцца, зноў адстароніцца.

Быццам наўмысна тою абыякавай адстароненасцю дражніць-прынаджвае. Вось хоць бы з мерцвяком Сашкам гэтым начная мітрэнга, пахаванне гэтае ўпотайнае — яе, Юні, прапанова. Быццам знарок падставіла плячо і тым папракнула мімаходзь: ты, маўляў, вунь як са мною некалі абышоўся, а я во — глядзі, якая добрая. І дай рады зразумець кабеціну...

Дык так і сталася, што адзіная жывая на сённяшні дзень душа ў ніцым Юрыкавым жыцці — Танечка. І не заўважыў, як душой прыкіпеў да стрыечнай пляменніцы-калекі. Але не таму, што апякунства над кім шукаў. Бо хутчэй яна апякуецца ім, дарма што без ног. Такая ўпартая дзеўка. Сацыяльных работнікаў, што напрошваліся даглядаць, усіх паадшывала, адзіная, каго збольшага падпускае да сябе, — манашка Агня з царквы. І то зрэдку, пад настрой, тады ўжо, мабыць, калі без помачы старонняга ніяк не абысціся. Агня распачала праз інтэрнет збор грошай на нейкія замежныя пратэзы, дык усё сустракаюцца, бачна, штосьці там абмяркоўваюць.

Адхінае Юрык фіранку, углядаецца ў цемру на дварэ. Цёмна там, хоць вока калі, панылa, як на душы ў Юрыка. І толькі нясмела, быццам асцерагаючыся сурокy, вымыкаецца раз-пораз з вакна Танеччынай хаты скупенькі пасак святла ад успышкі на экране тэлевізара. Гайдаецца хвіліну па-над абсаджанай вішняком сцежкаю і чэзне ў нетрах спавітага цемраю, засеянага ад краю да краю лёнам сада. Ім жа, Юрыкам, дарэчы, акурат у дзень забавы падглядачак пры лехах з гуркамі па просьбе дзяўчыны і засеянага. Чэзне ды, знябожаны немагчымасцю вярнуцца, асядае ў Юрыкавых растузаных бессанню глуз-

дах — прывідам дрогкага, як неспадзеўны дотык павуціціны да шчакі, даўняга прыпаміну.

*Яшчэ як след не сцямнела, яшчэ камар, гнюс ненажэрны, не паспеў дарэшты ад дзённае дрэмы ачнуцца ды крывавы свой усяленскі баль распачаць, а Юрык ужо на месцы, у цесным закутку дрывотні пры ганку Мухавай хаты-мураванкі. Дома справаў вышэй галавы ў яго па вяртанні з пасялення, а не да справаў хатніх Юрыку. Круціць Юрыка, бы з пахмелля, выварочвае вонкі душу злосць ад падслуханае надоечы выпадкова пра Юню. Быццам зусім страціла маладзіца сорам, не, каб за дзіцем глядзець, — са Сцяпанам, бухгалтарам торфазаводаўскім, блытаецца. Маўляў, як вечар, так і ляціць да яго, бы пчаліна на мёд, так і ляціць. Цела мужыка-нябожчыка, маўляў, не астыла як след у магіле, а ў яе ўжо во — новыя любошчы.*

*Дык і вырашыў Юрык на ўласныя вочы пабачыць, ці праўда ўсё тое, што людзі пра Юню кажуць. Гэтак казыча Юрыка, гэтак не дае яму спакою кожная навіна пра кабеціну, гэтак кожнае слова пра яе ў пот кідае: насланнё дый годзе!*

*Цюцюрыцца Юрык у закутку, у вакне Сцяпанавым бляклыя цені вызірае, чакае, калі ж адшморгне, нарэшце, гаспадар фіранку і можна будзе тое, дзеля чаго другім вечарам запар ахвяраваў, убачыць. Ды не адхінае чорт Сцяпан-фарсун фіранкі, быццам сумысля вырашыў згаладнелых камароў бязвіннаю крывёю нябачнага цікавальніка-падгледача Юрыка падсілкаваць. Ужо і цемра дазвання дрывотню ўхутала, і неба над галавою ў прагалках між хмарамі зоркамі спярэсцілася, а ён як не думаў, мабыць, адшморгваць, так і не думае.*

*Змахвае Юрык вобмацкам з шыі жамяру, точыцца глыбей у вузкую, як толькі дзіцяці ўціснуцца, пройміну між дровамі. Чапляецца пальцамі ў хісткую кладню, з жахам адчувае, як хіліцца, хіліцца тая набок ды ўваднача выстрэльвае ў цемру адным паленам, другім, трэцім... Бачыць, як тузаюць фіранку тонкія жаночыя пальцы, як рэзка яна адхінаецца ўбок, як калышацца хвіліну-другую на фоне знаёмае Юнінае, на ім жа, Юрыкам, калісь падораны адрэз пашытае, сукенкі. Як расчыняецца, нарэшце, вакно ды таўсмаватая паўголая Сцяпанава пастава паважна набліжаецца да яго.*

*— Што там, Юня? Бачна што-небудзь?*

*— Цёмна, нічога не бачна. Ні-ча-гуткі...*

*— То, мабыць, кот па дрывотні гойсае. Як вечар, так у яго, гада, адно паляванкі наўме. Учора ўранні, ці паверыш, крата на веранду мне прывалок. Ды мала, што прывалок, яшчэ і на самым бачным месцы, спрыхаду паклаў...*

*— Ну, дык хай сабе палюе... Кашулю навошта знялі, Сцяпан Адамавіч? Апранайце, левы рукаў трэба яшчэ падстрыгаваць...*

*Фіранка зашморгваецца.*

*Цемра яшчэ больш гусцее, а святло ў хаце Сцяпана Мухі як не гасне, дык і не гасне — гарыць, не выключаецца. Паўгадзіны гарыць, гадзіну...*

*Выкарасквaецца Юрык з дрывотні, сунецца асцярожна да вакна, каб паглядзець, што там з фіранкаю, ды не паспявае.*

*Тонкім рыпам абзываюцца дзверы з сянец, жаночая постаць з ліхтарыкам у руцэ выслізгвае на ганак, сунецца да брамы. Абводзіць пукам святла дрывотню і кусты парэчак наўкола яе, не заўважыўшы нічога, пераводзіць святло на да-*

*лонь з грашыма, весела, быццам тое ўведала, чаго ніхто на свеце, апроч яе, не ведае, пасміхаецца сама сабе, прастуе прэч ад панадворка.*

*«Зарабіла, як жа», — думае Юрык і, не пэўны, ці толькі таму гэтак весела вераломнай Юні, што сякую-такую капейчыну шыццём здабыла, ідзе следам.*

## ЦЬФУ, МЯРЗОТА!

Дзіва: ад рання да вечара шчыруе Юня-Зяметра ў гародзе — і каб каліва стомы. Наадварот, толькі бадзёрасць у жанчыны ва ўсім целе, толькі дужасць, а рукі, бы тая дзюба знашчанае абрыдлым зімовым бадзяннем па чужынскіх гонях птушкі ў роднай імшарыне, так і блукаюць міжволі ў пошуку якога-небудзь занятку. Занятку ж, папраўдзе, якраз руплівіцы Юні ў гародзе і хапае.

Даводзіць да ладу кволыя, ледзь-ледзь набрынялыя сокам парасткі гуркоў на лехах — справа не так складаная, як далікатная. Не там абарвеш лісцік, не так прыціснеш долу, падкопваючы, карэньчык, не ў пару пальеш ці падкорміш расліну — і вось яна, прычына, што і спадзеву на добры ўраджай пазбавіць, і гонару гаспадыні ў вачах суседзяў ды самой сябе не дадасць. Тым болей, што гарод у Юні — навідавоку, каб яблыня табе, каб купка кустоўя. Не любіць Юня садовых дрэваў, бо надта ўжо нагадваюць яны ёй пра бацькаву недарэчную смерць. Дык і пільнуецца, каб няўрокам з насёна дзе ў гародзе яблыня або слівіна ў рост не пусціліся, дык тут жа і выдзірае парасткі, абы толькі ўгледзела.

Затое лехі ў Юніным гародзе раўнюткія, бы пад лінейку зладаваныя, каб звілінка дзе, каб горбік, каб выбоінка — воку тым рукатворным хараствовм не нацешыцца. І цешыцца Юня, і прыпушчае раз-пораз, што, можа, і праўда нездарма, не без змыслу звышай, бацька гэткаю мянушкаю яе — Зяметра — ашчаслівіў. Гэтак жа амаль, аказваецца, Дзяметраю, калі веры Вадзьку даваць, грэчаскую багіню ўрадлівасці звалі. Багіня! Ого, нішто сабе! Хоць, папраўдзе, якая з яе Дзяметра, калі большая частка жыцця пры машынцы ды голках з ніткамі прамінула?

Ірве Юня пырнік, што раскусціўся пасля нядаўняга дажджу абложыстым кажухам наўкола гурэчніку, пазірае перасцярожліва на неба, на пузатую шызую хмару: раптам зноў дождж пойдзе? Як пойдзе, дык і кату пад хвост будзе яе трохдзённае шчыраванне, бо ўмомант нанова пустазелле на мокрым акрыяе-прарасце. Ды не, здаецца, пераняласа нябесная канцылярыя Юнінаю перасцярогай, пасунула аблачыну ўбок, далей ад Дварчанаў. І вось і сонца ўжо апошні раз адорвае наваколле святлом, куляецца жарстлівым камяком за далягляд.

Адрываецца Юня ад лехаў, ускалыхнутая згадкаю пра багіню Дзяметру ды пра тое, ці не варта яе паставу ў Вадзькавай кніжцы пашукаць, кідае пад плот начынне для паліва-акучвання, ляціць у хату — запальваць святло. Шаруе ў ночве спехам рукі, глымзае похапкам прыкалянелы, што застаўся ад абеду, кавалак прывезенай надоечы нявесткаю піцы з глыжаватаю крамнаю памідорынай, ідзе ў лепшы пакой. Дастае з-пад падушкі забытую днямі расцяпам

Вадзькам на прызбе кніжку з выявамі грэчаскіх бязрукіх, пачынае разглядаць малюнкі.

Каторы раз гартае Юня кніжку, малюнкі бачаныя-перабачаныя, а вось жа — не адарвацца ад іх, як магнезам прыцягваюць пагляд. І сорамна Юні, і твар яе раз-пораз успыхвае, залівaецца чырванню, калі натыкнецца паглядам на голую мужчынскую паставу. А рука ўсё адно міжволі, як д'яблам падбухтораная, цягнецца да старонак. Слініць Юня зрэзаныя пырнікам пальцы ды гартае, гартае кніжку, ды дакарае сябе за цікаўнасць, як дакарае сябе знячэўку заспетая за саромным заняткам дзяўчынка-падлетак. Баіцца Юня граху, а ў чым той грэх і ці ёсць ён насамрэч ці толькі ёй сніцца — і не дасць рады даўмецца. Блытаюцца рукі жанчыны ў старонках, блытаюцца думкі ў галаве. Страшна Юні, але і соладка: ну ж, грэкі! ну ж, грэшнікі! ну ж, дзеці Прывяпа!

— Чуеш? Ці хутка ты там? — Мірусін голас б'ецца ў шыбіну, вяртае Юню да явы. — Заснула, ці што? Сцямнее зусім — што тады зробіш на тых кладах... Хадзем!

Голас Мірусін наўздзіў вісклівы, незадаволены. Мабыць, усё яшчэ злуе з-за крыжыка. Узяла ў голаў, што нельга нябожчыка класці ў магілу без крыжыка, ды чыста Юні і Юрыку галовы ў дзень пахавання Сашкі тою прымхаю наконт крыжыка затлуміла. А дзе яго, крыжык, паначы ўзяць? Пойдзеш да святара прасіць і патопіш сябе з галавою. Спытае — навошта, і мусіш жа штосьці адказваць. Праўду боязна сказаць, хлусіць перад Богам нядобра. І што той крыжык? Да Бога не крыжыкам горнуцца, а ўчынкамі. А то жыве чалавек без крыжа, без розуму, бы тая жывёліна, а

пamрэ — крыжык яму конча кладзі ў труну. Быццам крыжык — у рай пропуск. Быццам надмагільнага крыжа недастаткова. Ды занатурлівай, прымхлівай упірыне Мірусі тое ўсё даводзіць — што супраць ветру пляваць.

Закрывае Юня, совае спехам кнігу пад настольнік, бяжыць у сенцы, з сенцаў — наўпрост на двор, дзе чакае, абшчаперыўшы рукамі цаўё рыдлёўкі, суседка.

На дварэ светла, як удзень.

— Бачыш — поўня, — кажа Міруся. — Дык паспець даляцець да могілак, пакуль не насунула аблокаў. Святло навошта пакідаеш у хаце? Заплаціш паўпенсіі — будзеш ведаць, багацейка... Ашчаджаць трэба.

— Хай думаюць людзі, што дома я, — не атросшыся яшчэ глуздамі як след ад сузірання малюнкаў у Вадзькавай кніжцы і развагаў пра крыжык, адказвае Юня і скіроўвае на сцежку да прысадаў.

Ад прысадаў да могілак — паўвярсты. Але гэта — да новых. Да закінутых жа старых, дзе даўно ўжо нікога не хаваюць і дзе месяц таму вырасла сярод зарасніку хвашчу ды маладога ядлоўцу, якіх знарок не прыбіралі, каб не прыцягваць увагі старонніх, безымянная свежая магілка, і добрыя дзве набярэцца. І то калі ісці напрасткі, а не наўкола навабудаў аграгарадка. Напрасткі ж ісці якраз і не выпадае: ці мала на каго ўзб’ешся па дарозе ды наклічаш на сваю галаву лішнія размовы і непрыемнасці.

— Баішся, значыць? — пасміхаецца Міруся.

— Ну, яшчэ чаго — баяцца! Што мы кепскага каму зрабілі? Пахавалі чалавека па-людску? А не зрабілі б употайкі — вунь колькі кло-

патаў мелі б... Яшчэ і вінаватымі, можа, засталіся б... Мала натыкаліся на такое за жыццё? Што, не так, скажаш?

— Гэта як паглядзець... Сама ведаеш... Добра, што не да нас цяпер, бачна, тым дазнаўцам, а то, сапраўды, невядома яшчэ, чым бы ўсё скончылася, — аббіваючы рыдлёўкаю дзядоўнік абапал сцежкі, кажа Міруся. — Вадзька званіў, пытаўся пра кніжку з гэнымі сваімі бязрукімі грэкамі. Забыўся дзесьці, небарака, а дзе — і не памятае. Такі малады і ўжо такі забыўлівы. Ты не бачыла часам?

— Кніжку? — робіць круглыя вочы Юня. — Дзесьці быццам бачыла, а дзе — далібог, не памятаю. Але як толькі ўзгадаю — абавязкова скажу. Кніжка — рэч дарагая, напэўна, не накупляешся.

— Ну ўжо ж, канечне, нятанная, — пагаджаецца Міруся і, быццам хочучы конча апраўдаць даўнюю сваю, дадзеную за царом Гарохам мянушку — Святая, — малітоўна апускае вочы долу. — Малюнкаў вунь колькі ў ёй, і ўсе спрэс каляровыя. І што ні малюнак, то... Неяк зазірнула праз Вадзькава плячо ў гэную кніжку, а там... Цьфу, мярзота! Не тое што чытаць, а нават гартаць брыдка.

## ВАДЗЬКА

Вадзьку Казакевічу з продкамі не пашанцавала. Бацька ягоны вечна басцяўся па людзях у пошуку чаркі, занятая клопатам аб здабыцці капейчыны на прыжыццё матка так стамлялася хатнімі ды markнымі іншымі клопатамі, што часу займацца сынам зусім не мела. Дык і перакла-

лася спакваля справа выхавання няўседлівага, дапытлівага дзіцяці на маці няўдаліцы бацькі — бабу Мірусю. Пад наглядам ды пад крылом якой Вадзька да сканчэння школы і затым паступлення ў тэхнікум галоўным чынам і гадаваўся.

Апроч бязбацькаўства пры жывым бацьку, мелася ў хлопца і іншае, так бы мовіць, фізічнага характару засмучэнне — ягоная леварукасць. Прыроджаны ляўша (хоць, праўда, баба Міруся вінавацiла ва ўнукавай леварукасці нявестку), ён, натыкнуўшыся пару разоў у дзяцінстве на кепікі аднагодкаў, пастанавіў сабе конча навучыцца карыстацца і рукою правай, то бок зрабіцца, паводле навуковай тэрміналогіі, амбідэкстарам. Жалезнае правіла не быць белаю варонай, а быць, што ў паводзінах, што знешне, як усе наўкола і ні на пядзю воддаль ад астатніх, жыхары Дварчанаў і самі спасцігалі з маленства, і дзяцей ды ўнукаў шанаваць уласным прыкладам змушалі. Не стаў выключэннем з правіла і Вадзька.

Амбідэкстарства, аднак, патрабавала характару. Ды загартаванаму сямейнымі непамыснотамі Вадзьку характару было, што праўда, не займаць. Так што к шаснаццаці гадам ён ужо аднолькава добра валодаў абедзвюма рукамі, і праблема з ляўшацтвам быццам бы знікла. Аднак, як і ў многіх падлеткаў, з'явіліся праблемы іншыя. Адна з тых, якімі хлопец найбольш і найчасцей пераймаўся, — хіласць собскіх мускулаў. Наглядзеўшыся падчас футбольных гульняў на смелыя выкрутасы маскулінных, упэўненых у сабе аднагодкаў, неаднойчы ён мацаў, схаваўшыся ад старонніх вачэй, слабенькія свае, па-дзіцячы невыразныя цяглiцы на грудзях і руках ды скрушліва ўздыхаў. Тут, аднак, дапамог паправіць становішча выпадак.

З разбудоваю льнозавода ў Дварчанах адчынілі школу, а пры ёй шыкоўную спартыўную залу з найноўшым абсталяваннем. І апанаваны свербам калі не стаць мясцовым Шварцэнегерам ці Клічко, дык хаця б давесці ўласнае цела да больш-менш прыстойных кандыцый Вадзька з галавою рынуўся ў заняткі фізкультурай. І з такім імпэтам рынуўся, што баба Міруся калі-нікалі пачынала на такую ўнукаву заўзятасць і наракаць. І не дзіва: працы на гаспадарцы нямерана, а ён замест таго, каб старой пасобіць, днямі адно і ведае, што завіхацца да сёмага поту ля спартыўных снарадаў. Ды як бы ні было, к моманту сканчэння школы Вадзька дамогся-такі свайго, датрэніраваў уласную паставу да жаданага стану.

Для паступлення на бюджэтную форму навучання ў тэхнікуме Вадзька недабраў падчас тэставання аднаго бала. Давялося, каб не марнаваць год ды не загрымець у войска, ісці на платную. Як заўсёды, плячо падставіла дарагаму ўнучаку баба Міруся. Яе грошай ад прададзенай каровы ды паштарскай пенсіі, аднак, хапіла ненадоўга. Але пасярод другога семестра адлічылі за п’яную бойку ў інтэрнаце аднаго студэнта-бясплатніка, і з’явілася магчымасць перавесціся на ягонае месца. І Вадзька вырашыў напружыцца, каб тою неспадзеўнаю вакансіяй скарыстацца. Ды як ні напружваўся, як ні стараўся, скарыстацца так і не змог: бюджэтнае месца заняў, здаўшы чарговую сесію значна горш за яго, аднагрупнік. Якому і напружвацца дзеля гэтага, як стала пазней вядома, асабліва не давялося. Маці шчаслівчыка рабіла метадыстам ва ўправе адукацыі, так што справа, відаць, і была вырашана на яго карысць ад самага пачатку.

Вось тут, мабыць, на глебе стрэса ад няўдачы ды відавочнае, хаця збольшага і прымаскаванае (сын метадысткі прадставіў у адміністрацыю тэхнікума нейкія даведкі аб кепскім стане здароўя) несправядлівасці, нагадаў пра сябе Вадзьку нанова колішні, стары клопат — ляўшацтва.

Зноў усё стала, як калісьці: варта было хлопцу крыху пахваляваца, як тут жа далоні ягоныя пачыналі бязладна блытацца ў заюшлівым ваярстве за першынства. Ды яшчэ, апроч таго, і дрыжыкі такія ў руках усчыналіся, што без не абыякіх высілкаў і даць рады ім было немагчыма.

Тры тыдні таму на дварчанаўскі льнозавод прыслалі студэнтку Дыяну, старшакурсніцу аднаго са сталічных універсітэтаў. Дзівакаватая дзяўчына-фрык з капою валасоў а ля Эмі Уайнхаус ды ланцужком пірсінгу на лбе вучылася на мастака па тканіне, мелася праходзіць на заводзе вытворчую практыку. Заводскі інтэрнат быў якраз на той момант на рамонце, і дабраслівая Міруся, пераняўшыся просьбаю сваячкі нябожчыка-мужа з ільнозаводаўскага аддзела кадраў — «Ты ж святая, пamажы», — узяла Дыяну да сябе на кватэру. «Бач ты, блядзі размалёванай паспачувала», — сказала прадавачцы Надзі, пабачыўшы неяк дзяўчыну ў краме, Ганя Шыпік і тройчы гучна, ажно задрыжэлі на паліцах бутэлькі з напоямі, плюнула.

Як яно там усё было, ніхто не ведае, але ўжо праз тыдзень па прыездзе дзяўчыны ў Дварчаны Вадзька не адыходзіў ад яе ні на крок. А неўзабаве сяброўства між імі і наогул так імкліва пасунулася наперад, што маладыя людзі і самі не заўважылі, як неўпрыкмет апынуліся ў сітуацыі некантраляванай глуздамі, як гэта нярэдка

здараецца паміж маладымі, прэлюдыі да мілосных гульняў. Вадзька, які дагэтуль ні разу не заставаўся з ніводнаю дзяўчынай вось гэтак нядвухсэнсоўна сам-насам, так падчас той першай у сваім жыцці прэлюдыі перахваляваўся, што рукі яго ўрэшце літаральна анямелі ад лекацення. І Дыяне міжволі давялося ўзяць ініцыятыву на сябе. На што яна пасля, як усё скончылася, не прамінула ненавязліва, быццам жартам хлопцу панаракаць.

Зрэшты, сказаць, нібыта штосьці там скончылася між імі ў агульнапрынятым у такіх выпадках сэнсе, было б няпраўдай. Бо нічога, апроч пары пацалункаў ды похаплівага блукання далоняў па целах адно аднаго, і не было. Дайшоўшы да галоўнага, фрыкаватая Дыяна раптам быццам змярцвела, і ў выніку, як ні ўдавалі абое жарсць, як ні намагаліся адзін аднаму памагчы, так нічога ў іх з тых мітуслівых любошчаў і не атрымалася.

Не жадаючы, мусіць, пакідаць хлопца ў стане разгубленай збянтэжанасці, Дыяна сказала, што яна яшчэ дзеўка, і дадала ні з таго ні з сяго, што калі яму абыходзіць яе павага ды пашанота, то ён павінен выкінуць з галавы дурное жаданне абавязкова стаць амбідэкстарам і жыць надалей, як патрабуе прырода, а не падрабляцца пад чыесьці густы. «У дваццаць год паводзіць сябе так, як паводзіць васьмідзесяцігадовы дзед, — фу!», — сказала і, дадаўшы яшчэ штосьці пра юнака-дзікуна, які, маўляў, таму дзікун, што ніколі не плача, і старога дурня, які, бач ты, дурань, бо не смяецца[4], пайшла да люстэрка пад-

---

[4] ***Перыфраза выказвання Э. Мамфард «Малады чалавек, які ні разу не плакаў, — дзікун; стары, які не смяецца, — дурань».***

праўляць неверагодныя свае, падпсаваныя падчас валтузні макіяж і прычоску.

Словы дзяўчыны Вадзька ўспрыняў не тое што надта ўжо ўсур'ёз, аднак жа і сказаць, што зусім іх праігнараваў, не выпадала. Пасля, лежачы начамі ў ложку ды блукаючы бязмэтна вачыма па столі прапахлай кменам і рознымі палявымі рамонкамі ды чаборамі бабінай Мірусінай хаты, не-не ды і лавіў сябе на сумневе, што, можа, усё-такі не так ён штосьці зрабіў у той помны надвячорак меркаванага грэхападзення, можа, схібіў у стасунках з Дыянай. Паразважаўшы сяк і так, дапаў да высновы, што, мабыць, справа, сапраўды, не гэтак у ягонай недасведчанасці, як або ў празмернай дасведчанасці Дыяны, якую яна спрытна ад яго хавае, або, наадварот, у яе залішняй, пра якую сама напрыканцы ўзгадала, цнатлівасці.

Але, паколькі ніякіх дэталяў з прамінулага свайго жыцця дзеўка яму не паведаміла, і ўласную леварукасць скідваць у няўдачы з дзяўчынаю з рахунку Вадзька не спяшаўся. Як аказалася, дарэмна: Дыяне сапраўды, здаецца, прыкры эпізод не абыходзіў. Да такой ступені не абыходзіў, што яна не толькі ні разу больш пра яго потым не ўзгадала, але яшчэ і падшукала ў горадзе для няўдалага каханка-амбідэкстара спонсара з ліку сваіх заможных сваякоў, які не толькі згадзіўся сплаціць Вадзькаву запазычанасць за семестр вучобы, але і паабяцаў наогул дапамагчы скончыць тэхнікум.

Так, ледзь вярнуўшыся, колішні клопат Вадзькі Казакевіча і змізарнеў, застаўся ў мінулым.

## А ХТО Ж ДАСЦЬ?

Трэці тыдзень жыве Дыяна ў Мірусінай хаце, а ўсё не можа надзівіцца гаспадыня на кватарантку: што за дзеўка такая? Са знешнасці — Божа святы, хоць да лехаў з гуркамі замест пудзіла стаўляй. А пагаворыш з ёю — і дзяўчына як дзяўчына, нічым за іншых не горшая. Каб не вычварная прычоска ды не так шмат фарбы на твары, дык і наогул ад тутэйшых, пасялковых равесніц нічым бы, мабыць, не адрознівалася. Адно што гарадское жыццё, хоць і непрацяглае, канечне, накладвае на характар і звычкі адбітак, дык сяды-тады вытыркаецца гэта ў Дыяне. Вядома ж: колькі ты з крушні каменне не выбірай, так яна крушняю і застанецца.

І ўсё адно ніякавата ў Мірусі на душы, усё адно не-не ды і кальне ў галаў перасцярожлівая думка. Вадзька такі часам даверлівы, такі неабачлівы, так усім пераймаецца. Вось затлуміць яму Дыяна галаву, і што тады? Пагуляе дзеўка з хлопцам, як кот з мышшу, і кіне, і лішнія тады толькі і яму, і матцы, і ёй, Мірусі, перажыванні. А затлуміць, факт. Ужо, мабыць, затлуміла, вунь вечарамі з пакоя яе не выходзіць, сядзіць да поўначы, як прыклеены.

А ведама ж, што за сядзенне. Неяк паткнулася Міруся бліжэй да Вадзькавага пакоя, каб вячэраць любага ўнука паклікаць — нават не схамянуўся. Думала, пайшоў, можа, куды, адчыніла ціхенька дзверы, а яны сядзяць у абдымку з Дыянаю на ягоным ложку, і рука яе — авохці! — на Вадзькавым калене. І каб пачырванела дзявуля, убачыўшы Мірусю, каб хоць схамянулася

ды паманулася, бессаромная, прыбраць руку — дзе там. Хацела Міруся пасля як-небудзь нагадаць Вадзьку пра той выпадак, але не рызыкнула. «Падглядаеш? Падглядаць нядобра», — скажа, і ў дурнях застанешся, і што далей?

Дык і не спіцца Мірусі, і не пакідае Мірусіных глуздоў вярэдлівае, як шчыкотка падчас загойвання раны або пасля нядаўняга пчалінага ўкусу, пачуццё трывогі. Падымаецца Міруся з ложка, зіркае на ходзікі — палова дванаццатай, — ідзе ў кухню. Запыняецца на хвіліну ля Вадзькавых дзвярэй, прыслухоўваецца: ціха. Значыць, не вярнуліся яшчэ маладыя. Як выправіліся ледзь не апоўдні ў горад па падарунак Мандрыку, Юнінаму свату, да дня народзінаў, так дагэтуль усё яшчэ выбіраюць... І тут разам яны, удваіх, упобачкі, дарма што чуж-чужаніца дзяўчына тым Мандрыкам.

Адчыняе Міруся дзверы Вадзькавага пакоя, асцярожна (а раптам на месцы ўжо ўнук, як-небудзь здолеў праціснуцца ў хату ў абыход зашчэпленых знутры дзвярэй) сунецца вобмацкам да стала, дзе бліскае раз-пораз, мігаціць у цемры кнопка ноўтбука. Моршчыцца незадаволена: колькі разоў прасіла боўдзілу выключаць пры адыходзе з дому кампутар — як гарох аб сцяну. «Так нармальна, бабуля», — кажа, а ці ж нармальна?

Бліскае кнопка — значыць жа працуе апарат, дык глядзі, каб, пакінуты без нагляду, няўрокам не загарэўся. Зноў жа, бліскае-мігаціць — значыць, элетрыку цягне, а то ж выдаткі лішнія. Ды добра яшчэ, дарэшты ўключаны, як мінулы раз, тыдзень таму, не пакінуў. Хтосьці з вуліцы яго паклікаў, яна, Міруся, тым часам шась з венікам у пакой, каб пыл ды павуцінне збаль-

шага па кутках змахнуць, а там такое на экране дзеецца, такія выкрутасы малойцы з дзеўкамі выпрабляюць, што словамі не пераказаць. Гадства! Ну, робіш ты — і рабі сабе ціхенька, а навошта ж на ўвесь свет выносіць?

Выпроствае Міруся руку, каб выцягнуць штэкер з разеткі, ды тут жа яе прымае. Хоча Міруся адключыць ноўтбук ад сеткі, але не наважваецца. А раптам знарок неадключаным Вадзька яго пакінуў, каб праверыць яе? Недарослы быццам, наіўны, а на гэткае, глядзі ты, розуму хопіць. Спытае потым, што шукала ў ягоным пакоі, — і што адказваць, чым крыць? Ды і не кампутар ёй, не цацка гэтая зіхатлівая, у цяперашнюю хвіліну найбольш абыходзіць.

Уключае Міруся лямпу, зашморгвае шчыльней на вакне фіранку, сядае да стала, падцягвае дрыготкімі пальцамі бліжэй да святла знаёмую, надоечы падабраную дзесьці ды прынесеную Юняй Вадзькаву кніжку з выявамі голых постацяў на вокладцы. І сорамна ёй гэткае гартаць, і няёмка, але ж што зробіш, калі рука міжволі да тых соромных старонак цягнецца. Калі такі вузкі, такі нікчэмны ў сваёй абмежаванасці яе свет, што нават гэткае вось чытанкі дастаткова, каб яго хоць крыху, хоць збольшага пашырыць, наталіць іншымі, апроч звыклых, аднастайных, як шэрань над дварчанаўскімі палеткамі ў глухую восень, уражаннямі.

Натыкаецца Міруся паглядам на фрэску з выявай мужыка з велічэзным чэлесам на вагах[5], лыпае вачыма ў здзіўленні: хто такі? Акурат жа

---

[5] ***Фрэска з выявай Прыяпа, які ўзважвае свой эрагаваны чэлес, паклаўшы на другую чашу вагаў мех золата.***

Сашка Талалай, адно што, у адрозненне ад Сашкі, з барадою ды апратка на ім вышэй пояса нетутэйшая. Чытае напісанае понізу: дык вось жа яно што: грэчаскі бог ураджайнасці Прыяп. Вось пра каго казаў ім з Юняю ўнук, вось чым бацькоўствам перастарэкваўся. Ого, ці не занадта ўжо хлопчык хапіў... Ды што там, кожны так гамоніць, як разумее, а з маладымі хіба ў розуме ды фантазіях згонішся?

Не, не згонішся, канечне. Вунь па тэлевізары днямі паказвалі, як адзін прыкладна Вадзькавых гадоў маладзён-фантазёр, ці то амерыканец, ці то немец, удумаў конча струк сабе нарасціць. Каб большы, значыццца, быў, бо такі, як ёсць, яго, бачыце, не задавальняе. За нейкія там пару сантыметраў — тысячы даляраў гатовы аддаць. Вось гэта фантазія! Але што, як Бог няроўна дзеле... Сашку і рубля не каштавала, што таму хлопцу ў мех грошай, відаць, абыдзецца...

Гартае Міруся далей кніжку, але і пільнасці не страчвае. Дзверы на засаўцы, крокі ўначы з вуліцы здалёку чутныя, але чым чорт не жартуе? Жыццё — што тая пасудзіна: толкам не падставіш пад струмень, і распырскаецца вада дарэмна, і шукай тады вінаватых. Вінаватай жа Мірусі лішні раз быць зусім не хочацца. Тым больш — перад сабою. Аднаго разу хапіла — калі старшыні калгаса Янаку Падзяву па маладосці, дурніца, у сужэнстве адмовіла.

Клікаў замуж, а яна не пайшла. Не таму, што не які-небудзь волат Прыяп, не. Хоць і кажуць, што жанчына кахае (ці, наадварот, — не кахае) вачамі, ды не таму не пайшла Міруся за Янака, што надта ж ужо быў неахайны: зубы дрэнь, і плечы, як той крамны баранак макам, шматкамі перхаці

абсыпаныя. Ды што тая перхаць? Зязюлінам лёнам пару разоў галаву папаласкаў — і счэзне тая паскудная шума з плячэй, быццам і не было.

Не, не з-за хібаў знешнасці не пайшла яна за Янака. А таму, што паўраспалай чужой сям'і не наважылася дарэшты спляжыць. А цяпер і шкада. Была б тады менш далікатнай — вунь як высока ўпобачкі з самавітым мужам сёння сядзела б. Святасць святасцю, а і здобнага зямнога прагнецца. А хто яго табе проста так, за прыгожыя вочы, як сам не парупішся, дасць?

## МАНДРЫКІ

Напэўна, і ў найлепшыя часы — удалага замужжа ды нараджэння дачкі — не пачувалася інжынерка Эльвіра Мандрык гэтак дазвання шчасліваю, як цяпер. Усё адно як крылы прараслі ў жанчыны за плячыма ці маладосць неўспадзеў вярнулася. І ўсё Марынка, усё дачушка, дай ёй Бог здароўя. І ёй, і дзіцяці, што ў сабе носіць. Пераняўся-такі лёс іх з Раманам бацькоўскімі просьбамі, паслаў шчасцейка. А ўжо як марылі абое пра ўнука ці ўнучку, як перажывалі, што, можа, ніколі не дачакаюцца, і не выказаць. І вось — збылося жаданае, пачуў, нарэшце, Усявышні бацькоўскія просьбы-маленні.

— Такая радасць, — паўтарае каторы раз Эльвіра Віктараўна і цярэбіць, цярэбіць пяцярнёю зрэджанае жамярою жыццёвых турботаў валоссе на цемі мужа.

Не да радасці, аднак, Раману Міледзевічу. Кveляць чалавека клопаты, не даюць вось ужо каторы тыдзень спакою. Кепска спіцца Раману,

дрэнна есца, лоб зморшчынамі задуменнасці пабіўся. Вызваляе Раман голаў з жончыных цёплых, лагодных рук, дапівае астылую каву, ідзе на балкон папаліць. Паліць і думае ўсё, думае, думае.

Цяжкія думкі даймаюць Рамана, і нездарма. Пенсія на носе, а тут такія непярэліўкі з лёнам, што хоць завод зачыняй. Даўгунца ад мінулагодняга сезона добра калі чвэрць дварчанаўцы пасеялі, дык з чым працаваць на заводзе, як даведзены начальствам план выконваць? Упёрліся, казаў той, рогам землякі, гуркамі, бач, вырашылі заняцца. Гурок добра, але ж на трасту яго не пераробіш, прадзіва з яго не наснуеш, вопраткі не нашыеш.

— Ну, што ты нэндзішся, Ромак? — супакойвае мужа Эльвіра Віктараўна, выходзячы следам на балкон. — Пераабсталюеш як-небудзь цэхі пацiху, і будзе табе замест ільнозавода, напрыклад, гародніна-кансервавы. З тваімі сувязямі ды з тваімі здольнасцямі перарабіць-прыстасаваць — раз плюнуць. Адусюль па каліву розных ноў-хаў — вось і не абы-якое прадпрыемства, вось і працягвай справу на новай глебе. З тваімі мазгамі ды не даць рады?

Паліць Раман Міледзевіч цыгарэту за цыгарэтай, думае, зноў паліць, не заўважаючы, як сыпецца між пальцаў на дол, на навюткі, днямі пакладзены ламінат попел.

— Лёгка мроіць, ды нялёгка рабіць. І што тыя сувязі? Хіба не ведаеш, як яно ў нас адвеку: трапіў у непярэліўкі — і куды ўсе сябрыдружбакі дзенуцца. Як карова языком увадначас зліжа. Толькі гаворкі пра агульную справу, а ледзь да справы дойдзе — кожны найперш пра сябе дбае.

— Гэта праўда, — уздыхае Эльвіра Віктараўна. — Але ж і нагадаць, калі што якое, тым жа сябрам пра сябе можна. Ці мала ты за жыццё каму дабра зрабіў, ці мала каму пасобіў? Таго ж Падзяву ўзяць... Хто б ён сёння быў без тваёй тадышняй рэкамендацыі? Ну хто? Пстрычка, не болей. А так во, глядзі ты, — пуза разгадаваў, кіем носа не дастанеш. Так заўзята кіруе, праўдзівы... Кірулавіч.

— Ну, сапраўды — Кірулавіч, — усцешаны жончынай дасціпнасцю, усміхаецца Раман. — А і праўда, чаму не нагадаць? Ды яшчэ, мабыць, на гэтую праграму, вяртання да каранёў, ці як там яе, надзея. Калі б толькі наверсе крыху папупіліся... Дык, глядзіш, усё б і наладзілася... Як дастаюць усё жыццё гэтыя перасцярожлівыя чыноўныя вычэкванкі! Вось жа завядзёнка: як што пільнае, дык абавязкова тады ў спрат хавацца. А не, каб разгарнуцца як след, узяць быка за рогі. Дык жа не — вычэкваюць.

— Анягож, — падтаквае мужу Эльвіра. — Канечне, няблага было б, каб парупіліся-разгарнуліся. Акурат тое, што трэба, было б. Вышыванкі зараз якраз у моду пачалі ўваходзіць... Дык чаму б і не заняцца іх вытворчасцю, не наладзіць выпуск на льняной аснове. Ужо ж рабіць рэч, дык рабіць, ужо ж як радно, дык хай бы было радно. А то настрыгуюць дылетанты няведама з чаго, няведама на чым ды як — адзін сорам. Ні сабе паглядзець, ні людзям, казаў той, паказаць. Не вышыванкі, а анучкі нейкія, апрануць гідка. Сяброўка вунь хацела дачцэ к імянінам набыць — дзе там! Такое, казала, прапанавалі ў краме, хоць падлогу тою вышыванкаю мый.

— Не кажы! Быццам не адмыслоўцы робяць, а калекі нейкія. Быццам бязрукія... Дзіва: кожны пры руках, здаецца, кожны, як паслухаць, да ўсяго здатны, а да справы дойдзе — і куды ўвесь той спрыт, усё тое ўмельства дзяваецца.

— То вось, можа, і момант перахапіць ініцыятыву. Перахопіш, а яны ўсе няхай тады, няздары, у кулак свішчуць. Адно смялей трэба быць. Бо не праз банкруцтва ж трапіў завод у гэткія непярэліўкі, не праз тваю ці маю нядбайнасць. Так яно склалася, дык што цяпер — застрэліцца?

— Так то яно так, — пагаджаецца Раман Міледзевіч. — Ды як перахапіць, Эля? Не так жа проста, ахвотнікаў вунь колькі... Эх, кінуць бы ўсё ды хоць напрыканцы жыцця вольным пабыць...

— Ну, скажаш — кінуць! — не здаецца Эльвіра Віктараўна. — Неяк жа, напэўна, можна і без кідання ўладзіць. Да таго ж Падзявы напрасіся на прыём, няхай паможа... Не змыліцца.

— Ды я і сам пра тое ўжо думаў... Мабыць, так і трэба будзе зрабіць, звярнуцца па падмогу...

— Ну, вось і цудоўна, — радая, што ўрэшце справа быццам бы зрушылася з месца, кажа Эльвіра Віктараўна і пераводзіць размову на іншую, не менш надзённую, аднак, тэму. — Два тыдні засталіся да твайго юбілею, Раманка, дык каго запросім? Я тут спіс гасцей накідала збольшага на паперчыне, то зірні, ці не абмінула часам каго-небудзь? І яшчэ во... Народзіць Марынка — што падорым маладым у гонар унука ці ўнучкі?

— Ай, ці не зарана пра гэта гаманіць? — прабягаючы вачыма паперку са спісам гасцей, кажа Раман і пяшчотна ўсміхаецца жонцы. — Што падорым... Ну, што? Ды ўжо ж, пэўна, не бомчыкі для ровара.

## IV

## ГАСЦІНА

Юбілейную ўрачыстасць распачалі а шостай. Гасцей было няшмат, ды затое ўсе — людзі не выпадковыя: пара сяброў з ранейшых месцаў працы Рамана Міледзевіча, швагер з дачкою і ўнукамі, новы старшыня дачнага кааператыву, кампанейскі вайсковец-адстаўнік па прозвішчы Апалька. Вечарыну для адміністрацыі завода і начальства з вытворчага аб’яднання «Льновалакно» меркавалася зладзіць дзе-небудзь у кавярні пазней, як усё ўладкуецца канчаткова са статусам прадпрыемства. А каб не пасеяць у калектыве непазбежных у такіх выпадках непаразуменняў на тэму, чаму аднаго паклікалі, а другога не, на лецішча з ільнозаводаўскіх наогул нікога не запрашалі. Нечаканасцю стаўся для юбіляра прыход сваццінага суседа, знаёмца Марынкі і Валіка Вадзькі з дзяўчынаю Дыянай, той самай практыканткай, знешні выгляд ды манера апранацца якой вось ужо каторы тыдзень з’яўляліся на заводзе галоўнаю нагодай для перашэптванняў. Да апошняе хвіліны чакалі Марынку і Валіка, але яны штосьці затрымліваліся, і ўрачыстасць пачалі без іх.

Эльвіра Віктараўна, жанчына і заўсёды не толькі зблізку добра бачная дзякуючы ўменню належным чынам сябе падаць, а сёння яшчэ і з быццам знарок, у піку модніцы-вычварэнцы Дыяне, мудрагелістаю прычоскай кшталту Вавілонскай вежы, мітусілася ў клопатах паміж застол-

лем і кухняй. Унукі швагра, паласаваўшыся ў кухні марозівам, страцілі цікавасць да забаваў дарослых, пабеглі на двор гуляць з сабакам. За сталом рэй вёў прыяцель Мандрыка часоў яго-нае працы на семстанцыі Карпечык, плячысты мужчына з гучным, як адмыслова для ролі тамады дадзеным яму прыродаю голасам і крыху фрывольнымі манерамі. Прамовілі па чарзе тосты, пакурылі, паводле завядзёнкі, юбіляру фіміям, выпілі-закусілі, зноў патрэніраваліся ў красамоўстве датычна падзеі і яе галоўнай дзейнай асобы і перайшлі, як гэта звычайна бывае падчас такіх мерапрыемстваў, на староннія тэмы. Нагаварыўшыся ж, дружна, як па камандзе, сціхлі, скіравалі пагляды на Дыяну. Яна адзіная з гасцей яшчэ не прамаўляла віншавальнага тоста, і ўсе пачалі прасіць дзяўчыну сказаць слова.

— Будзе, відаць, ой, будзе сюрпрыз табе, дружа Раман, — перш чым Дыяна паспела падняцца з месца, уставіў рэпліку Карпечык і запляскаў у ладкі з такім імпэтам, што нават дзеці за вакном суцішыліся і перасталі даймаць сабаку бясконцымі сваімі дражнілкамі. — Дык просім, Дыяначка! Просім ужо...

Дзяўчына ўстала, абвяла кампанію ўніклівым і разам з тым крыху адстароненым, быццам усё, што адбываецца наўкола, зусім яе не датычыць, позіркам. Разам з тым было бачна, аднак, што знак увагі такой колькасці людзей да сваёй асобы яна, хоць і не падае выгляду, успрымае не без каліва хвалявання.

— Мы асабіста з вамі пакуль што незнаёмыя, Раман Міледзевіч, але ўсё адно мне прыемна вас павіншаваць з вашым святам, — счакаўшы, пакуль супакоіцца застолле, сказала гучна, з нот-

каю выкліку ў голасе. — Мая маці ў вас калісьці вытворчую практыку падчас вучобы ў тэхнікуме праходзіла і шмат пра вас мне і брату расказвала. Вось я і вырашыла скласці сёння Вадзіму кампанію, прыйсці да вас.

— Маці? — узрушана перапытаў Раман Міледзевіч. — Вось як! Трэба ж: маці-практыкантка, цяпер во дачка... І скажы, што свет не цесны. Цікава... І хто ж яна, ваша маці?

— А не кажыце, Дыяна, хай сам наш герой дня здагадаецца, — падліў масла ў агонь тамада. — Ну ж, Раман! Здагадаўся? Узгадвай, напруж мазгі, пакажы, на што здатны малады пенсіянер!

— То вы з Вікуноў, напэўна... — збянтэжана прамармытаў Мандрык, дарэмна намагаючыся хоць што-небудзь узгадаць з далёкіх, амаль саракагадовае даўніны, часоў пачатку сваёй працоўнай кар’еры. — Так, відаць, з Вікуноў ... Правільна?

— І не ўгадалі, не ўгадалі! — сказала дзяўчына. — Не.

— Ну, тады, мабыць, з Зарэчча? Адкуль жа яшчэ...

— Ай, не мучце чалавека, — велічна калыхнула пры краі стала прычоскаю-вежаю Эльвіра Віктараўна. — Скажыце ўжо, не мітрэнжце...

— Вось цяпер правільна, з Зарэчча, — неяк увадначас замаркоціўшыся ды вачавідзь мякчэючы голасам, прамовіла Дыяна. — Валя Акінчык. Можа, памятаеце такую?

— Валя Акінчык? Памятаю, як жа... Канечне, памятаю. Такая сціплая, акуратная была дзяўчыначка падчас практыкі... На экспартна-сарціровачнай базе пасля тэхнікума рабіла, так? Год ці не шэсць таму мы з ёю у горадзе выпад-

кова спаткаліся. Яна на курсы павышэння кваліфікацыі, здаецца, тады прыязджала. Дык пазнала мяне на прыпынку, падбегла прывітацца. Я ж, папраўдзе, адразу яе і не пазнаў, нават крыху і няёмка было перад жанчынай...

— Яна заўсёды вас вельмі хваліла, — сказала Дыяна і хуценька, быццам не жадаючы працягу размовы пра маці, перайшла да віншавання.

Вечарына доўжылася ўжо з пару гадзін, але ніхто з гасцей адыходзіць не спяшаўся. Ды калі б хто і паманууўся тое зрабіць, наўрад бы яму гэта ўдалося: гаспадары папросту не адпусцілі б. Тым больш што з хвіліну на хвіліну павінны былі з'явіцца і Марынка з Валікам з адмыслова самаруч спечаным да дня народзінаў бацькі тортам. Яны толькі што патэлефанавалі з маршруткі, чакаць іх, відаць, заставалася зусім няшмат.

Пашпацыраваўшы ў чаканні торта па двары наўкола дома ды падзівіўшыся на густоўны садок з каменнямі ў японскім стылі ля яго, кампанія вярнулася зноў да стала. Тамада спрабаваў наладзіць нанова, па другім крузе, віншаванкі, але яго не паслухалі. Прамаўляць — значыць жа зноў піць, а ні піць, ні есці нікому ўжо, папраўдзе, не хацелася. Неўпрыкмет разгаварыліся. І тут, як і на пачатку вечара, больш за ўсіх шчыраваў Карпечык. Пасля адмовы гасцей прамаўляць паўторна віншаванні на адрас юбіляра ён адчуваў сябе ніякавата і даўно шукаў хоць якой зачэпкі вярнуць увагу да ўласнае персоны.

— Дык як маці ваша зараз, Дыяна? — сказаў Раман Міледзевіч, скарыстаўшыся паўзай у дакучлівай, як нудотныя прамовы гасцей падчас

бенефісу састарэлай поп-зоркі на экране тэлевізара, балбатні тамады. — Як яна цяпер? Усё там жа жыве, у Зарэччы?

— Мама тры гады як памерла, — сумеўшыся на хвіліну, адказала дзяўчына.

— Памерла! Ой, даруйце, — запрабачаўся Раман Міледзевіч. — Я ж не ведаў... Так нечакана гэта... Зусім жа маладая яшчэ жанчына. І гэтак добра выглядала падчас нашай сустрэчы... Цудоўна выглядала. Што ж здарылася? Мабыць, хварэла?

— Яна павесілася, — коратка адказала Дыяна і тут жа прыкусіла вусны пад здзіўленым, як быццам словы дзяўчыны сталіся для яго адкрыццём, паглядам Вадзькі.

На колькі хвілін у пакоі запанавала ціша. Нават дзеці, якія толькі што вярнуліся ў дом разам з сабакам, пераcталі квяліць яго, быццам адчуваючы далікатнасць сітуацыі, ціхенька разбрыліся па кутках.

— Ну, што ж, што зробіш? — памкнуўся разрадзіць атмасферу Карпечык. — Бацька ж, пэўна, пры вас застаўся, брат... Вы казалі пра брата...

— Так, Міша... Але... ён таксама павесіўся. Праз год пасля мамы. Кажуць, хто вымае вісельніка з пелькі, сам у ёй засіліцца. Міша маму вымаў, вось яно і... здарылася.

— Справы, аднак,— сказаў Карпечык і асекся на паўслове. Густая цішыня запоўніла памяшканне. Збіты з панталыку нязвыкла далікатнымі паводзінамі дзяцей сабака глуха енкнуў, пакрыўджаны няўвагаю людзей, пабег прэч з пакоя.

Госці ў разгубленасці заблукалі паглядамі па мэблі і сценах памяшкання. Усе маўчалі. На шчасце, дзверы з калідора ў залу адчыніліся і

Марынка з тортам у руках у суправаджэнні мужа ўвайшла ў пакой.

А дзясятай госці разышліся.

— Табе пасобіць, Эля? — спытаў Раман Міледзевіч і зняў з вешака фартух быццам бы з намерам памагчы жонцы перамыць посуд. Спытаў, аднак, не без патаемнае надзеі на адмову, бо мыць посуд ён і не любіў, і, папраўдзе, як след і не ўмеў. Але з жанчын нікога ў доме па адыходзе гасцей, апроч гаспадыні, не засталося, і ён міжволі мусіў прапанаваць Эльвіры Віктараўне дапамогу.

— Ды кінь, сама дам рады, — адказала тая і пяшчотна ўсміхнулася. — Адпачывай ужо, юбіляр, пэўна ж, стаміўся ад усяго гэтага святочнага вэрхалу. Як табе вечарына?

— Выдатна, што тут скажаш... Ты гэтулькі ўсяго нагатавала, гэтак усё было смачна, прыгожа. І Марынка малайчына, вунь які аграмадны торт арганізавала, хоць у кнігу рэкордаў Гінэса падавай... Нават Апалька, на што ўжо выбрэда наконт салодкага, не ўтрымаўся, пакаштаваў... Адно не надта хораша атрымалася гэтая пра вісельнікаў напрыканцы размова. Трэба было мне гэтак даць пудла, спытаць у сіневалоскі пра яе брата...

— Ну, што цяпер пераймацца: пад усё, казаў той, рук не падкладзеш. Не сумысля ж ты спытаў... Так ужо атрымалася.

— Так яно, ды ўсё адно — непрыемна.

— Вядома, прыемнага мала. Але ж сіневалоска гэтая, як ты кажаш, Дыяна, зусім, здаецца, не перанялася. Наадварот, падалося мне, быццам павесялела. Быццам цяжар які з плячэй

скінула пасля таго, як усё распавяла пра маці і брата... Заўважыў ты гэта?

Раман Міледзевіч моўчкі паціснуў плячыма.

— Дык і не бяры да галавы, чуеш? І не думай пра благое. Ну, вымаў ты Федзю, ну і што з таго? Было б яно так, як людзі кажуць наконт тых, хто з пелькі вымае, — на свеце нікога не засталося б. Не думай...

— Лёгка сказаць — не думай... Сама ж разумееш...

— Разумею, — прапалоскваючы пад кранам посуд, хітнула галавою Эльвіра Віктараўна. — Як не зразумець.

Раман Міледзевіч пасядзеў колькі хвілін ля стала, перайшоў у залу, уключыў тэлевізар. Хацеў паглядзець што-небудзь з весялейшага, але не змог: круціўся ў галаве, перашкаджаў засяродзіцца ўскалыхнуты размовай з Дыянай не так даўні ўспамін.

Два з паловаю гады таму брат Рамана Мандрыка Фёдар, які жыў пасля разводу з жонкай адзін у вёсцы недалёка ад горада, ні з таго ні з сяго павесіўся ўлетку ў пуні. Набыў у нейкага чалавека з Дварчанаў новую вяроўку быццам бы дзеля таго, каб перавязаць кладню ў дрывотні, і на ёй у той жа дзень засіліўся. Акуратна пагаліўся, апрануўся ў чысцейшае, выслізнуў непрыкметна з хаты ды і сунуў голаў у пятлю. Раман Міледзевіч з Эльвірай Віктараўнай якраз на той час гасцявалі ў яго. Адбылося ўсё позна, апоўначы. Памагчы выняць высельніка з пелькі не было каму, і Раман Міледзевіч, насуперак пратэстам жонкі — маўляў, ці мала што, ці не лепш выклікаць спачатку міліцыю, — сам палез на

драбіны. Цела брата было яшчэ цёплае, дык і хоць якая надзея, што ён ачуняе, заставалася. Надзея не спраўдзілася. Фёдар не дыхаў, і як ні намагаліся перапалоханыя ўсмерць Мандрыкі яго ажывіць, нічога не атрымалася. Выклікалі міліцыю, доктара...

Пахавалі брата на вясковых могілках, побач з бацькамі. Пахавалі ціха, амаль употайкі, унікаючы лішняга розгаласу. На працы нікому пра тое, што Фёдар павесіўся, не сказалі. Перасцерагліся: вымкнешся з праўдаю, скажаш, і пачнуцца дурныя размовы. Мала таго, што дазвання абсмокчуць староннія людзі здарэнне, дык яшчэ і намёкі розныя пачнуць за спінаю рабіць: ага, маўляў, брат ягоны павесіўся, дык і ён, можа, таксама з гэткімі ж мухамі ў галаве? А не надта ўсё тое прыемна. Тым больш, калі чалавек ты не шараговы і з шасцідзесяці тваіх падначаленых добрая траціна толькі і чакае нагоды спіхнуць цябе, дарма што ветэран працы, з наседжанага месца. Сёмы дзясятак неўзабаве разменьваеш, пенсія на носе, дык адно і глядзі, каб не вылезла праўда бокам, каб не пазбавіцца праз уласны язык пасады. Ды і языка не трэба, самі людцы даўмеюцца свінню падкласці. Вунь год дзесяць таму Марынцы футра новае з Эльвіраю справілі, дык назаўтра ж у органы кантролю ананімка паляцела: за казённыя грошы, маўляў, дачку апранаюць-прыбіраюць.

Капейчына ж, што праўда, — ніколі не лішняя. І сабе не лішняя, і Марынцы памагчы як след стаць на ногі хочацца. Вунь каторы раз ужо пра адкрыццё ўласнае фірмы заводзіць дзяўчына гаворку... Дык акурат будзе прыварак да пенсіі дарэчы. Зноў жа, унук ці ўнучка з'явіцца — яшчэ выдаткі...

Эльвіра Віктараўна бразнула наастатак у кухні дзверкаю шафкі, увайшла ў залу.

— А во, забылася табе сказаць, што ўчора даведалася, — сказала, разбэрсваючы мокрымі далонямі прычоску. — Апалька, аказваецца, Падзяву стрыечны брат. А мы і не ведалі. Ну хіба не сюрпрыз? Знарок такое не прыдумаеш...

— Што ты кажаш?! — Твар Рамана Міледзевіча спачатку расплыўся ва ўсмешцы, але праз хвіліну зрабіўся яшчэ больш пахмурым, як быў дагэтуль. — Кепска. Распавядзе сваяку пра сённяшнюю нашу гасціну, і той, глядзіш, пакрыўдзіцца, што яго не запрасілі.

— Не распавядзе. Я сёе-тое яшчэ даведалася... Яны, аказваецца, здаўна варагуюць між сабою, нават не сустракаюцца ніколі, дарма што стрыечныя. Так што спі спакойна. Але самае цікавае нават не гэта. У Яначкі, аказваецца, апроч стрыечнага і родны брат быў... Ведаў ты пра гэта?

— Не.

— Вось, і ніхто не ведаў. А быў жа. Брат-блізнюк... Калечкам нарадзіўся, дык у спецыяльны прытулак для гэткіх дзяцей бацькі немаўлём аддалі. Пяць год прабыў у прытулку і памёр нябога. Дачка нашай новай эканамісткі, Казіміраўны, у мясцінах, адкуль родам Падзява, працуе, дык распавяла матцы.

— Бач, і не вылезла ж гісторыя за гэткі час...

— Добра прыхаваў, значыць, калі не вылезла. А прыхаваў — значыць, было што прыхоўваць. А табе... нам — чым не карта, калі што якое...

— Дык і неблагая, сапраўды, карта, — зноў павесялеў Раман Міледзевіч і моцна-моцна, як калісьці ў маладосці, прытуліўся лбом да жон-

чынай шчакі. Падняўся, шыкнуў на сабаку, што вымкнуў з-пад стала ды кінуўся гаспадару пад ногі ў пошуку хаўрусніка для гульняў, і пайшоў на двор палюбавацца начным садам.

На прыпынку маршруткі наўзбоч катэджа Мандрыкаў Вадзька угаворваў Дыяну надта не пераймацца рэакцыяй гасцей на распаведзенае ёю ў застоллі пра самагубства маці і брата.

— І не хацела казаць, а вось жа неяк як знарок вылецела з рота, — скрушліва хітала Дыяна расфарбаванай у блакітна-рудое галавой ды раз-пораз уздыхала. — Будуць цяпер людзі Бог ведае што думаць... Гэта ж як што якое, дык і падторкнуць, дык толькі і гаворкі будзе... Маўляў, што возьмеш з дурніцы, калі ў яе такое ў сям'і здарылася...

— Вось, а з мяне кпіла, што ляўшацтвам пераймаюся, на чужыя закіды аб ім зважаю, — не стрываў, нагадаў Вадзька. Але тут жа хуценька і паправіўся: — А хай сабе думаюць... Пагамоняць і перастануць. Думаеш, адна ты такая? Вунь колькі ўсяго такога на свеце здараецца, дык што — усім і пераймацца? Ды і колькі табе тут, у нашых забытых Богам Дварчанах, быць засталося...

— Ага, чакаеш, каб хутчэй з'ехала. А казаў, што любіш. Ці, можа, разлюбіў ужо пасля пачутага? Ну, дык можна і разбегчыся.

— Кінь дурное, — аж уздрыгнуў ад такой нечаканай прапановы Вадзька. Дыяна, у арозненне ад дзяўчат, з якімі яму даводзілася сябраваць дагэтуль, нягледзячы на ўсю яе фрыкаватую экстравагантнасць, падабалася яму па-сапраўднаму, і ён, каб не напалохаць яе ды не адштурхнуць

расповедам пра бацькавы п'яныя загулы, усё адкладваў размову да зручнага моманту. Але, надзіва, цяпер, калі такі момант, здаецца, настаў, калі дзяўчына сваім расповедам пра трагедыю ўласнай сям'і дала такую нагоду, ахвоты рабіць тое якраз і не было. З аднаго боку, і карцела сказаць, з другога — зусім не. «Мала таго, што маці такое ўчыніла, дык яшчэ і брат», — упарта не давала разняволіцца, круцілася ў галаве перасцярожлівая думка, а словы быццам захраслі ў Вадзькавым горле і ніяк не маглі пераадолець нябачную перашкоду.

— А як гаспадары ўспрынялі сказанае мною? — спытала Дыяна. — Мне здалося, надта ж былі ўсе збянтэжаныя. У Рамана Міледзевіча, як пра Мішу сказала, ажно твар, бачна было, плямамі пабіўся ды вусны пабялелі. Ты заўважыў?

— Што дзіўнага, сама ж ведаеш, якія старыя людзі часам прымхлівыя, — адказаў Вадзька, адчуваючы, як марна сіляцца цягліцы шчок у намеры выціснуць хаця б штосьці падобнае да ўсмешкі.

— Ну а ты? Ты сам як? — працягвала дапытвацца дзяўчына. Па твары яе было бачна, што адказ на гэтае пытанне яе цікавіць куды больш, як на папярэдняе. — Такія круглыя вочы зрабіў падчас майго аповеду, што я пад стол гатовая была ад нечаканасці ды пярэпалаху зваліцца...

— Ну, гэта ты дарэмна, мабыць, — адказаў Вадзька і паспешліва, як чалавек, заспеты знянацку за нейкім таемным саромным одумам ды заклапочаны жаданнем як хутчэй ураженне ад таго одуму ў вачах суразмоўцы скасаваць, торкнуўся вуснамі ў шчаку дзяўчыны. Торкнуўся быццам бы каб пацалаваць, ды такі атрымаўся

той пацалунак нязграбны, такі нялоўкі, што ажно і самому зрабілася перад Дыянаю няёмка.

— Што ты? Што ты? — ці то адчуўшы холад ягонае ўдаванае пяшчоты, ці то наогул не жадаючы якой бы то ні было пяшчоты цяпер вось, у гэтую хвіліну, прыняць, сказала яна і хуценька пакрочыла да маршруткі.

## КОЖНЫ САМ САБЕ ГАСПАДАР

Ужо колькі кветаў паспела Танечка давышываць на радне з выяваю льнянога поля ды колькі разоў палец аб голку ўкалоць (вышывала без напарстка, бо той закаціўся пад ложак), а Юрыка ўсё не было. Шчоўкнула пультам, каб суцішыць гук тэлевізара ды лепей чуць, што там дзеецца за вокнамі, на двары, але зноў, каторы раз ужо за ранне, нічога, апроч звыклага пошуму ветру, не пачула. «Дзесьці ж забавіўся, аднак, стары», — падумала, разварочваючыся передам крэсла да сярэдзіны пакоя ды перакладаючы з пеліны на стол пяльцы з вышыванкай. Толькі так зрабіла ды паспела зафіксаваць на падлозе колы крэсла, як з панадворка пачуўся кашаль.

Юрык увайшоў у хату, урачыста трымаючы аберуч перад сабою штосьці пляскатае, абгорнутае кавалкам тканіны, ашчэрыўся ва ўсмешцы.

— Жорны нейкія мне хросны прывалок, ці што? — спытала Танечка і рэфлектыўна падалася паставаю наперад. Нягледзячы на розніцу ва ўзросце, з Юрыкам яна ад даўна, ад самага, лічы, маленства была на «ты». Ён жа ўспрымаў такую манеру звароту дзяўчыны да ўласнае

асобы не толькі як належную, але, падобна, і як адзіна магчымую.

— Ага, жорны, — усміхнуўся загадкава і пачаў няспешна разгортваць тканіну. — Адвярніся на хвіліну. Глядзі ўжо далей сваіх грэкаў. Разгарну — паклічу.

— Спачатку, пане-ягамосцю, напарстак, калі ласка, з-пад ложка памажы мне дастаць. Дзесьці пад сцяну ў куце закаціўся, дык і не дала сама рады... Бачыш, пальцы чыста голкаю без напарстка скалола.

Юрык паслухмяна нахінуўся долу, паўзіраўся ў цёмную пройміну паміж нізам ложка і падлогаю. Затым выпрастаўся, пасунуў ложак убок. Дастаў напарстак, падаў Танечцы.

— Ну, вось, дзякуй, цяпер можна і сюрпрыз твой... — Танечка адвярнулася, упетрылася паглядам у экран тэлевізара, на якім заходзіўся зацюшлівым крыкам пад пошум палівачоў натоўп маладзёнаў і маладзіц з транспарантамі ў руках. — Быў ты ў Грэцыі, Юрык? — спытала, услухваючыся ў шоргат за спінаю.

— Канечне, як жа, чакаюць мяне там... Так пытаешся, быццам не ведаеш...

— Кажуць, там, у Грэцыі, усё ёсць. Праўда гэта? Можа такое быць?

— Было б усё — хіба б гэтак мітынгавалі? Марынка, нявестка Юніна, у Грэцыю, кажуць, увесну збіраецца. Мабыць, як вернецца — распавядзе свекрыві. А мы тады ў Юні і распытаем, што там ды як... Ну, можна ўжо...

Танечка зноў павярнулася тварам да госця. Павярнулася і раскрыла рот ад здзіўлення.

— Каталка! Ого! Ну, Юрык...

— Што — Юрык?

— Няўжо сам зрабіў? Сядзенне, глянь ты, мала, што габляванае, дык і вунь як вышараванае. А колы! Няўжо сам усё, самаруч?

— Так кажаш, быццам я няздара які... Быццам бязрукі які-небудзь, зусім быццам... грэк...

— Няздара як няздара, а валацуга, дзядзечка, той яшчэ. Жанчыны, мабыць, няма ў Дварчанах, якая б на юрлівасць тваю не наракала. Ведаеш гэта?

— Ведаю, нягож. Але калі ўсё тое валацужнае было? Быльнягом даўно зарасло. Ды і ці так ужо шмат было яго, каб і сёння ўзгадваць... Дык чым згадваць, машыну лепш вось давай выпрабуем. Памагчы табе перасесці?

— Памагчы то, канечне, можна, але што мне з тваёй помачы? — адказала Танечка і падрулiла з крэслам да краю каталкі. — Раз паможаш, дзядзька, два і пойдзеш сабе, адкуль прыйшоў. А што мне, да помачы тваёй прывыкшы, пасля рабіць? Румзаць? На лёс наракаць? Не ўжо, сама буду як-небудзь даваць сабе рады. Чым у памочнікі набівацца, лепш бы лёну мне адшкадаваў, прынёс.

— Лёну! Ды свайго ж у цябе вунь колькі ў гародзе.

— Свайго чакаць ды чакаць яшчэ. А ты мне леташняга, цярэбленага прынясі. Не кужалю, дык хоць пакулля якога.

— Вяроўкі пачнеш віць з яго, ці што? Канкурэнцыю мне надумалася скласці? А што з такога сярмяжнага бізнесу бывае — ведаеш? Вунь адзін пару год таму павесіўся на вяроўцы, дык потым месяц мяне цягалі, дазнаваліся, ці не ў мяне набыў. Ледзь адбіўся ад тых дазнаўцаў. Быццам я павінен пытацца ў кожнага, дзеля чаго

ён купляе вяроўчыну. Стараешся, штукуеш рэч, а нехта набудзе яе і зацягне пелькаю вакол уласнай шыі. А то яшчэ горш — вакол чужой... Ён засіліцца на тваёй вяроўцы або каго-небудзь пазбавіць ёю жыцця, а ты, атрымліваецца, быццам вінаваты... Адно і радасці, як не парвецца, бо добра, значыць, зрабіў.

— Вяроўкі сам ві, як і віў. А я хачу лялькі пачаць рабіць. На кардоннай аснове. Лёну на кардоніну накруціў, з ісподу падбіў тым жа пакуллем або кужалем, твар намаляваў, рукі-ногі прышыў да фігуры — нічога складанага. Учора паказвалі па тэлевізары, як некаторыя робяць... А к святу ў дзіцячы прытулак, да прыкладу, у тыя ж Пакуляны, можна перадаць... А то, як пажадаюць, і які-небудзь гурток па вырабленні лялек ды іншых цацак у прытулку адчыніць. Толькі спачатку самой, канечне, варта было б крыху падвучыцца. Але гэта як-небудзь асілім, вунь у сеціве надоечы на аб'яву пра завочныя курсы натыкнулася, дык, напэўна, скарыстаюся. А раптам не атрымаецца з лялькамі — батыкам яшчэ можна заняцца... Нятанная, канечне, але ж таксама вартая справа.

— Імпэту ў цябе, аднак, дзяўчына. Адкуль што бярэцца? — пасоўваючы на месца ложак, сказаў Юрык. — Напэўна, і мне след іншага занятку пашукаць. Вось кіну вяроўкі ды займуся брыкетам з кастрыцы. Такі, як на заводзе, канечне, саматугам вырабіць не атрымаецца, але паспрабаваць можна. Як думаеш?

— Кожны сам сабе гаспадар, — адказала Танечка і хуценька, не паспеў Юрык і павекам плюснуць ды рук пад плечы дзяўчыны падкласці, перакулілася мячыкам з крэсла на каталку.

Адказала як адрэзала, ды якраз такія вось рэзкія, нечаканыя рэплікі Юрык у Танечцы найбольш і ціаніў: быццам між іншым, быццам мімаходзь прамаўляецца, а колькі ў тых кароткіх, не азмрочаных ні калівам запабежлівага разліку ды наракaнкамі на лёс фразах неўдавана-даверлівай спавядальнасці.

## ДЗЕ НАШАЕ НЕ ПРАПАДАЛА!

Ноч амаль на двары, а Юні ўсё не спіцца. Як прыладзілася надвячоркам пры вакне, так і сядзіць пры ім капою, бы прыклееная. І спаць класціся ўжо быццам пара жанчыне, і не хочацца штосьці зусім. Сядзіць кабеціна, упетрыўшыся вачмі ў шыбіну, і рады не дасць падняцца ды перайсці да ложка. Нудзіць Юню самота, вярэдзяць глузды прадаўнія ўспаміны. «Памру, дык наясіся горачка», — як у ваду нябожчык Міколка глядзеў, прадказваючы гэткае за гадзіну перад сконам.

Ды не пра Міколку думае Юня, не ягонае пульхнае, на бабскі капыл зладаванае цела, не шэрань ягоных каламутных, штодня танным пітвом залітых вачэй узгадвае. Жывому — жывое: пра іншае Юня думае, іншым пераймаецца. Так пераймаецца, што хоць венікам тое паскуднае іншае са звілінаў вымятай, такое яно прычэпістае. Такое ліпкае-ўедлівае, што і таўкачом з глуздоў, каб і вельмі хацеў, напэўна, не выпхнеш, і граблямі не выдзераш.

Думае Юня і дзівіцца: вось жа не з самых, здаецца, прыемных, як з гледзішча наступстваў, прыпамінаў згадка аб колішніх іх з Юрыкам ша-

лах-любошчах у бакоўцы пры кладні з кулёў мінулагодняга лёну, а каб каліва прыкрасці ці шкадобы аб здзейсненым у душы выклікаў. Наадварот, быццам у слоту пасак святла раптам прад вачмі на дарозе ўзнікае: весела, заўзята, з маладым запалам. І што той уедлівы пыл клубам абапал разгарачаных мілоснасцю целаў, што той абрыдлы пах ільняны ў носе ды зміяныя зайздрослівыя перашэптванні швачак назаўтра па кутках арцелі!

Канечне, не анёлак Юрык, ой, не анёлак... А хто анёлак? І дзе яны наогул, тыя анёлкі, па сённяшнім часе?

Скідае Юня з плячэй цяжар успамінаў, выходзіць на двор. Ловіць тварам подых вятрыска, смяецца насустрач ценям начных выяваў-пачвараў. Робіць крок, другі ў цемру, разводзіць рукамі ўбакі сумненні: гары яна гарам, абрыдлая бабская цнота, дзе нашае не прападала! Развінаецца цемра, і ляціць, ляціць угары наўскос неба па-над Юрыкавай хатай насустрач променю Юнінай нечаканай адвагі бліскучая і жвавая, як вызваленая з палону разбітага неўпрыцям тэрмометра кропля ртуці, зорка.

## НЯКЕПСКІ ЗНАК

Каб хто яшчэ месяц таму сказаў Раману Мандрыку, што вось гэтак, ажно толькі з трэцяй спробы, яму ўдасца трапіць на прыём да колішняга ўласнага вылучэнца Падзявы, нізавошта не паверыў бы. Чалавек, перад якім дзверы заўсёды ў гэтым будынку самі насустрач без ніякага-якога адчыняліся, — і раптам нежада-

ны госць? І дзе? Гэтулькі пудоў солі з тым жа Янакам Падзявам з’едзена, гэтулькі анекдотаў пад чарку-скварку ды смешкі ў кампаніях распаведзена — і персона нон грата? І добра, калі б сапраўды, як кажа сакратарка Івана Кірылавіча, не было яго на месцы. Не ж, там ён, у абшытым ільняною, ім жа, Раманам, падоранай тканінай, зацішным сваім, надзейна абароненым ад старонняга вока кабінеце. Рамана Мандрыка, кіраўніка з трыццацігадовым стажам, лёгка не падманеш. У яго на начальніцкія хітрыкі нюх, як у сабакі на курапатку. Бо сам ён яшчэ той начальнік, сам хітраван, самому неаднойчы ў гэткія ж во хованкі даводзілася з падначаленымі гуляць.

І вось яна, трэцяя спроба, і вось ён, нарэшце, доўгачаканы, у меру пашанотны, у меру панібрацкі запаветны вокліч:

— А, Ромусь! Ды ўваходзь жа, канечне... Прабач, што не адразу адазваўся, справаў, ведаеш, нямерана, нялічана... Не крыўдуй!

У голасе ў начальніка — строгасць, салодкасцю інтанацыі здобраная, і пагляд не сказаць каб надта ўжо суворы. Бачна, муляецца чалавек, а разам з тым і прадэманстраваць тое мулянне не жадае. Вагаецца, значыць, не ведае, як сябе паводзіць, — някепскі знак. Значыць, не ўсё яшчэ, мабыць, вырашана наверсе, значыць, застаецца для Рамана сякая-такая, хоць і кволая, надзея на лепшае.

— Дык што, браце? — кажа Падзява і падымаецца з фатэля. Падпірае жыватом стол, падае Раману Міледзевічу руку. — На гуркі, значыцца, канчаткова землячкі нашы пераарыентаваліся? Вось як! А лёну дык і капцы ўжо? Так ат-

рымліваецца? Начуты, начуты пра вашыя дварчанаўскія дзівосы.

— Ох, дзівосы, праўда ваша, — запабежліва, як вернік перад святаром у чаканні хвіліны адпушчэння грахоў, вінаваціцца Раман. — Такія дзівосы, што і падумаць гідка.

— Гідка, гідка, і не кажы, — падхоплівае Падзява, дастаючы з шуфлядкі стала даўгую і тонкую, як ерусалімская калядная свечка, цыгарэціну. — Мала таго, што лён пахерылі, яшчэ і хаўтуры па ім з танцамі і галёканнем уладзілі. Ды добра, каб самі толькі — не, клоўнаў яшчэ нейкіх, шутоў гарохавых у масках няведама скуль паназапрашалі ды разам з імі ў скокі пусціліся.

— Якое там назапрашалі, — смялее, наважваецца запярэчыць госць. — Выскачыў дзяцюк, бы Піліп з каноплі, а хто і адкуль — д'яблу хіба вядома. Цягаюцца розныя — ці мала цяпер такіх усюды. Дня не мінае, каб старонні ў пасёлку не аб'явіўся. Там закалот у свеце, там звада, вось і ціснуцца жывасілам у спакайнейшае месца... І добра яшчэ, як паскудства якога з сабою не цягнуць...

— І халера з ім, з тым дзецюком, — уваднача мяняе тон размовы Падзява і круціць між пальцаў цыгарэціну, і гладзіць даланёй на грудзях кішэньчык з канцікам ні то насоўкі, як раней насілі, ні то, як апошнім часам носяць, — візітоўкі. — Ведаеш, цыдулу днямі атрымаў з міністэрства... Ці паверыш, акурат жа наконт палеткаў.

— Ну! — адчуваючы, як адпускае ў грудзях, выдыхае з палёгкаю Раман. — І што? Якое ж іхняе міністэрскае рашэнне?

Падзява робіць шматзначную міну, маўчыць колькі хвілін.

— Пакуль што зарана меркаваць, — кажа ўрэшце і кладзе палец на кнопку пульта ўнутранай сувязі. — Так, агульшчына, хоць сёе-тое крыху быццам і вымалёўваецца. Збольшага, вядома... Ніна, прынясіце мне, калі ласка, міністэрскую паперчыну...

— Тую, што сёння ўранні атрымалі? — перапытвае жаночы голас.

— Тую, што за подпісам намесніка міністра, — адказвае пасля хвіліны скамянеласці Падзява і дадае сувора: — І два кубкі кавы.

«То днямі, то ўранні, то за подпісам намесніка — чорт жа цябе разбярэ», — збіты з панталыку відавочным круцельствам гаспадара кабінета, думае Мандрык і пасоўваецца з крэслам бліжэй да начальніцкага стала.

Хітры, безумоўна, хітры Падзява, ды які б хітры ні быў, і яго, Рамана Міледзевіча Мандрыка, голымі рукамі не надта возьмеш. Мае Раман не абы-якія козыры ў кішэні, дык ці не час і нагадаць пра іх, тыцнуць няўдзячнаму дружбаку пад нос? Шуры-муры пры жывой жонцы, хай сабе і трыццацігадовае даўніны, — пры сведку пра такое не тое што чалавек, чорт на анёла не перарабіцца не асмеліцца. А гэная з братам-блізнюком, пра якую Эля казала, гісторыя... Хавае — значыць, не жадае агалоскі, значыць, ёсць што, сапраўды, хаваць...

Але гэта — на скрайні выпадак Раманавы заначкі, пакуль жа — проста даверлівая сяброўская размова.

— Думаеш, усё ад мяне залежыць? — быццам прачытаўшы думкі суразмоўцы, кажа Падзява і падымаецца з-за стала. — Каб жа так яно, браце, было, каб жа так, як нам хочацца...

## V

## ТАНЕЧКА

Як зямля без дажджу — пустэльня, так без Юрыка Падгайскага бязногая Танечка — бы без рук. Бо хоць не гуркі ў гародзе ў Танечкі, як ва ўсіх дварчанаўцаў, а лён, ён таксама, вядома ж, догляду, і не абы-якога, патрабуе. Хоць, папраўдзе, і гуркоў на Танеччыных сотках даволі. Ды ўсё-такі большую частку гарода займае лён. Зацыклілася Танечка на льне... Ці то ўбогасць долі, немагчымасць штохвіліны абсягі жыцця развінаць Танечку на сузіранне прыгажуна даўгунца штурхае, ці то яшчэ што, але любая Танечцы нябескасць ягонага квету, лашчаць яе вока тонкія і раўнюткія, каліва да каліва, выросткі.

Як людзі кветкі абапал хатаў садзяць, так Танечка вакол сваёй — лён сее. Не сама, вядома... Як правіла, кароткіх гатункаў, адмыслова дзеля вырабу гаспадарчага начыння. Праміне час ягонага красавання, пакліча Танечка сейбіта Юрыка, аддасць старому ўсё тое хараство на спажыву. Вырве Юрык лён, абаб'е пранікам каробачкі, вымачыць сцёблы расою, перахопіць перавяслamі ў кулі, высушыць, абтрапае, насучыць з кужалю ды пакулля вяровак, накруціць колцамі, бы кілбасы, на шасткі ды і знясе на кірмаш. Вось, глядзіш, які-ніякі, а і прыварак будзе дзядзьку-дружбаку ў даважак да пенсіі. Зрэбны, а ўсё-такі, што ні кажы, бізнес, не ўсім жа сотнямі мільёнаў варочаць. А што застанецца, на іншыя патрэбы пойдзе: пакулле — дзіркі ў пад-

дашку, хляве і лазні пазатыкаць, патоўчаныя на жмых каробачкі — свінчо Юрыку ці каму з суседзяў падкарміць, кастрыца — грубку распаліць. Вось марыць стары распачаць рабіць брыкет з кастры — таксама някепская справа.

Такая першая Танеччына думка-мроя — пра лён. Другая, куды больш, здаецца ёй самой, недасяжная, — пра вандроўку ў чоўне па возеры. Што б, здаецца, ні аддала яна за адно-адзінае імгненне на вадзе, чым бы ні ахвяравала дзеля спраўджання даўняе, ад гадоў маленства, мары. Гэта ж уявіць сабе: сядзіш сабе паняю на носе пасудзіны і адно кроплі ад вясла паспяваеш з твару змахваць ды слухаць, як наваколле пяе. Толькі дзе яе ўзяць, тую лодку, калі на дзясяткі вёрстаў наўкола не толькі лодкі, а нават плыта прыстойнага, мабыць, не знойдзеш. Было калісьці ўсё ў Дварчанах, ды сплыло неяк няўзнак, быццам хто сурочыў. Знікла рыба ў возеры, а без яе што за шчасце занятаму вечнымі клопатамі дварчанаўцу кешкацца з пасудзінай ды гойсаць на ёй без дай прычыны па спусцелых вірах ды водмелях?

— А што, калі ў Марынкі, Юнінай нявесткі, водны ровар на пару дзён пазычыць? — кажа Юрык, атрасаючы са швэдра ашмецце ні то кастрыцы, ні то пілавіння. — Яно не човен, канечне, але ж усё-такі... Тут Валік, хвалілася Юня, маецца днямі заявіцца ў гародзе ёй памагчы, дык, можа, папрасіць яго, каб пасобіў, перамовіўся з жонкаю... Яна хоць і вучоная маладзіца, ды, кажуць, не так каб ужо фанабэрыстая.

— Пра што ты, Юрык? — робіць выгляд, што не разумее, Танечка. — Што папрасіць? — Уваж-

лівасць старога цешыць яе, але прызнаваца ў тым, агаляць душу, хай сабе і перад не зусім староннім чалавекам, — не яе правіла.

— Ды наконт воднага ровара я... Забылася, што мінулы раз гаманілі? Пра вандроўку па возеры... Ну ж памяць у цябе.

— Пра вандроўку, вось што! — робіць выгляд, што ўзгадала, Танечка. — Ну, гэта быў бы, канечне, падарунак... Дай жа Бог! Слухай, дзядзька, прабач і не злуйся, але што гэта тамака ў вас, кажуць, з Юняю быццам нейкія як усё адно... любошчы? Быццам бачылі людзі, як яна ў хаце ў цябе прыбірала. Быццам споднее носіш да яе мыць... Быццам нават і шкарпэткі табе цыруе...

— Чулі звон, ды не ведаюць, скуль ён, — прыкрываючы далонямі твар, каб не гэтак была заўважная на ім чырвань няёмкасці, адказвае Юрык і разводзіць убакі рукі. — Кастрыцы, што пасля трапання лёну засталася, прыходзіла кабеціна набраць для ўцяплення гарышча, а яны пра любошчы. Што толькі не прыдумаюць...

— Ну, ровар дык ровар, — пераводзіць гаворку на ранейшае Танечка і безуважна, бы між іншым, дадае: — Але спачатку тое зрабі, што раней абяцаў.

— Абяцаў — значыць зраблю, — кажа Юрык і глядзіць у вакно. — Можа, увесну як-небудзь... Абы дождж на тую часіну не нахапіўся. Але і будзе — гэткае бяды. На плечы ўссядзеш, і паляцелі. Колькі тут да тых могілак, за гадзіну туды ды назад акурат паспеем абярнуцца.

— Дык і добра, Юрык, — кажа Танечка і цягнецца рукою да падваконніка з грудкаю навошчаных паперчын для вырабу штучных кветак.

## ГУРКІ

І ў часы найвышэйшага росквіту гаспадаркі гэтак не радавалі дварчанаўцаў багаццем страваў іхнія сталы, не гнуліся гэтак у шчыраванні за тымі сталамі іхнія насы, не цешылі яны гэтак самі вачэй адно аднаго раздабрэласцю паставаў ды пульхнасцю шчок, як сёлета, такой неверагодна ўраджайнай, шчодрай на гуркі восенню. Такі ўдалы, няйначай, дзякуючы веснавому галёканню без парткоў падчас пасеву выдаўся ў Дварчанах ураджай на гуркі, так напоўніцу, відаць, аддзячыла прырода людзям за адданасць традыцыі продкаў. Гэтак шчодра аддзячыла, што іншага поступу жыцця, іншага яго ўладкавання, як менавіта і толькі з гуркамі, яны ўжо і не ўяўляюць. Нават такія зацятыя недавяркі з прыбышоў, якіх усё болей з кожным днём у Дварчанах, такія незычлівыя да спаконвечных прымхаў тутэйшага люду асобы, як Ганя Шыпік і яе муж-падабцаснік Васіль, пры выглядзе ўсяго таго даброцця пры сустрэчы з суседзямі не-не ды і заводзяць размову пра тое, як бы гэта і ім налета да агульнае гароднінна-гурэчнае беганіны хоць якім бокам прычыніцца.

А найболей, мабыць, абярнуліся выгодаю веснавыя бясштанныя завіханкі пры лехах з гуркамі прадавачцы Надзі. Вось тыдзень ужо, як крамная выручка галоўнай феміністкі паазерскіх Дварчанаў ад продажу напояў падскочыла ледзь не ўдвая. І ўсё дзякуючы гуркам: закусі даволі, пры добрай жа закусі і лішняю чаркаю хто адмовіцца зграшыць? Можа, дзе-небудзь, у іншых краях, на

іншых абшарах гэткіх дзівакоў і даволі, але сярод дварчанаўцаў гандлярка Надзея Піліпаўна Гарагляд за амаль пятнаццаць год шчыравання пры прылаўку пакуль што не сустракала.

Юні ўдача. Гуркоў так шмат, што сын з нявесткаю і воч каторы тыдзень да маткі не паказваюць. Бо наведаешся — трэба памагаць даць ураджаю р*а*ды, а ці ж хочацца маладым? Калі і свайго такога дабра на лецішчы Мандрыкаў паўнютка, толькі паспявай парадкаваць. Схлыне прыпарка, тады ўжо, напэўна, абое дружненька і заявяцца. Юню ж, калі папраўдзе, такая няўвага Валіка і Марынкі ані не крыўдзіць. Наадварот, нават яшчэ і радуе: і спакайней кабеціне, і на чымсьці больш пільным можна засяродзіцца. Яно ж, пільнае, — такое, што нейкая там мітусня з гуркамі ў параўнанні з ім — нявінны жарт. Бо гэта толькі ўяўляецца некаторым людзям, што калі дашкандыбаў чалавек сяк-так да пэўнае ўзроставае мяжы, ды калі яшчэ і ў вёсцы жыве, а не ў горадзе, дык і капцы ўжо ўсім ягоных мроямспадзевам, жыццё скончана. Быццам толькі і клопату ў яго, як бы свінчо накарміць, ды гарод дагледзець, ды ў купленым трыццаць год таму дзіравым палітоне век давекаваць. Слабасці чалавечай усе, што шаснастовік, што шасцідзесяцігадовы, што ў горадзе вялікім, што на хутары ў шатана на рогах, падуладныя. Таму і шчыруе Юня-Зяметра ў гародзе, найлепшае з лепшага для суседа Юрыка Падгайскага выбіраючы. Бо чым сцежку да сэрца мужчыны лягчэй за ўсё працерабіць — не з чужых славаў ведае. Не адна яна, зразумела, ведае, не яна адна шчыруе, але тут ужо рук не падкладзеш: як карта ляжа, так і будзе ў негалосным жаночым суперніцтве.

Каму ж у Дварчанах зусім не абыходзяць гурэчныя жарсці, дык гэта Танечцы. Усяго з паўдзясятка насёнін увесну пасеяла, а гуркоў у яе — не менш, як у іншых, поўныя сенцы. Юрык штодня дзеліцца, з нанесенага навыперадкі бабамі-дабраслівіцамі выдаткоўвае. Абы сцямнела, так і прэ кашамі, як не ў крук сагнуўшыся. Так хату заваліў Танечцы дармовымі падарункамі, што тая з каталкаю каторы раз ледзьве дасць рады да дзвярэй паўз іх прабіцца. Так ужо завіхаецца стары юрлівец, што Юня з Мірусяю, рэўнасцю бабскай зайшоўшыся, часам і злаваць на дзяўчыну-калеку, заюшлівыя дурніцы, пачынаюць.

А вось каму толькі нервы ды непрыемнасці з сёлетняга гурэчнага дварчанаўскага ўмалоту, то гэта Раману Мандрыку. З аднаго боку, быццам бы яно ўсё і няблага: багацеюць людзі — радавацца трэба. З другога, ну ніяк, ніяк радавацца Раману Міледзевічу не выпадае. Бо што за радасць, калі ўсім наўкола весела, а табе — ні тое ні сёе. Быццам ты па-ранейшаму начальнік, а вось чаго, якое ўстановы, — і сам не ведаеш. Так дойдзе ўрэшце, што і ведаць не будзеш, у якім чыне ды каго на юбілейную пачостку ў рэстаране запрашаць. А ўжо ж і памяшканне ды музыкі загадзя, наперад аплачаныя, і меню сто разоў з Эльвіраю і дачкой абмеркаванае. Але што зробіш, калі як «павіснуў» льнозавод у паветры, так дагэтуль і «вісіць», целяпаецца, бы муха на тонкай павуцініне. І Падзява, салавей салодкагалосы, як на тое, маўчыць пасля размовы сам-насам у кабінеце, бы вады ў рот набраўшы, трэці тыдзень не адзываецца.

Але што Падзява, казённы чалавек? Яму, можа, таму Падзяву, акурат у гэтыя хвіліны ня-

пэўнасці больш за іншых не соладка. Гэткае месца, як ягонае зараз, займаць — што па канаце ў цырку хадзіць. Крок аблудны не ў той бок зрабіў, са словам неабачлівым вымкнуўся — і паляцеў тарчма, і бывай, крэселка, да пабачэння, сінекура! Дык, папраўдзе, нават і шкада часам Раману чалавека. Так, насамрэч, шкада, што і даўнімі ягонымі тымі шурамі-мурамі са сваццінай суседкаю, паштаркаю-ягадкай Мірусяй, упікаць начальніка не хочацца. Калі толькі сам Падзявэндачка Кірулавіч, як называе яго Эльвіра, на тое не напросіцца, не падсуне на гора сабе якуюнебудзь неспадзянку-падлянку.

Так думае Раман Мандрык і чухае, чухае патыліцу пад грукат посуду ў кухні, дзе гаспадарлівая здрадніца патомнай настаўніцкай дынастыі, інжынерка Эльвіра Віктараўна ад раніцы варожыць пры начынні ды моршчыць разпораз лоб у одуме, чым бы гэта яшчэ незвычайным, апроч ужо замоўленага, здзівіць гасцей падчас гэтак бязбожна прыпозненае юбілейнае рэстараннае імпрэзы.

## ШАЦУНЧЫК ПАДЗЯВА

Думаць, што генеральнаму дырэктару вытворчага аб'яднання «Льновалакно» Івану Падзяве так ужо і шанцавала заўсёды ў жыцці — значыць альбо нічога аб жыцці не разумець, альбо калі і разумець, дык вельмі прыблізна. Бо трапіць з папіханага кожным падшыванца Янака-падпаска ў кіраўнікі такога маштабу, як сёння Іван Кірылавіч Падзява, — гэта, можа, і шанцаванне, ды ўсё-такі, як ні круці, не яно адно.

Вылузнуцца з чарады папіханых у шэрагі тых, хто сам папіхае, — не гэтак дарунак лёсу, як навука. Найперш жа, канечне, — праца глуздоў, адмысловая гульня, да якой Падзява-малодшы, сын эмтэасаўскага каваля і даяркі-пяцітысячніцы, заўсёды, колькі памятае сябе, быў і здатны, і ахвотны. У дваццацівасьмігадовым узросце ўзначаліць самы буйны ў Паазер'і дварчанаўскі калгас, затым прайсці, умудрыўшыся нідзе ні аб што ні разу не спатыкнуцца, шлях ад таго калгаснага старшынства да запаветнае вяршыні слізкага, як вужака, харчова-ўладнага ланцуга — вунь як трэба быць вёрткім ды запабежлівым, вунь які спрыт трэба мець.

Да спасціжэння ісціны аб карыснаці запабежлівага стаўлення да справы кар'ернага росту ды шкодзе для яе безагляднае авантурнасці Янак Падзява ішоў не ад тэорыі, не ад нейкіх вучоных трактатаў, а наўпрост ад жыцця. Там, дзе досведу часам хлопцу не хапала, — памагала інтуіцыя, дзе інтуіцыі аказвалася замала — хвацкі, учэпісты розум прыдаваўся. І, што праўда, выпрабаваная гадамі галоўная формула запабежлівасці — уласнае меркаванне май, а рабі заўсёды так, як скажуць — дагэтуль спрацоўвала ў жыцці Івана Кірылавіча Падзявы без збояў, спраўна.

Дык і цяпер вось, пры не надта мажорным раскладзе зорак, пры ўсіх гэтых пературсоўках з вырошчваннем на паазерскіх палетках то адной культуры, то другой, то прыняцця да выканання нейкай праграмы, то, наадварот, яе скасавання, працягваў цепліцца ў ягоных грудзях спадзеў, што спрацуе формула як след і гэтым разам. Бо менавіта ж гэтага цяпер, калі двое з

траіх дарослых дзяцей генеральнага дырэктара былі ўжо не проста не горш, а значна лепей за іншых уладкаваныя, але заставаўся неўладкаваным малодшы з сыноў, Ігар, і былі на падыходзе да справы ўладкавання ўнукі-падлеткі, пяцідзесяцівасьмігадоваму службоўцу Падзяве асабліва жадалася.

Ах, дзеці! Каб жа пераймаліся яны гэтак бацькоўскімі клопатамі, як пераймаюцца бацькі іхнімі. Каб жа хоць крыху, хоць час ад часу, хоць рад*ы* ў гад*ы* прыслухоўваліся да бацькоўскіх парадаў. Ты таму ж Ігару кол на галаве чашы, а ён усё адно пасвойму будзе рабіць. Вось і не знаходзіць сабе, боўдзіла, сталага прыстанку, вось і туляецца ад установы да ўстановы ў пошуку немаведама якіх райскіх шатаў. І не без здольнасцяў жа чалавек, не абдзяліў Бог розумам, а во ж гора... Прыстроіў неяк у ведамасную, льновалакноўскую газету карэспандэнтам, дык ледзь-ледзь тры месяцы там пратрымаўся. Волі, маўляў, замала! «Што гэта, — кажа, — за праца такая — чужыя глупствы тыражаваць?» Волі, бач ты, захацелася! А колькі бацьку каштавала нерваў уладкаваць на няпыльнае месцейка — пра тое не падумаў.

Ды гэта яшчэ не самае горшае. Так моцна пару год таму прасякнуўся ні з таго ні з сяго ідэяй вырошчвання ў Паазер'і лёну, што не ўтрываў, уступіў у нейкую суполку па яго прапагандзе. Днямі дома не стыкаецца, а дзе і з кім бавіць час, дзе ў якіх перфомансах удзельнічае — паспрабуй даведайся. Добра, як яшчэ з гэткімі блохамі ў галаве ў палітыку не даўмеецца ўлезці, тады ўжо і наогул усяму будуць кранты.

Зрэшты, як-небудзь жа ды будзе. А што да розных збояў, дык ці не на тое яны і збоі, каб

ім даваць рады. А яшчэ лепей — згодна з законам той жа запабежлівасці — своечасова, у пару папярэджваць.

Першы яго, Івана Падзявы, збой акурат прыпаў на згаданую пар*у* кіравання калгасам у Дварчанах. Кроў пенілася ў венах хлопца па маладосці, вось і даў волю сабе ды падначаленым, вярнуўшы без вышэйшага блаславення на тутэйшыя землі пракаветную звычку качацца без штаноў па засеяных палетках. І не толькі іншым даў волю, а і сабе ж, рынуўшыся на скрут галавы ў дурную качаніну.

Ці то час быў такі расцярушлівы, ці то мясціна занадта ўжо глухая, каб на яе зважаць высокаму начальству, але, на шчасце, таго старшынёвага авантурнага свавольніцтва «наверсе» не заўважылі. А можа, толькі выгляд зрабілі, што не заўважылі. І хутчэй за ўсё, што так, што толькі зрабілі выгляд. А вось па часе, тры гады таму, падчас балатавання на пасаду кіраўніка раённае адміністрацыі, акурат і ўзгадалі. Сказаць нічога, вядома, наўпрост не сказалі, а згоды на заняцце высокае пасады не далі.

Зрэшты, можа, і не з-за качаніны той даўняй гэтак сталася. Бо і яшчэ без аднаго збою не абышлося ў жыцці Івана Кірылавіча. Гэта калі ў разгар перабудовы падчас выбараў галавы Паазер'я даў пудла. Выступіў публічна, праз радыё, з агіткаю за аднаго кандыдата, а выйграў выбары, як на злосць, зусім іншы. Ох, наперажаываўся ж тады, колькі начэй бяссоння не мог пазбавіцца, колькі лекаў пераглытаў...

Ды вось — новыя перамены.

Гэтыя перамены! Што яны часта тояць у сабе небяспеку стаць іх закладнікам, Іван Кіры-

лавіч ведаў і раней. Але толькі ў той год, калі дварчанаўцы раптам ні з таго ні з сяго перасталі сеяць лён, упершыню напоўніцу адчуў халадок у спіне пры думцы аб наступствах ад гэткага самавольства землякоў. На шчасце, нежаданне нізоў і нямогласць вярхоў у справе вырошчвання лёну шчасліва супалі, і ўсё быццам бы абышлося. Добра, як не да пары да часу.

Цяпер вось — гуркі. І не так сама гурэчная эпапея, як гэтая феерыя вакол іх пасадкі. Мала таго, што звычка сама па сабе дзікая, дык яшчэ і цень здольная кінуць на маральнае аблічча чалавека. Такая мярзотная сатурналія, што ўсе забавы якіх-небудзь рымлянаў ці старажытных грэкаў у параўнанні з ёю — нявінныя гульні. Такая распусная дзея, што адзіны ад яе наступстваў паратунак і застаецца — затаіцца, пачакаць, як і ў які бок яно ўсё павернецца.

Безумоўна, лёс чалавека ў руках самога чалавека, ды не заўсёды яно так. Якім запабежлівым ды перасцярожлівым ні будзь, як кожны крок ні разлічвай, а рана ці позна на асцюк чыйгосьці здрадніцтва ўсё адно натыкнешся. Бо такая натура людская: нешта парупішся зрабіць дзеля агульнага дабра — скажуць «навошта?». Не зробіш — не зробленым тым папікнуць і не папярхнуцца. Здрадлівасць — бы тая ліхаманка Эбола: варта аднаму падчапіць, як ужо, глядзіш, і на іншых перакінулася. І тады ўжо адзін закон правіць наўкола: хто спрытнейшы, той і выжывае. Спрытных жа сярод саміх бацылаю запабежлівасці захопленых акурат звычайна і болей як дастаткова. Так дастаткова, што адно глядзі, каб не счубіліся міжсобку ў смяртэльным закалоце за месца пад сонцам.

Вось такое яно, падзяваўскае праўдзівае шанцаванне. Людзям — вочы коле, падстава для зайздрасці, уладальніку — прычына павышанага крывянога ціску, што адно і глядзі, каб неўспадзеў не спалярушыў.

Дык і нявесела Івану Кірылавічу. Дык і глытае ён раз-пораз пігулы-мікстуры ды напружвае глузды ў хвіліны кароткага адпачынку ад клопатаў ды салодкіх успамінаў аб днях прамінулых далёкай маладосці. Такіх, халера, зваблівасалодкіх, што часам так і хочацца скінуць з сябе абрыдлую чыноўную апратку ды і рынуцца, як шмат год таму, качацца голым па мяккай, не прыбітай яшчэ як след дажджамі, засеянай лёнам раллі. Хочацца, ды, на жаль, няможна: што быку дазволена, тое Юпітэру — Божа баронь.

## НУ Ж, ЗЯМЕТРА!

— Ну, вось, і павячэрала, — кажа сама сабе Міруся і ссоўвае на край стала талерку з недаедзенымі гуркамі. Гуркі вялікія, як не на падоймішча, дык звычайна ашчадная Міруся сёлета, пры гэткім ураджаі, надта іх і не ашчаджае. І абразае ледзь не па самае семя, і для салаты наразае не скрылькамі, як зазвычай, а ледзь не аскабалкамі. Такі багаты сёлета ў Дварчанах на гародніну ўраджай, такая ўрадлівая на гуркі надарылася восень. Такая ўрадлівая, што і дзець усяго таго знятага з лехаў няма куды. Толькі паспее Міруся звечара абшчыпаць наросшае за дзень, як уранні, глядзіш, зноў яго ў гародзе паўнютка. Хоць статку скормлівай. Статку ж — пяць курыц у Мірусі, ды

і тыя, вядома, да гуркоў не ласыя. — Эх, шкада, хлопцы далёка.

Хлопцы — тройца малодшых Мірусіных братоў: Эдзік, Уладзік, Юзік. Усіх траіх калісьці выправіла Міруся, застаўшыся хлопцам за памерлую заўчасна матку, па гарадах, застыўшы ў чаканні, што, можа, пасля адзавецца каторы, вызваліць і яе з вясковага пекла. Не дачакалася. Разляцеліся браты па гарадах у пошуку лепшае долі — гукаць не дагукацца. А цяпер ужо, каб і ўдалося дагукацца, каб і паклікаў каторы Мірусю да сябе ў горад — наўрад бы яна згадзілася пакінуць свае Дварчаны.

Што Мірусі горад? Сядзець, бы той арыштант, у цесным, дзе і пукнуць без рызыкі сапсаваць камусьці апетыт немагчыма, пакойчыку-катушк*у*, дзе ўвесну падваконнікі гнуцца ад чарапкоў з расадаю для так званага лецішча — не, гэта не для Мірусі. У Мірусі хата — чатыры пакоі на адну, улетку — на дваіх з унукам, а расаду і ў голаў ёй у хаце трымаць не прыйдзе — на тое клець з грубкаю маецца. І бялізну ёсць дзе, апроч хаты, пасушыць, не тое што ў горадзе. Вунь аднакласніцу Валю, што ў горадзе жыве, узяць... Як ні прыйдзі — заўсёды ў яе ў прыхожай л*а*хі на вяроўках паразвешаныя. Кватэрка маленькая, два пакойчыкі на пяцярых, без балкона — і круціся як хочаш.

Таму і праціўіцца Міруся ўгаворам нявесткі, і адцягвае, як толькі можа, пераезд на хай сабе, можа, і лягчэйшыя, але ж і не такія ўжо, відаць, і здобныя, як для адмалку звыклага да вясковае вольніцы чалавека, гарадскія харчы. Чужое, як да яго прыстрыгоўвайся, як ні хіліся, сваім не стане.

Ды, як бы там ні было, як бы ні парушылася за гады расстання повязь з Эдзікам, Уладзікам ды

Юзікам, а ўсё адно часам ные па братах Мірусіна сэрца. Бо чаго-чаго, а дабраслівасці, хоць з выгляду таго і не скажаш, не займаць Мірусі. Хоць пра каго, а павінна яна, нездарма ж Святая, клапаціцца. Клапаціцца ж якраз, дзякаваць Богу, ёй пакуль што і апроч братоў ёсць пра каго.

— Вадзька, дзе ты там? — гукае Міруся ў цемру калідора. Ды дарэмна: Вадзька, хоць звычайна на нагу не сказаць каб так ужо зусім цяжкі, лішняга кроку насустрач зрабіць апошнім часам не паспяшаецца. У пакоі зачыніцца ды варожыць усё штосьці з нутбукам, варожыць. Мабыць, Дыянцы сваёй, што днямі яго з днём леўшуна[6] (ёсць і такое свята, аказваецца) павіншаваць заявілася, піша. І хай піша — усё ж занятак. Усё ж лепш, чым сядзеў бы занураны, як сядзеў, не толькі ад яе, Мірусі, а і ад усяго свету тынам адчужанасці адгарадзіўшыся, пасля той гасціны ў Мандрыкаў, калі ўсё раптам неяк абы-як, быццам на злом між маладымі пайшло.

— Ну, што табе зноў, бабуля?

— Што «ну што»? — злуецца цярплівая зазвычай Міруся. — Быццам не ведаеш. Гуркоў вунь у сенцах колькі набралася... паўнюткая ночва быткуецца... Каторы раз казаць: занясі Танечцы, хай частуецца. У яе лён у гародзе, з лёну ж салаты не наробіш.

— Цэлая ночва? Ого!

— Што — «ого»? Зашмат будзе — палову Юрыку аддай.

— Юрыку, каму ж яшчэ... Зразумела...

— Што табе зразумела?

---

[6] *Адзначаецца 13 жніўня.*

— Што Юрыку аддаць палову, вось што. Толькі прыпазнілася ты, бабуля, ён ужо пры гурках, твой Юрык.

— Юрык? Пры гурках? — робіць выгляд, быццам не верыць, Міруся. — Гаворыш, як спрасоння трызніш. Не садзіў ён сёлета нічога ў гародзе, апроч бульбы ды бобу. Торкнуў дзеля прыліку як не ў дзірван колькі сухіх бобін, ды на тым і супакоіўся. Ну, яшчэ, можа, фасолін п*а*ру. Юрык табе пасадзіць, чакай... І чаму гэта ён раптам — мой?

— Затое іншыя садзілі, — не зважаючы на пытанне, гне сваё Вадзька. — Учора надвячоркам ад сяброўкі тваёй, Юні, два кошыкі гуркоў, бачна было, прыцемкам валок. Ажно ў крук яго гнула ад цяжару, так нагрузіла.

— Ад Юні? Вось табе на! А казала — кепскія выраслі, — поўніцца абурэннем ды тут жа ўвобміг аціхае, не насмельваючыся выпхнуць яго дарэшты вонкі з грудзей пры ўнуку, Міруся і хуценька, быццам і не стагнала паўночы ад прыступу артрозу, выбягае з пакоя. Узгадвае, як два дні таму бачыла развешаныя на суседчыным плоце мужчынскія парткі ды кашулі, і ўжо як ні стараецца, а стрымаць сябе не дае рады:

— Ну ж, Зяметра, ну ж, Юнюля, ну ж, пачакай! Думаеш, калі ўвішная, дык і ўсё табе можна? Ужо ж падсуну я табе такую дуліну, да скону будзеш памятаць...

## НОВЫЯ ПАВЕВЫ

Каб хто яшчэ пару тыдняў таму сказаў Івану Кірылавічу Падзяве, што гэтак усё ўваднечас пераменіцца да горшага ў ягоным жыцці, ён не раз-

думваючы плюнуў бы нахабу ў твар. А то і даў бы плявузгалу поўху. Ён, лепшы ў краі кіраўнік вытворчага аб'яднання, дажыве да таго, што будзе кіраваць нейкім там садовым таварыствам? Такое калі і магчыма, дык хіба што ў сне ды і то пасля добрай гулянкі.

Ды не сон усё, на жаль, не трызненне, а самая што ні ёсць праўдзівая ява. Толькі паспелі дварчанаўцы збольшага акрыяць у спадзеве, што ўрэшце зноў стане ў пасёлку ўсё па-ранейшаму лагодна, як было ў часы панавання на палетках лёну, і вось — аказваецца, заўчасна. Надарыліся ў Паазер'і нязвыкла раннія халады, і захлынулася ўваднача дварчанаўская гурэчная справа, захрасла, як колы лядашчай падводы ў раставененай непагаддзю восеньскай каляіне. Добра, калі палове ўраджаю паспелі дварчанаўцы даць рады да прымаразкаў, усё ж астатняе, казаў той, кату пад хвост. І грувасцяцца, пабіўшыся глыжамі, гурбы гуркоў па ўзмежках ды прыдарожных ярках, палохаюць заезджы люд відарысамі безгаспадарчасці.

Надвор'е надвор'ем, а аднымі нараканкамі на ягоныя выкрутасы справаў, аднак, не паправіш. Дык і не прымусіў дварчанаўцаў доўга чакаць спушчаны міністэрствам сельскай гаспадаркі новы цыркуляр: тэрмінова пераарыентавацца. «Якія гуркі? Які лён? Што вы — ні ў якім разе!» — катэгарычна папярэдзіў Івана Кірылавіча па тэлефоне наўздагон цыркуляру сталічны рэферэнт і голасам, што больш прыдаўся б да загаду, чым да парады, параіў заняцца налета чым-небудзь апроч гуркоў ці лёну — напрыклад, яблыкамі.

— А грушамі ці слівамі можна? — адно і знайшоўся спытаць збянтэжаны нечаканаю пра-

пановаю Падзява і гучна, ажно самому зрабілася няёмка, керхнуў у слухаўку. — Або, скажам, вішнямі...

— Дзіўны вы чалавек... Чаму не? Канечне, можна. Ды хоць сабе і парэчкамі, і агрэстам, і малінамі, — адказаў службовец, і на тым лёс і паазерскіх земляў, і дварчанаўскага льнозавода, і аб'яднання «Льновалакно» быў вырашаны.

Акурат надвячоркам, калі Іван Кірылавіч ужо апранаўся ў калідоры перад адыходам з працы, патэлефанаваў яму сам намеснік міністра, сказаў, што калі каму і можа міністэрства даверыць кіраваць у Паазер'і такою адказнаю справаю, як садаводства, дык гэта менавіта яму, Падзяву.

Хоць такі расклад і нічога асабліва шыкоўнага прызвычаенаму да не вузенькіх паўнамоцтваў Івану Кірылавічу не абяцаў, іншага выйсця, як супакоіць сябе звыклым філасофскім *дзе харчы, там і тарчы* ды і згадзіцца на прапанову, не было. Што ён, з хвіліну дзеля прыліку павагаўшыся, і зрабіў.

Вестку пра замену гурэчнае справы садаводствам дварчанаўцы ўспрынялі спачатку ў штыкі. Яблыні? Дай ты рады — на гэткіх раўнюсенькіх тутэйшых гонях? Ды тут адвеку калі хто яблыні і гадаваў, дык выключна дзеля собскага толькі спажытку. На гэткім жа суглінку як ты яблыню тую ні даглядай, як ні песці, нічым яна табе, апроч аскоміны, не аддзячыць. Кіслёю зойдзешся так, паеўшы, што кіслы твар Мірусінага ўнука Вадзькі ў параўнанні з ёю лікам анёла здасца.

Асабліва незадаволеныя засталіся навоўвядзеннем дварчанаўскія падглядачкі. І зразумела:

яблык — не гурок ці лён, тут воляю вольнай не нараскашуешся, голым наўкола дрэваў падчас пасадкі і сам не паскачаш, і за суседзямі не пападглядаеш. Аднойчы торкнуў саджанец у зямлю, пару разоў паліў і чакай затым колькі год ураджаю. На ўсялякі выпадак (а раптам жа?) даручылі жанчыны прадавачцы Надзі пашукаць што-небудзь у сеціве наконт традыцый пасадкі яблыняў, ды марна. Нічога падобнага да рытуалу пасеву гуркоў або лёну з яблыкамі ў павуціне і блізка не мелася.

Знайшліся і такія, што садзіць яблыні наогул адмовіліся катэгарычна. Напрыклад, Юня, у глуздах якой слова «яблыня» адмалку выклікала прыпамін аб бацькавай смерці.

І так бы, мабыць, і застаўся загад міністэрства пустой паперчынай, калі б айцец Тамаш, ладзячы ў Задушны дзень на дварчанаўскіх могілках службу за памерлых, не ўзгадаў падчас казання яблык, што стаўся ў біблейскія часы прычынаю грэхападзення роду людскога.

Сквапныя да жартаў-перастарэкванняў вясковыя дасціпнікі прамоўленае мімаходзь слова святара аб грэхападзенні падхапілі і тут жа, не сыходзячы з кладоў, прычапілі яго да меркаваных пераменаў. Атрымалася хоць і двухсэнсоўна, затое давала надзею, што з пераходам гаспадаркі на вырошчванне садавіны не ўсё са звыклага старога будзе адпрэчана, што сёе-тое, добра пастараўшыся, можна будзе і да новай сітуацыі нейкім чынам прыстасаваць. Тым больш, што да вясны яшчэ вунь колькі месяцаў, і за такі некароткі час да чаго толькі мудрая мужыцкая галава не здольная дадумацца. У мудрых жа галовах у Дварчанах якраз недахопу ніколі не было.

Ці не гадзіну ўжо гаманілі Юня з Мірусяю пры стале з гарбатаю ды праснаком наконт садовых справаў, а ўсё ніяк не маглі між сабою паразумецца.

— Ну, добра, бацька твой праз яблыню загінуў, дык што цяпер — і яблыняў ужо не вырошчваць, і яблыкаў, можа, не есці? — даводзіла Міруся і нервова церабіла на жываце гузік кофты, што ледзь-ледзь ліпеў на танюткай, бы павуцініна, нітачцы. — Гэтак?

— Гэтак, не гэтак, а я сваё слова сказала: хто хоча — хай садзіць яблыні, а я не буду, — наравілася Юня. — І не толькі з-за бацькі, не... Пасадзіш нешта адно — і што з таго пасаджанага? Не, каб featureзнага пакрыху вырошчваць... Пад гуркі вунь сёлета ўсе палеткі, усе гароды пусцілі — і што наедку? Тын як не гнецца, гэтулькі пад ім тых гуркоў марнуецца.

— Не нахапіліся б прымаразкі, і ўсё добра было б з гуркамі. Пад надвор'е рук не падкладзеш.

— Не падкладзеш, вядома. Але ці толькі ў надвор'і прычына? Як сеялі ўвесну — памятаеш? Усё спехам, усё абы-як. І дзе гэта бачна, каб вакол лехаў голымі лётаць? Ці ты чула калі, каб продкі нашы гэткае пры гурках выраблялі? Хай ужо мужыкі — дык і бабы туды ж. Чужынскім пераняліся, вось ён і вынік. Божанька Прывяп не цяля, бачыць круцяля...

— Ай, прымхі твае, — не здавалася Міруся.

— А то сама ты бытта без прымхаў! Ужо б хто казаў... Забылася, як Лідцы, нявестцы сваёй, не давала праходу, наракала, што яна, як Вадзька нарадзіўся, абмыўшы ды спавіўшы дзіцёнка,

левым бокам яго ў зыбку паклала. Што з-за гэтага, маўляў, леўшуном дзіця зрабілася.

— Дык так і было яно. Мала таго, што на левы бок паклала, дык яшчэ і левую цыцку ў рот торкнула. А не каб правую, хаця б дзеля перасцярогі... Дык жа не — левую... Быццам не ведала, што нельга так рабіць. Тым болей, што ў радаводзе іхнім якраз праз калена леўшуны заўсёды нараджаліся. Ну, а ты... Што ў цябе з памяццю? Хіба не памятаеш, як раней пры льне мужчыны, поле засеяўшы, качаліся?

— То пры льне: свая завядзёнка. А як свая, дык і ніякая трасца ўраджаю не чапала, вунь колькі лёну збіралі. У гумне пад самую страху кулёў, здаралася, накладвалі. І ўсё вышэйшага гатунку была трасціца, каліва да каліва. Бывала, сартаваць як пачнеш, дык і працы тае з пазногаць: уся раўнюсенькая, як пад лінейку падрэзаная. Адно перакладай з месца на месца ды глядзі, каб кул*і* акуратныя былі. Лепшым нумарам заўсёды ішла на заводзе падчас здачы. Што, не так, скажаш?

— Ну, не ведаю, — пачынала пакрысе саступаць Міруся.

— Ага, адкуль жа табе, паштарцы, ведаць! Калі ты за ўсё жыццё і пальца, можа, ні разу аб трасту не ўкалола, і далоняў аб льняное карэнне не спэцкала... На ровары лісты ды газеты-часопісы з раніцы развезла — і вольная цэлы дзень. Інтэлігентка...

— Затое ты, швачка, свае далонькі-пальчыкі скалола-спэцкала! Аб што ж гэта? Ці не аб голкі арцельскія? — усхопліваецца Міруся, але тут жа, не жадаючы, відаць абвастрэння размовы, і суцішваецца. — Цябе паслухаць, дык ні гуркоў, ні

яблыкаў не захочацца. Добра, ніхто пытацца нашае згоды не будзе. Вунь, чула, ужо і дэлегацыю ў Польшчу па досвед, як вырошчваць ды захоўваць яблыкі, выпраўляюць. Вартаўніка стары сад ля Ворвані вартаваць падшукваюць. Быццам бы Юрыку прапанавалі...

— Юрыку?! Ён жа палову ўраджаю Танечцы сваёй знясе.

— Ну, усё не знясе, нешта ж застанецца.

— Пустое гамонім, — устаючы з канапы, падсумавала Юня. Глянула мімаходзь на абраз у куце, перажагналася: — Ой, Хрыстулечка! — Памаўчала хвіліну, збочыла голаў набок, з’едліва дадала: — А во, чула я, Янака за самага галоўнага быццам бы пры садах прызначаюць...

— Якога Янака?

— Якога! Падзяву, якога яшчэ... От так, Міраслава Фр*а*накаўна.

«Ну, вось, і ўшчучыш ты яе», — ніякавеючы, падумала Міруся і заспяшалася адыходзіць. Пра яе колішнія любошчы з дырэктарам аб’яднання «Льновалакно» Іванам Падзявам ведалі нямногія, і якраз Юня, як на тое, адною з тых нямногіх і была. Да пары маўчала сяброўка, цяпер жа, як дайшло да дзеляжа, хто ведае, як будзе сябе паводзіць. Дык ці варта і чапаць? Тым больш, барані Бог, з лістом тым Юрыкавым да Юнюлі, які яна калісь, падчас паштарства, не вытрымаўшы приступу цікаўнасці, распячатала ды і выкінула пасля, вылезе... Даўно было, а вось як вылезе, дык і лішняя толькі непрыемнасць.

Так падумала Міруся і ціхенька пайшла, святая-найсвятая, з хаты.

## VI

## ХОЛДЫНГ

Дзіця зварухнулася ў зыбцы, заквіліла — тоненька, нягучна, быццам прабачаючыся за турботу. Эльвіра Віктараўна кінула выціраць пліту, хуценька хіснулася з кухні ў пакой да немаўляці. Чацвёрты ўжо дзень, ад часу, як Марынка выправілася ў Грэцыю, яна была двухмесячнаму ўнуку за няньку, і абавязак гэты, хоць і стаўся для жанчыны даволі клопатным, лішнім цяжарам ёй не здаваўся. Наадварот, быў цяпер, пасля ўсіх непрыемнасцей з заводам, як нельга больш дарэчы. Так дарэчы, што яна нават усур'ёз пачала падумваць пра тое, каб наогул пакінуць працу ды аддаваць доўгачаканаму нашчадку як мага больш часу. Балазе і Раман Міледзевіч быў не супраць такога яе рашэння, наадварот, успрыняў яго, здаецца, з задавальненнем. «Дзве пенсіі, мой заробак — неяк пражывем», — сказаў, і болей да гэтай тэмы пакуль што не вярталіся.

Падаць заяву на звальненне Эльвіра Віктараўна вырашыла адразу па вяртанні Марынкі з Грэцыі. Пакуль жа, афарміўшы два тыдні ў лік адпачынку, займалася Лёнікам. Другі дзень без дапамогі мужа: Раман Міледзевіч паехаў на выходныя ў вёску ладзіць новую агароджу пры магілках бацькоў і брата.

Імя дала малому Марынка. Натыкнулася вачыма ў інтэрнэце і ўвадначас загарэлася: Лёнік і болей ніяк. Эльвіры Віктараўне і Раману Міледзевічу яно не спадабалася, бо неяк надта ж гучаннем кляты лён, вакол якога гэтулькі жарсцяў апошнім часам разгарэлася, нагадвала.

Але пярэчыць дачцэ ні адзін, ні другі не наважыліся. А Валік і наогул не выказаў наконт ініцыятывы жонкі ні адабрэння, ні нязгоды, дык так яно, як Марынцы захацелася, — Лёнік, Лёня — і засталося.

Эльвіра Віктараўна падхапіла хлопчыка на рукі, стараючыся як менш трапляць далонямі ў мокрае, панесла ў ванны пакой. З таго часу, як яна апошні раз займалася акурат во гэтак з дачкою, мінула больш за чвэрць стагоддзя. Дык і самой было крыху нават дзіўнавата, як спрытна ды лёгка, без ніякай напругі ўсё гэта ў яе атрымліваецца. Не паспела яна памяняць на Лёніку памперсы і абмыць малога, як азваўся з калідора тэлефон.

Голас мужчыны здаўся Эльвіры Віктараўне знаёмым. «Быццам Падзява», — падумала яна — і не памылілася. Што, зрэшты, было і зусім не дзіўна пасля таго, як гэтулькі разоў чула яна сіплаваты гэты, з характэрным тэмбрам перасцярожліваe адстароненасці голас падчас мітрэнгі з запросінамі на юбілей мужа. На які Іван Кірылавіч, між іншым, асцерагаючыся, мабыць, даваць сябруку спадзеў на добрую пасаду ў выпадку скасавання льнозавода, так і не палічыў патрэбным прыйсці. Прыслаў замест сябе нейкую цётку з прафкама, што, прачытаўшы па паперцы віншавальны адрас ды ўручыўшы юбіляру канверт з грашыма і букет з шасці — пад лік дзясяткаў год — прывялых гваздзікоў, тут жа хуценька і збегла.

Іван Кірылавіч доўга цягнуць ката за хвост не стаў і адразу перайшоў да сутнасці справы. Ён вось ужо колькі часу тэлефануе на мабільны Раману Міледзевічу, ды тэлефон у сябра Ромуся, мабыць, адключаны, а справа тэрміновая, дык

вось і вырашыў ён набраць іхні, Мандрыкаў, хатні нумар. Справа ж такая: прынята ўрэшце рашэнне аб лёсе дварчанаўскіх палеткаў. Згодна з ім узяты накірунак на ўтварэнне ў Паазер'і холдынга па вырошчванні і першаснай апрацоўцы лёну. І не толькі даўгунца, як яно раней было, а і кудраша. Попыт на льняны алей у свеце, аказваецца, апошнім часам вельмі ўзрос, таму ў рэгіёне мусіць запрацаваць на базе льнозавода цэх па яго вытворчасці. А паколькі без уласнае сыравіны для цэха не абысціся, і вырашана вырошчваць кудраш. Дык вось з увагі на ўсё гэта і след Міледзевічу парупіцца як хутчэй падаць у міністэрства вытворчыя планы і заяўку на набыццё новага, з улікам сучасных тэндэнцый развіцця галіны, абсталявання і як хутчэй распачынаць працы па падрыхтоўцы льносемя да пасеву. Сярэдзіна красавіка, ад сілы пара тыдняў у запасе маецца, то каб, крый Бог, не прыпазніцца з севам.

«Трэба ж — холдынг, — падумала Эльвіра Віктараўна і сама сабе ўсміхнулася. — А вось як раптам блошкі, або клешч, або іншыя якія шкоднікі завядуцца ў ільне ці ржою паб'ецца траста ад доўгага ляжання ў пуні, дык і будзе табе і холдынг, і да холдынга. А то яшчэ горш, — аддасць Богу душу, збанкрутуе твой холдынг праз год». Так падумала, але казаць нічога начальніку не стала. Паабяцала як хутчэй звязацца з мужам ды перадаць яму важную інфармацыю. Што, патэлефанаваўшы знаёмай прадавачцы ў вясковую краму, адразу ж, ледзь паспела слухаўка збольшага астыць у руцэ пасля размовы з Падзявам, і зрабіла.

Раман Міледзевіч успрыняў вестку пра ўтварэнне холдынга без асаблівага энтузіязму. Холдынг! Гэта ж такія турботы, такая мітрэнга. Аднае, казаў той, і радасці, што назва гучная. А пачні рабіць, пачні завіхацца — без нажа тая быццам бы новая, а насамрэч усё тая ж самая старая, адно што назовам падноўленая справа зарэжа.

Хаця б тэхніку, да прыкладу, узяць: сеялкі ржавыя, дзіравыя, уборачных камбайнаў па гаспадарках кот наплакаў, церабілкі адно і глядзі па швах ад старасці распаўзуцца. Новае трэба купляць, а дзе гэтулькі грошай возьмеш? Добра, як фундатараў знойдзеш, але ж яны, бы тыя гуркі ўвосень пад плотам, на дарозе не валяюцца.

Ды і з севазваротам, а значыць і з ураджаем могуць быць непярэліўкі: хоць бы дзе на палетках летась лапік азімых упартыя дварчанаўцы пасеялі. Скрозь адны гуркі, а пасля іх ці дасць лён рады падняцца? А калі і дасць, хто да ладу яго давядзе? Моладзі кот наплакаў у Дварчанах. На пенсіянераў таксама па сённяшнім дні надта не ўссядзеш, не тыя часы. Ты ім слова — яны табе дзесяць у адказ: маўляў, не прыгон, хачу іду працаваць, не хачу — не іду... Кожны сам сабе гаспадар, языкі параспускалі. Сядзелі да пенсіі, бы мышы пад венікам, а волю адчулі і адразу параспеpазаліся, па сумніўных імпрэзах, кшталту леташняе пры гурэчных лехах, пачалі гойсаць.

Словам, турботы. Турботаў жа Раману Міледзевічу цяпер якраз меней за ўсё і хацелася б.

Будзеш высільвацца, здароўе пакладзеш, а ледзь што не так — і выправяць на пенсію, ні на заслугі, ні на патрэбу зарабіць не паглядзяць. Колькі год змарнуеш дзеля справы, а хто тое заў-

важыць, хто ацэніць? То ці вартая аўчына вырабляння, ці варта і шчыраваць да сёмага поту? А тут, як на тое, новае яшчэ камусьці ў голаў прыйшло — кудраш вырошчваць...

Ды чым з тым казённым кудрашом валаводзіцца, ці не прасцей у прыватнае прадпрымальніцтва падацца? Да прыкладу, пачаць гадаваць зязюлін лён на арандаваных палетках? Таксама ж, як справу належным чынам закруціць, можа было б мець з яго прыбытак, і не абы-які. Вунь колькі, памятаецца, даўней розных лячэбных адвараў ды гарбатаў з лёну зязюлінага па вёсках выраблялі. Або настоі для лячэння прастуды, ці таго ж гемарою, ці, скажам, паносу... Вось цяпер неўротыкаў ды людзей з венерычнымі захворваннямі шмат — і тут бы тая нізінная расліна прыдалася. А які шыкоўны сродак гэты балацінны лянок для барацьбы з выпадзеннем валасоў ды пярхоццем! Колькі знаёмых людцаў, хаця б той жа Янак Падзява, дзякуючы яму прыкрае навалы пазбавіліся...

А калі на тое пайшло, дык і да колішняй традыцыі выкарыстання зязюлінага лёну ў якасці соладу для вырабу гарэлкі чаму б не вярнуцца? Ды з гэтым дармовым дзікім ільном такую фармацыю можна развесці ў Паазер'і, такі тэхналагічны пераварот ажыццявіць, што розным там прамысловым драконам Кітаям ці Японіям і не снілася. На ўвесь свет пры належным піяры можна было б прагрымець. Тым больш — выгода двайная ад яго: і ўраджаем можна пакарыстацца, і кіслотнасць глебы для пасеву іншых культур, таго ж кудраша, напрыклад, калі не дарэшты ўзнавіць пасля гуркоў, дык хаця б сяк-так, на больш-менш прыстойным узроўні падтрымаць.

Ці вось яшчэ — для забалочвання гэтак неабачліва калісь асушаных земляў зязюлін лён выкарыстаць. Зямля забалоцілася — тут жа торф табе гатовы, хочаш — зямлю ім ўгнойвай, хочаш — паліва, той жа брыкет, штампуй тонамі. Адно што турботаў, канечне, з прыдпрымальніцтвам зашмат. Круціцца трэба, ініцыятыву выяўляць, а ці ж проста гэта для звыклага рабіць усё паводле загаду чалавека. Але хай будзе ў запасе ідэйка, бо ці мала як яно ўсё, сапраўды, з гэтым кудрашом, як калісь вунь з кукурузай або цукровым буракам ці кок-сагызам[7], павернецца...

Так меркаваў-маракаваў, а дакладней — мроіў Раман Міледзевіч Мандрык. А пакуль меркаваў-маракаваў ды мроіў, жыццё ў Дварчанах сваім парадкам пагоркамі-нізябінамі, паводле адвечнае завядзёнкі, законам эвалюцыі гнанае, наперад цягнулася-сунулася.

## ВЯРТАННЕ

На куды большае спадзявалася Марынка, выпраўляючыся тыдзень таму ў Грэцыю. Дык і настрой, як вярталася з вандроўкі дадому, быў так сабе, ні тое ні сёе. І не дзіва: амаль нічога са знакамітых грэчаскіх цікавостак, апроч запланаванага сцісленькай, з увагі на жорсткія меры эканоміі, экскурсійнаю праграмай старажытнага капішча на ўскрайку правінцыйнага прыморскага гарадка, толкам не пабачыла. Праз ахопленыя маніфестацыямі ды пікетамі Афіны прамчаліся на аўто-

***[7] Дзьмухавец-каўчуканос, культываваўся ў еўрапейскай частцы СССР, у тым ліку ў Беларусі, у 1933-1954 гг.***

бусе так хутка, быццам куды-небудзь на пажар спяшаліся. Толькі паспела яна збольшага вокам Акропаль угары акінуць, як ужо і знік ён з поля зроку. Ды і ўсё атрымалася ў сонечнай, праніцанай атмасфераю людской незадаволенасці Грэцыі неяк похапкам, быццам зводдалеку, на адлегласці. Яшчэ, як на злосць, і шопінг, на які Марынка ўскладала гэтулькі надзей перад ад'ездам з дому, не атрымаўся. Два надвячоркі змарнавала, шукаючы па віхлястых каменных завулках будынка крамы Чырвонага Крыжа кшталту руанскага, а так нідзе вачмі на шыхт ягоных фірмовых сцяжкоў пры ўваходзе і не натыкнулася. Распытваць жа выпадковых стрэчных няёмка было, тым больш, што і з замежнаю моваю ў Марынкі, каб як след растлумачыць суразмоўцу, што менавіта яна шукае, не так ужо добра. З куртаценькім запасам у пару соцень словаў толькі абняславішся ды настрой сабе сапсуеш. Дык пры такім раскладзе на большае, як на ролю староннняй ці то глядачкі, ці то падглядачкі і не выпадала, папраўдзе, Марынцы ў Грэцыі разлічваць.

І атрымалася так, што мусіла Марынка вяртацца гэтым разам з замежжа дахаты амаль што ўлегцы, з libараю спехам, у апошнюю хвіліну купленых у вулічных гандляроў просценькіх сувеніраў для бацькоў, хусткаю для Юні ды імпартовым турэцкім кальянам для мужа. То крыху нават і няёмка было перад каляжанкамі з працы, калі гуртам наляцелі, чакаючы расповеду пра грэчаскія цуды ды пра тое, што там, у Грэцыі, маўляў, усё ёсць, і сведчанняў таго, што, нягледзячы ні на якія крызісы ды нечуваны ціск больш заможных хаўруснікаў па Еўразвязе, купаюцца грэкі ў рас-

кошы, як вераб'і ў лужыне пасля доўгачаканага дажджу ў сухое лета.

Асадак ад не надта ўдалае вандроўкі, аднак, згладзілі хатнія навіны. Лёнік, дарма што нарадзіўся не так ужо дужым, дзякуючы стараннням маці выглядаў малайцом. Валік, наўздзіў, апантана займаўся і сынам, і, што зусім ужо было на яго не падобна, домам. Нават узахвоціўся памагчы Раману Міледзевічу і Эльвіры Віктараўне абкласці знутры кафляю ды канчаткова давесці да ладу к пачатку купальнага сезона басейн на лецішчы.

Асабліва ж усцешыла Марынку навіна пра ўтварэнне ў Дварчанах холдынга па вырошчванні і апрацоўцы лёну. Холдынг! Гэта ж не нейкая там нягеглая, пахілая фірмачка. Гэта ўжо, як той казаў, зусім іншы ўзровень, іншы маштаб. Толькі б не схібілі зноў землякі, не ўгнявілі Хрыстулечку, як называе яго свякрова, сваімі дурнымі шаманскімі звычкамі.

Шаманства шаманствам, скокі скокамі, а перадусім — справа павінна быць. А што тая пустая, нікчэмная варажба-беганіна пры лехах? Асабіста ёй, Марынцы Гук, нічога і блізка такая варажба, хай сабе і свая-найсвая, хай і стагоддзямі бытавання на родных абшарах асвечаная, не кажа. Не адчувае Марынка, як бы нават таго ні хацела, у ёй патрэбы, іншымі намерамі жывіцца, іншаму Богу, а не нейкаму там пазычанаму бясштаннаму юрліўцу Прыяпу сучасная, прасунутая маладзічка, моліцца. І недарэмна, відаць па ўсім, моліцца. Вось літаральна на другі дзень па вяртанні з Грэцыі выклікаў яе кіраўнік фірмы, прапанаваў падвышэнне — месца камерцыйнага дарэктара. З шараговых менеджараў у дырэкта-

ры — сур’ёзная рэч. І хоць не выпадае, можа, дачасна радавацца, ды ўсё адно навіна цудоўная.

Марынка дапіла гарбату, дачакаўшыся. калі разбягуцца па кабінетах гаманкія, аж часам залішне, каляжанкі, прымасцілася галавою на далоні ў спадзеве змежыць на колькі хвілін павекі ды кімарнуць у чаканні абедзеннага перапынку. Але не паспела: хтосьці пастукаўся ў дзверы.

Дзеўка-фрык Дыяна ўсунула ў кабінет галаў, не чакаючы запрашэння ні нават дазволу ўвайсці, хіснулася да гаспадыні.

— Вось, Марына Раманаўна, — сказала сіплаватым, як са сцюжы, голасам. — Я наконт той размовы падчас юбілею, наконт размеркавання на працу ў вашу фірму. Не забыліся? Памятаеце? Заканчваю сёлета вучобу, дык ці паспрыяеце, як абяцалі, з месцам? Ці магу я на вашу помач разлічваць?

— Наконт размеркавання? — азвалася заспетая знячэўку і нечакана ўсцешаная гэткім нязвыкла пашанотным — па імені-бацьку — зваротам Марынка. — Ды канечне, канечне, не пытанне. Падумала пра тое, што, мабыць, няблага было б зрабіць наведніцы заўвагу наконт знешняга выгляду, але не стала. Прыйдзе дзеўка працаваць у фірму — сама да ўсяго пацiху дойдзе. А не дойдзе сама — іншыя памогуць. Калектыў — сіла, не такім, як гэтае дзяўчо, дарма што і яшчэ больш смелыя былі, рожкі абломваў.

А што да працы, дык з такіх вось порсткіх ды ўпартых, як гэтая Дыяна, якраз і неблагія выканаўцы, як правіла, атрымліваюцца. Папрацуе дзяўчына колькі часу ў фірме, досведу набярэцца, а там, як дасць Бог ёй, Марынцы, шацунку ўласны бізнес распачаць, і да сябе можна будзе

ў штат перацягнуць. Канечне, з такімі генамі, з такою спадчыннасцю, як Дыяны, вуха востра трэба з падначаленай трымаць. І найлепшы сродак у гэткай справе — звязаць чалавека абавязкам удзячнасці. Гэта ж якраз для Марынкі цяпер, калі так шмат яна пра дзеўку ўведала падчас бацькавага юбілею, і не самае складанае.

Хацела яшчэ Марынка напрыканцы пахваліцца Дыяне радасцю ад прапановы на пасаду камерцыйнага дырэктара, але своечасова спахапілася: навошта? Вось пахвалішся — і яшчэ сурочыш, і што тады? Радасць радасцю, а перасцерагчыся не зашкодзіць. І не толькі ў плане размоваў з нейкаю там Дыянай, не толькі...

Тую ж меркаваную дварчанаўскую гамэрню падчас пасеву лёну ўзяць... Калі яшчэ дзень таму не сумнявалася яна, што ўдзел у вар'яцкай качаніне абавязкова возьме, то цяпер, пасля размовы з начальнікам наконт дырэктарства, дакладна ведае: ніякага ўдзелу! І не таму, што не даспадобы ёй, можа, усё гэнае нясветнае, ды такое ж, халерачка, прыцягальнае, вясковае вычварэнства, не. А таму, што некаторыя бацькавы-матчыны ўрокі наконт асноваў запабежлівасці, якую яна, Марынка, у адрозненне ад бацькоў, называе хоць і не дакладна, але па-сучаснаму — перфекцыянізмам, засвоіла ўсё-такі няблага.

Дык і не возьме ўдзелу. Хіба што як мінулы раз, — у якасці падглядачкі, употай. Толькі гэтым разам не прытуліўшыся беднаю сіратою да шурпатага камля старога дрэва, а з належным камфортам — праз зацемненае шкло падоранага Раманам Міледзевічам і Эльвіраю Віктараўнай з нагоды нараджэння дзіцяці новенькага, бліськ ды ясь, аўто.

## ПРАГУЛЯНКА

Прыбярэжнае кустоўе ўжо напалову патанула ў вечаровай шэрані, а Танечка з Юрыкам яшчэ на возеры. Як адплылі апоўдні, пасля наведання могілак, на Марынчыным водным ровары ад прыстані, так дагэтуль і сноўдаюць па ім сюды-туды, ад берага да берага. Берагі возера крутыя, наравістыя, прыстаць да іх — сілу не абы-якую трэба мець, а дзе ж Танечцы яе ўзяць? Яшчэ па роўным плысці куды ні йшло, рухаць жа пасудзіну наперад па шорсткім донным жвіры ці па зацягнутым віхлястымі стужкамі багавіння пяску — і думаць няма чаго. Дык Юрык і хоча скіраваць ровар туды, дзе прыстаць да берага лягчэй. Так зрабіць, каб і сябе надта не абцяжарваць, і Танечку лішні раз усведамленнем уласнае нямогласці не засмучаць.

О, гэты медзведзяваты, наскрозь прапахлы танным тытунём ды пакуллем самавук-адмысловец вераўчанае справы Юрык! Як умее ён быць незаменным, а галоўнае — незаўважным, ненавязліва-далікатным у памкненні памагчы. І не дасі веры, што пры кешканні з вяроўкамі ды кастрыцаю можа чалавек гэтак дасканала няпростую навуку чуйнасці засвоіць. Хто б яшчэ ў Дварчанах, апроч Юрыка, во гэтак, як ён сёння, згадзіўся яе, калеку Танечку, на клады да бацькавай магілкі павезці? Спачатку на каталцы, потым на плячах яшчэ колькі соцень метраў ад сцежкі да могілкавае брамы валачы.

Такі ён, юрлівец Юрык. То ці дзіва, што то адна, то другая кабеціна пачынае старому, дарма што рэпутацыя ягоная не з лепшых, у гаспа-

дыні напрошвацца. Што ахвотніц пабрацца з бабылём Юрыкам апошнім часам у Дварчанах не кот наплакаў.

Утыкаецца ровар носам у пясок паўвыспы збоч прыстані, застывае на месцы, як застывае ва ўтульным чэраве роднага гнязда здарожаная ўтомным пералётам з выраю птушка. Быццам цішаю першароднаю прыазёрнаю падсілкоўваецца, набіраючыся моцы перад наступнаю прагулянкай. Люляецца-песціцца на высокіх, упоравень з кустоўем, хвалях у атачэнні шматкоў мыльнай пены, нанесенай вадою ад пляскатага шэрага каменя, дзе Юня-Зяметра Гучыха, падкасаўшы падол спадніцы, мянташыць штомоцы пранікам ды палошча, палошча, палошча бялізну. Гэтак шмат усяго, відаць, намыла-напаласкала руплівіца за паўдня, што і ў кошыках тое намытае-напаласканае ледзьледзь месціцца. Да хаты ж Юні — сама меней паўвярсты, і ўсё, як на грэх, угору падымацца. Хоць прасі Юрыка памагчы, але ж як будзеш тое рабіць пры староннім чалавеку?

Ускідвае Юрык колца ланцуга ад воднага ровара на жалезны стаяк, прышчоўквае дзеля надзейнасці ржавым ад пастаяннае азёрнае вільгаці замком. Затым падхоплівае Танечку на рукі, не зважаючы на яе слабыя пратэсты, нясе да прыхаванай у хмызе наўзбоч сцежкі каталкі.

— Ну, набіла сабе, мабыць, пранікам мазалёў? — крычыць зводдалеку Юні і, уссадзіўшы Танечку на сядзенне, пакідае каталку на сцежцы, а сам ідзе паўз асоку да каменя.

Колькі хвілін яны стаяць з Юняй нерухома пры кошыках з бялізнаю насупраць адно аднаго, штосьці напаўголаса гамоняць, і постаці іх на фоне добра ўжо прыхопленай шэранню воднай

гладзі штохвіліны танеюць, танеюць, блякнуць і ўрэшце зусім зліваюцца з ёю, быццам знікаюць.

Постаці знікаюць, але Танечку гэта зусім не палохае. Яна ведае: неўзабаве, праз колькі хвілін, абое вымкнуцца з шэрані і ціхамірна — Юня тоўхаюы ззаду каталку, Юрык наўзбоч, з кошыкамі бялізны ў руках — павязуць яе дадому.

Густы, прытарнаваты пах льнянога семя даносіцца з боку Дварчанаў, расшкуматаны тае ж хвіліны ветрам, рассейваецца над няпэўнымі, расплывістымі сілуэтамі прыбярэжных альшын. Рассейваецца хутка, але, каб дарэшты супакоіць Танечку, і гэткага ягонага кароткага — быў і знік — напаміну пра сябе даволі.

## НАПЯРЭДАДНІ

Яшчэ сонца не паспела дарэшты схавацца за даляглядам, не паспелі куры рассесціся па куросаднях, а дварчанаўскія падглядачкі ўжо на рамарэнце: займаюць выгоднейшыя месцы пры платах і ўзмежках, пазначаюць іх хто кідкаю стужкай, хто свежазламанаю галінкай бэзу або язміну, хто каменьчыкам ці нават цаглінаю. У суперніцтве за лепшае месца не абыходзіцца, вядома, без непаразуменняў-звадаў, але ўсе яны такія дробныя, такія па-суседску незласлівыя, што нагадваюць хутчэй звычайную сяброўскую перапалку, чым зваду. Зрэшты, калі б нават і якая сур’ёзная звада надарылася, знашчаных адсутнасцю відовішчаў жанчын гэта, відаць, надта і не засмуціла б. Так няўсцерп ім хоць якім чынам, хоць гэтак во — у ролі падглядачак — прычыніцца да заўтрашняй доўгачаканай дзеі.

Усе тут, пры палетках, усе ў добрым настроі. Нават непрыхільная яшчэ зусім нядаўна да падглядацтва Ганя Шыпік не вытрывала, кінула хатнія справы, прыбегла следам за астатнімі жанчынамі адзначыцца ў дзеляжы зручнейшых месцаў пры плоце. Кажа, угаворвала і свайго Васіля ўзяць удзел у заўтрашнім качанні, нават старое рыззё яму пацыравала-парамантавала, каб было што з пушчэйшага апрануць, ды той не асмеліўся: вельмі ж ужо нязвыклая для чалавека справа. Але, можа, яшчэ і надумаецца за ноч: жанчына пры жаданні чаго ні здольная ад мужыка дамагчыся. Не дасць рады словамі пераканаць — чарка гарэліцы ці віна пасобіць. А то і болей грунтоўнае што — звыклая сужэнская завядзёнка.

Як і летась ды залетась, кіруе ўсім у гэты вечар пры платах прадавачка Надзя Гарагляд. Кіруе жанчына з веданнем справы, дзелавіта, з улікам нюансаў мінулагодніх скокаў-камланняў пры гурках. Толькі сёлета куды больш ахвотна, куды з большым імпэтам кіруе, бо які-ніякі і собскі інтарэс гэтым разам маладзіца праследуе. Надакучыла Надзейцы да ванітаў адзінота, спрацівелі порсткія лозунгі аб раўнапраўі, вырашыла Надзя нанова звычайнае жаноцкае долі прычасціцца. Але як? Мужчыну, вядома, забрытаць няцяжка, ды не абы ж якога хочацца Надзі. А хочацца, каб і з твару ды паставы выгляд прыстойны меў, разам з тым каб і скура на дзецюку хоць крыху, хоць ледзь-ледзь, але гарэла. То дзе ж яшчэ, як не тут вось, пры лехах, дзе ўсё навідавоку, такога і шукаць? Галоўнае — угледзець, разглядзець як след, не прамахнуцца. А ўжо прынадзіць, угледзеўшы, гэткай вачастай, гэткай дапалай, увішнай гаварунні, як Надзя, — раз плюнуць.

Хвалюецца былая паштарка Міруся Казакевіч. Бо ўпершыню вырашыў паўдзельнічаць у качанні пры засеяных палетках унук яе, спартовец-амбідэкстар Вадзька. Але не абы-як паўдзельнічаць, а конча ў хітоне і з капшуком на галаве ды маскаю на твары, бо голы саромеецца. Угаворвала Міруся з гэткім прычындаллем не вытыркацца, каб не разварушыць няўрокам залішняе цікавасці да гісторыі з нябожчыкам Сашкам Талалаем, — не хоча слухаць хлопец, упіраецца. Юня-зычлівіца падсунулася, параіла згадзіцца ўзамен на згоду ўнука качацца без апраткі на пераезд у горад, але Міруся адмовілася. Яшчэ чаго — на пераезд пагаджацца! Замест гэтага патэлефанавала ў горад Дыяне, каб пасобіла хлопца ўгаварыць. Тая паабяцала прыехаць і, мабыць, дзе-небудзь ужо ў дарозе. Дасць Бог, паможа ўгаварыць няўломка. Але гэта яшчэ невядома, якім бокам справа павернецца, бо сама ж гэная Дыяна добрая няўломак. Такую сукенку-карацюльку на голае цела ўспянцёрыць, гэтак расфарбуецца ўсімі колерамі вясёлкі, гэтак жалеззем абвешаецца, што, глядзі, усю ўвагу ад качальнікаў уваднечас на сябе перацягне.

Каму ж толькі кубел галаўнога болю ад падрыхтоўкі да заўтрашняга дня, дык гэта Юні Гук. Юрык Падгайскі адным з першых адгукнуўся на позву качацца, а ці мала якая прайдзісветка, вось хоць сабе тая ж Міруся, заявіцца ды і спакусіцца, дарма што не маладзён, на перспектыву займець статус гаспадыні ў хаце непітушчага, што вунь якая рэдкасць па сённяшнім часе, бабыля. Факт, спакусіцца, нездарма ж вунь як порсткапепрыязна на параду пераязджаць у горад да нявесткі адрэагавала.

Вось і клопат Юнэлі Тодараўне, вось і трывога. Хоць ты перад Танечкай падай ніц, прасі затрымаць старога жыгунчыка воддаль ад усяго гэтага вэрхалу. Калі таксама згодзіцца дзяўчына, бо сама быццам бы збіраецца прыехаць на каталцы пацешыцца з відовішча. Быццам бы апошні раз на каталцы прыедзе, бо надоечы ўвечары, як вярнулася дахаты з прагулянкі з Юрыкам па возеры на водным ровары, патэлефанавала ёй манашка Агня, паведаміла, што грошай на пратэзы ўжо сабрана дастаткова. Так дастаткова, што, мабыць, не толькі на пратэз, але і на спраўны крыж на бацькавай магілцы хопіць.

То як гэтак яно, дык нічога болей, як толькі спадзявацца на Хрыстулю, Юні і не застаецца. Хіба што яшчэ на іншае надзея: Сцяпан Муха, колішні фарсун бухгалтар з аўтабазы сёння ўранні аб'явіўся па тэлефоне, прапанаваў да яго ў суседні пасёлак, куды тры гады таму перасяліўся з Дварчанаў у лепшую хату, пераязджаць. Ды наўрад яна на такое пагодзіцца: перарабіцца пад заслону жыцця з Юні Гук у нейкую там Юню Муху, хай сабе і гаспадыню немаведама якога прыўкраснага жытла — ці той гэта цымус, на які надзею ў душы гэтулькі часу ўпотай спяліла?

І не толькі дварчанаўцы ў руху напярэдадні сяўбы лёну, не толькі пасёлак віруе, як віруе ў сагане даведзенае да кіпення варыва. Сам кіраўнік новаўтворанага холдынга «Льновалакно» Іван Кірылавіч Падзява, колішні старшыня мясцовай гаспадаркі, а цяпер галоўная асоба прамысловае галіны Паазер'я, у суправаджэнні дырэктара льнозавода Рамана Мандрыка, Юнінага свата, учора прыязджаў паглядзець, што тут ды як. Аб'ехаў на аўто падрыхтаваныя да пасеву палеткі,

памацаў на зуб насенне, распавёў тэлевізійшчыкам пра перспектывы вырошчвання даўгунца і кудраша ды адкрыццё алейнага цэха і, ашчасліўшы наастатак сейбітаў у меру строгім, у меру паблажлівым «Што ж, качайцеся сабе, толькі, глядзіце ўжо, надта не перастарайцеся, тут не Грэцыя вам горлы дзерці», пакінуў Дварчаны. Гэтак раптам занерваваўся Кірылавіч, гэтак заспяшаўся ад'язджаць, убачыўшы зводдалеку купку жанчын на чале з Мірусяй Казакевіч, што нават ад традыцыйнай пачосткі на дарожку адмовіўся. А сядаючы ў аўто, апроч таго, што зачапіўся крысом плашча за дзверцы і парваў кішэню, яшчэ і «забыўся», ці то незнарок, ці то — хутчэй за ўсё — сумысля, на сябра-хаўрусніка.

Раман Міледзевіч кінуўся даганяць машыну, каб ехаць з Падзявам разам ды, можа, распавесці таму па дарозе пра нядаўнія свае мроі-развагі наконт зязюлінага лёну, але дарэмна. Давялося выклікаць па тэлефоне свайго, ільнозаводаўскага кіроўцу. На шчасце, кіроўца прыехаў хутка, праз колькі хвілін. Што, аднак, прыкрага асадку ад падзявавай «забыўлівасці», то бок ягонага відавочнага жадання ў выпадку чаго перакласці на плечы і сумленне падначаленага адказнасць за наследаванне дварчанаўцаў спаконвечнай традыцыі продкаў раз на год выяўляць прылюдна свае эксгібіцыяніскія схільнасці, у душы Рамана Міледзевіча не зменшыла. Дык і пакідаў Раман Мандрык Дварчаны зусім не ў гуморы, нават, можна сказаць, з цяжкім сэрцам. Хоць, вядома ж, і не без каліва пэўнасці, што нагода давесці сябру-кіраўніку ўласнае меркаванне пра перавагі вырошчвання на тутэйшых палетках дзікае балацінная культуры ўсё-такі неўзабаве, не сёння, дык праз месяц, надарыцца.

Што да астатніх дварчанаўцаў, дык яны гумору-аптымізму не губляюць. Бо дакладна ведаюць: як на заўтра запланавана, так акурат усё і адбудзецца. Як заўсёды — і пяць, і пяцьдзясят, і сто год таму — было ў Дварчанах. Адно што не з сявенькай выйдуць яны на палеткі, як калісь далёкія іхнія прашчуры выходзілі, а пры найноўшай, днямі прыбылай наўпрост з завода і напярэдадні толькі апрабаванай тэхніцы. Кожны з іх адзначыцца ў дзеі, кожны прычыніцца да яе. Хто вартаўніком уначы пры мяхах з перавеенымм, падрыхтаваным да пасеву насёнам, хто кіроўцам пры сеялцы, хто стырнавым на трактары. Хто на адлегласці — пры кампутары з разлікамі выдаткаў і меркаванага прыбытку ад сяўбы ў ледзь збольшага абжытым офісе холдынга «Льновалакно». А хто і так сабе, збоку прыпёку, падгледачом пасля таго, як палеткі будуць засеяныя і пачнуць сейбіты дзеля задобрання нябёсаў качацца, паводле пракаветнай паганскай завядзёнкі, голымі па зямлі. Якая-ніякая, а і забава будзе для людзей, і нагода папераставрэквацца ды пажартаваць, складаючы з увагі на параметры прычыннага месца мужыкоў-качальнікаў шорт-ліст пераможцаў у адвечным негалосным спаборніцтве вяскоўцаў на лепшага гаспадара.

Не выключана, што, як летась пры гурках, і без якога-небудзь ліхадзея-прыблуды таксама падчас сяўбы не абыдзецца. Выскачыць няведама адкуль зарослае шчэццю п’янаватае страхоцце, насее паверх лёну няведама якога зелля, распаліць знашчанае жаночае ўяўленне памерамі прыхаванага складкамі хітона мужчынскага начыння ды і знікне бясследна ў заблытаных лабірынтах аналаў дварчанаўскае штодзёншчыны.

А падасца раптам разгарачаным відовішчам жанчынам-падглядачкам мала забавы — паскідаюць напрыканцы самі з целаў апратку ды і, апантаныя тае ж хвіліны зрынуць дазвання абрыдлы гегеманісцкі мужчынскі лозунг «Курыца не птушка, баба не чалавек», кінуцца на чале з учарашняй феміністкай Надзяй Гарагляд на злом галавы ў вір адвечнага, самім лёсам наканаванага дзейства. Але як іначай, калі гэтак здаўна шануюць у Дварчанах пару сяўбы лёну, калі гэтак прыязна, з гэткім піетэтам ставяцца тут спрадвеку, калі верыць хронікам ды занатаваным этнографамі расповедам відавочцаў, да гэтай шчодра апяянай паэтамі ды не меней шчодра палітай потам прашчураў, працаёмкай культуры? Ад аднае толькі назвы якой, ад аднае згадкі пра якую міжволі развінаюцца, шырэюць-лагодзяцца ва ўсмешках вусны старых і малых дварчанаўцаў, як шырэе-лагодзіцца ўвесну натоленае хоць і каламутнымі, хоць і не так ужо ўсцешнымі для вока, ды ўсё ж новымі водамі поўнае глыбокіх віроў і неспадзеўных перападаў доннага рэльефу возера.

Дык менавіта так, мабыць, як апавядаюць шматлікія старыя хронікі і этнографы, як было адвеку, і будзе заўтра ў паазерскіх Дварчанах. Але гэта — калі пераймацца звесткамі з хронік ды розных этнаграфічных вышукаў напавер. Бо здараецца ж, што збітыя з панталыку цьмянымі дзеямі сучаснікаў хронікі ды відавочцы з этнографамі таксама — незнарок ці, можа, часам і наўмысна — хлусяць.

1

Тэлефон Клімовічаў адазваўся за трэцім разам — натужліва, перарывіста і разам з тым неяк надта глуха, як з падпола. «Ну, нарэшце... Каб жа толькі не Павел», — падумала Нана і шчытней, быццам ад гэтага магло залежаць, хто на тым канцы правадў падасць голас, сястра або швагер, прыціснула слухаўку да вуха. Паўла Клімовіча, мужа сястры Алы, яна недалюблівала даўно — не ў апошнюю чаргу з-за падцвельванняў з яе нетутэйшага, грузінскага імя і тутэйшай мовы, якую ён, сам найтутэйшы з тутэйшых, чамусьці цярпець не можа, а апошнім часам, пасля крывавых падзей ва Украіне, дзе Нана з сястрою і маці калісьці, год трыццаць таму, аселі

пасля Зугдзідзі перад вяртаннем на радзіму, і наогул інакш як бандэраўскай не называе. І хаця пасля некалькіх даволі жорсткіх перапалак на гэты конт дамовіліся рызыкоўнай тэмы больш не кранаць, яна ўсё адно ў гамане на хвалі эмоцый калі-нікалі і вытыркнецца, джгне ў глузды асцюком узаемнага неразумення.

Але асабліва ўзмацнілася непрыязнасць Наны да швагра пасля таго, як ён паспрабаваў чапляцца да яе падчас другой цяжарнасці жонкі. Нана па-сваяцку ўзахвоцілася тады памагчы яму па гаспадарцы, пакуль Ала знаходзілася ў лякарні, а ён не доўга думаючы і распусціў рукі. Меркаваў, напэўна, што калі яна афіцыйна не замужняя, жыве з Раманам у грамадзянскім шлюбе, дык і на ягоныя дурныя заляцанкі-дамаганкі паквапіцца. Аж пакуль не зарабіў аднаго разу каленам у пахвіну, увайшоўшы да яе позна ўвечары ў пакой пасля ванны амаль што голы, з вузкім пасам ручніка вакол цяглістых, зарослых валоссем сцёгнаў. Назаляць, праўда, ад тае пары перастаў, але прыкры асадак у яе ў душы, хоць сястры пра тое ні словам не абмовілася, застаўся.

Можа, і дарэмна яна тады нічога Але не сказала. Ды Бог ведае, як яно насамрэч лепш. Яны пасварацца, пару з іртоў выпусцяць, пасля ўваднначас паміраццa, а ты ў дурнях, без віны вінаватая авечка, застанешся — вядомая гісторыя. А што да Алы, дык не сляпая, дзякуй Богу, і без яе сястрынскае падказкі пра мужыковы шуры-муры неяк дала рады дазнацца. І чым усё скончылася? Пабілася колькі дзён маладзіца ў істэрыцы, падзьмулася, палемантавала, паенчыла, узняла сабе ды ўсім наўкола нервы, а потым

і даравала любаму здрайцу, быццам нічога і не здарылася. А можа, толькі выгляд зрабіла, што даравала: жанчыне адной з дваімі дзецьмі застацца — вядома ж, не мёд. Тым больш, калі мужык не п'яніца і не абібок, наадварот, спраўны гаспадар: усё дзеля сям'і, усё ў хату. Зрэшты, гэтае *ў хату ўсё* — таксама як на чый густ. Добра, як абое сужэнкі аднае пожні зёлкі, падобныя. Тады — канечне, добра. А, напрыклад, ёй, Нане, на гаспадарчых клопатах надта не зацыкленай, які б увішны ды цвярозы ні быў заўсёды Павел, аддаць яму перавагу перад легкадумным прыхільнікам чаркі Раманам і ў галаў бы ніколі не прыйшло.

Голас на провадзе, да радасці яе, аказаўся не Паўлаў.

— Відаць, на лініі нейкая няспраўнасць. Званок чую, а здыму слухаўку — каб табе гук у адказ. — Акуратыстка Ала, аднадумца мужа ў стаўленні да мовы — ці не адзінае, у чым яны з Паўлам хоць збольшага заўжды салідарныя, — гаварыла ціха, але выразна, старанна вымаўляючы кожнае слова, як школьніца, што чытае па паперцы падрыхтаванае да ўрока хатняе заданне.

— Дык датэлефанавалася таму дзядзьку, Станіславу Міхайлавічу? Не?

— Мікалаевічу, — паправіла сястру Нана. — Станіслаў Мікалаевіч ён, а не Міхайлавіч... Так, датэлефанавалася.

— І што ён сказаў?

— Нічога. Неяк дзіўна ўсё... Жанчына адказала. Мяркуючы па голасе, зусім маладая. Дачка, можа, ягоная ці ўнучка. Спачатку сказала, што пакліча яго. Затым, праз пару хвілін, — што няма яго дома і што яна не ведае нават, калі ён

вернецца. А потым і наогул пачала штосьці заікацца ды блытацца ў словах, неўпапад адказваць. Такое ўражанне было ў мяне падчас размовы, быццам хтосьці побач з ёю стаіць і нашэптвае, *што* адказваць, а яна ніяк не дасць рады дачуцца ды як след у тых падказках сарыентавацца...

— А можа, ты сама памылілася нумарам? Не? Паглядзі яшчэ ўважліва.

— Ды не. Калі б памылілася, то навошта б тады было ёй, той дзеўцы, казаць напачатку, што пакліча яго? Я ж імя назвала — Станіслаў Мікалаевіч... Была б памылка — яна сказала б, што няма такога. Не-не, штосьці там не так. Сама падумай: напрасіўся ні з таго ні з сяго на знаёмства, а цяпер пачынае круціць духамі. Быццам І хочацца яму, бач, пагаманіць, і колецца...

— Заінтрыгаваў, аднак, гэты старэча... Ну дык што, яшчэ патэлефануеш, можа, яму?

— Мабыць, патэлефаную. — Нана хвіліну памаўчала. — Але не сёння ўжо. Хіба што з раніцы заўтра паспрабую. А дзясятай, можа, ці крыху пазней. Трэба ж давесці справу да канца, каб потым, як раптам што, не муляла. А не захоча зноў гаварыць — няхай, яго справа, не мы першыя да яго звярнуліся...

— Добра. А я табе неўзабаве пасля таго, як з ім стыкуешся, прыкладна а адзінаццатай, бомкну. Раскажаш, што ды як. Цікава ж усё-такі... Калі раптам зноў, як сёння, якія непярэліўкі з тэлефонам здарацца, сама мяне набяры. Чуеш? Абавязкова. Буду чакаць. Ад Паўла і хлопцаў табе прывітанне.

— Дзякуй, як яны?

— Добра, што ім зробіцца... Паелі ды сядзяць вунь пры тэлевізары, фільм нейкі пра серыйныя

забойствы глядзяць. За вушы, што бацьку, што сыноў, ад скрыні не адцягнуць. Аж млеюць усе трое ад задавальнення, на тыя жахі гледзячы. Папрасіла суцішыць гук — нават не схамянуўся ніводзін. Ну, дабранач!

— Дабранач! — Нана паклала слухаўку, змахнула мімаходзь далонёю з ісподу апарата павуцініну, якую заўважыла яшчэ надоечы, але ўсё забывалася, растузаная хатнімі клопатамі ды думкамі пра таемнага Станіслава Мікалаевіча, прыбраць, пайшла ў залу.

У зале было прахалодна і неяк няўтульна. «Мабыць з-за гардзінаў гэтых новых, шэры колер ёсць шэры, дарэмна не паслухала прадавачкі і тыя весялейшыя бэжавыя фіранкі понізу яшчэ прычапіць не купіла», — падумала Нана і схілілася ў задуменні перад кампутарам. Адчыніла паштовую скрыню, прабегла збольшага вачыма па тэксце першага ліста ад Станіслава Мікалаевіча.

Вось з яго, уласна, з гэтага ліста, усё і пачалося. Хаця не — пачалося раней, у той вечар месяц таму, калі патэлефанавала ёй прыяцелька з працы, сказала, быццам праз сацыяльныя сеткі яе або Алы адрас расшуквае нейкі мужчына — ці то сваяк, ці то знаёмы іх маці.

Гэта было дзіўна, бо ні пра якіх сваякоў, ні пра знаёмых нябожчыца маці, Ксеня, жанчына даволі лагодная і разам з тым валявая, а то нават часам і вунь як спарудліва-непрыступная, пакуль была жывая, ім з Алаю ніколі нічога не казала. Больш за тое, наогул не любіла пра іх згадваць і злавалася, калі гэта рабіў хто іншы. Варта было каторай з дачок хоць бы і незнарок

зачапіць у размове тэму сваяцтва, як яна тут жа замыкалася ў сабе ды змаўкала так надоўга, што, здавалася, да скону ўжо так і будзе хадзіць маўчком. Канечне, з часам мякчэла, адпускалася, але колькі перажыванняў, колькі непрыемных хвілін ім, сёстрам-падлеткам, усё тое матчына зацятае, незразумелае маўчанне каштавала!

Што яна ад іх хавала? Якую таямніцу гэтак зацята аберагала, што нават дочкам, якіх, безумоўна, любіла, хоць надта, праўда, і не песціла, не палічыла мажлівым яе даверыць? Даходзіла ж часам і да кур'ёзаў. Неяк аднаго разу ў школе абвясцілі для вучняў конкурс на лепшы радавод. Дык рэакцыя маці на іх з Алаю намер скласці свой аказалася такою непрыязнаю, што і вокам яны не паспелі міргнуць, як падрыхтаваны для запісаў яе меркаванага расповеду пра продкаў нататнік куляю паляцеў у сметніцу.

Гэтаксама нервова ставілася яна і да іх роспытаў пра бацьку. «Яго няма», — адказвала штоазу і, даючы знаць, што размова скончана і працягваць яе не мае сэнсу, строга падціснала тонкія свае, у нітачку, вусны. Такі адказ іх, канечне ж, не задавальняў. Аднак гучаў ён так няўмольна і разам з тым так пераканаўча, што іншага выйсця, як хаця б дзеля выгляду даць веры, што ўсё сказанае Ксеняй — праўда, ды зміріцца з тою праўдай, у іх не заставалася. І што цікава, між іншым, — змірыцца без уласцівага гэткага кшталту сітуацыям пачуцця крыўды ці пратэсту, а наадварот — з інтуітыўным, падсвядомым адчуваннем таго, што калі маці гэтак робіць, то гэтак і след, бо робіць яна тое не з прыхамаці, а адзіна дзеля іх жа, дачок, дабра.

Калі праз нейкі час, значна ўжо пазней, па сканчэнні школы, яны ўсё-такі паманулiся ўзнавіць размову, яна абарвала іх імпэт яшчэ больш рашуча, і ад таго часу яны ўжо да тэмы пра бацьку пры ёй наогул не вярталіся. Пагаманіць міжсобку, ціха, употай ад Ксені — гэта колькі душа пажадае, але толькі не ў яе прысутнасці. Гэтак яны і рабілі, міжволі прыходзячы з узростам да высновы, што, мабыць, не слаба ж ён, бацька іх, чымсьці жанчыну пакрыўдзіў, калі нават і слухаць пра яго не жадае. Ці, наадварот, можа, яна яго пакрыўдзіла. І так здараецца. Мужчыны — стварэнні крыўдлівыя. Не ўсе, вядома, але ж многія, многія... Не дагадзіла жонка, той жа чаркі, скажам, не наліла дзеля пахмелля ці яшчэ чым абдзяліла — і адыходзіць чалавек у прочкі, і прачкаванне тое часам на ўсё жыццё зацягваецца. Так і сканае бядак дзе-небудзь наводшыбе ад сям'і, ўласнага дзіцяці як след не пабачыўшы ды голасу ягонага не пачуўшы.

І вось — іх з сястрою расшукваюць.

Першае, што прыйшло ў той вечар Нане ў галаў, — ці не бацька гэта іх шукае? Між іншым, і пра Рамана таксама яна тады мімаходзь узгадала: ці не пажартаваў гэта ён з бадуна, папрасіўшы каго-небудзь падаць запыт на росшук? Тры гады, як разышліся-разбегліся з ім, а колькі нерваў за гэты час выцягнуў, не даючы праходу, даймаючы просьбамі пачаць усё нанова. Урэшце, збітая з тропу нечаканасцю, яна надыктавала-такі прыяцельцы свой электронны адрас, і тая даслала яго незнаёмцу. І зусім хутка, літаральна на наступны дзень, Нана і атрымала ад яго вось гэты допіс.

Адстаронена-ветлівы — ні намёку на эмоцыю — ліст, бездакорна ўважны, сухаваты і крыху быццам нясмелы, як першы роспіс Дзеда Мароза на не аб'інелай дарэшты на пачатку зімы шыбіне. Яго прозвішча Парфянок, зваць Станіслаў Мікалаевіч. Ён добра ведаў іх маці, шмат год з ёю ліставаўся і цяпер, калі яе ўжо няма, хацеў бы наладзіць хаця б якую-ніякую сувязь з яе дочкамі. Калі яны, вядома, не супраць. Яму сёмы дзясятак, у такім узросце спадзявацца ў стасунках з людзьмі на *ўзаемную* (гэтае слова так і было ў лісце пададзена — курсівам) зацікаўленасць — справа марная, але гэта для яго не галоўнае. Адпішуць яны яму — будзе рады, а не пажадаюць адпісаць — іх воля. Ні хто ён ды адкуль, ні пра акалічнасці знаёмства з маці ў лісце не было ні слова. Некалькі фраз, пажаданне добрага здароўя напрыканцы — і ўсё.

Параіўшыся па тэлефоне з сястрой, Нана ў той жа дзень Станіславу Мікалаевічу на ягоны электронны адрас адпісала. Папрасіла распавесці больш падрабязна пра сябе і пра тое, што лучыла яго з маці. З'яўлялася хоць нейкая мажлівасць натрапіць на след у мінулае нябожчыцы Ксені, а праз тое — і ва ўласнае, і не скарыстацца ёю, адзінадушна вырашылі яны з Алаю, было б неразумна.

А рэшту таго дня Нана прабавіла ў пошуках згаданых старым лістоў да маці. Перагартала ўсе сямейныя альбомы, перашнарыла ва ўсіх шафачках ды шуфлядках і паліцах, але так нічога і не знайшла. Розных допісаў, тэлеграм, паштовак было ўсюды ў доме аж зашмат, а вось хоць бы маленечкай цыдулы ад чалавека па прозвішчы Парфянок — ані блізка.

Станіслаў Мікалаевіч зноў напісаў ёй праз тыдзень. Але яшчэ больш коратка і суха, чым мінулы раз, нейк нават быццам нехаця, праз сілу. Пытанне пра абставіны знаёмства з маці дыпламатычна абмінуў, пра сябе паведаміў тое, што і з папярэдняга ліста вынікала, толькі іншымі словамі. Адзінае, што новага было ў допісе, дык гэта намёк аб спадзеве на сустрэчу ў будучыні. І яшчэ — просьба даслаць нумар хатняга тэлефона. Свайго ці *А*лінага — яму без розніцы, галоўнае правільна напісаць код горада, бо з кодамі заўсёды ў яго, маўляў, непаразуменні. Мабільнікам ён таксама, канечне ж, карыстаецца, але гаманіць з хатняга — і ўтульней нейк, і больш для яго, старога чалавека, звыкла.

2

Станіслаў Мікалаевіч расплюшчыў вочы, прыслухаўся. На двары было зусім ціха і, відаць па ўсім, і бязветрана. Гэта яго ўзрадавала: нарэшце можна будзе на колькі хвілін, а то і на якую гадзіну выйсці з дому, зрабіць, як кажа Зіна, кватарантка, ранішні праменад. Толькі б не зблытала картаў, не разгулялася, як учора надвячоркам, калена і не даў аб сабе знаць, не схібіў недарэчы матор — сэрца. Шнарамі яно там ужо, халера, дарэшты пабілася, што гэткім болем раз-пораз у грудзях абзываецца і, як на злосць, у самы ж нязручны момант? Варта чаму іншаму, прастаце гэтай мярзотнай, да прыкладу, ці калену, ці яшчэ чаму хоць крыху абвастрыцца, як і яно, аслабленае леташнім інфарктам, адразу ж пра сябе нагадвае.

З Зінінага пакоя не даносілася ні гуку — відаць, дзяўчына яшчэ спала. А можа, толькі выгляд рабіла, што спіць: у драбку далікатнасці ёй, рудавалосай гэтай, хуткай на нагу і вострай на язык, грубаватай гаварунні Зіне ўсё-такі, як ні круці, не адмовіш. Хоць з выгляду пра тое і не скажаш. Дзеўка відавочна не з ліку тых, што, трапіўшы неўспадзеў у глухі, поўны ваўкоў лес, разрумзаецца, сядзе ў роспачы пад хвояй і будзе пакорліва чакаць выраку лёсу. Такая хутчэй усю поўсць на тых ваўках павыдзірае, чым свой хоць адзін волас дазволіць ім з галавы выскубнуць. Ды ён, Станіслаў Мікалаевіч Парфянок, дастаткова пажыў на свеце, дастаткова нагледзеўся і на распусных людцаў, і на ўспыхлівых, і на рахманых, каб не ведаць, што меркаваць аб характары чалавека толькі паводле нейкіх знешніх яго праяваў — справа ненадзейная.

Ён падняўся з ложка, чапляючыся рукой за сцяну, пасунуўся да прыбіральні. Ішоў як мага цішэй: спраўляць раніцой малую патрэбу апошнім часам стала надта балюча, а хоць які сведка *такой* старэчай нямогласці для мужчыны, які ўсё жыццё пражыў адзінотнікам і пускаць староннiх у свае асабістыя, інтымныя справы не прывык, — пакута яшчэ тая. Тым больш, калі гэты сведка — дзяўчына дваццаці год, як Зіна. Не дзіва, што з усіх нязручнасцяў, якія ўзнікаюць у абставінах сумеснага жыцця чужых, да таго ж мала знаёмых і рознага ўзросту, як яны з Зінай, людзей, цяпер, калі вось так усур'ёз занямог, менавіта гэтая — неабходнасць карыстацца адною прыбіральняй з кімсьці, — сталася для яго ці не самай вялікай. Быў бы то мужчына, а не Зіна гэтая, усё нашмат прасцей, канеч-

не, вырашалася б. Бо з чым да мужыка звярнуцца не пасаромеешся, перад дзяўчынаю і не заікнешся нават.

То, можа, і не варта было яму ўсё-такі паддавацца Зіне, адмаўляць таму выпівоху, што месяца паўтара таму прыязджаў на ровары, набіваўся ў кватаранты-памочнікі. Сам бы ён, напэўна, не адмовіўся, але ж Зіна... Вочы дзеўка гэтак вырачыла, бровы так пагрозліва да пераносся ссунула, пачуўшы іхнюю размову пра кватаранства, што бядак той і развітацца нават, збягаючы, забыўся. Так хуценька знік на сваім ровары ў суседнім завулку, што ён, Станіслаў Мікалаевіч, і імя спытаць у дзецюка не паспеў.

Але, што праўда, і на Зініну прысутнасць яму асабліва наракаць не выпадае, якраз наадварот. Тым больш, што дзяўчына з’явілася ў гэтым доме куды раней за яго самога. Перайшла, так бы мовіць, яму ў спадчыну ад ранейшай гаспадыні, у якой кватаравала, прыехаўшы пасля вучобы ў медвучэльні працаваць па размеркаванні ў раённую лякарню. Гаспадыня памерла, сын яе і нявестка выставілі будынак на продаж, пакінуўшы Зіну да часу за ім прыглядаць, пакуль хто не купіць. Дамок неўзабаве трапіў на вочы Станіславу Мікалаевічу, і калі ён на пачатку лета ў яго пераехаў, дзеўка так пры ім і засталася.

Заставалася быццам на пару дзён, пакуль не падшукае сталае кватэры, а ў выніку аж во на колькі месяцаў затрымалася. І, хутчэй за ўсё, затрымаецца ўжо і надалей. Ва ўсялякім разе апошнім часам размовы пра пошук іншага, больш выгоднага жытла не распачынае. Яму ж, відаць, сам Бог пасобіў, паслаўшы ў кватаранткі

гэтую няўрымслівую, дасціпную, часам аж занадта, Зіну: і весялей удваіх, і сняданак ды абед калі-нікалі пад настрой згатуе. І калі раптам што якое ў плане здароўя з ім здарыцца — медык заўсёды побач. А калі яшчэ ўлічыць, што характар ягоны таксама далёка не мёд, бомба, а не характар, дык і слова благое яму супраць дзяўчыны, якая б ні была яна, грэх казаць.

Новае месца жыхарства ён выбраў не выпадкова. Але не таму, што тут найбольш яму, ураджэнцу сярэдзінных памяркоўных шыротаў, падыходзіў клімат ці так ужо пасавалі, цешылі вока тутэйшыя краявіды. За некароткі працоўны век якіх толькі краявідаў ён ні наглядзеўся, у якія толькі закуткі, часам і вунь як ад звыклых жыццёвых стандартаў далёкія, да жыцця непрыдатныя, ні даводзілася яму трапляць. І ўсюды ж неяк прыжываўся, прыстасоўваўся, даваў сабе рады фізічна ды духоўна не апусціцца, не стаць бездапаможным закладнікам лёсу. Цяслярыць не ўмеў па маладосці — навучыўся. Мыць бялізну не меў уяўлення — налаўчыўся. Каніны змалку на смак не ведаў, кумысу не піў — прымусіў сябе падчас працы ў стэпах, куды трапіў па размеркаванні пасля тэхнікума, адно і другое есці-піць, і спраўна так, што пару разоў толькі ад ежы той і пітва зайшоўся з непрывычкі млосцю ды ледзь не званітаваў. Словам, шмат што адолеў. А галоўнае — да высновы, што як бы кепска ні было, якія б пасткі чалавека дзе ні падчэквалі, усё трэба неяк змагчы, уласным розумам, а не праз трактаты якія вучоныя ці чужы досвед дапаў.

Не, не спрыяльнага клімату і не адметных краявідаў ён, канечне, тут, у гэтым гарадку,

шукаў. Іншы інтарэс перапследаваў. І быў ён, той інтарэс, зусім на першы погляд будзённы і празаічны: дажыць у пэўнасці, што не давядзецца ляжаць па сконе ў адзіноце, не ператварыцца ў мумію да радасці асмялелага пацучча, не зрабіцца аб'ектам плётак для аматараў папаласкаць прамінулаю датай чужую бялізну.

Ахвотнікі пра чужое гаварыць заўсёды адшукаюцца, і хоць наракаць на іх — пустое, бо такая прырода чалавечая, яму цяпер, напрыканцы жыцця, такая ўвага да сябе менш за ўсё была б дарэчы. Зрэшты, то адзін з інтарэсаў, быў і ёсць і другі, не менш істотны ды паважны. Калі нагул не галоўны.

Праўда, клімат тут неблагі. І гарадок нішто сабе, хоць і зусім невялічкі, за пару гадзін лёгка ўвесь наўкола пехатою абыдзеш. Хутчэй нават пасёлак гэта, чым горад, з выгляду, аднак, даволі прыстойны. З паўдзясятка крамаў, царква, касцёл, пошта, банк, лазня, іншыя не менш вартыя ўвагі даброты цывілізацыі. Як і паўсюль — мэр, рухлівы, абыходлівы, асабліва, калі датычыць справы ўладкавання ўласнага дабрабыту, дзядзька з неабдымнаю кронаю сваяцтва ў радаводзе. Як і ў большасці невялікіх населеных пунктаў гэткага кшталту — пара прадпрымальнікаў мясцовае гадоўлі ў асобах мэравага ж сына і ягонай жонкі, чэпкай, не без прэтэнзіі на элеганцкасць, дарма што правінцыялка, бізнес-вумэн, уладальніцы прыватнай аптэкі і шапіка па продажы напояў. Але не гэта галоўнае.

Галоўнае для Станіслава Мікалаевіча — за сотню вёрстаў адсюль, у гэткім жа заштатным, як і гэты вось, гарадку, з гэткімі ж, мабыць, кліматам, краявідам, лазняю і мэрам ды параю

бізнесоўцаў, куды і наважыўся ён урэшце днямі напісаць. І не толькі напісаць, а нават, пераадолеўшы заўсёдную сваю, узрослую на грунце шматгадовага добраахвотнага адзінотніцтва і наўмыснае адстароненасці ад людзей перасцярогу быць кімсьці пазнаным, напрасіцца на тэлефонныя стасункі.

У прыбіральні ён прабыў хвілін дваццаць. А калі, збольшага прыбраўшы ўсё за сабою ды сяктак прыладзіўшы ў роце цеснаваты новы зубны пратэз, вярнуўся ў калідор, Зіна ўжо ваўсю шчыравала ў кухні, гатавала штосьці на сняданак.

— Не збягайце, зараз есці будзем, — сказала порстка і нават крыху быццам з выклікам, дастаючы з шафкі і ставячы на стол талеркі ды раскладваючы абапал іх ножыкі і відэльцы. Сама яна карыстацца ўсім гэтым інтэлігенцкім сталовым начыннем не любіла і, відаць, не вельмі і ўмела, але парушаць завядзёнку гаспадара не адважвалася: Станіслаў Мікалаевіч ставіўся да такіх рэчаў вельмі строга. Як на яе, Зіны, інтэлігенткі ў першым калене, погляд, дык і занадта ўжо строга, можа, так і не варта было б. — Вось... Сядайце. Сёння яечня ў нас... З кропам і цыбуляй.

— Ну, не штодня ж трусяцінай ды чырванарыбіцай нам ласавацца, — весела намякаючы на святочны абед тыднёвае даўніны з нагоды шумнага Зінінага дня народзінаў, сказаў Станіслаў Мікалаевіч і паслухмяна сеў да стала. Цыбулі ён наогул, а тым больш зранку, не любіў, але псаваць сабе і дзяўчыне настрой з-за такой дробязі не палічыў патрэбным: цыбуля дык цыбуля, такой бяды...

— Чаму ты Зіна? — спытаў нечакана для самога сябе і, быццам агаломшаны нечаканым прыступам уласнае цікаўнасці ды заклапочаны тым, як будзе яна ўспрынята кватаранткай, хуценька, скорагаворкаю, дадаў: — Усе Дар'і наўкола, Настассі, Каці, Хрысціны, а ты — Зіна. У гонар якой-небудзь стаханаўкі мінулага стагоддзя, ці што, так цябе назвалі? Неяк жа зусім нямодна па сённяшнім часе.

— Якой яшчэ ста... стаханаўкі? — пырснула ў кулак дзяўчына. — Ну, скажаце вось, аж не даразумецца вас... Такое імя, бо бацькі яго далі. Не сама ж я сабе выбірала. Падумаеш — нямодна! А па-вашаму, якая-небудзь Капа ці Ліпа мадней было б?

Станіслаў Мікалаевіч пакратаў рукою шчаку, нягучна, быццам перасцерагаючыся, каб раптам не вываліўся з роту падчас гаманы пратэз, сказаў:

— Ну, хай бы сабе і Капа была. Або Ліпа. Капіталіна, Алімпіяда — як гучыць... Грунтоўна, манументальна. А во Ала яшчэ — чым благое імя? Праўда? Падабаецца? А то — Зіна... Зі-на... Аж холадна ад яго...

— Ну, вось, і скрытыкавалі мяне... Імя як імя, — сказала Зіна і спрытна перавяла размову на іншае: — Ліст сёння будзеце той жанчыне адпісваць? А то надта ж няёмка ўчора атрымалася падчас яе тэлефанавання. Непрыгожа нават. Зусім, да вашага ведама, пане-гападару, непрыгожа. Мяне падманваць змусілі. Не хацелі гаварыць з кабецінай — так бы адразу і сказалі. Ну ж, Станіслаў Мікалаевіч! І што гэта з вамі? Што за паводзіны?

— Не, сёння не буду, — сумысля ігнаруючы другую частку запытання, нечакана зласліва,

быццам гэта зусім не яму, а менавіта ёй, Зіне, павінен абыходзіць той меркаваны ліст, выгукнуў ён з раздражненнем у голасе.

— Чаму?

Станіслаў Мікалаевіч хвіліну памаўчаў.

— А таму, што не зразумею, мабыць, нічога з таго, што яна напіша зноў у адказ па-свойму, па-тутэйшаму, вось чаму, — сказаў як мага больш катэгарычна і падчапіў відэльцам шматок яечні.

— Вы? Не зразумееце? — не дала веры Зіна. — Трусяціну трусяцінай называеце — ад зубоў слова адскоквае, а ўжо ліст на мове зразумець рады не дасце? Смех дый годзе! Такі прасунуты, сучасны мужчына, а такое на сябе нагаворваеце!

Праменад скончыўся вельмі хутка, бо неба раптам схмылілася і пайшоў дождж. Станіслаў Мікалаевіч так недалёка паспеў адысціся ад дома, што амаль не змок пад ім і хвілін праз пяць па вяртанні з прагулянкі ўжо сядзеў, сухі і бадзёры, на верандзе. Гартаў газету ды слухаў, як Зіна гамоніць з некім па тэлефоне. Па таропкасці яе мовы і па тым, як суцішвае яна час ад часу амаль да шэпту голас ды раз-пораз вызірае з заклапочаным, загадкавым выглядам у калідор, няцяжка было здагадацца, што гамоніць дзеўка з кімсьці староннім і сведкаў размовы мець відавочна не жадае. Двойчы, падалося Станіславу Мікалаевічу, праслізнула ў размове і ягонае імя, але прамаўлялася яно пры гэтым так перасцярожліва-прытоена, што ніякай пэўнасці, ці так гэта насамрэч, ці толькі яму здалося, што пра яго згадвалі, быць не магло.

Зіна скончыла размову, ускінула на плечы плашч, неяк похапкам, няўважна, у адрозненне ад мінулых разоў, развітаўшыся з Станіславам Мікалаевічам, пабегла з хаты. Сёння ёй дзяжурыць у аддзяленні ў начную змену, а гэта значыць, што вернецца яна дадому толькі назаўтра ўранні, не раней восьмай. А яшчэ тое, што бавіць рэшту дня і вечар яму, Станіславу Мікалаевічу, на жаль, зноў давядзецца ў самоце.

Ён адсунуў убок газету, пайшоў у калідор. Успомніў, што ўчора звечара планаваў памыць сёе-тое з бялізны, памкнуўся да прыбіральні, але тут жа і перадумаў. Звыклы да завядзёнкі ніколі, ні пры якіх, нават самых форс-мажорных абставінах не блытаць уласных планаў, апошнім часам ён усё часцей лавіў сябе чамусьці менавіта на такім жаданні — рабіць насуперак планам. І гэта, надзіва, зусім яго і не бянтэжыла, і не засмучала, і не выбівала, як раней, з каляіны. Наадварот, нават быццам дадавала дзелавітасці і ўпэўненасці. Ён пастаяў у задуменні колькі хвілін перад дзвярыма пакоя, пасунуўся да стала з кампутарам. Машынальна, звыклым жэстам торкнуў штэкер у разетку, застыў у чаканні, пакуль засвеціцца экран манітора.

Кампутарам ён, не ў прыклад большасці старых, авалодаў і даволі хутка, і без асаблівай напругі. Хоць і вучыўся нязвыклай, новай справе галоўным чынам самастойна, похапкам, у вольны ад працы (тады яшчэ падпрацоўваў крыху тэхнолагам на цэментным заводзе) час, засвоіў усю гэтую лічбава-літарную прамудрасць досыць прыстойна. Апроч рамонту і наладкі апарата, канечне, бо гэта ўжо, так бы мовіць, вышэйшы пілатаж, для ягоных старэчых, пато-

чаных шашалем часу і жыццёвых непамыснотаў ды сюрпрызаў лёсу мазгоў недасягальны. Але і засвоенага яму дастаткова. Ва ўсялякім разе, каб напісаць ды адправіць ліст ці пачытаць навіны, звяртацца да кагосьці па дапамогу не трэба. А калі надарыцца які збой у сістэме, то цяпер вось кватарантка Зіна, дзеўка адукаваная, дасведчаная, паможа даць рады.

То, можа, і дасылаць Нане нумар тэлефона было не варта? Дурасць, канечне, учыніў, як след не падумаўшы. Бо адна справа пісаць ліст, дзе заўсёды застаецца магчымасць абысці тое, што пісаць не жадаеш, і зусім іншая — тэлефонная размова. Там ужо не схітруеш, бо калі пытанне ставіцца, на яго хочаш не хочаш трэба наўпрост адказваць. Не будзеш жа віцца вужакай, вачавідзь хлусіць, як учора вунь давялося падчас Нанінага тэлефанавання. Такі манеўр адразу будзе суразмоўцам заўважаны і, канечне ж, належным чынам ацэнены.

Дык, можа, напісаць Нане зноў? Але што? Што ён сочыць за імі амаль ад іх нараджэння і ведае пра ўсе іх з маткаю вандроўкі па свеце не горш за іх саміх? Што імя Нана яго ані не здзіўляе, бо такія акурат і даюць у Грузіі, дзе яна нарадзілася і дзе дзяўчаты жылі з Ксеняй аж ці не дзесяць год? І што імя старэйшай сястры — Ала — зусім не даніна тадышняй модзе, як, напэўна, некаторыя думаюць, а ўсяго толькі наіўнае жаданне маці дзяўчынкі пакінуць для сябе пры сэрцы хоць кавалачак, хоць драбок мінулага, бо менавіта так звалі яе, Ксені, дачасна спачылую маці?

А вось што яшчэ не варта яму, бадай, ніколі рабіць, дык гэта тое мінулае прылюдна кранаць, як зрабіў гэта неабачліва падчас сняданку, пад-

даўшыся эмоцыі ды прамовіўшы ў прысутнасці Зіны імя старэйшай з пляменніц. Ці мала як яно ў будучыні павернецца, якім бокам, і ці не прынясе дзеўкам толькі лішні клопат. Гэтулькі год прамаўчаўшы, рызыкаваць на схіле дзён усім, чым таму мусоваму маўчанню абавязаны — і неразумна ў ягоным узросце, і недаравальна. Што да далейшых стасункаў з дзяўчатамі, то, безумоўна, як ні круці, ліст напісаць — лепш за тэлефанаванне.

Ён падключыў кампутар, націснуў кнопку ўваходу ў сеціва. Але толькі паспеў увайсці на хатнюю старонку, як азваўся тэлефон. «Мабыць, Зіна», — падумаў, пераадольваючы боль у суставе, падняўся з месца, каб адказаць.

Голас быў не вельмі выразны, але яму і аднаой кароткай рэплікі жанчыны было дастатковa, каб узнавіць у памяці характэрны, з лёгкім, ледзь улоўным прыдыхам тэмбр голаса Ксені.

— Станіслаў Мікалаевіч? Вы? Я Нана Шчарбіцкая... Вы пісалі мне... А ўчора я вам тэлефанавала ды не заспела вас дома...

— Нана, — паўтарыў ён і на хвіліну замоўк у няўцямным здранцвенні. — Нана Шчарбіцкая... Канечне. А я, ці паверыце, якраз збіраўся вам зноў напісаць. Калі вы не супраць, вядома...

— Не супраць. Але ж мы маглі б і вось так, па тэлефоне, пагаварыць. Прабачце, я не зусім разумею, што вы хочаце. Усё гэта неяк... нечаканадзеўна і... незразумела. Я ўжо і з сястрою раілася, што б гэта магло значыць...

— Раіліся з Алаю? — перапытаў ён і, не даючы Нане часу ачомацца ад здзіўлення, што ён не толькі яе, але і сястры імя ведае, хуценька дадаў: — Нічога не бойцеся.

павінна была разам з Раманам вярнуцца дадому, таму прапаноўвала, каб не марнаваць дарэмна часу, адразу ж і выправіцца ў ягоны гарадок. І зноў, як і напярэдадні, узгадала пра Зіну.

— А калі не пажадае тая дзеўка з намі сустракацца, што тады? — не жадаючы акунацца нанова ў справу і разам з тым і не маючы ахвоты дарэшты адпрэчваць ініцыятыву сястры, слаба запратэставала Ала.

— Ну, не думаю, што так будзе. Быццам мы ворагі ёй якія... А не пажадае, сапраўды, — з суседзямі можна пагаманіць. Ці афіцыйна ў той жа тамтэйшы пашпартны стол, у рэшце рэшт, звярнуцца. Тым больш, што па пасведчанне аб смерці ўсё адно дзеля атрымання грошай трэба будзе кудысьці звяртацца. Вось разам і якія-ніякія ягоныя дакументы, магчыма, адшукаюцца. Быць такога не можа, каб нічога ад чалавека не засталося...

Па настойлівасці, з якою гаварыла Нана, было зразумела: клопат жанчына ўзяла да галавы грунтоўна і ад намеру свайго ўжо наўрад адступіцца.

«Вось і ў каго такая ўдалася ўпірыстая? Як надумаецца што — кроў з носу, а да канца задуманае давядзе», — падумала Ала і сказала няўпэўнена ўслых:

— Хлопцам хутка ў школу, турботаў так шмат, што і хвіліны вольнай, ведаеш, не выпадае. Сюды во, да вадаспада, выбрацца ледзь-ледзь часу вымеркавалі...

— Ну, глядзі сама, як хочаш. І адна магу з'ездзіць, не такая ўжо праблема... Адно, што аўтобусамі круціцца не хочацца, на сваім аўто — зусім іншы быў бы, канечне, цымус... І ямчэй яно было б, і хутчэй, і весялей у добрай кампаніі.

— Канечне, весялей... Ну, дык паглядзім, можа, яшчэ што і атрымаецца ў мяне, — пераймаючы юрлівую ўсмешку Паўла, які ўсё больш настойліва завіхаўся ў вадзе ля адной з маладзіц, сказала Ала і пачала асцярожна — бераг быў гэтым месцам занадта стромы — спускацца з пагурка да ўзножжа вадаспада.

***Я нічога не маю супраць гуманізму.***
***Проста ён мне цесны, вось і ўсё.***

А. Камю

## АД АЎТАРА

Выкарыстанае ў якасці назвы гэтага аповеду словазлучэнне вядомае з III ст. да н. э. Як і іншыя свецкія публічныя мерапрыемствы таго часу, Плебейскія гульні з’яўляліся на абшарах старажытнай Рымскай імперыі і формаю забавы насельніцтва, і сродкам адцягнення яго ўвагі ад грамадскіх справаў і актыўнай дзяржаўнай дзейнасці. Адрасаты тых гульняў — плебеі, людзі асабіста быццам бы вольныя, але разам з тым пазбаўленыя грамадзянскіх і палітычных правоў.

# I. UNTER UNS[8], АБО ПРЭЗЕНТ АД ІААНА

***...дастаткова быць нядобранадзейным, каб усё астатняе не заўважалася.***

А. Чэхаў

*Як будзе паводзіць сябе чалавек у хвіліну, калі яму ненавязліва, хоць і не наўпрост, але разам з тым нядвухсэнсоўна пададуць знак пра тое, што ён, такі-разгэткі ёлупень, такі-растакі недарэка, вось-вось застанецца без працы, то бок — без перспектывы сталага заробку? Калі большую частку жыцця ён аддаў цяперашняму свайму занятку, у схільнасці да абібоцтва на прафесійнай ніве ніколі заўважаны не быў, неўзабаве размяняе чарговы паважны дзясятак год і не з чужых словаў ведае, з якою перасцярогаю, як правіла, ставяцца працадаўцы да прэтэндэнтаў на вакансію (калі яшчэ пашчасціць на больш-менш прыстойную натрапіць) у гэткім узросце?*

*Зразумела, усё ў ім будзе кіпець, але ён да часу не дасць сабе волі абурыцца, а з упартасцю загнанага ў пастку звера будзе працягваць употай на штосьці разлічваць. Будзе пракручваць у галаве магчымыя наступствы такога павароту лёсу, лавіць у паглядзе саноўнага vis-a-vis, ад якога цалкам, дарэшты ў гэтую хвіліну залежыць, хаця б намёк на літасць ды ліхаманкава думаць: а раптам? А раптам жа зварухнецца ў дзядзьку нешта, і ён, пераняўшыся — чаго не здараецца на свеце! — меркаваннямі калі ўжо не чалавекалюбства, дык хаця б элементарнага спа-*

---

[8] ***Паміж намі (нямецк.).***

*чування, паставіць крыж на сфальсіфікаванай паводле адмысловага сцэнара справе.*

*Будзе лавіць у голасе калегі-службоўца хаця б намёк на зычлівасць, але дарэмна. Момант так удала разлічаны — для выйгрышу справы праз суд тэрмін да выхаду кантрактніка на пенсію павінен складаць менш за два гады, а тут два з каптурыкам, — што ўпусціць яго, рызыкнуўшы ў дзясятак разоў большым за любога з падначаленых заробкам, гэты дзеяч-адміністратар ад навукі, на рахунку якога не адзін ужо гэткі «ўчынак», ніяк не можа. Хоць і ўсё, вядома ж, разумее. Разумее і, можа, нават крыху ўнутрана і муляецца.*

*Службовец муляецца, але ўсё адно вырачанаму на немінучую паразу падначаленаму яго не шкада. Настолькі не шкада, што нічога, апроч злёгку перайначанай злой парады персанажа з чэхаўскага апаведу — ах, вазьмі ты кавалак тэлефоннага праваду ды павесься ты на першым, што трапіцца, тэлеграфным слупе[9] — апошняму ў галаў на той момант, хутчэй за ўсё, не прыйдзе. Якою ён, аднак, збіты з тропу знячэўнасцю падзеі і падсвядомаю здагадкай, ці не адзін гэта з тых фатальных выпадкаў, калі не прайграць, як ні намагайся, немагчыма, так на дадзены момант і не скарыстаецца.*

* * *

Насуперак панылым прагнозам метэаролагаў, канец чэрвеня выдаўся ў той помны для мяне год надзвычай сухі, лагодны. На дварэ

[9] ***А. Чэхаў. У Маскве.***

было сонечна і бязветрана, лета нарэшце дабрала-такі моцы адужаць звыклыя для пачатку і сярэдзіны месяца метамарфозы надвор'я і цяпер настойліва грукалася ў вокны птушыным рознагалоссем і галёканнем дзяцей на пляцоўцы пры доме. Слупок тэрмометра грунтоўна асталяваўся на лічбе 25, на небе не бачна было ні хмурынкі, на даляглядзе бліснь ды ясь — нішто і блізка мне, шараговаму працаўніку сістэмы вышэйшай адукацыі перадпенсійнага ўзросту і літаратару па сумяшчальніцтве, ніякага форс-мажорнага клопату ў той дзень напярэдадні доўгачаканых летніх канікулаў не прадказвала. Наадварот, усё складвалася як найлепей. Здароўе служыла спраўна. Калегі з кафедры, зважаючы, паводле іх жа словаў, на дбайнасць маю ў працы ды адсутнасць схільнасці да гэтак распаўсюджаных ва ўніверсітэцкіх калідорах канфліктаў і інтрыганства, ахвяравалі напрыканцы семестра на маю карысць па некалькі гадзін з даважкаў-«хвосцікаў» да ўласных ставак і такім чынам забяспечылі мне, нарэшце, на наступны навучальны год поўную выкладчыцкую нагрузку. Нос у тытуню, вусны ў шакаладзе — менавіта да маёй асобы ў наўпроставым, з маімі сама меней трыццаццю цыгарэцінамі ў дзень, і пераносным значэннях можна было б аднесці гэтае выслоўе ў тыя дні.

Ды не — якраз жа ён, памянёны форс-мажорны клопат, насуперак раскладу зорак і не прамінуў заявіцца, са спрытам прафесійнага гульца-напарстачніка прад'явіў да аплаты, няйначай, у якасці рахунку за згаданыя вышэй дабροты, свой прыхаваны да часу за пазухай лёсу сюрпрыз.

Штосьці падчас паўдзённага перакусу раптам хруснула ў роце, шорхнула, шчоўкнула, кальнула ў язык, шварганула па дзёснах — і вось ён, цуд стаматалагічнай тэхнікі, ляжыць на сурвэтцы побач са скрылём недажаванага гурка, здзекліва шчэрыцца ў твар ружавата-жаўтлявым íсподам канструкцыі пад гучным і каляным, як знячэўны пошчак грому ў ясны дзень, назовам «бюгель».

Усё вокамгненна, нечакана і зусім, як гэта найчасцей яно ў такіх выпадках і бывае, недарэчы: прыпарны час, у студэнтаў заліковы тыдзень, люду на кафедры таўчэцца шмат, палохаць жа тых, хто побач, шчарбатым ротам, нават калі ты хібамі ўласнае знешнасці надта і не пераймаешся, — перспектыва не з самых прыемных. Але што здарылася, тое здарылася, зубкі «паляцелі» — след даваць ім рады.

Стаматолаг-пратэзіст, які прыкладна год таму ўсё гэтае металакерамічнае хараство мне ў роце ладзіў, паабяцаў падрамантаваць яго хутка і, галоўнае, без ніякай дадатковай платы. Праўда, затое і без адпаведнага запісу ў рэгістратуры. Маладзён толькі што абараніў кандыдацкую дысертацыю, і жыццёвыя ўскладненні ў выглядзе тлумачэнняў падаткавікам, на якой падставе ды на якой умове ён варожыць у маім роце, у ягоныя планы напярэдадні зацвярджэння вучонай ступені атэстацыйнай камісіяй, канечне, не ўваходзілі.

Абяцанае «хутка» расцягнулася на тры дні. Але мне гэта, папраўдзе, і не абыходзіла: я выкладаю на палову стаўкі, таму з'яўляцца штодня на кафедры, зразумела, быў не абавязаны. Да таго ж, і заліковы тыдзень ужо амаль што пра-

мінуў, а студэнтаў, якія не атрымалі ў свае зашмуляныя матрыкулы[10] па маім прадмеце адзнакі аб заліку, заставалася кот наплакаў — усяго два чалавекі. Адзін з іх якраз знаходзіўся на той момант на нейкіх спартыўных гульнях у замежжы, другі, дзяцюк з прэтэнцыёзным і рэдкім для пераважна праваслаўнага асяроддзя імем Іаан і срэбрам пірсінгу ад падбароддзя да верху лба, быў так далёкі ад шчыравання ў вучобе, што ў дэканаце на яго даўно ўжо глядзелі як на патэнцыйна адлічанага.

З увагі на ўсё гэта я, нагадаўшы на ўсялякі выпадак Наталлі Алегаўне, нашай памяркоўнай, зычлівай загадчыцы кафедры, нумар свайго тэлефона, і выправіўся пад салаўіна-вераб'іны посвіст, поўны надзеі на паспяховую гламурызацыю ўласнага аблічча, у крэсла стаматолага. Якая кутэхля з усяго гэтага атрымаецца, на той момант мне не думалася. А дарэмна: у соцыуме з дэфармаваным уяўленнем аб катэгорыі маральнага, дзе што ні чын[11], то свінства, страчваць пільнасць і кіравацца ва ўзаемадачыненнях як з асобнымі людзьмі, так і з інстытуцыямі афіцыйнымі пафігічным народным «старой бабцы добра і ў шапцы» не варта.

Што справы дрэнь, да мяне дайшло праз тры дні, падчас выкліку ў рэктарат. Аддаўшы дзеля выгляду належнае непрабівальнаму абібоцтву студэнта Іаана і ўпэўніўшыся, што я нават спробы не зрабіў засцерагчыся ад непрыемнасцяў праз здабыццё даведкі ад лекара, то бок перакрочванне, як кажуць у народзе, праз

[10] *Старая назва заліковай кніжкі.*
[11] *Тут — у значэнні «дзея».*

чалавека, прарэктар, ціхмяны субтыльны мужчына ў модным на той час блішчастым турэцкім гарнітуры і з кусцістымі пукамі валосся ў вушах, аўтар манаграфіі ў галіне інжынернай графікі, вядомы ў выкладчыцкім асяродку як знаўца нямецкай мовы і аматар творчасці нямецкіх паэтаў-рамантыкаў пазамінулага стагоддзя, а перадусім — як вялікі майстар круціць у стасунках з падначаленымі атрыбутамі прычыннага месца, тут жа зрабіў на мой адрас шырокі жэст у выглядзе прапановы напісаць заяву аб звальненні з працы паводле ўласнага жадання.

Прапанова падалася мне і абсурднай, і дзіўнай, што я як мог даходліва начальніку і патлумачыў. Тады ён выцягнуў з шуфлядкі стала цыдулу за подпісамі студэнта і яго бацькі, вайскоўца-адстаўніка, любасна трымаючы яе, бы няведама якую каштоўную рэліквію, аберуч перад вачыма, пачаў павольна ўслых чытаць.

Допіс грунтаваўся на апісанні маральных пакутаў бацькі і сына падчас росшуку маёй асобы і ўтрымліваў патрабаванне як мага больш строга мяне, выкладчыка-нядбаліцу, пакараць.

— Але чаму, калі гэтак мяне шукалі, ніхто мне не патэлефанаваў? — зрабіў я спробу запярэчыць. — Як гэта звычайна ў такіх выпадках робіцца...

Пытанне маё суразмоўца праігнараваў, быццам не пачуў. І толькі дачытаўшы скаргу і паказытаўшы пазногцем у вуху, нахіліўся да мяне блізка-блізка і ціха, амаль шэптам, даверліва, ледзь не як роднаму, сказаў:

— Unter uns... Але ж гэта, ведаеце, не ўсё. Ёсць да вас і больш сур’ёзныя прэтэнзіі з боку... ну, самі разумееце... якіх органаў. Ёсць меркаванне, што вы кепска ўплываеце на студэнтаў.

— Я кепска ўплываю? Як гэта? Можа, наадварот якраз...

— Як? А вы самі здагадайцеся. — Ён чарговы раз выняў палец з вуха, з неўдаванаю цікавасцю зірнуў на мой абвысакароджаны раўнюткім шыхтам белі рот. — Вы ж не будзеце адмаўляць, што... што яны... што студэнты не адчуваюць... вашыя думкі ці што яны не ведаюць, хто вы...

— І хто ж я?

Ён вытрымаў паўзу, паблажліва, як гэта робяць, калі хочуць давесці, што ты — патэнтаваны дурань і няма чаго з табою марнаваць час, махнуў рукой, прадоўжыў:

— Перш чым уступаць у розныя... у розныя палітызаваныя саюзы-хаўрусы, след бы добранька, добранька падумаць. Дарослы чалавек... Працаваць вы, канечне, умееце, ніхто адваротнага не сцвярджае, не, ніхто... але ж...

Намёк на маё сяброўства ў непадуладнай літаратарскай суполцы быў празрысты, як паветра ў парожнім акварыуме на падваконніку гаспадарова кабінета, так што мне імгненна стала ўсё зразумела.

Сітуацыя нявыкруткі, звязаная з закіданнем нядобранадзейнасці, здаралася ў маім жыцці не ўпершыню. Але калі раней усё неяк абыходзілася без скрайнасцяў, то гэтым разам, падобна, чакаць добрага не выпадала. Справа вымагала захадаў рашучых, і першым маім памкненнем было пашукаць праўды ў начальніка большага — рэктара. Ды, падумаўшы, што такія справы без ведама рэктара, як правіла, не робяцца, ды ўзгадаўшы, як той пару год таму перарваў кантракт з адным з выкладчыкаў на падставе, што гэтага,

маўляў, тыя самыя «органы» ў асобе куратара па ідэалогіі запатрабавалі, бо сякі-такі дацэнт не тое што трэба ўводзіць студэнтам у вушы, вырашыў гэтага не рабіць. Адмысловасць сцэнара выглядала занадта выяўнай, а гэта азначала, што з боку рэктара да пасыпання галавы попелам не дойдзе і ён, натхніўшыся прыкладам святога Бернарда, басанож, каб не патрушчыць ненаўмысна ступакамі мурашоў, як гэта рабіў слынны святы, пад шаты велікадушнасці ў суправаджэнні вернага свайго клеўрэта-намесніка не папрастуе.

Уражаны зацятай адчужанасцю службоўца, яго непрыхаваным жаданнем любымі сродкамі ад мяне пазбавіцца, я пажадаў у думках яму і рэктару як хутчэйшага скону, распісаўся ў талмудзе аб згодзе з адміністрацыйным спагнаннем у выглядзе вымовы і выйшаў у прыёмную. Не паспеў я, аднак, адчыніць дзвярэй з прыёмнай у калідор, як прарэктар аклікнуў мяне:

— А вось гэта... зубы... што за майстра, скажыце, вам іх ладзіў? — перасцярожліва зіркнуўшы на сакратарку, спытаў і дакрануўся даланёй да ўласнае сківіцы. — От жа добра робяць, халера... Налаўчыліся, глянь ты, і нашы... Вось каб...

І, не дагаварыўшы, што »вось каб», і не дачакаўшыся адказу, хто ладзіў, крутнуўся чортам на абцасах і знік у чэраве неабдымнага свайго, як мора, наскрозь прапахлага тхлінаю перасцярожлівасці, што часам так дзіўна ўжываецца ў чыноўных апартаментах з духам удаванага вальналюбства, кабінета.

Лета амаль прамінула, блізіўся верасень. Вясёлы птушыны грай за вокнамі паступова заціхаў, надвор'е ўсё часцей дэманстравала характэр-

ныя для гэтай пары года перадвосеньскія выкрутасы. А мой хісткі, але разам з тым упарты спадзеў, што вось жа неяк усё насуперак атрыманаму праз тыдзень ад пачатку канікулаў спавешчанню аб скасаванні кантракта на працу ва ўніверсітэце ўладзіцца і мне пададуць знак вяртацца зноў на кафедру, рабіўся ўсё больш прывідным. Тым часам сціплыя мае ашчаджэнні ад атрыманых за перыяд летняга адпачынку грошай таялі, і трэба было тэрмінова кудысьці ўладкоўвацца працаваць. Але куды?

«Патрэбных» знаёмстваў, якіх я свядома праз усё жыццё пазбягаў, бо яны зазвычай так мала цешаць душу ў паўсядзённасці, хоць затое, праўда, бываюць часам вельмі дарэчы ў становішчы ахавым, я, да жалю свайго, не меў, ва ўніверсітэцкія аўдыторыі шлях мне быў відавочна зачынены, таму адзінае выйсце заставалася — школа. Аддаўшы якой па маладосці добры дзясятак год жыцця, я дакладна ведаў: школа з яе лаваю пісаніны, справаздач і планаў, цягамоцінай па рэалізацыі ледзь не штодзённых нанаўвядзенняў па выхаванні падкаванай у патрэбным накірунку асобы для літаратара, тым больш такога груvasткага, працаёмкага жанру, як проза, — стоадсоткавая магіла. Ды рабіць больш нічога не заставалася, і я ўзяўся намацваць глебу.

Порсткая маладзіца-кадравічка ў аддзеле адукацыі, куды я звярнуўся напярэдадні новага навучальнага года з намерам уладкавацца ў адзінаццацігодку побач з домам, дзе, паводле слоў майго даўняга сябра Віталя, настаўніка той самай адзінаццацігодкі, дакладна мелася вакансія, так вырачыла вочы, быццам наогул нічога ні пра якую вакансію ведаць не ведае і чуць не чула. Затым, па ка-

роткай размове з кімсьці па тэлефоне, з пафасам, адно што без заломвання рук, прачытала мне доўгую лекцыю пра тое, як канцэптуальна вытрымана, з улікам найноўшых адукацыйна-выхаваўчых тэндэнцый, пастаўлена ў іхняй установе справа па камплектаванні школ кадрамі, як шмат у дзяржаве менавіта ад такой вось бездакорнай, мэтанакіраванай працы залежыць і як шмат кожны з прэтэндэнтаў на высокае званне настаўніка павінен мець за душою, каб займець права хоць якім бокам да гэткіх заснаваных на штодзённым дбанні аб выхаванні годных грамадзянаў бездакорнасці і мэтанакіраванасці прычыніцца.

І тут я заняпаў духоўна другі раз: зноў, як і на пачатку лета ў пакоі прарэктара, пажадаў у думках сваім універсітэцкім вучоным «дабрадзеям», а разам ужо і маладзіцы (грэх, як і няшчасце, адзін не ходзіць), што сядзела перада мною, скону, прычым самага страхавітага і нялюдскага, які толькі можа быць. І не толькі пажадаў скону, але і ўявіў сабе той кляты ды стакроць асуджаны анёламі ад маралі хрэстаматыйны плявок на іхнія магілы, якім з задавальненнем спаскуджу свае вусны ў выпадку іх ранейшага за мяне адыходу з гэтага свету.

Так мая і без таго не сказаць каб надта ўжо трывалая, ці, дакладней, як цяпер модна казаць, «упёртая» хрысціянская сутнасць пацярпела канчатковую паразу ў банальным супрацьстаянні з прагаю помсты. Але, што праўда, я ані з тае прычыны не перажываў. «Канечне, яны не Бернарды, але ж і я таксама не маці Тэрэза», — прыкладна гэтак мне на тую хвіліну думалася. Такая вялікая была мая злосць. Такая, насамрэч,

да смешнага — з увагі на дробнасць падзеі ды шараговасць асобы маёй — вялікая, што нават пранікнёнае, шчодра перасыпанае ўзорамі чалавекалюбных учынкаў з жыццяў святых душпастырскае павучанне айца Пётры, даўняга майго знаёмца, які пераняўся маім стрэсавым станам з нагоды змушанага беспрацоўя і залічыў пазней, на пачатку апошняга месяца лета, прыбіральшчыкам у свой прыходскі штат, мяне ні на каліва да думкі аб прабачэнні не наблізіла.

Евангелізаваць людзей, якія і без цябе ды, зрэшты, і не горш за цябе ведаюць Хрыстовы прыказанні? Шчыраваць датычна ратавання душаў людзей, што праз шатанскія ўчынкі выдаляюць сябе з сістэмы тых прыказанняў, а пасля, пазычыўшы ў сабакі вочы, наракаюць на недахоп яе ў стаўленні іншых да сябе? Калі праўда, што дараванне — гэта шанц, які даецца чалавеку перадусім дзеля выпраўлення, то колькі разоў трэба яму такі шанц даць, каб ён хацяб збольшага навучыўся ім распараджацца не толькі на карысць сабе, але і не на шкоду іншым? І галоўнае — ці заўжды гатовы той, каму ён, гэткі халяўны шанц, даецца, яго ўсвядомлена, з удзячнасцю за аванс, а не адзіна як належны дарунак, прыняць?

Пытанні раіліся, як жамяра ў балаціне ў дажджлівае лета, — так хутка, што я і не заўважыў, як, аслеплены чужой несправядлівасцю ды ўласнаю злосцю, неўпрыкмет для самога сябе пачаў рабіцца іх закладнікам, шукаючы адказу на іх там, дзе яго, відаць, і блізка быць не магло.

«Кінь ты пакутаваць, — сказаў неяк аднаго разу пад чарку Віталь. — Хіба не бачыш — усё на свеце гульня. То што ўжо з-за кожнай дро-

бязі ажно гэтак перажываць. Ну, здарылася яно і здарылася. Не ты першы, не ты апошні. І горшае з людзьмі здараецца. Супакойся, усё неяк у рэшце рэшт уладкуецца».

Сябрава парада супакоіцца падалася мне на той момант не надта слушнай. Ды іншага выйсця, як пераняцца мудрасцю старажытных *non ridere, non lugere*[12] і прыняць прыкры факт за наканаванасць, не было, і я паступова перастаў сябе кваліць. Але, канечне ж, не без унутранага супраціву. Калі ўсё на свеце гульня, як Віталь сцвярджае, то ці існуе хоць якая-ніякая мяжа, перакрочыўшы якую, атрымліваем у той гульні, насуперак Божым запаветам, зялёнае святло на беспакаранае гвалтаванне волі іншага чалавека? — па-ранейшаму круцілася ў глуздах, паралізавала волю неадчэпнае, бы назола сляпень у пару каласавання палеткаў, пытанне.

Быў пярэдадзень майго выхаду на працу пры храме. Я сядзеў у кватэры ля вакна, не абцяжараны на тую хвіліну ніякаю пільнаю справай, назіраў за гульнёй дзятвы на пляцоўцы. То была просценькая дзіцячая гульня без правілаў, адна з тых, на якія я дагэтуль і ўвагі ніколі не звяртаў.

Дзеці тузаліся, штурхаліся, галёкалі, дражнілі адно аднаго, і даўмецца, у што менавіта яны там гуляюць, было немагчыма. Гэта была гульня дзеля гульні, бессвядомая забава без прыхаваных матываў і мэтанакіраванага імкнення да выйгрышу. Якая калі пра што і сведчыла, дык хіба што толькі пра дзіцячую непасрэднасць ды неўтаймоўны спрыт яе ўдзельнікаў.

---

[12] ***Не смяяцца, не плакаць (лац.).***

Я думаў, малыя пойдуць з пляцоўкі, але, надзіва, гэтага не адбылося. Яны панацягвалі на галовы нейкія капшукі ды кавалкі цэлафану, што няведама скуль у іх руках узяліся, і, замест таго, каб бегчы хутчэй дахаты ці куды-небудзь пад дах, прадоўжылі забаву. Ды з такім запалам, быццам толькі гэткае вось неспадзеўнае непагадзі і чакалі.

Дождж сек і сек, а яны ўсё мітусіліся на пляцоўцы, і канца іх мітусні не было бачна. Але больш за ўсё здзівіла мяне тое, як неўпрыкмет, чым далей, тым болей мяняліся ў гульні паводзіны дзяцей. Тое, як штоbecause разу, чым мацней ён ліў, усё больш яны гуртаваліся, рабіліся больш уважлівымі ў той гульні адзін да аднаго, як спакваля пераўтваралася нявінная, бязладная дзіцячая гульня ў гульню на пераадоленне — абставінаў, сябе, хібаў уласнае натуры, собскага эгаізму.

Падобна дарожнаму руху, гэтая немудрагелістая гульня пры ўсёй яе ўяўнай хаатычнасці ўжо падпарадкоўвалася пэўным правілам, а галоўнае ж — рух гульцоў насустрач адно аднаму падчас яе не быў аднабаковы. У адрозненне ад адмысловых гульняў дарослых, якія меў на ўвазе мой сябар Віталь, мянуючы іх пры гэтым дробяззю.

Словам, гэта ўжо зусім не тая была гульня, у выніку якой паўстае сітуацыя, калі не з вусеня матылёк атрымліваецца, як у насякомых, а наадварот: з матылька — вусень, як часта ў людзей[13]. Так падумалася мне тады, і гэта, хоць крыху, ды дадавала гумору, рабіла прыкрую маю прыватную гісторыю са стратаю працы ва ўніверсітэце не такой змрочнай, як яна мне ўяўлялася напачатку.

---

[13] ***Перыфраза выказвання з нататнікаў А. Чэхава: «У насякомых з вусеня атрымліваецца матылёк, а ў людзей наадварот: з матылька вусень».***

# II. ВУНЬДЗЕКА ВУНЬ[14]

***Гульня гульнёй, але чаму ж да ўласнае,***
***нават самае нязначнае ролі ў той гульні***
***гэтак сур’ёзна,***
***а не менавіта як да гульні,***
***ставімся?***

А. Кодак

## 1

На дварэ зноў дождж, нудотны і разам з тым надзіва ўпарты, задзірысты. Порсткі, бы струмень вады са шланга падчас паліву газонаў пры храме, справы, якою я, добры самаранін з чужое ласкі, вось ужо колькі часу займаюся, ратую ад спёкі — як і папярэднія месяцы, жнівень сёлета надзвычай гарачы — тутэйшую ватыканападобную прыгажосць. Газонаў шмат, іх паліванне часам расцягваецца ледзь не да поўначы. Таму вось гэткіх дарункаў прыроды кшталту сённяшняга дажджу ў асабліва сонечныя дні чакаеш, бы манны нябеснай. Канечне, можна было б і папрасіць Пана аб ласцы часцей іх, тыя дарункі, пасылаць, але ўсё штосьці замінае. Ды, папраўдзе, не надта і хочацца прасіць. Асабліва, як узгадаеш словы з нядзельнага казання каторага са святароў, што Бог лепей за нас ведае нашы патрэбы. Як гэтак дасканала ведае, то што ўжо турбаваць-непакоіць Яго нейкаю там драбязой, лезці на вочы са сваімі нікчэмнымі, мізэрнымі клопатамі? Ведае нашую патрэбу — значыць, за-

[14] ***Вунь, вунь там (рэгіян., гульня словаў).***

даволіць, абы былі мы таго вартыя. Як вось сёння, да прыкладу, дожджыкам мяне з раніцы задаволіў: на табе, чалавеча, хоць заліся.

Пры храме я раблю паўтара месяца ад таго дня, як атрымаў наўздагон па адыходзе ў летні адпачынак памянёнае пісьмовае спавешчанне аб скасаванні ўніверсітэцкага кантракта. Час ад часу, седзячы на кукішках пры тыне ды тузаючы з-пад прэнтаў за камлі і карэнне ўпірыстыя шорсткія плевелы, бачу, як шыбуе наўзбоч маёй нахіленай долу постаці хто-небудзь з універсітэцкай кафедры ці каторы з былых студэнтаў. З няёмкасцю на фізіі, быццам заспеў за няведама якім саромным заняткам (ага, дык вось, маўляў, як нізка ты, дзядзька, упаў — пры пожні корпаешся!), похапкам вітаецца ці — найчасцей — робіць выгляд, быццам не пазнаў або не заўважыў. Паводзіны, што не гэтак нават зневажаюць, колькі бянтэжаць фактам грэбавання тым, што на словах усюды ў нас ад савецкіх яшчэ часоў з пафасам падаецца як не ледзь найгалоўнейшы паказчык вартасці асобы, — далучанасцю да фізічнае працы.

Учора тут, пры плоце, Наталля Алегаўна, загадчыца кафедры, прыпынілася. «Ну як яны маглі цябе трымаць ва ўніверсітэце, ты ж падумай, — пачала з ніякаватаю, вінаватаю ўсмешкай на твары. — Ты ж разумееш... Ты ж памятаеш, як мы добра да цябе ставіліся, нават пасунуліся напрыканцы года ўсе, каб да поўнай стаўкі гадзін табе на першы семестр новага навучальнага года наскрэбсці... І наскрэблі ж! А тут такое. Што мы маглі зрабіць, каб і надта хацелі? Адзінае, пра што шкадуем, — што не патэле-

фанавалі табе тады, не папярэдзілі. Але ж, ведаеш, не маглі, забаранілі нам...».

Святая праўда, было: і «пасунуліся», і «наскрэблі». За што вельмі дарагім калегам, нягледзячы, што гэтак мала карысці сталася з таго пасоўвання-наскрэбвання, застаўся ўдзячны: хоць якое пацверджанне прафесійнае прыдатнасці. А што зрабіць штосьці хацелі, ды папярэдзіць нават не асмеліліся... Ад х*ацець* да *зрабіць* у часы, калі між двума гэтымі паняццямі трэцяе — пагроза ўласнаму дабрабыту — рогамі паўстае, — дыстанцыя хоць і не «аграмаднага памеру», як у таго Грыбаедава, аднак жа не кожнаму па зубах.

Дождж усё сячэ, а ўжо тым часам стрэлка гадзінніка набліжаецца да лічбы 14. Святары к гэтаму часу, відаць, збольшага справы свае парабілі і цяпер, падлагоджаныя гарбатай з печывам, наўрад яшчэ што-небудзь мне да вызначанага ўранні мінімуму прац дададуць... Ды не: хтосьці, чуваць, сунецца па сходах з другога паверха ў накірунку падсобнага памяшкання. Крокі ціхія, і з-за пошуму дажджу за вакном іх ледзь-ледзь чутно. То, мабыць, айцец Леанід, няйначай папаліць пасля абеду вырашыў. Але, ён. Як заўсёды, ідзе ціхутка, з тэлефонам у выпрастанай паперадзе паставы руцэ.

— Адыходзіце? — кажа, перастаўляючы пабуслінаму даўгія, абцягнутыя моднымі джынсамі ногі. — Добра вам, вось прыйдзеце дадому — і рабіце што хочаце. Воля! Не тое што тут у нас — бы ў вязніцы... Эх, жыццё ты манаскае...

І хоць Леанід насамрэч не манах, носіць звычайны строй епархіяльнага святара, голас яго гучыць так маркотна, што міжволі з’яўляецца жа-

данне самотніку паспачуваць. Тым больш, што і падстава для спачування маецца: айца Леаніда перавялі ў прыход нядаўна, і ён вось ужо каторы месяц жыве адзін пры святыні, у недараманатаваным прыходскім доме.

— Жыццё ты ніякае, — працягвае ён жаласную катрынку і свідруе ўтрапёна-скрушлівым паглядам экран найноўшае мадэлі мабільнага тэлефона. — Вось бачыце, ніхто мне і эсэмэскі нават за ўвесь дзень не напіша... Ніхто мяне не любіць, значыць... Ні-хто...

Размову трэба неяк падтрымаць, але як — я, папраўдзе, не ведаю. Бо размаўляць з айцом Леанідам — справа не з лёгкіх. Нягледзячы на ажно дзесяць год навукі, з якіх ці не тры прыпалі на замежжа па нейкай адмысловай хрысціянскай адукацыйнай праграме, кола яго інтарэсаў далей звыклых, будзённых рэчаў не сягае. Кампутар, семкі, дыскі з запісамі фільмаў жахаў або фэнтэзі, што так ахвотна глядзяць падлеткі, мабільнік, піва — бадай, і ўсё, чым наш амаль 40-гадовы святар духоўна сілкуецца. Ды яшчэ вопратка: стыльна выглядаць — асаблівы Леанідаў клопат. З гэтае прычыны ён, беручы, няйначай, за ўзор брутальных галівудскіх актораў, і голіцца раз на тыдні, і валасы ўкладвае асаблівым — чубчыкам угору — чынам, і гадзіннік носіць паводле апошніх павеваў моды — на запясці, паверх манжэты кашулі. Такая кідкая элеганцкасць у спалучэнні з не надта моцным, але выразным, добра пастаўленым голасам, што так лагодна гучыць пад скляпеннямі храма падчас нядзельнай службы, асабліва падабаецца жанчынам і немінуча стварае наўкола ўражанне характэрнай для святыняў сцішанай, шапатліва-стры-

манай датклівасці. Быццам, як, памятаецца, пісаў у «Прыгажунчыку святары» Парызэ, і не чалавек прамаўляе да людзей ад алтара, а галубы лятаюць па храме, чародка духаў святых.

— Што-небудзь пачытайце, можа, ойча... Што-небудзь са свецкага, напрыклад...

Пагляд майго суразмоўцы на хвіліну ажывае, адрываецца ад мабільніка, слізгае зрэнкамі па гладкай, абклеенай строгімі шэрымі шпалерамі сцяне бібліятэкі, спыняецца на распяцці. Бібліятэка — адначасова і памяшканне для правядзення рэлігійных заняткаў з дзецьмі, таму ўсё тут нагадвае звычайны школьны клас, толькі з належнай канфесійнай атрыбутыкай.

— О, праўда... Пачытаць! Чаму б і не? А што б можна было, да прыкладу? Толькі ўжо, калі ласка, «Свяшчэнны прытон»[15] мне не райце. А то адзін тут нядаўна мкнуўся гэтую паскудную чытанку падсунуць — не атрымалася. — Твар айца Леаніда вузее, пакрываецца плямамі абурэння. — Уяўляеце, святару такую, прабачце, лухту, дзе пра кляштарныя памыйніцы, поўныя шкілетаў немаўлят, ды пра святарскія і сястрынскія шалы прапанаваць для чытання — як можна? Не чытаў і чытаць гэткае бздуры[16] не збіраюся.

Бздура — адно з нешматлікіх немілагучных словаў, якія наш зазвычай ветлівы ў размове, выхаваны (і, што праўда, зычлівы і прыязны ў стасунках з людзьмі) Леанід дазваляе сабе выкарыстоўваць у хвіліны найбольшага ўзрушэння і якіх ён нахапаўся, відаць, падчас нядаўняе экуменістычнае вандроўкі ў суседнюю Польшчу. Не

---

*[15] Твор Лео Таксіля.*
*[16] Глупства, лухта (польск., разм.).*

забыўшыся за гады вучобы ў замежжы і мовы роднай, ён, аднак, калі зрэдку, сяды-тады і карыстаецца, то няйначай як у суправаджэнні просьбы аб прабачэнні за кепскае маўленне і абмежаванасць слоўніка.

— Як не чыталі, то адкуль жа ведаеце тады, што ўсё там пададзенае, як вы кажаце, — бздура?

— Адкуль? Распавядалі мне, — вяртаецца паглядам да мабільніка айцец Леанід і, не жадаючы, мусіць, працягваць размову на такую слізкую, як для святара, тэму, імклівым ценем знікае ў калідорчыку паміж бібліятэкай і падсобным памяшканнем. Але ненадоўга. Не мінае і хвіліны, як зноў, цяпер ужо з падсобкі, даносіцца ягоны, толькі ўжо не жаласлівы, а па-начальніцку строгі, упэўнены, хоць, праўда, і не без дамешку належнае ноты паважлівасці, голас:

— А вы не забыліся, што ў нас у нядзелю ўрачыстасць? Госці будуць, і нямала. Начальства з епархіі, свецкія таксама... А ў нас, самі бачыце, які паўсюль рэзрух з-за рамонту: плітка па кутках пляца параскіданая, бярвенне ды паддоны з-пад цэглы сцены падпіраюць. Прыбраць бы іх куды падалей, можа, у сутарэнні знесці, каб не зołілі воч. Дык будзьце ласкавы, пане-гаспадару, ужо прыбярыце як-небудзь да суботы. Калі ласка...

— Добра, прыбяру.

Прыступ наогул неўласцівай айцу Леаніду гаспадарлівасці — гульня, дзіцячае жаданне прамовіць, хай і ўскосна, апошняе слова датычна размовы пра «Свяшчэнны прытон», таму мне хочацца дадаць у адказ і што-небудзь менш згодна-памяркоўнае, але я не паспяваю.

Дзверы ў бібліятэку адчыняюцца, жаночая постаць з паніклым ад вады парасонам у руцэ ўзнікае на парозе. Гэта — Ганка, рэгентка[17] прыходскага хору, жонка аднаго з колішніх маіх студэнтаў. Ганка стала працуе карэктаркай у выдавецтве аднаго з трох наяўных у горадзе ўніверсітэтаў, і як яна пры такой занятасці паспявае яшчэ і кіраваць хорам — вялікая загадка.

— Ну, як вы тут маецеся? — пытаецца, ідучы да паліцы з новымі выданнямі. — Прызвычаіліся ўжо на новым месцы? Не шкадуеце, што гэтак рэзка ўсё давялося ў жыцці памяняць? Ай, не шкадуйце. Як ні круці, а пры храме Божым быць — як нідзе найбліжэй да Бога... Вось, сапраўды, не ведаеш, дзе згубіш, а дзе знойдзеш. А бывае, і згубіш — як знойдзеш. Усё, казаў той, да лепшага...

Панглосаўскі[18] аптымізм суразмоўніцы мне здаецца крыху недарэчным, але я не пярэчу, бо акурат абзываецца мой мабільнік. Ганка змаўкае на паўслове, і звычайна вясёлы, а тут нейкі маркотны, як прыбіты залеваю долу жытні колас голас айца Пётры абдае мяне хваляю панылай узрушанасці:

— Вы на месцы? То пачакайце мяне яшчэ хвілін пятнаццаць. Справа ёсць. Важная... Калі ласка... Я хутка. Пачакайце...

Ганка адыходзіць. Мне таксама, папраўдзе, карціць як хутчэй сысці дахаты, але ж нельга: трэба чакаць айца Пётру.

Айцец Пётра з’яўляецца, як і абяцаў, праз чвэрць гадзіны. Па ягоным усхваляваным твары няцяжка здагадацца: штосьці здарылася.

---

[17] ***Кіраўнічка.***

[18] ***Панглос — персанаж твора Вальтэра «Кандыд».***

Выпадак і сапраўды, аказваецца, не так сабе. Айца Пётру дзве гадзіны таму запрасілі ў аддзел па справах рэлігій у мясцовым Белым доме, быццам дзеля ўзгаднення дэталяў рамонту храма. А затым, ветліва спраўдзіўшы нейкую каштарысную дробязь, пакінулі сам-насам з чалавекам, які адрэкамендаваўся службоўцам органаў бяспекі і прапанаваў супрацу. Ляпаў айца Пётру па-прыяцельску даланёю па плячы, упэўнена, быццам даўно ўжо між імі загадзя ўсё вырашана, даводзіў, як патрэбны органам пры прыходзе менавіта такі чалавек, як айцец Пётра, і які можа быць цудоўны плён ад іхніх дзелавых узаемадачыненняў. Калі ж размова зайшла ў тупік, святару ненавязліва, але цвёрда нагадалі пра ягоныя грашкі, галоўны з якіх — тое, што ён, чалавек нежанаты, мае двухгадовага сына і ягонае аўто, маўляў, суседзі часта бачаць у двары, дзе дзіця з маці жывуць. На водпаведзь айца Пётры, што акалічнасці яго асабістага жыцця, калі ўжо на тое пайшло, — справа толькі ягонага сумлення ды Божага суда, нязвыклы, відаць, да адмоваў кадравік азваўся кароткім «а гэта паглядзім» і, даўшы тры дні на роздум, куляю вылецеў з пакоя.

Дык вось што яму, Пётру, цяпер рабіць і як адбівацца ад нечаканае навалы? Непрыемнасці кшталту тлумачэнняў іерархам, што там у яго з тою жанчынаю, яму зусім не ў радасць, але ж разам з тым і роля стукача, хай сабе і пазаштатнага, — брыдота яшчэ тая. Адзін раз у яе ўквэцаешся — да скону потым, мабыць, не атрасешся і не адмыешся. Яны там, гэтыя «арганістыя», будуць штотыдзень мяняцца ў сваёй канторы, а ты так і праходзіш да самага скону з таўром патэнтаванага віжа.

— Дык што ж рабіць, што рабіць? — суняўшы збольшага хваляванне, паўтарае раз-пораз айцец Пётра і глядзіць запытальна мне ў вочы. — Парайце...

— А падманіце яго, таго дзядзьку. Скажыце, напрыклад, што дзіця не ваша, што не маеце да яго ніякага дачынення.

— Іх падманеш, як жа... Калі яны ўжо ў той сваёй канторы нават і пра тое, як па бацьку хлапчанё ў пасведчанні аб нараджэнні запісанае, парупіліся дазнацца. Пятровіч — якія яшчэ патрэбныя доказы? Ды і як хлусіць? Гэта ж тое самае, што адрачыся... Ад уласнага дзіцяці адрачыся? Не.

— Дык жаніцеся, можа...

— О, лёгка вам казаць. Не ад аднаго ж мяне тое залежыць, але і ад... самі разумееце, ад яе таксама... А яна во ўпёрлася рогам і ні з месца. Ай, што казаць... Залежала б толькі ад мяне — і хвіліны б пры такім раскладзе не разважаў. А так... А зрэшты, што мазгі п*а*рыць? Вырасце хлопец — апірышча, можа, будзе на старасці год...

Выснова здаецца мне цалкам слушнай, і я рады, бо і мне палёгка: не трэба больш рабіць тое, што ўвогуле рабіць не люблю і па магчымасці пазбягаю, — раіць.

— Дык вось так, — кажа павесялелым голасам айцец Пётра і дадае пад адыход: — Але ж якая ў іх, у гэтых дзядзькоў, да людзей непавага. Уявіце, даручыць размову картаваму. Балбоча, а ўражанне такое, быццам бульбяныя камы або глыжы языком у роце варочае! Усё адно як глухога святара ў спавядальню пасадзіць.

— Або як пасланць да чалавека з позваю на дазнаўства ці ў суд патэнтаванага злачынца.

— Што-што? — спыняючыся ў дзвярах, перапытвае айцец Пётра. — Што там наконт злачынцы?

— Ай, так, дробязь... Дзесьці чытанае, мабыць, узгадалася. Нічога асаблівага.

Тлумачыць — доўга ды і ці варта: у кепскай сітуацыі прыклады прыкрых аналогій, хай і дакладных, — слабое суцяшэнне. Тое самае, што ў хвіліну смутку ці жальбы засмечваць сваёй недарэчнаю прысутнасцю жыццёвую прастору чалавека, якому ў гэты момант, хоць ён, можа, і сам таго не ўсведамляе, якраз найбольш патрэбная адзінота.

Дзясятак хвілін з працы дадому — сёння прыгода, і не абы-якая. На дварэ змрочна, дождж ад раніцы ідзе без супынку, і часам гэта і не дождж нават, а праўдзівая залева. Вада хваля за хваляю абрынваецца на галаў, і трэба мець нямала спрыту і ўвішнасці, каб яе ўнікнуць. Увішнасці мне, дзякуй Богу, яшчэ не займаць, але я, папраўдзе, не надта і шчырую. Тры дні таму падфарціла набыць у фірмовай краме неперацэненыя пасля чарговага падаражэння туфлі, абнова аказалася маім ступакам замалая, і вось цяпер адзіная надзея, што, добра змочаная дажджом, яна хаця б крыху, хаця б на паўнумара раздасца ўшыркі. Рэдкі выпадак, калі рэч не берагчы трэба, а наадварот — падпсаваць. І чым больш падпсуеш, тым больш выйграеш. З такім спадзевам на выйгрыш, мокры да апошняе ніткі, і дапінаю неўзабаве да свайго аздобленага графічнаю грамзанінай на дзвярах пад’езда.

Справаў тузін у доме, але ўсё перамагае жаданне хоць краем вока зірнуць у тэлевізар: сум-

неўная, ды ўсё ж якая-ніякая забава пасля працоўнага дня.

На экране паэтка, кабеціна з неўтаймоўнай схільнасцю да скаргапісання, даносаў і іншых неэкзатычных відаў к*а*кання ў чужы кампот, чытае вершыкі і з уздымам распавядае пра тое, як днямі, у перапынку паміж шынкаваннем капусты і сартаваннем морквы разрадзілася ў выніку начнога творчага азарэння яшчэ і рыфмаваным прадуктам, а назаўтра дзве гадзіны тлуміла ім галовы слухачоў падчас адной з сарака трох згарбузаваных і праведзеных ёю цягам апошняга месяца літімпрэзаў. Затым ненавязліва, бы між іншым, адкрывае Амерыку: паэта-барда З., аказваецца, за савецкім часам з ідэалагічных меркаванняў не пускалі ў аўдыторыі ладзіць творчыя сустрэчы. Дык вось яна, маўляў, мае сур'ёзны намер гэткай ганебнай практыцы рашуча супрацьстаяць. Як такі намер будзе ажыццяўляцца — невядома, бо толькі ўжо зусім сляпы ці глухі не ў курсе, колькі сама яна разам са сваімі хаўруснікамі панаторквала калегам на шляху да тых самых аўдыторый асцюкавіння ў выглядзе негалосных і галосных забаронаў.

Галоўная фішка паэткі ў змаганні з няўгоднымі канкурэнтамі на творчай ніве, якою яна карыстаецца дзе і як толькі можа, — гульня ў бязмежны, без берагоў і краю, патрыятызм. Найзапаветная ж мара, як вынікае з падсаладжаных шырокім, бы разліў ракі ўвесну, усмехам рэплік, — усе конча павінны кінуць усе справы ды выключна чытаць яе прасякнутыя ідэямі дабра, любові і чалавечнасці, як сама яна іх атэстуе, тварэнні. А найбольш абыходзіць жанчыне тое, што пры гэткай канцэнтрацыі ў яе вершыках

высокага духоўнага пачатку, якога так катастрафічна нестае сучаснаму свету, хоць ты расперажыся, — не выяўляе той самы паскудны свет да іх ніякай цікавасці.

Кабеціна літаральна запоўніла сваёю постаццю тутэйшыя літабшары. У які таблоід ні паткніся — скрозь яе галава. І каму, апроч яе самой, увесь гэты дурны псеўдатворчы аргазм патрэбны, — аднаму хіба д'яблу вядома. Ды яшчэ, мабыць, тым чыноўным дзядзькам і цёткам, што, насуперак уласнай антыпатыі да паэтчыных шчыраванак, не прамінулі нагоды згуляць і ў сваю гульню: ушанавалі руплівіцу званнем ганаровага грамадзяніна горада.

А палове пятай тэлефануе Віталь — нагадаць пра сустрэчу. Віталь бяздзетны ўдавец, жыве ў «двушцы» разам з сястрой-удавой Лідай і пляменнікам Шуркам, маім часова беспрацоўным хрэснікам, у мінулым наладчыкам кампутараў у нейкай прыватнай фірме. Віталю шэсцьдзесят тры, ён, як тыя шведы кажуць, пенхунэр, але яшчэ працуе ў школе на палову стаўкі. Працаваў бы, відаць, і на поўную, ды здароўе мае так сабе, таму шмат часу вымушаны бавіць дома, бліжэй да канапы і пудэлкаў з лекамі.

Чалавек безумоўна сумленны і таварыскі, мне, літаратару, для якога творчасць з'яўляецца спосабам не здабыць адзіноту, а, наадварот, хутчэй пазбавіцца яе, не губляючы пры гэтым і прывілеі заставацца на ўзбочыне жыццёвага тлуму, Віталь імпануе яшчэ і тым, што з ім няма патрэбы размаўляць на гэтак нялюбыя мне творчыя тэмы. Усё, што заўгодна, апроч літаратуры, — свядомая лінія паводзінаў, выпрацаваная праз

імкненне пазбегнуць парушэння староннімі межаў уласнае творчае прасторы ды быць, што на службе, што ў асабістых, прыватных стасунках, упоравень, і ні на міліметр воддаль, з іншымі. І яшчэ — апроч хваробаў. Усім, што мае ў такім узросце ў арсенале нядужасцяў адзін, у той ці іншай ступені можа пахваліцца і другі, то што іх дарэмна лішні раз узгадваць?

Найпрыдатнейшая ж з усіх імаверных для нас з Віталем тэмаў — кулінарная. Бо ўлюбёная ягоная справа — гатаванне ежы. Напрыклад, бліноў, якімі ён сябе, не зважаючы на катастрафічнае атлушчэнне і праблемы з ціскам, які ўвесь час «скача», то паніжаецца, то, наадварот, зашкальвае, штодня бязбожна начыняе. Бліны з мясам, з гароднінай, з грыбамі, з яйкамі, з ікрой, з рознымі іншымі далікатэсамі — усё гэта на тлустай сметанковай аснове, з масай інгрэдыентаў і дасканалым валоданнем тэхналогіяй прыгатавання, нюансамі якой Віталь шчодра са мною падчас суботніх журфіксаў, калі можна іх так назваць, бо кожны мой візіт узгадняецца з гаспадарамі дома загадзя, дзеліцца.

Сённяшняе ж ягонае тэлефанаванне асабліва дарэчы, бо акурат сёння і я маю сім-тым з прыяцелем падзяліцца. Учора выпараў падчас ачысткі каморы ад рыззя няношаны, велікаваты мне пінжак і хачу аддаць яго Віталю. Не з бязмежнага чалавекалюбства і не за так, канечне, — за ягонае паліто, якое яму ўжо праз празмернае харчаванне не сыходзіцца на жываце і якое ён даўно з тае прычыны не носіць.

У кватэры ў сябра — доўгатэрміновы рэзрух, звязаны з распачатым колькі тыдняў таму ра-

монтам. Плітка са сценаў у кухні здзёртая, тынк зеўрае р*а*гамі ад клею з-пад старых шпалераў, дываны маркотна туляцца ў скрутках пад сталом і абапал мэблі, усюды тырчаць з аголеных блокаў нейкія драціны ды ржавыя прэнты. Столь нагадвае колерам пакрытую цвіллю лужыну, а прыхожая спрэс застаўленая скрынямі з рознымі гаспадарча-рамонтнымі прычындамі. Рамонт быццам у разгары, адно што ніякага зруху ў параўнанні з тым, што было ў кватэры тыдзень таму, не бачна. Віталь, як заўсёды, завіхаецца ля пліты, грэе бліны.

Хрэснік мой, Шурка, уваходзіць у кухню, каб павітацца, дае «дабрыдзень» і тут жа, і двух словаў больш ні да каго не прамовіўшы, зноў знікае, чымсьці дарэшты заклапочаны, у сваім пакоі.

Шурка — заўсёдны і найгоршы Віталеў і Лідзін клопат. Хлопцу пад трыццаць, а ён адно толькі і ведае, што сядзець днямі і начамі ў сеціве. Ды ў сеціве, зрэшты, — не самае кепскае, бо не так даўно і горш было: суткамі не вылазіў з казіно і даўгамі там так абрастаў, прайграючыся, што матчынай ды дзядзькавай пенсій, каб іх сплаціць, ледзь хапала. І толькі вось апошнім часам узяўся быццам крыху за розум, пераключыўся з гульняў у казіно на гульні менш, як сам кажа, рызыкоўныя — кампутарныя. Апошняе ягонае захапленне — паляванне з прыстаўкаю «ў качачак», якому і прысвячае ён увесь свой вольны ад змушанага, але, відаць, не так ужо каб вельмі абрыдлага адпачынку час.

— Будзеш? — пытаецца Віталь, накладваючы з патэльні ў талерку некалькі пульхнікаў. — Сёння з мёдам зрабіў, вось, пакаштуй. Я ўжо ці не шэсць штук асіліў, смачноцце...

— Дзякуй, паеў дома.

— Бачыў, колькі народу ля абменнікаў? — звяртаючыся, няйначай, да мяне, падае са свайго пакоя голас Ліда. — Гадзінамі таўкуцца людзі ў чарзе, каб набыць сраную валюту. Зусім пачурнелі. Быццам канец свету... З гэткім імпэтам да ўсяго замежнага куды ўжо неўзабаве дойдзем...

— Падурнелі — не тое слова, — падхоплівае Віталь. — І што з тых нікчэмных даляраў ды эўра? Ну, маеш ты рублі, і няхай будуць... Адна халера. Галоўнае — ёсць капейчына, з голаду не памрэм, неяк будзе.

Мне хочацца запярэчыць, але я не наважваюся. Бо ведаю: штосьці даводзіць гэтым вось дваім настаўнікам, нашчадкам сям'і даволі высокага вайскоўца савецкага часу, выгадаваным у атмасферы адноснага, як у параўнанні са мною, плебеем паводле паходжання, дабрабыту, — марная справа. Ды і згадка пра тое, як яны ўвесь час прэзентуюць адзін аднаму на дні народзінаў ці святы якраз даляры або эўра, а не хваленыя імі ж рублі, ахвоты пярэчыць, а ўжо тым больш спрачацца, не дадае.

— Пінжак прынёс? — пытаецца Віталь. — Ну, давай жа паглядзім, што там за ён... Што за цуд кравецкае думкі.

Пінжак, на жаль, аказваецца сябру цеснаватым. Мне шкада: шанц займець узамен добрае, хай крыху і падношанае, паліто на вачах мізарнее.

— На, бяры. — Віталь ідзе да вешакоў, здымае паліто. — А пінжак я сабе вазьму, хай будзе на ўсялякі выпадак. Можа, дасць Бог, пахудзею, тады і акурат якраз будзе. Як знойдзеш тады...

Ён яшчэ штосьці хоча сказаць, але толькі адчыняе рот, як абзываецца ягоны мабільнік.

Ад самага пачатку тэлефоннай размовы зразумела, што звоніць жанчына, хутчэй за ўсё, мяркуючы па асобных словах ды рэпліках, колішняя гаспадарова каханка, ад нядаўняе пары жыхарка Прагі. З папярэдніх тэлефанаванняў я ведаю, што размова менш за паўгадзіны доўжыцца не будзе, таму, ціхенька развітаўшыся на мігі з занятаю ноўтбукам Лідаю і прыхапіўшы пад паху паліто, выслізгваю з кватэры.

— Ты ўжо прабач! І пагаманіць не дадуць гэтыя... — кажа, выходзячы следам за мною на пляцоўку, Ліда і, не даказаўшы фразы, прыкладае палец да вуснаў. Але і без дагаворвання, што за «гэтыя» маюцца на ўвазе, зразумела. Ліда недалюблівае выязджэнцаў, бо лічыць іх спрэс здраднікамі, і ўсюды, дзе толькі можа, гэта ненавязліва, бы між іншым, падкрэслівае. Апроч выпадкаў, калі завітвае да іх з мужам-яўрэем з Хайфы пагасцяваць ды разам падрамантаваць у танных, у параўнанні з ізраільскімі, тутэйшых дантыстаў зубы пляменніца Аля, дачка нядаўна памерлага іх з Віталем старэйшага брата Васіля.

— А ты пазней забяжы яшчэ на каву—гарбату, праз паўгадзінкі, можа. Заходзь абавязкова... Не ўвесь жа вечар яны будуць языкамі па тэлефоне мянціць, гэтыя...

Дождж яшчэ не нахапіўся, але на дварэ паранейшаму змрочна. У двары суседка Таццяна, бухгалтарка з управы жыллёва-камунальнай службы, выгульвае сабаку. Звычайна яны кружляюць вакол дамоў, а тут штосьці далей запоўненай гульцамі ў даміно ды карты альтанкі пры пад’ездзе не адыходзяцца.

Жанчына не ў гуморы. Сабака таксама: гэткая куртатая, без намёку хоць на якую прыгоду прагулянка яму відавочна не даспадобы. Але іназаляць гаспадыні напамінам пра сябе ён, мусіць, баіцца. Сядзіць ціхутка ў прагалку між газонамі і толькі зрэдку нясмела падае голас, калі набліжаецца да пад'езда хто-небудзь са знаёмых сабакароў або прабяжыць міма з узнятым хвастом які-небудзь бяздомны супляменнік-бадзяжка. Нават пастаянная, звыклая сабакава забава і аб'ект палявання — галубы — падобна, сёння яго не прываблівае.

Таццяна кідае птушкам, што, асмялелыя дарэшты, бязладна лапочуць раз-пораз крыллем збоч альтанкі, жменю семак, кісла ўсміхаецца.

— Дабіў канчаткова гэты старэча, — кажа, вытрасаючы з пакета на дол рэшту шалупіння. — Сёння зноў, ледзь паспела з'явіцца на працы, — тут ён як тут: «Танечка, дзевачка, начальнік загадаў чарговую паперчыну падрыхтаваць, а вы ж ведаеце — я яшчэ сыраваты ў гэтых вашых папяровых справах, то як бы чаго не напартачыць. Дык ужо аформіце вы, калі ласка, як мінулым разам — памятаеце? — квартальную справаздачу тую гэтак дыхтоўна, гэтак цудоўна афармілі. Выбаўце старога ад пакутаў». Сваіх турботаў нямерана, а тут ён са сваімі паперамі... На цэлую гадзіну мусіла з-за ягамосця ў канторы затрымацца, а ён і дзякуй нават напрыканцы не сказаў. Быццам так і трэба.

Ягамосцю — без года семдзесят. Адстаўны немалы чынуша, уладкаваны год таму ў суседчыну кантору праз пратэкцыю яшчэ большага. Жвавасці дзядку, калі даваць Таццяне веры, не

займаць, відаць, той яшчэ гулец. Аднае бяды, што ў працы «сыраваты» ды з тае прычыны, адпаведна, што і як рабіць на новым працоўным месцы, не ведае.

Дома ўжо рабіць нічога не хочацца, і рука мая міжволі — звычка з маладых гадоў — цягнецца да кніжнае паліцы. «Дзякуй Богу, як шклянка» — апавяданне, відаць, з ранніх, мяркуючы па тым, што змешчана ў першым томе збору твораў пісьменніка[19]. «А нашто мне канечна ведаць, што робіцца недзе там, невядома дзе, — разважае герой-дзядок. — ... На чорта мне яно! Аднак жыву не горш за людзей. А на чорта мне там ведаць, што дзе за светам робіцца. Што яно мне, хлеба дасць?!»

Дзядок разважае, а мне міжволі прыходзяць на памяць эпізоды дня: айцец Леанід з мабільнікам у руцэ, Шурка ў кампутары, Ліда пры ноўтбуку, яе і Віталевы разважанні наконт даляраў і эўра, дзядуля «сыраваты», собскія мае туфельна-палітонныя завіханкі — годных нашчадкаў паноў сахі ды касы, здольных і самым найноўшым рэчам каларыт старызны з сярмяжнага свайго мінулага надаць, занятк і. Кампутар — саха, адно што мадэрнізаваная, мабільнік — каса з адпаведнымі часу прыбамбасамі. Агулам жа — гульні з пазнакаю «святое», мяркуючы па піетэце, з якім да іх ставімся.

Для мяне ж святое яшчэ — і хата. Як бы заняты ні быў, як бы часу ні бракавала, як бы сілаў пасля працы ні неставала, парадку ў хаце — пе-

---

[19] ***Апавяданне К. Чорнага.***

радусім увага і клопат. Тэксты, што свае, што чужыя, сюжэты, пакуты і радасці творчыя — усё прэч, у дупу, на папасы да дзядзькі Макара. Даецца няпроста, канечне, ды што зробіш, калі за ўсё, у тым ліку і за такі во няведама кім з продкаў перададзены ў спадчыну сіндром чысцюльства трэба ж чымсьці плаціць.

А палове дзясятай, якраз у самы разгар прыбірання, тэлефануе па міжгароднім стрыечная сястра Аліна. Голас асіплы ад плачу, бяда ў кабеціны, і не абы-якая: наварыла сынам і мужыку штосьці на вячэру, а яны таго наваранага не ўпадабалі і не сталі есці. Ды яшчэ кпіць пачалі з жончыных—матчыных кулінарных здольнасцей. То вось што рабіць ёй цяпер, як ім усім, дамарослым крэўным грэбліўцам, дагадзіць?

— Вымя каровінага купі і навары, няхай ядуць, — кажу жартам першае, што прыходзіць у галаў.

— Вымя? Ну, ты скажаш — вымя! Жартуеш, ці што?

— Не жартую. Днямі ў пісьменніка аднаго ў дзённіках вычытаў, як у іх дома вымя к абеду гатавалі. І ніхто слова, здаецца, супраць не мовіў, наадварот...

— Лухта, няйначай... У якога ж гэта пісьменніка, калі не сакрэт, ты такое вычытаў? Ці не ў сябе самога?

— У Чэхава.

— Ну, ведаеш, мы ж не Чэхавы — вымя есці... А калі сур’ёзна?

— А калі сур’ёзна — скажы, хай набудуць сабе кожны па стрэльбе і ціхенька пастраляюцца. Або

сама ім тыя стрэльбы купі. А чым ты яшчэ ім пры гэткай іхняй пераборлівасці паможаш?

— Ой, якія ты... невыносныя рэчы мне раіш! Я з даверам да цябе як да мужчыны, як да брата, а ты — такое. Каб ведала — нават не тэлефанавала б.

І, абражаная дазвання, гучна, ажно закладвае ў мяне на хвіліну ў вушах, кідае слухаўку на апарат.

Ды, зрэшты, тое і дарэчы. Бо ўранні патэлефанавала з Груздоў, з вёскі за паўсотню вёрстаў ад горада, цётка Ціця, жанчына, у якой колісь кватараваў падчас выязной практыкі са студэнтамі і з сям'ёй якой ад тае пары пасяброваў, папрасіла прыехаць. Быццам бы па нейкай неадкладнай справе, але што за справа — не сказала. Перхала-керхала ў слухаўку, мулялася, штосьці пачынала тлумачыць, але так толкам сказаць, што хацела, ці то не здолела, ці то не наважылася.

Не адгукнуцца на запрашэнне нельга, ці мала што, тым больш, што выдаткаў ніякіх важ гэты чарговы, як заўсёды, хутчэй за ўсё не запатрабуе. Сям'я Ціціна паводле вясковых уяўленняў заможная, да таго ж бяздзетная, спажываць нагатаванае-нарыхтаванае няма каму, дык гэтак нагрузяць гаспадары пад ад'езд валізу рознымі прысмакамі, што яшчэ і без навару, госць дарагі, не застанешся. Адно кепска: маршрутка вельмі рана адыходзіць на Грузды, а шостай, а яшчэ ж квіток набыць, то вось якраз і няблага раней легчы спаць. Дапрыбірацца ў кухні — і ў ложак...

## ЦІЦЯ

На дварэ ўжо шаравата, а Ціця ўсё яшчэ пры справе: перабірае ў падполе прарослую леташнюю бульбу. Як пачала апоўдні, так і перабірае, і перабірае, і канца перабіранню-сартаванню не бачна. Падпол вузкі, цесны, чуваць, як чапляецца ды шоргае тканінаю аб яго абабітую негабляванымі дошкамі сцяну Ціцін лядашчы, прапахлы водарам падгнілае бульбы палітон. Ціцін муж Савік, што пераймае з рук жонкі і адносіць у варыўню кошыкі з бульбай, топчацца на месцы, раз-пораз нецярпліва зазірае паўз згорбленую паставу жанчыны ў глыб склепа.

— І ці хутка ж яна ўжо скончыцца? — цэдзіць праз занятыя цыгаркаю зубы. — От жа не хапала шчэ тут да поўначы з гнілізнаю гэтаю праваландзіцца...

Ціціна рука высоўваецца з падпола, ставіць кошык на падлогу, зноў знікае ў бяздоннай чарнедзі яміны.

— А быў бы ты спраўны мужчына, а не цюхмель, то чым наракаць, да мяне б сюды, на дол, скок — і падсобіў бы. І яшчэ што-небудзь зрабіў бы, можа, каб быў ты мужык спраўны...

Савік гасіць аб гнілую бульбіну недакурак, незадаволена моршчыцца. Але маўчыць. Ціця — жанчына з характарам, ёй, каб і вельмі захацеў, надта не запярэчыш, адмянташыць словам так, што рады не будзеш. Савік ведае гэта як ніхто і, адпаведна, канфліктаў з жонкай заўсёды, нават тады, калі менавіта ён сам, а не яна мае рацыю, імкнецца пазбягаць.

— Ну, што, скокнеш, можа? Рызыкнеш? — Ціця высоўвае на хвіліну галаў з падпола, акід-

вае Савіка з галавы да ног здзеклівым паглядам ненатуральна вялікіх, аблямаваных светлымі вейкамі вачэй.

Год дзесяць таму Ціцю ўджаліла на згоне лета, падчас ходкі на балота па ягады, змяя, і з-за таго вочы зрабіліся ў Ціці навыкаце і агромністыя, непапушчы як у каровы. Некалькі разоў Ціця ездзіла ў горад да акуліста іх выпраўляць, і ўсё дарэмна. Ногі паабівала, ходзячы яшчэ пасля па навакольных знахарах і варажэях, ды таксама безвынікова, так лупавокаю і засталася. Затое зубы ў Ціці — надзіва. Не зубы, а цукар, і калі толькі дае кабецiна рады іх гэтак дагледзець.

Ціця — скарот ад поўнага імя Цэцылія, якое перайшло жанчыне ў спадкі. Гэтак звалі зводную сястру яе маці, напалову тутэйшую, напалову ці то латгалку, ці то польку. Спачатку бацькі клікалі дзіця Цыляй, ды, пераняўшыся чыёйсьці падказкай, што надта ж ужо неяк атрымліваецца не па-тутэйшаму, па-яўрэйску, перарабілі ўвадначас на Ціцю. У выніку і атрымалася новае ні то імя, ні то мянушка. Праўда, языкатыя суседкі зрэдзьчасу ў размовах (як правіла, за вочы) і да першага імя — Цыля — вяртаюцца — з-за Ціцінай звычкі заўсёды і на ўсім ашчаджаць, або, як сама яна кажа, сціскацца. Ці то складкі на супольную вячэру або на падарунак каторай з сяброўак да імянінаў, ці то ахвяра на літургію за памерлых у Задушны дзень, ці то яшчэ што — у кожнай справе атрымліваецца ў Ціці так, што яе выдаткі — за ўсіх найменшыя. З-за гэтага здараецца іншым разам, што якая з суседак, забыўшыся, што яна побач, і прылюдна яе Цыляй назаве. Але Ціця за тое не крыўдуе. Гэтак-

сама, як і на лёс не крыўдуе яна, хоць і мае, здаецца, дзеля таго ўсе падставы.

Дваіх немаўлят згубіць, пранасіўшы ў жываце аднаго і другога амаль шэсць месяцаў, — не жарты. А такое менавіта здарылася з Ціцяй у маладосці, неўзабаве пасля таго, як пабраліся яны з Савікам шлюбам. Першы раз — калі звалілася цяжарная з падводы, памагаючы Савіку вазіць да фермы ваду калгасным цялятам. Другі — тады, калі праляжала паўтыдня ў непрытомнасці пасля пажару, што здарыўся ўначы ў хаце з-за няспраўнага коміна. Дык што ёй пасля ўсіх тых жахаў нейкая там мянушка? Галоўнае, каб у пройгрышы датычна матэрыяльнага ніколі не заставацца, а ўжо як там зваць яе будуць — не так і важна.

— Ну, вось і ўсё. — Ціця выпіхвае з падпола апошні кошык, а следам за ім таўсматае сваё, падперазанае шпагацінай цела. — Вось і я. А ты на рамарэнце ўжо? — звяртаецца да мяне. — Што так крут*а*еш? Пабыў бы яшчэ ў нас тут колькі дзён. Вуньдзека вунь надвор’е якое слаўнае... Наконт рэстаранаў-кавярняў выбачай, канечне, а астатняе ўсё... што нашае, тое і тваё... Заставайся.

— І рады б, ды не выпадае заставацца, спраў дома шмат.

— А, ну, глядзі, як хочаш. То вось клопат мой заўсёдны, ледзь не забылася за гэтаю бульбай... ты ж ведаеш... Кажуць, шмат народу выйграла падчас розыгрышу мінулай латарэі.

Ціця — аматарка розных казённых акцый ды розыгрышаў, колькі ведаю яе — а гэта ўжо ці не восем год з таго часу, як у іх з Савікам кватараваў, — заўсёды ў што-небудзь ды гуляе. А найбольш любіць розныя латарэі, асабліва перад-

святочныя. Ужо некалькі разоў купляў ёй латарэйкі, і, падобна, і гэтым разам без даручэння набыць іх не абыдзецца. Выйгрышы Ціціны, як правіла, або ніякія, або зусім дробязныя, ды ёй гэта зусім не абыходзіць. Так улегла кабеціна ў гульню, што сама дзея, сам працэс для яе ўжо значыць больш за вынік.

— Дык купіў бы ты мне яшчэ колькі латарэін на разжыццё. Купіш? Зараз грошы дам. Якія пад руку трапяць, тыя і бяры, доўга не думай.

— Але ж паважны, праўда, у цябе, бабця, клопат, — абзываецца Савік, але тут жа і змаўкае пад няўхвальным паглядам жанчыны.

— Табе справа. — Ціця сцягвае з плячэй палітон, ідзе за шафу да ложка па грошы. Неўзабаве вяртаецца са жменяю купюр, аддае мне. — З дзясятак штук купі, а як на болей хопіць — бяры на ўсе. Раптам выйгрыш. Гэта ж не за плячыма майно ў меху насіць.

— Не згуляеш — не пабагацееш, — зноў уплішчваецца ў гаману Савік. — А як не выйграеш?

— Тады тое і будзе. — Ціця змахвае даланёй з падола спадніцы прыкарэлы бруд ад бульбы, весела, злёгку перайначаным слоганам часоў маладосці — і не забылася ж дагэтуль — дадае: — Будзе дзень — будзе і песня[20].

2

Сёння нядзеля, выходны, і я раздумваю па нядоўгім шпацыры ў двары, куды б пайсці яшчэ. Бязмэтна сноўдаць сюды-туды па абробленых

---

[20] ***Будзе хлеб — будзе і песня.***

сабакамі сцежках між абрыдлых шматпавярховікаў больш не хочацца, але і выбраць штосьці вартае ўвагі не так проста.

Маршрут вызначае згадка пра Артура, знаёмага студэнта-гісторыка, літаратара-пачаткоўца, які ад пачатку восені тлуміць мне галаў просьбаю паказаць яму старыя лютэранскія могілкі. Хлопец з іншагародніх, пражыўшы ва ўніверсітэцкім інтэрнаце тры гады, падобна, нічога з тутэйшых адметнасцяў, апроч цэнтра горада, за гэты час не зведаў. Дык вось і нагода будзе хоць збольшага зліквідаваць прабел. Балазе ў мяне ў самога да могілак яшчэ ад часоў студэнцтва ўстойлівы піетэт, усюды, дзе толькі даводзіцца быць, першым чынам менавіта іх наведваю.

Артур пагаджаецца на вандроўку ахвотна. Дамаўляемся сустрэцца а дванаццатай. Гэты час самы зручны ў плане даезду да месца. Апроч таго, яшчэ застаецца ў запасе амаль гадзіна, каб па дарозе да прыпынку забегчыся ў аптэку ды выканаць учарашнюю Віталеву просьбу: набыць перад чарговым падвышэннем коштаў, пра якое ўсюды толькі ў горадзе і размоваў, сёе-тое з лекаў.

З пакупнікоў у аптэцы паперадзе мяне толькі адна маладзіца, але яна так надоўга затрымлівае чаргу, што, здаецца, стаянне ў ёй ніколі не скончыцца. «А што гэта такое? А вось тое мне пакажыце. А ці добрае яно? А як яго ўжываць? А хто вытворца? А дайце інструкцыю! А што ёсць з таннейшага? А мне суседка ўчора казала... А...» і г. д. — да бясконцасці. У выніку, з улікам часу на даставанне з сумкі партманета з грашыма, ды тузанне сюды-туды купюр, ды іх зацятае лічэнне-пералічванне, ды чытанне-пера-

чытванне сігнатуры, ды рэплік на адрас знерванай чаргі ў перапынках між лічэннем, — на ўсё пра ўсё марнуецца каля паўгадзіны.

Мізансцэна хаосмасу тупізны, а да заслоны спектакля — не рукой падаць. Бо, адсунуўшыся ўрэшце сяк-так ад акенца, жанчына, замест таго, каб канчаткова сысці, пачынае атакаваць аптэкарку новымі пытаннямі.

— Ну, што яшчэ вам? — голасам чалавека, вырачанага на вечную пакуту дыялогу з дурнямі, з кепска прыхаваным за інтанацыяй ветлівасці пажаданнем *ідзіце ўжо і частуйце вашым вар’яцтвам іншых*[21] кажа тая і роспачліва глядзіць на далонь з рэцэптам наступнага кліента.

Амаль на ўсіх лютэранскіх помніках надпісы па-нямецку, і амаль усе яны без крыжоў. Быццам якая віхура іх уваднačас скасіла. Куды лепей захаваліся старыя помнікі злева, там, дзе спачываюць «нашы», як пішуць пра іх зрэдзьчасу ў мясцовай прэсе, людзі: маёр-артылерыст, генерал ад інфантэрыі царскай арміі, калежскі радца, жонка яго Агафія...

У вузкіх праходах паміж паржавелымі агароджамі — смаўжы, і не заўважаеш, як вось ужо трушчыш падэшваю чаравіка крохкі панцыр, наступіўшы няўрокам на небараку ў высокай, па пояс, а часам і па шыю, траве.

Пры браме пасярэдзіне кладоў — сімвалічная магіла ахвяраў Другой сусветнай вайны, на ўскрайку — самотнае, абкружанае быльнягом заханне калісьці вядомага, а цяпер амаль забытага мастака-акварэліста.

[21] ***Выказванне Дж. Нікалсана.***

У куце на супрацьлеглым канцы могілак — піск вынаходлівасці гараджанаў пасляваенных часоў у выглядзе перарobленых пад патрэбу толькі што спачылых тутэйшых грамадзян старых нямецкіх помнікаў: пастамент лютэранскі, толькі без крыжа, надпіс — кірыліцай, відавочна паверх сцертага нямецкага. Быццам напамін пра тое, наколькі эканомнай можа быць эканоміка і як далёка можна зайсці пры жаданні конча такую мець.

Артур раз-пораз слізгае паглядам па надмагіллях, з выглядам запраўскага хранікёра пазначае штосьці ў нататніку.

— Дзіўна, помнікі што на тым канцы, што тут — аднолькавыя, а па часе захавання — розніца ледзь не ў стагоддзе, — кажа, сілячыся прачытаць выпетраныя вятрамі і непагаддзю словы. — Як усё адно адзін майстар пад капірку іх рабіў. Дзіўна...

А мне дзіўна іншае: маё тлумачэнне, што навейшыя надмагіллі — не што іншае, як скарыстаныя праз паўстагоддзя пасля чыйгосьці пахавання старыя, амаль аніякіх эмоцый, апроч лёгкага смяшлівага здзіўлення, у хлопца не выклікае.

— Ах, дык вось яно што! Ну, але ж... Цікава... Зраблю, мабыць, нататку ў якое-небудзь выданне, — кажа ён і з абыякавым выглядам фоткае мабільнікам парудзелыя, з плямамі цвілі ды карункамі павуціння па баках, пастаменты.

Да пачатку літургіі застаецца гадзіна, як абзываецца мой тэлефон. Паэт В., аўтар сусальна-рамантычных тэкстаў пра хараство роднай зямлі і каханне, напрамілы Бог просіць памагчы

зладзіць яму юбілейнае (днямі В. спаўняецца 60) спатканне з чытачамі — дзе заўгодна, хаця б пры тым жа храме. Ці ёсць у яго наогул якія чытачы, паэта, здаецца, зусім не цікавіць. Зрэшты, для мяне як для імавернага арганізатара імпрэзы гэта і няблага: не трэба надта высільвацца ў падборы аўдыторыі.

А ўжо задаволіць сваёю персонай слухача В., чалавек прастадушны і гаманкі, без сумневу, дасць рады. Цвік яго праграмы — жывапісны расповед пра тое, як ён штоночы шчыруе над чарговым творам, раз-пораз выкройваючы ў перапынках між страфамі хвіліну-другую для маладой (гэтая акалічнасць — маладой — заўсёды падкрэсліваецца асабліва) жонкі. Расповед вандруе з сустрэчы ў сустрэчу, але пры гэтым кожнага разу абрастае такімі дасціпнымі падрабязнасцямі, што нават людзьмі, якія чуюць яго не ўпершыню, успрымаецца як нешта зусім эксклюзіўнае, ніколі дагэтуль не чутае.

— А ён хоць нішто сабе, гэты паэт? — Айцец Пётра колькі хвілін глядзіць на цыдулу з прозвішчам аўтара і спісам ягоных кніжак, няўцямна пацiскае плячыма. — Не чытаў, папраўдзе, такога. Але якая розніца. Лепш жа вершы слухаць, чым па кутках піва піць. Ці не так, айцец Леанід?

— Гледзячы яшчэ, што за вершы, — не варухнуўшы брывом, парыруе той і ідзе ў рызніцу[22] апранацца к вячэрняй літургіі.

— І гледзячы, што за піва — таксама, — кажа наўздагон калегу айцец Пётра і сунецца следам.

[22] ***Пакой для захоўвання вопраткі і рэчаў для набажэнстваў.***

Вечар хоць і ясны, але ўжо па-восеньску прахалодны, асабліва пры храме, дзе вецер так і свішча з кожнай прагаліны паміж будынкамі, шчэміцца жывасілам у дзверы, разбэрсвае па пляцы накіданыя мінакамі наўзбоч тыну за дзень недакуркі, ды абгорткі ад цукерак і папкорну, ды living рознае іншае, буйное і дробнае, смецце. І хаця мне прыбіраць яго сёння, у нядзелю, у святочны дзень, не давядзецца, настрою ўсё гэта не дадае.

Што сёння, што заўтра — розніцы ніякай, апроч, хіба, таго, што кожнае хвіліны друзу ўсё больш, а на помач староннніх у такой дробязнай ды нявартай справе, як прыбіранне, разлічваць не выпадае. Зрэшты, калі б хто спагадлівы помач тую і прапанаваў, наўрад бы я згадзіўся яе прыняць. Спагада — што той медаль, два бакі мае. Знешне прыгожа ды прыстойна, а датыкнешся — і джгне, уколе джалам пыхліва-грэблівае паблажлівасці.

Службу ладзіць святар з суседняга прыхода, бо нашы ўчора выправіліся па справах хто куды і вернуцца, мабыць, толькі ў аўторак. Людзей у храме няшмат: бальшыня вернікаў ходзіць на літургію ранішнюю, ды і вымушаныя канікулы ў шкаляроў і студэнтаў з нагоды традыцыйнага восеньскага выезду на сельскія палеткі карціну пабожнасці грунтоўна падпсоўваюць. Так што з маладзейшых нікога амаль не відно, апроч студэнткі з іншагародніх, няскладнае рабаціністае дзяўчыны год васямнаццаці ў лёгкіх не па сезоне туфлях і з маленечкім плецаком за спінаю.

Дзяўчына ходзіць на службу па вечарах і заўжды здзіўляе мяне нейкай невытлумачальнай безабароннасцю ў вачах і зацятаю, як не на мяжы поўнае экзальтацыі, шчырасцю малітвы. Шчырасцю такой непадробнай, што мне нават часам падаецца: вось яшчэ хвіліна — і ўзнясецца дзеўка ў неба, пакінуўшы на грэшнай зямлі ўсе свае клопаты і перажыванні.

Літургія доўжыцца гадзіну, святарскае благаслаўленне прамінае ўжо на фоне цямрэчы ў вокнах. На дварэ не толькі цёмна, але і крапае дождж, яшчэ не такі ўтрапёны, як на пачатку тыдня, але і яго дастаткова, каб пашкадаваць аб пакінутым дома парасоне.

— Хадзі пад мой, — гукае ў спіну знаёмы голас. — Месца хопіць абодвум... Бачыш, які велізарны — у Люрдзе летась купіў. У нас дык такіх вялікіх у крамах нешта і не бачыў нідзе...

Голас належыць Росціку, супрацоўніку нейкай турыстычнай фірмы, чалавеку прыкладна маіх гадоў, з вачыма, што пры размове і дзвюх хвілін на адным прадмеце не затрымліваюцца, а ўвесь час «бегаюць» у пошуку новага аб'екта ўвагі. Гуляе пагалоска, што Росцік сексот, быццам бы завербаваны ў органы праз шантаж на глебе нейкіх інтымных справаў. Так што гаманіць з ім нават сам-насам — усё адно што быць, як казалі старажытныя, semper tres[23].

Мужчына ніяк не вызначыцца з уласнаю канфесійнаю прыналежнасцю: то ў царкву ходзіць, то ў касцёл, то да грэка-каталікоў прысуседзіцца. Затое спраўна наведвае ўсе культур-

---

[23] ***Заўсёды ўтраіх (лац.).***

ніцкія гарадскія мерапрыемствы і пра ўсё, дзе што дзееццa, ведае да драбніц. Яго любімая тэма, прынамсі, падчас такой вось выпадковай, як сёння са мною, сустрэчы, — стан грамадскіх справаў. Ды гэтым разам да яе абмеркавання, падобна, не дойдзе. Нейкая кабеціна вымыкаецца з брамы, хапае майго суразмоўцу за руку, цягне да аўтобуса, што хвіліну таму спыніўся на прыпынку. Росцік неахвотна ўскоквае следам за жанчынаю ў салон, з выразам шкадавання на твары махае мне з аўтобуса рукой.

Мне, наадварот, расстання не шкада. Ды, адкараскаўшыся воляю лёсу ад субяседніка аднаго, амаль тае ж хвіліны ўзбіваюся на патэнцыйнага другога: калега па літцэху, нарысіст З., стаіць са стосам газет пад пахаю пры пераходзе, чакае зялёнага святла.

З., чалавек зычлівы і прыязны, нават часам аж залішне, аж да навязлівасці, лічыць сябе ў горадзе за месію і дня не можа пражыць без таго, каб не згарбузаваць пры першай жа нагодзе якую-небудзь творчую імпрэзу. На ўсіх калектыўных здымках З., як той персанаж з нататнікаў Чэхава, заўсёды стаіць паперадзе ўсіх, а любую спробу пасунуць яго ў сцэнары мерапрыемства хоць на міліметр ад лідарскай пазіцыі, то бок мікрафона, успрымае як нечуваную абразу. Выдаўшы чарговы зборнік твораў, З. і пад страхам смерці не назаве яго *кніжкай*. Усё, што ні выходзіць з-пад ягонага пяра, — выключна і толькі *кніга*, а той, хто гэтага не разумее ці не жадае разумець, рызыкуе нажыць у яго асобе ворага.

А яшчэ ён адметны тым, што ведае аб жыцці ўсё і ягоная мудрасць, угрунтаваная на досведзе не аднаго калена гэткіх жа, як сам ён, вечна за-

клапочаных здабыццём як мага больш важкае прыступкі на лесвіцы жорсткай іерархіі творчага асяродку, папярэднікаў, так і свеціцца ў зырклівым не па ўзросце, чэпкім і разам з тым крыху адстароненым паглядзе. Надзённейшы дзедаў клопат, галоўная на сённяшні дзень гульня — забеспячэнне сабе годнага месца ў капрызлівай памяці нашчадкаў. Стаіць на скрыжаванні вуліц і глядзіць то на святлафор, то на вузкі пасак святла на даляглядзе, што вось-вось абвесціць, заслонены воблакам, канец дня.

Ідылія, аднак, працягваецца нядоўга: прысадзістая пастава маладога драматурга Б. нечакана ўзнікае на прыпынку, сунецца наўпрост да закалыханага святлом удалечыні З.

У адрозненне ад старога З. маладзён Б., які ці не ад часу наведання дзіцячага садка лічыць сябе паўнаспраўным творцам, ведае пра жыццё мала. І што за агульныя справы, нягледзячы на прыналежнасць да ідэалагічна антаганістычных творчых суполак, лучаць гэтых дваіх — невядома. Але вядома, што сустракаюцца яны часта і, насуперак узаемнай непрыязнасці як асобаў, зрэдку ціскаюць у гарадской газеце адзін пра аднаго, на ўзор крылоўскіх пеўня і зязюлі, кампліментарныя допісы.

3

— Чытаеш? Ці зноў пішаш, можа? Раман, няйначай, штукуеш? — Віталеў голас гучыць ціха і крыху прытомлена. — Ну, пішы, пішы...

— Ніякі не раман, газеты чытаю.

— А, вось яно што. Добра табе, яшчэ на чытанкі маеш час. А тут дык і хвіліны вольнай

не выпадае. Што ні дзень — якая-небудзь абавязалаўка на працы. Ты Парамончыка, Віктара Юр’евіча, колішняга начальніка аддзела адукацыі, ведаў? Сёння хавалі апоўдні — інфаркт хапіў... З раніцы з аддзела патэлефанавалі: кроў з носу, а пяць чалавек настаўнікаў ад школы павінна быць на хаўтурах. Заслужаны чалавек, без помпы не абысціся — сам разумееш. Вось так нагрузяць справамі з раніцы, прабач за недалікатнасць, — матка ад турботаў апусціцца. Пакуль кветкі купілі, пакуль дапялі да філармоніі, дзе ўсё ладзілася, сёе ды тое — дзень і прамінуў... І ахвота ж цягаць нябожчыкаў па горадзе... Вось так! І што ж за газеты ты там чытаеш?

— Халяўныя.

— Што значыць — халяўныя? Хіба і такія бываюць?

— Бываюць: дзяўчаты-паштаркі падкідваюць у абаненцкую скрыню. У іх шмат застаецца ўсяго пасля сартавання, дзець няма куды, вось і паклапаціліся пра старога. А я ім за гэта — падзяку ў кнігу водгукаў нашкрабаў.

— Вось бачыш, як добра табе: грошы не трэба выкідваць на непатрэбшчыну. А то ў нас што ні квартал — разнарадка на падпіску з аддзела адукацыі. Гэтым разам на дваццаць пяць чалавек аж на васямнаццаць асобнікаў даслалі — на абласную, гарадскую, чатыры сталічныя. Маўляў, хочаце — калектыўна выпісвайце, хочаце — асабіста. Рэдактарка гарадской уласнаю персонай прыходзіла агітаваць. Ручнікі з лагатыпам прынесла, між іншым, у падарункі, кожнаму асабіста прэзентавала... Выпісваем — грамадою, у складкі. Бывае, каторы з калег па месцы жы-

харства з даведзенага што выпісаў — тады копію квітка дастаткова падаць. Фу!

— Дык не выпісвалі б, калі аж гэтак — «фу»!

— Ну, ты скажаш! Не раўнуючы як брат мой стрыечны, Сцёпка, разважаеш... Быццам не ведаеце вы, дарослыя людзі, чым такая гульня ў нязгоду можа скончыцца.

Віталь змаўкае, пакрыўджана сапе ў слухаўку. Тры гады ўжо, ад дня выхаду на пенсію, менавіта ён узначальвае ў школе па лініі прафсаюзнае суполкі падпісную кампанію, але пра тое, як правіла, лічыць за лепшае не распаўсюджвацца. Так што і мне перабіраць з тэмаю, відаць, не варта, бо тады і крыўдуе, як зачэпіш, і надзімаецца, бы малое дзіця.

Памаўчаўшы колькі хвілін, Віталь зноў вяртаецца да пахавання Парамончыка.

— Так шмат сабралася народу ў філармоніі, што ледзь месціліся. Пампезныя праводзіны, нічога не скажаш. Вянкоў, мабыць, штук сорак было, калі не больш. Чымук прамову казаў. Складна, зараза, балбоча, адно што крыху заікаецца.

Чымук — колішні мой калега па працы ва ўніверсітэце, пераведзены з пасады кіраўніка аддзела ў другарадныя прафсаюзныя дзеячы пасля скандалу з растратаю нейкіх казённых грошай. Цвёрда перакананы, што ягонае працоўнае месца да ліку тых, дзе важны хоць які людскі ўчынак, не адносіцца, Чымук нямала папсаваў на ранейшым месцы крыві сваім падначаленым. І толькі страціўшы пасаду, уваднačас непазнавальна перамяніўся: фізія палагаднела, голас памякчэў — стаў падобны да чалавека.

Сябар кладзе слухаўку, а я зноў утыкаюся ў перапыненую тэлефанаваннем чытанку: хоць і

нудота, а перад начою акурат і няблага пагартаць. І растузаныя за дзень нервы крыху супакоіш, і сон хутчэй зморыць. Каліва чытва, кубак кавы і — баю-бай, унгкарл[24]!

Кавы, менавіта. Гэта ўжо звычка: кавы на ноч, і спіш, насуперак агульнапрынятаму меркаванню, як забіты. Можа, таму, што кава не ахці што, амаль самая танная з усіх гатункаў. Танная, бо на нятанную грошай шкада — таксама звычка, з маладосці надыктаваная заўсёднай неабходнасцю на ўсім ашчаджаць. Звычка, зрэшты, даволі караслівая, бо нагадвае пра сябе нават тады, калі ашчаджаць асаблівае патрэбы і няма.

Уначы прачнуцца і пракачацца затым у бессані на ложку да раніцы — радасць хоць і сумніўная, затое часам даволі плённая ў сэнсе эмацыйным. Асабліва калі прачнуцца не ад прарэзлівага віскату клаксана аўто ці грукату цягніка, як часта, асабліва ўлетку, калі ўсе вокны ў кватэры насцеж, «пашчасціць», а ад згукаў таго пажадліва-неспатольнага шалу, што мянуецца ў народзе каханнем і вось ужо каторую ноч нагадвае пра сябе з прыцемненай шатамі клёнаў альтанкі пад вокнамі шматпавярховіка: «Ах! Ох! Яшчэ? На табе! А-а! А-а-а!». Арсенал выкрутасаў, якому і самы прасунуты ў сада-мазахічных справах юрлівец, самы распусны вычварэнец, бадай, мог бы пазайздросціць.

Зрэшты, не факт апошняе. Напрыклад, суседка Піліпаўна, што ў кватэры паверхам ніжэй з унукам-інвалідам кантуецца і год пятнаццаць ужо ці то толькі крыху недачувае, ці то зусім не

[24] ***Халасцяк (шведск.).***

чуе, лічыць, што ўся гэтая шалёная альтанкаўская сатурналія з крыкамі-воклічамі, якая быццам бы замінае ёй заснуць, — не больш як гульня. Маўляў, так не можа жанчыне падчас каітусу балець, каб так, як яна, крычаць, і гэта наўмысна яна так робіць, да больш рашучых атак гэткім чынам мілосніка заахвочвае.

Тады тым больш крыўдна: ім цымус, а тут праз яго сну пазбаўляешся. Адзіны паратунак ад яго — сеціва пад бокам. Улезці пад згукі шалаў, паглядзець: можа, акурат хто цікавае спрасоння што-небудзь вякнуў...

Канечне, яшчэ б... Маладзён *Кітаг* прачытаў штосьці з кніжных навінак і цяпер скардзіцца на форуме, што не разумее сэнсу некаторых ужытых аўтарам старых слоў і выразаў. Маўляў, навошта ён гэтак ускладняе твор рознаю старызнай і пра беднага чытача ані не думае.

Ай, хлопец, узяў бы ты... Не, не кавалак проваду, каб на слупе павесіцца, крый Бог... А ўзяў бы ты, дзяцюк, добры слоўнік ды падвучыў, нябога, хоць збольшага родную мову.

А то знайшоў бы сабе такую, як тамака вуньдзека, у альтанцы, маладзіцу ды, замест таго, каб на людскую чэрствасць наракаць, прыемнаю для душы і карыснаю для здароўя справаю заняўся.

А больш табе, хлапчына, пры тваім імпэце грузіць на іншых свае высасаныя з пальца праблемы, нішто, відаць, не паможа.

У параўнанні з *Кітаг*’ам у *Агоп*’а клопаты куды больш паважныя. Даведаўся пра абставіны аўтаавары́і, падчас якой загінуў кіраўнік нейкага ведамства, ягоны аднагодак, і цяпер рэфлексуе не

дарэфлексуецца на тэму, як жа сталася, што чыноўнік гэткага высокага рангу ды ездзіў на такой гаўняненькай машыне, як старога выпуску «Газель». Маўляў, як не сорамна дзяржаве, вось меў бы ён аўто, адпаведнае маштабу ды статусу ўласнае персоны, дык, можа, і няшчасця тады не здарылася б, і жывы застаўся б. Тое, што заробак нябожчыка ў дзясятак разоў перавышаў сярэдні па краіне і з каптуром кампенсаваў яму не толькі нягеглае аўто, але і маральныя страты (калі ён сам быў здольны іх так успрымаць) ад абавязку здзяйснення службовага набору паскудстваў у дачыненні да падначаленых, ахвотніка начных допісаў у сеціве, падобна, не займае.

А што да сну — яго хапае. Ой, хапае! Як і бессані, зрэшты. Пра што нідзе ніколі нікому не абмовішся, не панаракаеш, не паскардзішся. Гульня такая адмысловая — у сабе ўсё трымаць. Зацята і надзейна, галоўнае ж, ніводнай староннай асобіне пра тое — ні гу-гу. Гульня ў непераможную моц духу. А як толькі дасць аб сабе знаць пагроза псіхозу ў выніку, як навукоўцы кажуць, сенсарнай, ці як там яе, дэпрывацыі[25], як толькі зварухнецца ў глуздах вусень спадзеву, што вось, Бог дасць, ды ўплішчыцца хтонебудзь у святая святых, ды паспачувае няўрокам, ды слова ласкавае прамовіць, ды па галоўцы пагладзіць, — у пысу яму ці пад дыхала. Самота мая вам абыходзіць? Ой, дарэмна, я ж адзіны ў свеце, з кім мне ніколі не самотна... Гульня — гэта святое, усё нашае — з гульні, усё нашае на гульні завязана. Баю-бай, баю...

[25] ***Частковая або поўнае пазбаўленне аднаго ці болей адчуванняў знешняга ўздзеяння.***

4

Першы пасля месяцаў слотнай восені і сіверна-сцюдзёнага пачатку новага года снег — быццам доўгачаканае свята пасля змрочных будняў. Ды яго так шмат усюды, што ледзь паспяваеш прыбіраць. Толькі разграбеш абапал увахода ў храм, як вось зноў ужо пляц спрэс снежнай беллю запарушаны, і канца-краю ёй не бачна. Асабліва даймае той, што пластамі падае на дол з вастраверхага, бы знарок для яго ных неспадзянак прыстасаванага даху прыходскага дома.

Наўкола ціша, адно зрэдку парушыць яе маршрутны аўтобус. Выплюне з чэрава на сцюжу купку пасажыраў і зноў шэрым ценем знікне ў прагалку паміж прыхрамавым дзядзінцам і супермаркетам.

Затое ў будынку — ціша нязвыклая: айцец Пётра з раніцы з'ехаў на дабрачыннае мерапрыемства ў нейкі дыспансер, Вольга Сідараўна, гаспадыня, што прыбірае памяшканні ды выконвае розныя іншыя гаспадарчыя абавязкі, занядужала. Наш жа спакутаваны штоночнымі шчыраванкамі пры кампутары айцец Леанід, калі нават і тэракт дзе-небудзь побач здарыцца, раней паловы дзявятай, гэта значыць за паўгадзіны да ранішняй службы, з ложка не падымецца. Ды во, надзіва, здаецца, ці не падняўся — дзверы ўваходныя ляпнулі.

Не, не ён, аднак.

Лёгкі шоргат абутку аб снег данёсся ад ганка і... счэз, быццам растварыўся ў настылым па-

ветры. Ценкая жаночая постаць порстка перакідваецца праз намецены пры спуску на дол сумёт, азіраецца, хаваючы твар пад каўняром палітона, хуценька шыбуе цалiком да дальняе брамы пры канцы агароджы, выслізвае на ходнік, імчыць супраць ветру да аўтобуснага прыпынку. Быццам нагадвае, што і мне таксама след пасняшацца. Вось ужо тыдзень, як, падстудзіўшы, мабыць, ногі, ніяк не магу пазбавіцца ад катару. Уранні патэлефанаваў у паліклініку, замовіў квіток да лекаркі, то трэба яго к пачатку прыёму, каб каму іншаму не аддалі, конча забраць. А як чаргі не будзе, то і на прыём без лішняе мітрэнгі, адразу, можа, пашчасціць трапіць.

У паліклініцы гэтаксама ціха, як пры храме. Пацыентаў зусім няшмат, відаць, вырашылі гараджане сузіраннем снежнае прыгажосці лекавацца ці (што верагодней за ўсё) на больш слотныя дні клопат аб уласным здароўі адкласці.

Лекарка — дама без залішніх цырымоній, але і без форсу. Ад раніцы шчыруе пры чужых нядужасцях, бліжэй к абеду, натомленая, відаць, не гэтак самою працай, як выслухоўваннем ад пацыентаў рознае лухты, бярэ нейкую прыладу, усторквае на яе шматок ваты і пачынае чысціць свае аздобленыя срэбрам-золатам вушы. Казыча штырком у вуху ды разважае ўслых пра вытокі татальнае айчыннае неінтэлігентнасці:

— Ну вось адкуль ёй, той інтэлігентнасці, ува мне, напрыклад, узяцца? Паходжу з вёскі, дзяды — сяляне, бацькі — таксама. Ну, пашэнціла шэсць год павучыцца ў інстытуце, але хіба гэтага дастаткова, каб стаць інтэлігенткай? Вунь даўнейшыя інтэлігенты колькі каленаў папярэд-

нікаў-інтэлігентаў у радаводзе мелі, а і то не заўжды ўсё па-інтэлігентнаму ў іх атрымлівалася... А што ўжо пра нас казаць...

Скончыўшы справу з падтрыманнем гігіены вушэй, вяртаецца паціху да пацыента, то бок мяне:

— Гэта вось на мазь вам рэцэпт, а гэта на пігулкі — глытаць будзеце тры разы на дзень пасля прыёму ежы. Разатрэце на парашок, паўшклянкі вады — і ўнутр. Але ўсё гэта, між намі, дзевачкамі, — як нябожчыку прыпаркі; пакуль на рэзекцыю не пагодзіцеся, так, праз пень-калоду, і будзе яно цягнуцца. Зразумелі? То глядзіце: маральна саспееце рэзаць — скажаце, а мы ўжо тут разанём, будзьце ўпэўнены. Як толькі, дык адразу... І вачыма не паспееце плюснуць, як разанём!

І, задаволеная ўдалым прыёмам, весела дадае:

— А во — пра інтэлігентнасць яшчэ... Ёсць яна, няма яе — дай тут рады датумкаць. Як з панчохамі тымі: апранаеш дома нібыта цэлыя, у гасцях дзе-небудзь разуешся, глядзіш, а яны — дзіркамі пабіліся.

Чацвёртая гадзіна, а клопатаў як было шмат пры пляцы, так, лічы, за паўдня і не паменела. Пласты снегу па-ранейшаму раз-пораз зрываюцца з даху, рассыпаўшыся ў паветры, з глухім гаханнем, што нагадвае зводдалечны гул вадаспада, абрынваюцца на прысценне, запарушваюць колькі хвілін таму прароблены мною з дапамогай рыдлёўкі вузкі праход ад ганка да цэнтральнае брамы. Горача, і цела такое мокрае ад напругі, што нават паўпаліто маё ад той макрэдзі дарэшты пакрылася вільготнымі плямамі. Хочацца піць, і я іду ў будынак, каб пра-

гнаць смагу квартаю дысталяванай вады з дзежачкі, што заўсёды, улетку і ўзімку, стаіць па той бок дзвярэй пры ўваходзе.

У фае айцец Леанід, прыткнуўшыся пры стале, штосьці варожыць з ноўтбукам.

— Стаміліся? — кажа і адводзіць пагляд ад манітора. Голас у святара млявы, вочы чырвоныя, і па тым, як безуважна слізгаюць па сцяне насупраць ягоныя зрэнкі, няцяжка здагадацца, што словы даюцца яму з цяжкасцю. Завершанасць ураженню надае лёгкі пах спіртнога.

— Можа, папалім? — працягвае ён і падымаецца з месца. — То прыходзьце праз хвіліну ў падсобку, я вас там пачакаю.

Падсобка — вузкі пакойчык напрыканцы цокальнага памяшкання. Спускацца ў яе трэба па сходах, і калі я ўрэшце туды следам за айцом Леанідам дапінаю, ён ужо сядзіць на скрыні з-пад пліткі і ляніва паліць. Паліць ды пазірае на мабільнік, ды скрушліва, як заўсёды, незалежна ад часу сутак ды надвор’я, уздыхае.

— Закахацца б вам, ойча, — кажу я паўжартам, ведаючы наперад, пра што будзе зараз размова. — Тады і чакаць эсэмэсак не будзе патрэбы, само собою ўсё неяк вырашыцца.

— Ну, што вы — закахацца! Гэта ж потым, калі што якое, такія... такія пакуты, пакуль з тым каханнем расчэрпаешся. Ого! Не-не, што вы! — кажа ён і сцінаецца, быццам ад холаду. — Крый Бог. Не ў тым справа...

— А ў чым жа?

— Ды вось, людзі такія... непа... непачцівыя. Учора падчас асвячэння жытла ў адных было. Уяўляеце, заходжу ў кватэру, а насустрач унучка гаспадыніна, пстрыкаўка ад сілы год пятнац-

цаці, выходзіць... Ды як выходзіць! У такіх кароценькіх шорціках ды ў такой саколачцы — лічы паўголая! Так выглядае, быццам наогул нічога на ёй няма. Уяўляеце? Ну, я разумею, канечне, горача ў хаце, хочацца вольна сябе пачуваць... Дык жа як-ніяк святар да вас прыйшоў, то няўжо цяжка належным чынам апрануцца? Ну, хай ужо маладая дурніца таго не разумее, але ж старая навошта? Не, каб падказаць, павучыць... Святар жа як-ніяк наведаўся... Пасвяціў я тое жытло, папіў гарбаты з гаспадыняю — ды бывайце здаровы! Усё быццам і добра, а прыкры асадак застаўся ад іхняга недалікацтва. Вось так. Ну, палячу я, а вы... паразважайце над тым, што я сказаў.

Айцец Леанід гасіць цыгарку аб край бляшанкі, падымаецца са скрыні і, як заўсёды, павольна, а зусім не так, як толькі што дакляраваў — палячу! — сунецца ў калідор.

Неўзабаве з’яўляецца і айцец Пётра. Ягоныя шырокія, энергічныя крокі гулка разносяцца па фае, на хвіліну аціхаюць і зноў — з кожнаю хвілінаю бліжэй — аддаюцца ў калідоры енкам маснічын рассохлае падлогі. Так шпарка, з даўгімі паўзамі-прыпынкамі Пётра звычайна ходзіць, калі даймае яго які-небудзь асаблівы клопат. Сённяшні, аказваецца, — і насамрэч асаблівы. Днямі на адным з сайтаў у сеціве з’явіўся злы допіс пад назовам «Шал», і галоўны яго персанаж — якраз ці не айцец Пётра.

Допіс распавядае пра святаровы амурныя справы, у якасці галоўнага козыра выкарыстоўваецца факт наяўнасці ў яго пазашлюбнага сына. Звесткі пададзены ў зняважлівай форме і нават у дробязях цалкам адпавядаюць тым,

што прыводзіў два месяцы таму падчас вярбоўкі айца Пётры картавы супрацоўнік органаў. Нататка яшчэ не займела шырокага розгаласу, але Пётру ўжо тэлефанавалі з епархіі, намякалі на наступствы. Айцец Пётра не стрымаўся, сказаў у адказ, што на тле сусветных скандалаў з педафіліяй ды іншымі правінамі святароў ягоная — не самая вялікая. Слова за слова — дайшло да высвятлення адносінаў, і цяпер нашаму душпастыру хутчэй за ўсё давядзецца развітацца з наседжаным месцам ды перабірацца ў якое-небудзь іншае.

— Шкада будзе, гэтулькі сілаў аддаць рамонту, усё давесці да ладу — і на табе, калі ласка... І галоўнае, карысці будзе з гэткае іхняе гульні дзеля захавання твару — курам на смех... Зрэшты, што я вам пра гэта распавядаю, самі ўсё разумееце.

У храме на вечаровай літургіі чалавек дваццаць, большасць, як і заўжды ў будзённыя дні, людзі сталага веку. Сярод іх — Адамаўна, вёрткая і жывая, дарма што нядаўна размяняла восьмы дзясятак, кабеціна з сухімі, як высмажанымі рукамі і шчокамі, у шэрым, пад колер твару, палітоне. Спатканне дарэчы: даўно ўжо дамаўляліся аб ім па тэлефоне, каб пагаманіць наконт удзелу жанчыны ў прыходскай вечарыне ў памяць рэпрэсаваных за саветамі святароў. Адамаўна нарадзілася ў ГУЛАГу, і яе распovед аб побыце ў лагеры, лічыць айцец Пётра, мог бы стаць добраю ілюстрацыяй да акалічнасцей нявольніцкага жыцця вязняў. Толькі вось угаварыць старую на такі просты крок, аказваецца, зусім няпроста.

— Дык што, Адамаўна, ашчасліваце нас сваёю прысутнасцю на імпрэзе?

— Ой, не ведаю, не ведаю. І хочацца, казаў той, і колецца... Гэта вам, можа, проста, а мне... Дзеці, унукі... Раптам што... Вось Марынка, старэйшая, кажа... Што, кажа, як раптам лішняе што на той вечарыне ляпнеш, а нам усім пасля адгукнецца. І праўда... Ну, падумаю яшчэ, а тады сама вам скажу, як надумаюся. Падумаю.

Мне яшчэ сёе-тое карціць суразмоўніцы сказаць, бо адчуваю, што для згоды яна ўжо амаль саспела, але не паспяваю. Айцец Леанід выходзіць да алтара, пачынаецца служба.

У горадзе — усюды снег, толькі не белыбелы, як ля храма, а прыбіты гарам, учарнелы, бы недагледжаная пліта ў кухні нядбайнай гаспадыні. Ад чарноцця гэтага ўперамешку з чорным ці рудым адзеннем мінакоў маркота слімаком паўзе ў душу, ахоплівае ўсю істоту з галавы да пят. І толькі раскіданыя сям-там усцяж вуліц, запарушаныя снегам дахі газетных шапікаў крыху дадаюць настрою, весяляць натуральнаю святочнасцю зімовых строяў. Народу на двары шмат, але людская маса выдае такою бязлікай і няўтульнай, што і набліжацца да яе не хочацца. Хіба што, сутыкнуўшыся нос у нос з кімсьці са знаёмых, міжволі мусіш калі ўжо не загаварыць, то хаця б похапкам прывітацца.

З аднакашнікам па вучобе ў інстытуце А., якога заўважаю пры ўваходзе ў краму «Хлеб», бадай, не толькі павітацца, але і пагаманіць было б няблага. Менавіта вось гэтак — *было б*, бо ўсё, што добрага па маладосці між намі, сябрукамі запіснымі, мелася, даўно і беззваротна, на жаль,

сплыло. Сплываць пачало праз два тыдні пасля першай маёй, для мяне доўгачаканай і для яго нібыта таксама, а як там насамрэч — Бог ведае, публікацыі ў тоўстым часопісе. І далей ужо пайшло-паехала. Быццам з выгляду і не касее чалавек, а зірнеш глыбей — і...

Калі атрымалі па суседстве, у адным і тым жа мікрараёне, аднолькавыя кватэры, доўга сядзеў у мяне моўчкі на зэдлі, уздыхаў, а на развітанне сказаў, адно што па-бабску не ўсхліпнуўшы: «Пашэнціла табе на лепшае жытло. Падлога тут нейкая быццам раўнейшая, і столь вышэйшая, і плінтусы прамейшыя».

Ад таго дня — усё гэткім чынам, у штыкі, насуперак. І ніякія саступкі, ніякія форы, колькі іх ні давай, ніякія гульні ў паддаўкі, каб зменшыць градус зайздрасці, ужо не ў разлік і калі нават і ўспрымаюцца ім, то толькі як належнае. Адзінае, здаецца, чым можна было б хаця б збольшага чалавека ўлагодзіць, — узяць ды заўчасна, да задавальнення ягонага, памерці.

З паэтам К., імпазантным, схільным да філасофскіх рэфлексій прыхільнікам традыцыйных накірункаў у жывапісе і сардэчна-вагінальных вышукаў Рота і Мілера ў літаратуры, мы, хоць і жывем у адным доме, амаль што незнаёмыя. Дзень добры, да пабачэння — далей гэтага стасункі, на жаль ці на шчасце (хутчэй за ўсё, з увагі на рознасць характараў, апошняе), не сягаюць. Не супалі, так бы мовіць, поглядамі на экзістэнцыю: што для аднаго апраметная, для другога — шаты райскія.

К. хлебам не кармі, а дай згуляць у абганялкі. Заўсёды ён, як і нарысіст З., апантаны клопатам кагосьці абысці, апярэдзіць, забегчы

наперад, ашукаць, у нечым пераканаць, а то і перарабіць на свой капыл. Разам з тым К. — вялікі аматар паразважаць пра дабратворны ўплыў самоты на творчасць.

Як такія палярныя рэчы — прага заўсёды быць на людзях у жыцці і абсалютызацыя самоты ў тэорыі — у паэце ўжываюцца, невядома. Але вядома, што калі жонка прапанавала яму, бацьку траіх дзяцей, разысціся, бо, маўляў, дастаў нараканкамі на гамэрню ў хаце ды недахоп умоваў для творчасці, то не толькі катэгарычна адмовіўся, а нават ледзь не трапіў, напалоханы перспектываю застацца сам-насам з гэтак жаданаю адзінотай, са стрэсам у лякарню.

З птушкаю высокага палёту, рэктарам універсітэта, сустрэча — з шэрагу і зусім не жаданых. Стаіць, сплёўшы ногі ў каленях літарай Х, на аўтобусным прыпынку, вывучае старонкі расклееных на дошцы абвестак газет. Год пад семдзясят чалавек з нечакана энергічнымі для асобы гэткага ўзросту рухамі дзеяча, што спіць і бачыць, чым бы яшчэ ашчаслівіць калі не ўсё чалавецтва, дык хаця б сваіх падначаленых. Чытае газетныя артыкулы ўважліва, ад літары да літары, уласнае прозвішча, няйначай, у публікацыях вышуквае. Нядаўна ці то дамогся сам, ці то ўзгрузілі яму гвалтам у даважак да пасады рэктара кіраўніцтва грамадскім аб'яднаннем рэгіёна, і цяпер, кажуць выкладчыкі, трымаецца старэча на сваіх абедзвюх начальніцкіх як ніколі цвёрда і ўпэўнена.

Першае маё памкненне — нагадаць пра сябе, калі не падысці бліжэй, то хаця б зводдалеку азвацца голасам. Ды сплывае тое памкненне, на-

дзіва, гэтак жа хутка, як і з'явілася. Найлепшы лекар збітых з тропу гульнямі шатанскімі, панацэя і засцерагальнік ад граху помсты за хвіліны, дні, месяцы няпэўнасці, скрадзеную магчымасць займацца тым, да чаго ляжыць душа і што лепш за ўсё ўмееш, — час — рашуча тоўхае ў глузды, шэпча словамі Віталя: кінь. Кінь, бо нявартая вырабу гэтая аўчына, гэты закладнік духоўнай шэрасці, звыклы існаваць адзіна ў той прасторы, што прапануюць на дадзены момант абставіны, і ніяк іначай, чалавек.

Заляпаны гарам аўтобус лянівою вужакай успаўзае на прыпынак, пабуксаваўшы хвіліну-другую на голым лёдзе, праглынае брыдкі відзеж, сунецца далей усцяж затаптанага тысячамі безымянных чаравікаў і ботаў ходніка.

5

Люты свавольны і няроўны, як нораў брыклівага жарабяці: то закалыхвае завеяй, то цешыць вока роўняддзю снежных сумётаў, то муштруе знячэўнаю, нахабнаю аблівахай. Што ні дзень, то метамарфоза надвор'я, а значыць — новы, неспадзеўны клопат. Найбольшая ж праблема — гурбы падталага абледзянелага снегу пры сходах з пляца на дол, дзе месцяцца бібліятэка і канферэнц-зала ды ангары для аўто. Даць ім рады аднаму — справа непад'ёмная, і айцец Пётра наняў мне ў дапамогу Валодзю, мясцовага п'янтоса.

Валодзя жыве ў дзесяціпавярховіку побач з храмам, харчуецца з выпадковых заробкаў і магчымасці займець хоць якую капейчыну,

якую ён тут жа і пакіне адразу па атрыманні ў бліжэйшай краме, радуецца, бы дзіця. Але, што праўда, як заробку ён радуецца па-дзіцячы непасрэдна, так і працуе рупліва, без нараканняў і лішніх слоў.

Айцец Пётра час ад часу спускаецца да нас на дол, але не дзеля таго, каб паглядзець, як рухаецца праца, а больш дзеля таго, каб паўшчуваць працавітага выпівоху за слабасць натуры. Валодзя божыцца, што больш ніколі ні гарэлкі, ні нават піва ў рот не возьме. І пару дзён, сапраўды, трывае, а затым зноў бярэцца за старое.

Зрэдку, раз на тыдзень, як правіла, у дзень разліку, наведваецца да святыні Валодзева жонка Арына, мяркуючы па ўсім, гэткая ж, як і муж, аматарка выпіць. Разгортвае пакунак з хлебам і таннаю кілбасой ды капустай ці гуркамі, і яны доўга сядзяць удваіх дзе-небудзь у зацішку, весела, да самазабыцця, плануюць выдаткі з заробку на тое і гэта, што так ніколі імі, зрэшты, набыта не будзе. І я, і айцец Пётра, бачачы, як добра сужэнкам удваіх, стараемся іх у такія хвіліны не турбаваць.

— Як ты маешся? Як настрой? — Хтосьці тузае мяне за рукаў курткі, штурхае ў бок, вабіць да сцежкі наўзбоч сумёта. Поціск рукі імклівы, па-мужчынску энергічны, голас гучны, упэўнены, які і след мець настаўніцы з загартаваным у штодзённм ваярстве з людскімі невуцтвам ды абібоцтвам характарам.

Алена Мікалаеўна, калега па працы ва ўніверсітэце, выкладчыца з кафедры матэматыкі, калісьці, яшчэ ў датэставыя часы, дапамагала мне ўладкоўваць на вучобу Лідзінага Шурку.

— Не надакучыла табе тут яшчэ з гэтым снегам змагацца? А я вось пенсіянерка ўжо, але яшчэ раблю ва ўніверсітэце на паўстаўкі. Сем гадзін цяпер толькі маю, чатыры ў другім семестры будзе. Плюс завочнікі. Плюс курсы падрыхтоўчыя. Расклад, праўда, так сабе, з форткамі, але куды мне, старой бабе, спяшацца?

— Я чуў, скарачэнні паўсюль ва ўніверсітэтах плануюцца? Не чапаюць цябе?

— Мяне? А хай паспрабуюць. Вось скажаш! Скарачэнні! Вось хай толькі заікнуцца...

Алена Мікалаеўна выкладае ва ўніверсітэце год трыццаць. Ва ўстанове няма чалавека, які б не ведаў, што калі ў якім-небудзь кутку вучэбнага корпуса праз чвэрць гадзіны пасля званка на заняткі дзеецца фірмовы гармідар, то гэта значыць, што менавіта яна, Алена Мікалаеўна, спазняецца і чакаць яе своечасова на працоўным месцы — марная справа. Як і марна чакаць наступстваў ад тых рэгулярных спазненняў: Алена Мікалаеўна ці не з часоў цара Гароха ўзначальвае па сваім прадмеце прыёмную камісію і з шэрагаў гульцоў-аматараў у гэтай справе даўно перайшла ў кагорту прафесіяналаў. У тым ліку і датычна такой далікатнай сферы, як узаемадачыненні з начальствам.

— Як падыму ўсе іхнія справы — не радыя будуць. Адных вунь блатных перадэкзаменацыйных спісаў — цэлы стос у мяне ў шуфлядзе. Хто за каго прасіў ды каго прасоўваў маімі чыстымі рукамі. Меў бы ты ў загашніку гэткі кампрамат — сто гадоў працаваў бы на кафедры. І чаму гэта мяне трэба, як ты кажаш, чапаць? Калі ў мяне за тры дзясяткі год працы, між іншым, хочаш вер, хочаш не вер — ніводнага спагнання.

Яна гарэзліва падміргвае, зачэрпвае далանёй з сумёта жменю снегу, якім так і не паспявае распарадзіцца, бо падрульвае да прыпынку маршрутка, лезе ў салон, крычыць мне наастатак праз дзверы:

— Ні-вод-на-га. Усёк? Вучыся жыць!

Самае прыкрае падчас працы — пераапрананне. Мяняць вопратку цягам дня даводзіцца сама меней двойчы, бо ў тым, што ўсцягнеш на спацелае дарэшты цела, доўга не набудзеш. Гэтыя пераапрананкі — самая вялікая нязручнасць, якая і часу шмат адбірае, і дзень часам на драбкі нішчыць. Сапраўды, не пойдзеш жа па вуліцы ў прапахлым потам адзенні, а калі пераймацца гэтым, то і дваццаці чатырох гадзін на мыццё—сушку парткоў не хопіць. Адно цешыць, што, можа, не заўжды ж яно вось гэтак — пот, пот, пот — будзе. А яшчэ тое, што неўзабаве, канечне, ж пацяплее, і тады разам са снегам і іншыя клопаты адпадуць. А можа і не, дык лепш на тое і не спадзявацца. Чым менш спадзеваў, тым менш расчараванняў.

Ля ўвахода ў храм айцец Леанід, які толькі што вярнуўся са службы для хворых у лякарні, вывешвае на дошцы аб'яў абвестку аб моладзевым спатканні на тэму чысціні шлюбу і недапушчальнасці дашлюбных палавых зносінаў. Клюністычнае[26] гэтае спатканне мяркуецца зладзіць праз тыдзень, збярэцца на яго моладзь з усіх прыходаў епархіі. Для нас з Валодзем гэта зна-

[26] ***Заснаванае на праўдзівым дбанні аб чысціні хрысціянскіх намераў.***

чыць, што трэба спяшацца як хутчэй прыбраць пляц перад канферэнц-залаю і пры ўваходзе ў храм, бо якраз там гурбы снегу — самыя страхавітыя і даць ім рады — справа не аднаго дня.

Валодзі ж, аднак, сёння штосьці не дачакацца. Абяцаў прыйсці а другой гадзіне, а ўжо трэцяя мінула, а яго ўсё няма. Нарэшце а палове чацвертай з'яўляецца Арына, паведамляе, што сужэнак у пастарунку і калі адтуль вернецца — невядома. Паехаў уранні на клады памагчы знаёмай прыбраць магілку сына і там, як толькі жанчына на хвіліну адышлася, не ўтрываў, сцібрыў з суседняга захавання букет кветак. Нехта ўгледзеў крадзеж, патэлефанаваў у міліцыю, і вось — непрыемнасць.

— Дурань, але ж і дурань, — абураецца Арына. — Былі б там хоць кветкі як кветкі, а то ж штучныя... За такія і рубель хто ці дасць. І цяпер во што рабіць?

Паабураўшыся ды выпусціўшы збольшага пару, жанчына бярэ шуфель, пачынае апантана, быццам то адзіна надзейны спосаб калі не пазбавіцца ад кепскае навіны, дык хаця б суцішыць трывогу ад яе, ваярыць з сумётам пры ўваходзе ў прыходскі дом.

— Ты, Ганка? Не пазнаць цябе сёння! Памагчы, няйначай, нам з Арынаю вырашыла?

— Якое там. — Жанчына сцягвае з галавы капшук, гурба рудавата-жоўтых валасоў падае з галавы ніц, веерам рассыпаецца па плячах. — Па малога ў садок бягу, убачыла вас, вырашыла заскочыць на хвіліну, папярэдзіць, як дамаўляліся, што месца ў нас у карэктарскай вызвалілася. То прыходзьце да нас, нам мужчыны якраз у аддзеле

вельмі патрэбныя. Стаўкі ў нас мізэрныя, дык па сумяшчальніцтве, каб да больш-менш прыстойнае сумы дацягнуць, разгрузкаю паперы для друкаркі і пагрузкаю макулатуры займаемся. Пакунак кіло пад пяць у кожную руку — і наперад. Якраз мужчынская справа, то прыходзьце... Ну, аб*а*біцеся крыху за пару год у жаночым калектыве, але што з таго? У нас і кран у пакоі маецца, і гарбатнік, гарбаты ці кавы ў любы час можна папіць. Людзі цікавыя нас не абмінаюць, наведваюцца. Прафесары, дацэнты, самі ведаеце, — яшчэ тая публіка.

Ганка дастае з тэчкі спярэшчаны праўкамі аркуш, падае мне.

— Дахаты бярэш дарабляць? А казала раней, такое ў вас быццам не практыкуецца. Быццам усё на працоўным месцы паспяваеш рабіць.

— Ну, яшчэ што — дахаты! Не. Гэта так, на ўсялякі выпадак сабе адксерыла. А раптам што якое, якая прэтэнзія, вось і будзе чым крыць. Маўляў, як жа вы, высокая рада рэдакцыйная, такое ўхвальваеце і ў друк бласлаўляеце? З іншых, маўляў, вымагаеце, а самі... Не парупішся загадзя пад сябе падаслаць — і стопчуць, і на муку стаўкуць. Скрозь свае гульні. Вось днямі часопіс вычытвала, здала на прагляд галоўнаму, а ён і накалупаў там нейкіх дробных блох. Ды тых якраз, якія сам не павінен быў як галоўны прапусціць. Ён прапусціў, а спагнаннем мне пагражае. І не пагуляй тут у шашкі, не будзь пільны... Ну, пабягу я малога забіраць, пакуль яшчэ ў садку дрэні якой падчас тамтэйшых гульняў не нахапаўся. Уяўляеце, заўчора заходзіць увечары суседка, а ён напярэймы ёй: «Ты — блядзь!». Ды гучна так, на ўсю кватэру... Школілі мы яго з мужам, школілі ўвесь вечар... Быццам дайшло: дрэннае слова, не будзем

ім больш нікога называць. Назаўтра ў садку ўранні абняў мяне на развітанне, па галаве пагладзіў і кажа ўголас на ўвесь калідор, дзе ў гэты час іншых бацькоў з дзецьмі ды выхавацелек шмат было: «Ты не блядзь, мама, не!» Ну, вось што рабіць? Як выхоўваць?

Ля ангара на доле айцец Пётра аглядае аўто. Заўтра з раніцы яму выязджаць у няблізкі шлях, а неспадзевак дарожных ён, як і кожны кіроўца, не любіць і таму стараецца кожную дробязь, асабліва пасля помнае тае размовы з кадравіком з органаў, загадзя прадугледзець. Валодзі не відаць, мабыць, адсыпаецца пасля пастарунка. Зрэшты, сёння тут мне ўпаўне і без памагатага можна абысціся. Падмесці ля ўвахода ў храм ды збольшага паразбіваць і перакінуць на пожню ледзяшы пад вакном рызніцы — вось, бадай, і ўсё, што засталося да сканчэння працоўнага дня.

Айцец Пётра ставіць машыну ў ангар, сапучы, падымаецца па abледзянелых сходах да храма.

— Ну, як сёння? Знайшлі што-небудзь?

Што-небудзь — скарыстаны прэзерватыў, на які Валодзя ўчора натыкнуўся рыдлёўкай пры сцяне акурат насупраць рызніцы, прарабляючы сцежку ад пляца да сходаў.

— Ёсць, вось гляньце. Здаецца, ён...

Айцец Пётра выкалупвае носам бота з крохкага, бы падталы цукар, лёду колца прэзерватыва, незадаволена моршчыцца.

— Сапраўды. А я, прызнацца, учора вам, калі сказалі пра тую знаходку, і не паверыў, падумаў — жартуеце. Аж не, праўда... Сказаць бы, што шарык гэта з ёлкі — не, не скажаш... От жа гадства! І адкуль такое?

Ён нагінаецца ніжэй, пачынае з выглядам піянера-следапыта са старых фільмаў шнарыць вачыма вакол сумёта.

— Калі яшчэ знойдзеце, абавязкова мне паведаміце, добра? — кажа, задаволіўшы, урэшце, нежартоўную сваю цікаўнасць, і ідзе прэч.

Да змяркання яшчэ гадзіны паўтары, але на пляцы ўжо цемнавата — з-за густой шэрані, што плыве ад прагалкаў між шматпавярховікаў ды, зліваючыся з цьмяным святлом ліхтароў, утварае наўкола будынкаў дымападобную завесу. Палова шостай, час і адыходзіць дахаты, але толькі паспяваю я скласці ў авоську рабочае сваё адзенне, як тэлефануе айцец Пётра, просіць прыйсці ў сталоўку.

У сталоўцы — рада: святары і Вольга Сідараўна, гаспадыня, абмяркоўваюць учарашнюю Валодзеву і сённяшнюю маю знаходкі на пожні і пад вакном рызніцы.

— Гэта, мабыць, азеляняльшчыкі, як газоны ладзілі, разам з грунтам усялякае дрэні нам навезлі, — кажа айцец Пётра. — Ці дзіва: бяруць зямлю на продаж побач са сметнікам, дык ці мала што можа там разам з ёю пад коўш ці на шуфель трапіць.

— Ці з суседніх вунь дамоў жыльцы панашпурлялі, — падае голас айцец Леанід. — Будынкі высачэзныя побач, з дзявятага паверха кінуў каторы ў фортку, во і прынесла ветрам на пляц. Вось і... сюрпрыз.

— Ну, а вы што думаеце? — хітравата пасміхаецца ў мой бок гаспадыня. — Маеце ж, пэўна, таксама нейкае тлумачэнне.

— Тлумачэнне? Я думаю, усё прасцей. Ба-

чылі, колькі зазвычай костак пры сценах наўкола храма валяецца? Толькі паспявай прыбіраць. Птушкі, няйначай, прыносяць з навакольных памыйніц ды тут, на чыстым пляцы, і дзяўбуцьсмакуюць.

— Альбо сабакі, — устаўляе слова Леанід. — Іх таксама нямала заўсёды ля будынкаў круціцца.

— Вось і... гэта, мабыць, прыцягнулі... Якніяк — спажыўныя рэчывы...

— Якія рэчывы? — перапытвае айцец Пётра.

— Спажыўныя, ойча. Бялкі і іншае.

— Фу! — Пётра ўскоквае з месца, пачынае нервова хадзіць вакол стала. — Прыдумаць такое! Вы знарок гэта кажаце, каб пацвеліцца ці каб апетыт нам адбіць? Сабакі! Птушкі! Скажыце яшчэ — Дух Святы!

— А што, упаўне можа быць і такое, — кажа айцец Леанід і, спахапіўшыся, ці не занадта ўжо атрымалася двухсэнсоўна, дадае: — Я птушак маю на ўвазе. — Бачна, што мая версія яму даспадобы, але, хутчэй за ўсё, не таму, што насамрэч выглядае найбольш верагоднай, а таму, што зыходзіць ад непасрэднага сведкі здарэння. А гэта значыць, што дазнаўства на прадмет з'яўлення ля храма рызыкоўных прадметаў можна часткова лічыць завершаным.

Адзін толькі айцец Пётра ніяк не можа супакоіцца.

— Дзень пры дні не лягчэй. Не хапала, каб чужыя яшчэ пра ўсё даведаліся, — кажа і спяшаецца ў ангар глядзець аўто. А пятай раніцы яму выязджаць у няблізкі шлях, а яшчэ ж і паперы трэба падрыхтаваць, і Леаніду сёе-тое з распараджэнняў пакінуць.

Сон цяжкі, бязладны, бы начное трызненне на мулкай станцыйнай лаве падчас чакання цягніка. Сняцца ўрыўкі з чытанага надоечы «Дэрсу Узала»[27]: галавакружныя пераходы цераз хрыбты па размытых дажджом таёжных сцяжынах, выпетраныя вятрамі скалы-спаруды, прорвы, згаладнелыя тыгры, іншыя не менш страхавітыя для зморанага бяссоннем і невядомасцю чалавека «прыемнасці» небяспечнае, поўнае экстрыму, вандроўкі. Па-над усім — звон, ці то з нябёсаў, ці то аднекуль з падзямелля — доўгі, метадычны, як куванне зязюлі, што без дай прычыны расшчодрылася раптам і адмервае, адмервае чалавеку гады, забыўшыся, мусіць, што гэтак доўга, як яна, дабраслівіца, абяцае, людзі наогул не жывуць.

— Што ты — спіш? — голас зязюлі паступова ніцее, аддаляецца і адначасна робіцца ўсё больш падобным да чалавечага. — Паўгадзіны названьваю — каб гук у адказ. Ці знарок, можа, не адгукаешся? У схімнікі, няйначай, падаўся, пабыўшы пры храме?

Голас — Віталеў, але, каб дарэшты ўцяміць гэта, мне спрасоння патрабуецца яшчэ колькі хвілін.

— Прабач, што турбую, але ж ты сам прасіў, калі на што цікавае надарыцца натыкнуцца па тэлеку, паведамляць. Дык вось, паведамляю: фільм неблагі на першым канале. Якраз на тэму, што цябе займае... Добрага прагляду.

Віталь кладзе слухаўку, а мне цяпер галоўны клопат — адшукаць пульт. Падымацца з ка-

---

[27] ***Твор У. Арсеньева.***

напы не хочацца, бо і зімнавата ў пакоі, і лянота да таго ж не пускае, але, відаць-такі, давядзецца, бо з росшукам, як заўсёды, праблема.

Нарэшце пульт адшуканы, экран тэлевізара рэзка ўспыхвае, высвечваючы змарнелы пасля доўгіх блуканняў па пакутах твар жанчыны-азіяткі, ці то кітаянкі, ці то карэянкі.

Кабеціна страціла адзінага сына, якога скраў у яе дзеля выкупу, а затым, нягледзячы на своечасова перададзеныя жанчынаю грошы, забіў жорсткі выкрадальнік. Злачынцу злавілі, цяпер ён сядзіць у турме, а няшчасная маці, што трапіла ў пошуку адхлання пад уплыў нашаптанай ёй у вушы членамі нейкай рэлігійнай суполкі тэзы аб гаючай моцы даравання, пакутліва вырашае, ці варта ёй ісці, як раяць адзінаверцы, да яго ў турму, каб сказаць, што даравала. А разам і абнадзеіць: Бог, маўляў, таксама табе, хутчэй за ўсё, чалавеча, даруе, трэба толькі верыць у тое і спадзявацца.

«О, канечне, канечне, я ведаю, даруе, — сустрэў з вальяжнаю, самазадаволенаю ўсмешкай на твары. — Ён ужо дараваў, як жа, канечне, я адчуваю — дараваў. Ён жа добры. А вы... вы трымайцеся». Адно што «тады і вам даруе» не дадаў.

Такі сюжэтны выверт мне недаспадобы, але гэта, аказваецца, не проста эпізод, а ўжо канцоўка. На экране паўзуць цітры, фон паступова цьмянее, і мне, каб пазбавіцца ўражання неўразуменнасці ад гэткае гульні рэжысёра, нічога іншага не застаецца, як пераключыцца на іншы канал.

На іншым весялей і, галоўнае, уцямней, бо тут — сваё, роднае. Двое вядоўцаў, хлопец і дзяўчына, разважаюць на тэму патрыятычнага выхавання моладзі сродкамі мастацтва. Трэці, госць

студыі, вядомы не толькі ў вузкіх колах як апантаны прыхільнік суровых прэвентыўных метадаў змагання з вальнадумствам, раз-пораз устаўляе ў дыялог кароткія рэплікі, скіроўвае супольную думку ў патрэбным, узгодненым, відаць, загадзя накірунку. Затым і наогул завалодвае ініцыятывай, пачынае адзінаасобна вяшчаць на распачатую маладзейшымі суразмоўцамі тэму.

Дзядзька вяшчае, дзяцюк і дзеўка ветліва падтакваюць: ні то сеанс сурокаў, ні то камланне.

І зноў сон, і зноў Дэрсу... Стары кітаец, што з крыўды на сямейнікаў абраў жыццё адзінотніка... Група вандроўнікаў, што, апынуўшыся без начлегу падчас пераходу цераз горны хрыбет, адмаўляецца ісці ўнаначкі — дай ты веры, што за нечуванае далікацтва! — да заможнага тутэйшага суайчынніка, бо той, бачыце, крыўдзіць абарыгенаў-удэхейцаў...

Сон трымціць, вяшчае дзядзька, шчабечуць вядоўцы — у суладдзі-гармоніі, на фоне банера з ухвалай сумлення як запарукі дасяжнасці шчасця ўсеагульнага.

6

— А вы ўсё пры хмызе корпаецеся? — кажа Вольга Сідараўна і здзіўлена, быццам упершыню іх тут бачыць, глядзіць на чэзлыя, рудаватыя з зімы выросткі туяў усцяж агароджы. — Быццам хто вас падганяе гэтак ужо гнуцца... Не напрацаваліся ўвосень, паддоны ды бярвенне цягаючы? Маглі б крыху расслабіцца, што ўжо так шчыраваць, усё адно ж гаспадара няма. Як то ён там, наш Пётра, на новым месцы?

Айцец Пётра тыдзень таму з'ехаў узначальваць іншы прыход, і цяпер нам, прызвычаеным да яго цвёрдае рукі і гучнага голасу, і ніякавата, і крыху трывожна. А галоўнае — даймае і пазбаўляе раўнавагі невядомасць у плане, так бы мовіць, перспектываў забеспячэння фронту працы. Айцец Леанід выконваць абавязкі галоўнага імпэту не выказвае, а колькі наогул давядзецца яшчэ чакаць прызначэння замены айцу Пётру — ніхто не ў курсе.

— А мне вось, ведаеце, калега, і паскардзіцца-панаракаць карціць, і няма каму, — працягвае Вольга Сідараўна. — Казаў той, ёсць што сказаць, ды хто будзе слухаць...

— То мне панаракайце.

— Ну, хіба што вам. Вы Леаніда бачылі сёння?

— Бачыў мімаходзь, пасля ранішняй службы. Не ў гуморы, здалося мне, быў, быццам агаломшаны чым вяртаўся з літургіі.

— Во-во — агаломшаны. Гэта ж ад мяне прачуханца атрымаў... Прыходжу, як заўсёды, а восьмай прыбіраць, а тут дзеўка-шмакадзява шась з ягонага пакоя і акурат мне ў рукі. І каторы раз ужо. І раней было: абы толькі Пётра ад'ехаў — тут яна як тут унаначкі. Дагэтуль маўчала я, а сёння не вытрымала, аблаяла абаіх. Вось і агаломшаны. Ды толькі ці дайшло што толкам — сумняваюся. З літургіі вярнуўся, гляджу на яго, а ён: «А што гэта вы, — кажа, — так дакорліва гледзіцё на мяне? Ну не магу я без кахання жыць, не магу, разумееце?» — «То бярыцеся шлюбам, — кажу, — і цешцеся адно адным, і будзе вам каханне». — «Як жа брацца, — кажа, — калі яна амаль што дачка мне? Мне трыццаць сем, ёй васямнаццаць, які тут шлюб?

Святар жа я як-ніяк». Бач, што святар — гэта памятае, а што паводзіцца пры гэтым па-святарску трэба — і не згадвае нават.

— Ну, каханне, ведаеце...

— А, перастаньце, якое там каханне... Але ж і дзеўка добрая цаца. Пакажу вам як-небудзь пры нагодзе... Толькі ж глядзіце — ні слова нікому. А то прыкрасці не абярэшся, яшчэ і дурніцаю зробяць. Скажуць — літанію ўначы пры свечцы адмаўлялі, і што тады? Пабажыцеся, што не скажаце.

— Далібог.

— Ну, добра. Пайду. Абед неўзабаве рыхтаваць.

Гаспадыня адыходзіць, і тае ж хвіліны выходзіць з плябаніі на пляц айцец Леанід з фотаапаратам у руцэ.

— Сфоткайце мяне, калі ласка, — кажа і падае мне апарат. — Хоць адзін людскі здымак хай будзе ў запасе на ўсялякі выпадак, а то папросіць хто прэзентаваць, і няма з чаго выбраць. Ох, жыццё ты... святарскае!

## ЦІЦЯ

Сонца яшчэ даволі высока куляецца ў просіні неба, а Ціця ўжо ў напрузе, у думках пра феерверк, абяцаны груздоўцам тыдзень таму раённымі спецамі па справах пенсійнага ўладкавання. І чым ніжэй сонечны дыск хіліцца долу, чым гусцей атачаюць яго перадвечаровыя цені, чым больш расплывістымі робяцца на даляглядзе абрысы не дабралага з зімы моцы кустоўя, тым больш кабеціне трывогі і хвалявання.

Святы з феерверкам пачалі ладзіць па вёсках на пачатку вясны згодна з загадам як можна больш разнастаіць штодзённае жыццё тубыльцаў. На паседжанні рады мясцовае грамады ініцыятыва зверху была адзінагалосна ўхвалена, і к траўню большасць населеных пунктаў піратэхнікі разам з музыкамі і спевакамі ды метадыстамі ад культуры ўжо аб'ехалі. І вось чарга дайшла, нарэшце, і да Груздоў.

— І што гэта за праца — быццам па каменні жалязяка слізгаецца. Пакута, а не праца. — Ціця нервова зіркае чарговы раз на сонца, шпурляе шуфель пад парэчкавы куст, шукае вачыма Савіка, што ад раніцы шчыруе ў садзе, абразае на яблынях лішнія выросткі і сухое голле. Абразаць дрэвы пазнавата, але ж і пакідаць іх у такім выглядзе на ўсё лета Савіку не хочацца. Бо і шкодна, кажуць сталыя садаводы, для дрэваў, і, галоўнае, людзям лішняя падстава пра чужое нядбальства — от табе гаспадар, трэба ж, гэтак садок запусціў! — пагаманіць, у вочы недаробкамі торкнуць.

— Не, каб навастрыць як след прыладу. От ужо нясклёпа, — працягвае Ціця наступ з разлікам, што Савік нарэшце яе пачуе ды пераймецца яе клопатам.

— Дык рыдлёўку вазьмі пад клеццю, — адзываецца той неахвотна. — Быццам не ведаеш, дзе што ляжыць на падвор'і... Лехі ды грады ладзіць — гэта не ў гульні гуляць.

— Ой, бачыш, і забылася пахваліцца табе, — усцешаная мужавым напамінам пра гульні, спахопліваецца Ціця: — Выйграла ж я! Ага, тры дні ўжо, як і выйгрыш атрымала. Па пошце даслалі...

І, гатовая ўжо кінуць усё ды бегчы ў хату па згаданы выйгрыш, выцірае рукі аб столку джгуціны, якой абкладвае на выпадак прымаразкаў грады з гуркамі:

— Пайду прынясу.

— Добра, от добра выйграла! — квеліцца, заходзіцца смехам Савік і зноў схіляецца долу пры камлі яблыні. — Выйграла дык выйграла...

Хутка выходзіць з хаты і Ціця. У адной руцэ ў яе — скарыстаныя, «пустыя», як яна кажа — латарэйкі, у другой прадаўгаваты блішчасты прадмет кшталту кніжкі. Гэта і сапраўды кніжка, дакладней, тонкі, у паўпальца, праспект з рэкамендацыямі, як гатаваць з траваў лекі ды марынаваць у хатніх умовах гародніну.

— Адзін во толькі і быў з выйгрышам, — кажа Ціця і падае мне аляпіста аздобленае, затое ў трох колерах, з выяваю красак і траваў на вокладцы, выданне. — Хораша, праўда? Так ладненька зроблена, што і ў рукі каму боязна даць.

— Лухту прыслалі табе, а ты і радая, — зноў абзываецца нязвыкла асмялелы дарэшты Савік. — Глупства. Колькі грошай аддала за латарэі і колькі выйграла... Не, каб палічыць... Ну, палічы! Лепш бы на рахунак тыя няшчасныя капейкі паклала!

Апошняе для Ціці — бы пад дых удар, балючы напамін пра тое, як пару год таму яна, спакусіўшыся высокімі банкаўскімі працэнтамі ад укладу, рызыкнула ўсім, што мела, паклала грошы на рахунак, а праз месяц амаль усё тое пакладзенае ўваднач ас згубіла. Імпэту да гульняў, аднак, тады не страціла і, аднойчы і назаўсёды зарокшыся гуляць з дзяржаваю на ўласныя зберажэнні, перакінулася на гульню хоць і больш простую, ды затое менш небяспечную — у латарэю.

— І хопіць! Не за твае купляла, за сваю пенсію. А што ты хацеў? Каб цябе тут няведама якімі скарбамі без дай прычыны засыпалі? Глядзі, засыпяць! Кожны сам сябе найперш глядзіць. Сам жа перастарэкваўся, чые там дзеці ў тых латарэйных канторах сядзяць. А цяпер... Крытыкаваць лёгка. Рыдлёўку мне лепш прынясі.

Савік паслухмяна ідзе да клеці, бярэ рыдлёўку, нясе жонцы.

— Нічога, іншым разам, можа, больш падфарціць, — кажа з ноткаю шкадавання ў голасе Ціця і запытальна глядзіць мне ў вочы, быццам аб нечым яшчэ хоча папрасіць. — Выйграў, не выйграў — такой бяды. Затое памяць застанецца. Хоць якая радасць у гэтым беспрасвецці. Думаеш, лёгка?

І весела, быццам і не наракала толькі што на лёс, дадае:

— Бегчы тэлевізар уключыць! Гэта ж і забылася тут з вамі за балбатнёй: пра артыстку, што ўчора паказвалі, працяг абяцалі. Прыгажуня — воч не адвесці. І шкада, ой, шкада жанчынкі: два аборты, каб працы не перарываць, па маладосці зрабіла, а цяпер вось пакутуе ў самоце, небарака, па смерці мужыка... Так не пашанцавала кабеціне... Дык глянуць хоць адным вокам, пакуль люмінацыя не пачалася. А разам і падмарафеціцца крыху, не пойдзеш жа на свята абы-як, непрычасаная, праўда?

Маркоціцца з чужое бяды Ціця, але і радасцю адначасна твар жанчыны ясніцца: сонца нізка зусім, ад намётаў за прысадамі, дзе піратэхнікі ды тэлевізійшчыкі з раніцы асталяваліся, музыка даносіцца: будзе адхланне, нарэшце, людцам, будзе феерверк — гульня без пройгрышу.

Тры дні па наведанні Груздоў пралятаюць у клопатах звычайных: прыбіранне пляца, поліва, добраўпарадкаванне прылеглай да храма тэрыторыі. Не абыходзіцца і без казуса. Прадэманстраваў службовае старанне, абрэзаў самахоць голле туяў наўкола дзядзінца, а рабіць таго не след было, бо не на карысць, аказваецца, выросткам такая аперацыя, і што скажа цяпер Пётраў пераемнік — аднаму Богу вядома.

Ды яшчэ Артуравы дробныя непрыемнасці. Падаў-такі хлопец дзесьці ў сеціве ўражанні ад колішняга нашага сумеснага наведання могілак, а акцэнт зрабіў пры гэтым на апісанні пяцідзесяцігадовае даўніны маніпуляцый са сціраннем старых лютаранскіх надпісаў. Ды час, калі ўсё тое дзеелася, удакладніць у публікацыі не даўмеўся, і атрымалася, быццам з сённяшняга дня выпадак. Быццам дыскрэдытацыя рэчаіснасці... Вось і атрымаў у дэканаце вымову. Надта не тузалі, аднак жа папярэдзілі: маўляў, глядзі, надалей асцярожней...

— Охці-вохці! — Раман абводзіць пляц паглядам, скептычна ўсміхаецца. — І гэта вы за такія мізэрныя капейкі тут робіце? Ну, ведаеце, трапілі вы, дзядзечка, у нерат...

Раман — мой стрыечны пляменнік, старэйшы сын сястры Аліны, пяць год таму перабраўся ў горад з правінцыі, працуе менеджарам у краме па продажы відэатэхнікі. Заробак мае неблагі, ды вось жа замінаюць чалавеку быць дарэшты шчаслівым нелады ў сям'і. Бо атабарыўся Раман з жонкаю Ленай прымаком у цешчынай кватэры, а тая, паводле слоў ягоных, хоць

і перайшла часова жыць да незамужняй сваёй сястры, спіць і бачыць, як бы гэта ўбіць клін між дачой і нялюбым зяцем. Ледзь Раман з хаты — яна ўжо тут, на пасялынды да дачкі ляціць. Таму і ўсе размовы нашы з Раманам падчас рэдкіх, выпадковых сустрэч найперш — вакол гэтага.

— З працы ўжо ці на працу, Ромак?

— З абеду. І лепш бы не хадзіў...

— Што так?

— Ай, што казаць... Я ў хату — ужо там яна, цяшчуля. Сядзяць удзвюх з дачкою, дарагою гарбатай, што мне на працы да дня народзінаў калегі прэзентавалі, частуюцца.

— Ну, гарбата — рэч нажыўная, іншай купіш. Знайшоў прычыну маркоціцца...

— Можа, і так, ды не толькі ў гарбаце справа. Я ж ведаю, як яна з першым сваім мужыком, з якім да Ленчынага бацькі жыла, абыходзілася... Сама неяк у запале шчырасці хвалілася. Ён — з хаты ўранні, на працу, учарашнім, што ад вячэры засталося, падсілкаваўшыся, а яна — у краму тым часам. Прысмакаў накупляе і ласуецца сабе далікатэсамі, пакуль яго дома няма. І дзе гарантыя, што дачку таму ж не навучыць... Я ж бачу, што да чаго, не дурны. Гадаўка. А такая лёзная напачатку была, як толькі мы з Ленкаю пабраліся. Нават, уявіце сабе, неяк аднаго разу нападпітку позы нам любоўныя дэманстравала.

— Ну, але ж Лена пры чым?

— Як — пры чым? А чорт ведае, што яны там удзвюх, у кухні той седзячы ды гарбату папіваючы, гамоняць? Ды і самі ведаеце — яблык ад яблыні... І не хацеў бы вось, а міжволі пачнеш з такімі хітраваць, у гульні розныя гуляць.

Раман глядзіць на гадзіннік, охае: час прыспешвае, трэба бегчы на працу.

— Так што дурнем быць, дзядзечка, ніяк не выпадае, — кажа наастатак і круціць пальцам ля скроні. — Капейчына якая — у загашнік яе ўпотайкі, каб ні адна, ні другая і не здагадваліся нават. Ці мала якую неспадзянку ўчыняць, і застанешся тады вось так ні з чым, без жытла і без рубля ў кішэні... Не жарты. А вы кажаце...

Яшчэ гучыць спеў на развітанне, і рэха ад акордаў аргана не аціхла дарэшты пад скляпеннямі будынка, як на пляц выбягае Вольга Сідараўна. Убачыўшы, што я збіраюся ўжо адыходзіць дадому, кідаецца напярэймы, цягне за руку ў храм:

— Хадземце, пакажу вам!

— Што пакажаце?

— Дзеўку тую, пра якую ўранні распавядала. Ну, але ж і памяць у вас, аднак...

У храме з два дзясяткі чалавек, большасць з якіх — ці не студэнты. У нядзелю мае адбыцца малітоўнае моладзевае спатканне, і айцец Леанід запрасіў моладзь дзеля інструктажу з нагоды яго правядзення.

Чародка дзяўчат і хлопцаў туліцца пры нефе з выявай Божай Маці, штосьці ціха абмяркоўвае. Тут жа і Леанід, тлумачыць то голасам, то на мігі, як павінны быць афармленыя дэкарацыі да мерапрыемства.

— А вунь яна, — кажа Вольга Сідараўна і ўздымае руку ў спробе паказаць тую з дзяўчат, дзеля якой прыйшлі.

— О, не трэба. Пачакайце...

Чародка — чалавек пятнаццаць, бальшыня з іх якраз дзяўчаты, і мне карціць, спраўдзіць ступень сваіх інтуітыўных здольнасцей — вылічыць дзеўку самому. Што, аднак, не так і проста: натыкнуўшыся на адзін твар, пагляд перабягае на наступны, і так па крузе — не адзін раз.

— Ды вунь жа яна, — стаміўшыся чакаць, не вытрымлівае Вольга Сідараўна і паказвае на знаёмую постаць дзяўчыны з рабаціністым тварам, што сядзіць на лаве напрыканцы залы і апантана, як заўсёды, — вось-вось, здаецца, узляціць у неба — моліцца.

— Гульня — прыхамаць? Ды што вы! Ну, не... Не магу з вамі пагадзіцца. Ніяк не магу, — кажа Віталь і падлівае на патэльню са смажанінай алею ўперамешку з патоўчаным часнаком і яшчэ нейкімі прыправамі. — Кожнай гульнёю кожны з нас чамусьці ці камусьці ды абавязаны.

— Абавязаны? — дзівіцца, не без таемнага, відаць, змыслу справакаваць брата на працяг размовы, Ліда. — Ну, зразумела...

Яна змаўкае, робіць выгляд, што тэма яе больш не займае. Віталь рэзка, быццам баючыся, каб сястра не сышла дачасна з кухні, загароджвае выхад жыватом, уздыхае. Учора ён хадзіў па справе пераразліку пенсіі на прыём да нейкага чыноўніка, той, сам чалавек пенсійнага ўзросту, яго ці то няўрокам, ці то наўмысна абразіў, і вось цяпер наш абражаны шукае магчымасці выпхнуць вонкі з душы прыкры асадак ад сустрэчы.

— Наведаешся ў кантору і тыдзень потым бы ачмурэлы ходзіш, мроіш-варожыш, якімі б правіламі пасаду сваю на месцы таго службоўца абставіў... Гэта што — хіба не доказ маёй тэзы?

— Ай, пра што ты? — перапытвае Ліда і часценька міргае — відаць, знарок як больш неўразуменна — вейкамі.

— Пра гульню, пра што яшчэ. Ці ты глухая? Я ж кажу: пра правілы, якія б на сваім працоўным месцы ўзаконіў...

— І што б то ўжо, цікава, за правілы былі?

— А вось... Не ведаю, як з астатнім, а першае, што зрабіў бы, дык гэта забараніў бы займаць чыноўныя пасады людзям старым і шчарбатым. На працоўным месцы старэчыя зморшчыны ў спалучэнні са шчарбатым ротам — і неэстэтычна, і, калі ўжо на тое пайшло, і ў дачыненні да наведнікаў неэтычна. Ды і думкі крамольныя спараджае. Бо глядзіш на тых чынушаў і разважаеш: як жа мала яны, напэўна, на службе ў даважак да пенсій зарабляюць, што нават не могуць нармальныя зубы сабе дазволіць? Інжынеры ж дазваляюць, цеслі таксама, тыя ж даяркі, хоць у раскошы ні адны, ні другія, ні трэція, як статыстыка сведчыць, не купаюцца. Не кажучы ўжо пра настаўнікаў...

Апошняе — ці не намёк на мае непамысныя клопаты з зубамі гадовае даўніны, а мне ж напамін пра іх, папраўдзе, хоць і мінула ўжо ад тае пары даволі часу, — усё яшчэ як сярпам па адным месцы. Чуйная Ліда ўлоўлівае гэта і тут жа пераводзіць размову ў жарт:

— Ну, вось жа і згуляў, братка! Задаволіў імпэт хаця б за вочы паквітацца з крыўдзіцелем.

І, памаўчаўшы хвіліну, звяртаецца да мяне:
— І як табе гэткая гульня? Даспадобы?

Мне хочацца сказаць, што хітраван Фрэйд, які, паводле сведчанняў сучаснікаў, ці то з-за кепскіх зубоў, ці то з іншае якое прычыны ўсё

жыццё шакаваў суразмоўцаў кепскім пахам з роту, канечне, у параўнанні з яе братам адпачывае, ды, узгадаўшы ні з таго ні з сяго ўласныя радужныя развагі пра вусеня і матылька падчас падгледжанай год таму ў двары дома дзіцячай гульні, пакідаю тэму адкрытаю — да наступнага разу.

Хай застаецца — на ўсялякі выпадак. Запас шчаслівым нікога не робіць, але ж і бяды, вядома, не чыніць. Тым больш, што...

## III. ЯШЧЭ НЕ ВЕЧАР

***Вітанне, племя маладое, незнаёмае!***

А. Пушкін

Вось ужо два месяцы, як я дзякуючы Ганцы (здолела-такі пераканаць старога, перацягнула ў свой аддзел) пры гульні новай — навукова-выдавецкай. Пры справе быццам бы і карыснай, але разам з тым, калі меркаваць па ўзроўні запатрабаванасці яе канчатковага, так бы мовіць, прадукту, — даволі няўцямнай. Выдаць казённым коштам паўтысячы старонак навуковага даследавання пра дбанне партбосаў першай трэці мінулага стагоддзя аб развіцці ў нейкім рэгіёне, напрыклад, воднага транспарту, каб потым амаль цалкам згрузіць тое выданне ва ўтыль, — якая ўжо тут уцямнасць? Але ж гульня на тое і гульня, каб у яе гуляць, не зважаючы на дробныя акалічнасці кшталту бязглуздых выдаткаў.

У гульні ў навуку, прынамсі на стадыі падрыхтоўкі тэксту ў друк, немудрагелістыя, але ад-

мысловыя — з пераўвасабленнямі, зменамі роляў, неспадзеўнымі перападамі настрою аўтара — правілы. Чалавек няпросты, аўтар, аднак, часам з лёгкасцю трансвестыта нацягвае на сябе пры неабходнасці маску згаворлівасці, а залежны ад ягонае волі супрацоўнік аддзела без напругі дэманструе пры нагодзе кіпцюрыкі ў меру ненавязлівай, у меру зацятай, у меру паблажлівай нязгоды-ўпартасці.

Апошні, залежны ды перыядычна, з увагі на абставіны і размяшчэнне зорак на небе, незгаворлівы — карэктар. Ва ўніверсітэцкай выдавецкай іерархічнай сістэме ён — ніжэйшая (ніжэй проста не бывае) кадравая адзінка. Якая, аднак, у параўнанні з, напрыклад, шараговым выкладчыкам, мае і пэўныя перавагі.

Адна з тых пераваг — магчымасць у любы час, без увагі на расклад заняткаў, выйсці сабе ў дворык ды, вытрасшы з галавы друз чарговае шматстаронкавае лухты, з асалодаю зацягнуцца дымком цыгарэты, папесціць пад сонечнымі промнямі дарэшты атупелыя ад бесперапыннага напружання глузды. І рабіць гэта так часта, што ўжо праз месяц кожны тутэйшы сабака ля ўваходу ў прылеглы да вучэбнага корпуса будынак сталоўкі будзе ведаць цябе ў твар.

Ды, зрэшты, не толькі сабака. Бо, пакуль дзядзька дзесьці там паліць у самоце ды воляю вольнаю і шчадротамі несамавітых гарадскіх відарысаў цешыцца, новыя знаёмцы ягоныя, цэрберы калідорныя ад аховы, ужо ладуюць для гульні адмысловае, асвечанае воляю няведама чыёй начынне.

— А ваш пропуск, калі ласка! — выбухне аднойчы бездакорна ветліва і разам з тым пагроз-

ліва падчас твайго вяртання з перакуру хлопчык-ахоўнік у акуратным, на ўзор мадэлі з моднага часопіса пінжаку і з понтам паправіць прычэплены да лацкана бэдж з без адной літары птушыным прозвішчам Кайро.

Пропуск, як на злосць, пакінуты ў пакоі, тэлефон тамсама, не насіць жа іх увесь час пры сабе — не турма ж тут усё-такі.

Хлопчык тэлефануе — дзеля выгляду, няйначай, — з мабільнага начальніку аддзела аховы, супрацоўніку нейкіх таемных органаў, аматару сама меней раз на тыдзень цікавіцца ў мясцовай кіяскёркі колам чытання насельнікаў корпуса. Той быццам бы абяцае неўзабаве прыйсці, але мінае пяць хвілін, чвэрць гадзіны, паўгадзіны — ні гуку, ні кроку, ні прывітання. Паўза доўжыцца, напружанне пульхне, расце ўшыркі, згусткам нерваў захрасае ў горле, рассяроджваецца па ўсім целе.

Нарэшце каржакаватая пастава мільгае ў прагалку паміж рэкрэацыяй і прыбіральняй, падае хлопчыку ледзь улоўны ўмоўны знак, прывідным ценем знікае ў нетрах працятага скразнякамі калідора неабдымнага і змрочнага, як рымскія катакомбы, будынка.

— Ладна ўжо, праходзьце, што з вамі зробіш... Але глядзіце надалей!

— Але ж і бяспамятны ты, хлопча! Няўжо насамрэч не памятаеш мяне?

— А калі і памятаю, то што? — цэдзіць абыякава ў адказ праз зубы ўладальнік амаль птушынага прозвішча і з выглядам чалавека, што дарэшты выканаў свой грамадзянскі ды яшчэ Бог ведае які абавязак, дадае: — Трэба ж было вам прадэманстраваць, хто вы тут, ва

ўніверы, ёсць. А мяне сарамаціць вам не мае сэнсу, не я гэты спектакль прыдумаў, не мне за яго і чырванець. Ды мне гэтыя вашы ўсе справы, папраўдзе, — да Тэклі. У мяне размеркаванне на не абы-якую працу ў кішэні, два тыдні яшчэ адбуду тут, пры гэтых вось дзвярах, — і бывайце. Даганяйце тады з вашымі дакаранкамі-ўшчуванкамі. Свішчыце, дзядзечка, у кулак!

Гульні старыя, племя гульцоў — новае. Голас у майго суразмоўцы, без пяці хвілін выкальніка не абы-якой працы, упэўнены, пагляд арліны — да хіжых гульняў упаўне малады *homo pascudicus*[28] гатовы.

* * *

*— Усё гэта добра, але як жа ўсё-такі наконт даравання? — спытае абазнаны ў сучасных інтэрпрэтацыях асноваў чалавекалюбства і заклапочаны памкненнем не дапусціць духоўнага занядбання апавядальніка чытач. — Няўжо сапраўды не даруеце?*

*— Дараваць — гэта забыцца. А забыцца, нават каб і вельмі захацеў, наўрад, з увагі на недастаткова моцную маральную загартаванасць-непрабівальнасць натуры маёй, атрымаецца. Гэта як са здрадай, пра якую мадам дэ Савіньe, здаецца, казала: «Здраду могуць дараваць, але не забыць».*

*— Значыць — не забудзеце? То бок не даруеце? А не баіцеся, што Бог жорстка спытае пад-*

[28] *Паскуднік (аўтарск.).*

*час Апошняга суда за такі — супраць Яго прыказанняў — выбар?*

*— А вы не баіцеся, што з вас спытае за прыпісванне Яму таго, што Ён не прамаўляў і што вам, магчыма, у Ягоных словах толькі прытрызнілася?*

*— Ну, ведаеце, гэтак інтэрпрэтуючы, вунь як далёка можна зайсці... А ўсё ж: чым апраўдаецеся? што адкажаце падчас таго ж суда?*

*— Ну, ці мала што можна будзе... Варыянт заўсёды знойдзецца. Напрыклад, што я* не з гэтага прыхода[29] *— чым не адказ? «У дурня» ж згуляць — не найшкоднейшы і не найгоршы з заняткаў.*

P. S.

Паводле тлумачальнага слоўніка, гульня — занятак дзеля забавы ці адпачынку, заснаваны на пэўных правілах, або наўмысныя дзеянні (замыслы, інтрыгі) для дасягнення нейкай мэты. Зважаючы на немагчымасць ахопу ўсёй разнастайнасці гульняў у адным кароткім апаведзе, аўтар дадае да яго пералік некаторых з іх, як яны бачацца яму ў святле сённяшняга прыватнага і грамадскага жыцця. Пералік, зразумела, не поўны, што кожны, аднак, пры жаданні можа кампенсаваць досведам ад уласнага штодзённага ўдзелу ў гульнях таго або іншага кшталту.

---

[29] ***Рэпліка з нататкі А. Камю.***

*У абазнанасць*. Калі пра тое, што дазволена Юпітэру, але не дазволена быку, — дакладна і заўсёды памятаем, а пра тое, што дазволена быку, але не дазволена Юпітэру, — заўсёды, і часцей за ўсё наўмысна, забываем.

*У самотніцтва*. Калі, забыўшыся ці не разумеючы, што сапраўднае самотніцтва — тое, якога хочацца пазбавіцца, усім даводзім, як мы яго, сапраўднага, толькі штохвіліны і прагнем.

*У шкадаванкі*. Калі, маючы пару рублёў заробку, шкадаваць пры гэтым, згодна з няпісаным законам чалавекалюбства, быццам бы павінны іншага. Таго, у каго ён — дзесяць, але яму, бач, маральна цяжка, бо здабытая тая дзясятка на дывідэнды ад хаўрусавання з д'яблам.

*У дэмакратызм*. Калі, дэманструючы шырыню поглядаў і непрабівальны лібералізм, прылюдна падаем нядобранадзейнай асобе руку з адмыслова растапыранымі на жываце пальцамі, а агаломшаная такім неспадзеўным жэстам асоба глядзіць на тыя пальцы ды ліхаманкава вырашае, што ж з імі рабіць: ці то паціснуць, ці то плюнуць. Або калі, пазбягаючы рызыкі прылюдна пацвердзіць даўнюю і непарушную прыязнасць да апальнага грамадзяніна М., прызначаем яму спатканне пад покрывам ночы.

*У выхаванне*. Калі за кепскі, але негалосна прызнаны ў дадзены момант у грамадстве за ўзор учынак — падхалімства, абыякавасць, згодніцтва, хлусню — атрымліваем ад саноўных асо-

баў заахвочванне, а за праўдзівы, але не адпаведны згаданаму ўзору — спагнанне.

*У хованкі*. Калі ў слізкай сітуацыі на пытанне «Дзе ты і з кім?», памуляўшыся дзеля прыліку, адказваем: «А я і не ведаю, папраўдзе. Не тут, мабыць, і не там. Не з тым, напэўна, і не з гэтым».

*У патрыятызм*. (Колькасць варыянтаў і сцэнароў вядзення — бязмежная. З усіх існых на белым свеце гульняў самая зручная для маніпуляцый і, адпаведна, як часам і само слова *патрыятызм*, — ці не самая шкодная.)

*У навучанне*. Калі на 81-м годзе ад нараджэння, абароненыя высокім прафесарскім званнем ад кпінаў за старэчыя правалы памяці, раптам забыўшыся падчас лекцыі, пра што распавядалі слухачам хвіліну таму, чвэрць гадзіны ўспамінаем забытае, а пасля яшчэ трыццаць хвілін тое ўжо казанае, але неўспадзеў забытае нанова аўдыторыі даводзім-пераказваем.

*У пабожнасць*. Калі натхнёныя словамі Стварыцеля пра камень, які не след кідаць у бок грэшніцы, бо хто ж з нас, маўляў, без граху, самахоць адцінаем з павучання «Ідзі і *ўжо болей не грашы*»другую яго, нязручную для сябе, частку, блудзім другі раз, і трэці, і дзясяты, а ўволю наблудзіўшы, выходзім падчас літургіі да алтара чытаць адзінаверцам Божае Слова.

*У прэзумпцыю невінаватасці*. Калі, наўмысна пакінуўшы пры ад’ездзе з дому на стале для меркаваных злодзеяў пляшку разбаўленай атру-

таю гарэлкі, пасля мусім да знямогі даводзіць дазнаўцам, што зрабілі гэта зусім-зусім выпадкова.

*У ідэйнасць*. Калі ўсюды, дзе можна, хвалім і папулярызуем прэсу афіцыйную, а тым часам кожны свой новы дзень распачынаем з гартання таблоідаў незалежных.

*У моц сваяцкіх пачуццяў*. Калі, віншуючы па радыё нямоглых бабу ці дзеда або кагосьці з бацькоў з іх 90-годдзем, не толькі невымернага шчасця ім жадаем, але і доўга-доўга ля весніц дома роднага нас яшчэ сустракаць, бо так нам, маўляў, выключна парадаў іх жыццёвых ды цеплыні і паху бэзу пры хаце (і нічога, баронь Бог, больш) нестае.

*У шчодрасць*. Калі, паабяцаўшы чалавеку пазычыць або ахвяраваць рубель, кажухам такіх акалічнасцяў тую пазычку-ахвяру няўзнак для небаракі ўхутаем, што ўжо і абяцанага рубля, а ўрэшце і самога абяцання пад ім не дашукацца.

*У «дуліну табе»*. Калі насуперак ушчуванням тых, хто пры ўладзе, што, маўляў, занадта ж лёгкі падчас дэвальвацыі — праз захаванне ў слоіку — спосаб засцярогі зберажэнняў ад доўгіх рук дзяржавы абралі, замест таго, каб аддаць тыя зберажэнні ў банк, наадварот, досведам горкім навучаныя, хаваем іх ад хцівых чужых вачэй так далёка, што і самі пасля з цяжкасцю ўзгадваем, дзе схавалі.

*У «я ж бы вось...»*. Калі, апёкшыся аднойчы на нежаданні прыяцеля (ці нейкага службоўца) дапамагчы ў пільнай справе, болей да яго не

звяртаемся, а ён тым часам, даведаўшыся ад староннiх пра нейкi новы наш — як правiла, прамiнулы ўжо — клопат, пры сустрэчы з неўдаванаю крыўдаю ў голасе папiкае: «А чаму ж ты нiчога мне не сказаў? А я ж бы вось...».

У *«вось бы я»*. Калi, не маючы дастаткова розуму i здольнасцей зрабiць як след нейкую справу, але нагружаныя тузiнаў мяхоў фанабэры, замест таго, каб паслухаць добрае парады мудрага чалавека, наадварот, робiм усё, каб тае парады нават не прагучала.

*У прастадушнасць (паводле псiхолага Э. Берна, датычна тэмы флiрту):*

Ён: Цi не хацелi б вы паглядзець маю пуню з сенам?

Яна: О, канечне, гэта ж так цiкава! Я з ранняга юнацтва люблю глядзець пунi з сенам!

*I г. д.* — у залежнасцi ад акалiчнасцяў i схiльнасцяў цi асаблiвасцяў псiхафiзiчнага развiцця або эмацыйнага стану патэнцыйнага гульца.

